Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі “Віцебскі дзяржаўны
ўніверсітэт імя П.М. Машэрава”

**М.В. Півавар**

# МУЗЕІ ВІЦЕБСКА НА ПАЧАТКУ XXI СТ.

***Манаграфія***

*Віцебск*
*УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”*
*2012*

УДК 069(1-21)(476.5)
ББК 79.14(4Беи-4Вит)
П11

Друкуецца па рашэнні навукова-метадычнага савета ўстановы адукацыі “Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава”. Пратакол № 2 ад 28.05.2012 г.

Адобрана навукова-тэхнічным саветам УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”. Пратакол № 1 ад 17.01.2012 г.

Аўтар: дацэнт кафедры гісторыі Беларусі УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”, кандыдат гістарычных навук **М.В. Півавар**

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук, прафесар *А.У. Русецкі*;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *А.М. Дулаў*;
вядучы спецыяліст Упраўлення культуры Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта *П.М. Падгурскі*

Фота на вокладцы *А.А. Арцем’еў*

**Півавар, М.В.**
**П11** Музеі Віцебска на пачатку XXI ст. : манаграфія / М.В. Півавар. – Віцебск : УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”, 2012. – 180 с.
ISBN 978-985-517-356-5.

Манаграфія прысвечана музеям Віцебска пачатку XXI ст. У першай частцы змешчаны нарыс музейнага будаўніцтва ў Віцебску з XVIII да пачатку XXI ст. У другой частцы пададзена інфармацыя пра больш як за сотню музеяў, экспазіцый, галерэй горада рознага ўзроўню і рознай падначаленасці.

Можа быць цікавай для жыхароў горада і яго гасцей, якія жадаюць больш даведацца пра гісторыю і культуру Віцебска, рэгіёна.

**УДК 069(1-21)(476.5)**
**ББК 79.14(4Беи-4Вит)**

**ISBN 978-985-517-356-5**

# З М Е С Т

# У В О Д З І Н Ы

Музеі займаюць асабліваe месца ў гісторыі і культуры нашага горада і краіны ўвогуле. Яны – скарбніцы, у якіх захоўваюцца прадметы матэрыяльнай і духоўнай спадчыны айчыннай і сусветнай культуры. Разам з функцыяй захавання рэчаў і калекцый для будучых пакаленняў музеі выконваюць важнейшую ролю ў асвеце гараджан і гасцей горада, спрыяюць выхаванню пачуцця прыгожага, далучаюць людзей да гісторыі і культуры рэгіёна. Наведванне музея пры добрай экскурсіі акрамя атрымання асалоды ад пазнання новага заўжды развівае чалавека, спрыяе фарміраванню густу, выхаванню грамадзянскіх і патрыятычных пачуццяў. Многія музеі месцяцца ў выдатных даўніх будынках, якія прыцягваюць увагу экскурсантаў як сваімі архітэктурнымі асаблівасцямі, так і “біяграфіямі”.

З’яўляючыся на пачатку XX ст. другім па колькасці насельніцтва горадам на беларускіх землях, Віцебск быў найбуйнейшым культурным цэнтрам, практычна культурнай сталіцай. У 1863 г. тут быў арганізаваны першы на беларускіх землях дзяржаўны гістарычны архіў. Тут працавалі выдатныя даследчыкі даўніны А.П. Сапуноў, Р. Раманаў, П. Шэйн, І. Насовіч, М. Нікіфароўскі. Тут былі створаны адны з першых вну ў краіне – Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, Настаўніцкі інстытут. У 1898 г. у Віцебску адбыўся першы ў Беларусі кінасеанс. У першыя паслярэвалюцыйныя гады тут утварылася сусветна вядомая “віцебская мастацкая школа”, з якой звязаны імёны М. Шагала, К. Малевіча. Даследчая і выдавецкая дзейнасць Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства на чале з М. Каспяровічам адыграла значную ролю ў працэсе беларусізацыі, фарміраванні нацыянальнай культуры ў 1920-я гг. Працягвае Віцебск з’яўляцца важным культурным цэнтрам і ў нашы дні.

Традыцыйна лічыцца, што лепш за іншыя ўстановы гісторыю адлюстроўваюць музеі. Яны ў значнай ступені ўплываюць на фарміраванне гістарычнай свядомасці грамадзян, з’яўляюцца важным інструментам ідэалагічнай працы. Такім чынам, можна вывесці пэўную залежнасць узроўню культурнага жыцця горада ад колькасці і якасці музеяў у ім. А колькі музеяў у Віцебску? Як поўна яны адлюстроўваюць асаблівасці і характэрныя рысы гістарычных і культурных працэсаў, што адбываліся ў горадзе? Што лепей паказаць гасцям горада? Дзе лепей адпачыць, а разам і чаму-небудзь павучыцца? Спадзяёмся, што ў кнізе знойдуцца адказы на гэтыя і шэраг іншых пытанняў.

У дадзеным выданні мы ставім дзве мэты: 1) даць кароткі агляд музейнага будаўніцтва ў Віцебску на працягу XVIII – пач. XXI ст.;

2) прадставіць як мага больш поўную карціну сённяшняга стану музеяў горада.

Для вырашэння пастаўленай мэты ставіліся наступныя задачы:

– прааналізаваць гісторыю музейнага будаўніцтва ў Віцебску ад з’яўлення першых збораў і калекцый да дзейнасці прыватных і сістэмы дзяржаўных музеяў рознай падпарадкаванасці на пачатку XXI ст.;

– выявіць колькасць музеяў на сучасны момант, сабраць інфармацыю пра іх (склад фондаў, апісанне экспазіцыі, ініцыятараў і стваральнікаў, перспектывы, кантактная інфармацыя і інш.), правесці сістэматызацыю матэрыялаў;

– вызначыць характэрныя рысы і асаблівасці, тэндэнцыі ў развіцці музеяў Віцебска, зрабіць высновы адносна праблем і перспектыў далейшага развіцця музейнай сеткі горада.

*Літаратура і крыніцы*

У 1925 г. вядомы віцебскі краязнаўца У. Краснянскі ў артыкуле “Кароткі нарыс музейнага будаўніцтва ў Віцебску” ў агульных рысах абмаляваў кароткую гісторыю з’яўлення музеяў у горадзе[1]. Я. Васілевіч, які з’яўляўся на той час дырэктарам віцебскага аддзялення Белдзяржмузея, у другім томе зборніка “Віцебшчына” прааналізаваў гісторыю яго стварэння[2]. Адзіным выданнем, якое было прысвечана гісторыі музеяў горада, з’ўлялася кніга Б. Брэжга “Музеі Віцебска[3]. У ёй давалася кароткая гісторыя станаўлення гэтых устаноў у горадзе і іх характарыстыка да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Кніга невялікага фармату (“надалоннік”) была выдадзена ў Варшаве ў 1926 г., мела ўсяго 31 старонку. Што і адлюстроўвала сітуацыю: у горадзе да 1917 г. практычна не было дзяржаўных музеяў, а прыватныя калекцыі не заўсёды адпавядалі канцэпцыі музея і былі абмежаваныя для наведвання.

За мінулы час у Віцебску шмат што змянілася. Але з 1920-х гг. музеі горада так і не сталі тэмай асобнага даследавання мясцовых ці сталічных навукоўцаў. Асобную кнігу прысвяціў Віцебскаму музею сучаснага мастацтва, які існаваў у горадзе ў пачатку 1920-х гг., В. Шышанаў.[4] А. Гужалоўскі ў сваіх манаграфіях, прысвечаных станаўленню і развіццю музеяў Беларусі[5], закранаў пытанні музейнага будаўніцтва Віцебска ў 1918–1991 гг. Гісторыя Віцебскага абласнога

[1] Краснянский, В. Краткий очерк музейного строительства в Витебске / В. Краснянский // Віцебскі сшытак. – 2004. – № 4. – С. 206–211.

[2] Васілевіч, Я. Віцебскі Дзяржаўны культурна-гістарычны музей / Я. Васілевіч // Віцебшчына. – Віцебск, 1928. – Т. 2. – С. 197–203.

[3] Breżgo, B. Muzea Witebskie. – Warszawa: Druk. Jan Świętoński I S-ka, Kopernika 34, 1926. – 31 s.

[4] Шишанов, В.А. Витебский музей современного искусства: история создания и коллекция (1918–1941) / В.А. Шишанов. – Минск: Медисонт, 2007. – 144 с.

[5] Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1918–1941 гг.) / А.А. Гужалоўскі. – Мінск: НАРБ, 2002. – 176 с.; Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1941–1991 гг.) / А.А. Гужалоўскі. – Мінск: НАРБ, 2004. – 218 с.

краязнаўчага музея ад 1918 да 1982 г. была тэмай дыпломнай работы С.М. Шчарынскай[6]. Праца засноўваецца на інфармацыі, апублікаванай у навуковым друку, матэрыялах ДАВВ і архіва ВАКМ. Некаторыя звесткі пра найбольш вядомыя ведамасныя музеі савецкага перыяду гісторыі горада можна адшукаць у энцыклапедычным даведніку "Витебск"[7], пра сучасны стан дзяржаўных музеяў – у даведніку "Музеі Беларусі"[8].

Карціну развіцця музеяў сярэдніх навучальных устаноў на сярэдзіну 1990-х гг. дае даведнік, складзены супрацоўнікамі Віцебскага абласнога цэнтра пазашкольнай працы[9]. Ён уключае спіс музеяў устаноў адукацыі, іх кароткую характарыстыку, кантактную інфармацыю. Але звесткі гэтыя за мінулы час састарэлі, значная колькасць музеяў ужо не існуе. Важнае месца ў працы музея ва ўстанове адукацыі мае даведнік "Справочник музейной деятельности школьных музеев", выдадзены ўстановай адукацыі "Віцебскі абласны дзяржаўны інстытут развіцця адукацыі" ў 2008 г.[10]. У ім сабраныя нарматыўныя матэрыялы, неабходныя для арганізацыі і існавання музея ва ўстанове адукацыі: "Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь", Пастанова Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 4 снежня 2002 г. № 52 і Палажэнне аб музеі ўстановы адукацыі. Тут жа змешчаны рэкамендацыі па выкарыстанні музеяў устаноў адукацыі ў выхаванні. Прыведзены прыклады падставовых дакументаў, якія неабходны для адкрыцця музея, яго працы. Разгледжаны алгарытм стварэння краязнаўчага музея ў школе. У даведніку прыводзяцца некалькі праграм гурткоў.

Гісторыю стварэння, дзейнасці, развіцця некаторых музеяў, калекцый горада ў XIX–XX стст. разглядалі ў навуковых артыкулах І. Абрамава[11], І. Бамбешка[12], А. Букіна[13], С. Маслоўскі[14], А. Падліпскі[15], А. Русецкі[16], Г. Савіцкі[17], Л. Хмяльніцкая[18],

---

[6] Щеринская, С.М. История Витебского областного краеведческого музея [Дипломная работа]. – Віцебск, 2004. – 57 с.
[7] Витебск: энцикл. справ. – Мінск: БелСЭ, 1988. – 408 с.
[8] Музеі Беларусі. Музеи Беларуси: энцыкл. даведнік. – Мінск: БелЭн імя П. Броўкі, 2008. – 559 с.
[9] Музеі школ і ПТВ Віцебскай вобласці: даведнік / склад. А.В. Куржалаў. – Віцебск: Друкарня імя Камінтэрна, 1995. – 95 с.
[10] Справочник музейной деятельности школьных музеев / сост. Т.П. Марчик. – Витебск: ВОГИПК и ПРР и СО, 2008. – 48 с.
[11] Абрамова, И. Судьба коллекции В.П. Федоровича / И. Абрамова // 90 год Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею: матэрыялы навук. канф., Віцебск, 30–31 кастр. 2008 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 57–58.
[12] Бамбешка, І.І. Фарміраванне сеткі музейных устаноў Віцебска ў XIX – пачатку XX ст. / І.І. Бамбешка // 90 год Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею: матэрыялы навук. канф., Віцебск, 30–31 кастр. 2008 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 169–176.
[13] Букіна, А. Музей Антона Брадоўскага ў Віцебску / А. Букіна // Віцебскі сшытак. – 2000. – № 4. – С. 202–205; Букіна, А. Музейная спадчына Віцебска / А. Букіна // Тамсама. – С. 206.
[14] Маслоўскі, С. Музеі Віцебскай вобласці / С. Маслоўскі // Бел. гіст. часопіс. – 2000. – № 2.
[15] Падліпскі, А. Заснавальнік Віцебскага музея / А. Падліпскі // ПГіКБ. – 1980. – № 2. – С. 19; Падліпскі, А. З любоўю да роднага краю // ПГіКБ. – 1981. – № 2. – С. 29–30; Падліпскі, А. Краязнаўца і вынаходнік // ПГіКБ. – 1985. – № 1. – С. 28–29; Падліпскі, А. Буйнейшы калекцыянер // ПГіКБ. – 1986. – № 4. – С. 14–15.

В. Шышанаў[19], Н. Шаркоўская[20] і іншыя даследчыкі. Аднак практычна ўсе артыкулы прысвечаны паўстанню музеяў і фарміраванню калекцый ў XIX – першай палове XX ст. Гісторыя другой паловы XX ст., а тым больш сучасны стан музеяў горада не сталі прадметам зацікаўленасці навукоўцаў. Некаторыя звесткі можна адшукаць толькі ў публікацыях мясцовага перыядычнага друку.

Для параўнання, вызначэння структуры кнігі выкарыстоўваліся выданні, прысвечаныя музеям сусветных культурных цэнтраў, у тым ліку Масквы[21], Санкт-Пецярбурга[22], Полацка[23], гарадоў Еўропы. У час працы над выданнем былі выкарыстаны дадзеныя, змешчаныя на сайтах у Інтэрнэце (сайты музеяў, прадпрыемстваў і ўстаноў і інш.).

Крыніцамі для напісання кнігі сталі дакументы дзяржаўных, ведамасных і прыватных архіваў, нарматыўна-прававыя акты, манаграфіі, артыкулы ў навуковым, перыядычным друку, інфармацыя, сабраная ў выніку праведзенага аўтарам на працягу 2006–2012 гг. даследавання стану музеяў.

Дакументальнай базай даследавання сталі матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (фонды Беларускага аддзялення Савецкага фонда культуры, Беларускага фонда культуры, Беларускага краязнаўчага таварыства), Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці (фонд Віцебскага Дома калгасніка (1012), Віцебскіх абласных камітэтаў КПБ, ЛКСМБ, упраўлення адукацыі і ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, аддзела культуры і аддзела

[16] Русецкий, А.В. Художественная культура Витебска с древности до 1917 года / А.В. Русецкий. – Минск: БелЭн, 2001. – 288 с.

[17] Савицкий, Г.В. Частный музей В.П. Федоровича в г. Витебске / Г.В. Савицкий // I Машеровские чтения: материалы регион. науч. конф. студ., магистр. и молодых ученых, 5 мая 2005 г., г. Витебск / УО «ВГУ им. П.М. Машерова». – Ч. 2. Гуманитарные науки. – С. 181–182; Савицкий, Г.В. Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею – 90 гадоў // Бел. гіст. часопіс. – 2008. – № 10. – С. 21–26.

[18] Хмяльніцкая, Л. З гісторыі Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея / Л. Хмяльніцкая // Віцебскі сшытак. – 1995. – № 1. – С. 65–71; Хмяльніцкая, Л. Віцебскі царкоўна-археалагічны музей // З глыбі вякоў. Наш край. Гіст.-культуралаг. зб. – Мінск, 1997. – Вып. 2. – С. 4–15; Хмяльніцкая, Л. Віцебскі царкоўна-археалагічны музей // Архіўная спадчына Віцебшчыны як крыніца вывучэння гісторыі краю: матэрыялы архіўных чытанняў, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння А.П. Сапунова, Віцебск, 6–7 чэрв. 2001 г. – Мінск: БелНДІДАС, 2002. – С. 4–14; Хмельницкая, Л. От одной идеи Марка Шагала: от городского художественного музея к музею современного искусства в Витебске // Бюллетень музея Марка Шагала. – Вып. 16–17. – С. 102–114.

[19] Шишанов, В.А. Музей и нумизматическая коллекция А.Р. Бродовского / В.А. Шишанов // 90 год Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею: матэрыялы навук. канф., Віцебск, 30–31 кастр. 2008 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 184–199; Шишанов, В.А. Штрихи к биографии А.Р. Бродовского // Віцебскія старажытнасці: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-годдзю знаходкі берасцяной граматы ў Віцебску і 150-годдзю з дня нараджэння А.Р. Брадоўскага, Віцебск, 22–23 кастр. 2009 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2010. – С. 236–240.

[20] Шарковская, Н.Ю. Археологическая коллекция ВУАК в фондах Витебского областного краеведческого музея / Н.Ю. Шарковская // 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі... – С. 58–61.

[21] Московские музеи для всей семьи. – М: ООО «Радис-РРЛ», б.г. – 34 с.

[22] Все музеи Санкт-Петербурга. – СПб., 2005. – 446 с.

[23] Полацк музейны: фотаальбом / аўт.-склад. Т.А. Джумантаева, М.М. Ільніцкі. – Мінск: Беларусь, 2006. – 283 с.

адукацыі Віцебскага гарвыканкама, Віцебскага абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі (2187), Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, асабістыя фонды некаторых краязнаўцаў), бягучыя архівы Віцебскага аддзялення Беларускага краязнаўчага таварыства, гісторыка-культурнага таварыства "Узгор'е", Віцебскага гарадскога аддзела адукацыі, упраўлення аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама, упраўлення культуры аблвыканкама, некаторых музеяў горада. Крыніцамі для напісання кнігі сталі таксама матэрыялы, сабраныя ў час наведвання дзяржаўных, ведамасных, школьных музеяў Віцебска, анкеты музеяў. Падчас працы над выданнем выкарыстоўваліся буклеты, плакаты, брашуры, выдадзеныя музеямі г. Віцебска[24].

Нарматыўна-прававую базу сённяшняга дня музеяў адлюстроўваюць Закон аб музеях Рэспублікі Беларусь[25], Пастанова Міністэрства адукацыі і Палажэнне аб музеі ўстановы адукацыі[26].

Падчас падрыхтоўкі выдання былі праведзены інтэрв'ю з работнікамі большасці музеяў, асобамі, якія выконваюць абавязкі кіраўнікоў, людзьмі, якія ў той ці іншай меры прычыніліся да стварэння музеяў горада. Гэта В.І. Акуневіч, Л.Н. Бруева, А.В. Куржалаў, І.А. Навумчык, Т.П. Марчык, А.У. Русецкі, Н.А. Сулецкая, Ю.С. Чарняк і некаторыя іншыя.

Выданне не прэтэндуе на ўсеахопнасць. Не атрымалася пазбегнуць пэўных недахопаў. У кнігу не трапілі некаторыя музеі. Пра адны з іх складана даведацца, бо яны з'яўляюцца ведамаснымі, у другія складана трапіць. Некаторыя музеі перасталі існаваць. За час, калі кніга рыхтавалася да друку, утварыліся новыя. Не прасочаны лёс калекцый страчаных музеяў (большасці музеяў прадпрыемстваў, некаторых школьных). З прычыны практычнай адсутнасці архіўных крыніц, блізасці да нашага часу, складанасці, неадназначнасці падзей канца XX – пач. XXI ст. складана даць аб'ектыўную ацэнку гэтаму перыяду. Асобнай кнігі вартыя стваральнікі музеяў – краязнаўцы,

[24] Памятка посетителю музея. – 2-е изд. – Витебск: Тип. им. Коминтерна, 1969. – 27 с.; Витебский областной музей Героя Советского Союза М.Ф. Шмырева: краткий путеводитель. – Минск: Полымя, 1970. – 27 с.; Музей боевой славы 953-го Витебского штурмового авиаполка [буклет] / сост. Л. Бруева. – Витебск: Тип. им. Коминтерна, 1987; Трудовой славы, народный музей Витебского ордена Трудового Красного Знамени станкостроительного завода им. Коминтерна [плакат]. – Витебск: Тип. им. Коминтерна, 1988; Мемориальный музей П.М. Машерова. – Витебск: Тип. им. Коминтерна, 1989. – 15 с.

[25] Закон "Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" (12 снеж. 2005 г. № 70-З) [Электронны рэсурс] // [Рэжым карыстання] Национальный правовой интернет-портал Республики Беларусь // http://pravo.by/main.aspx?guid=3871&p0=H10500070&p2={NRPA}.

[26] Пастанова Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні Палажэння аб музеі навучальна-выхаваўчай установы" (4 снеж. 2002 г. № 52) і Палажэнне аб музеі ўстановы адукацыі [Электронны рэсурс] // [Рэжым карыстання] Банк законов. Информационный портал Беларуси http://www.bankzakonov.com/republic_pravo_by_2010/blocku8/rtf-y1k8j0.htm.

настаўнікі, мастакі-афарміцелі, грамадскія актывісты, чыноўнікі, якія прычыніліся да музейнага будаўніцтва ў Віцебску. Думаем, што выданне будзе мець працяг. Вельмі спадзяемся на тое, што кніга будзе спрыяць актывізацыі грамадскай думкі, дыялогу ўладных структур, спецыялістаў-музейшчыкаў, творчай інтэлігенцыі горада, можа садзейнічаць пачатку дыскусіі аб месцы і ролі музеяў у жыцці горада, праблемах і перспектывах іх развіцця.

Выданне складаецца з 2-х частак. Першая частка даследавання ўяўляе сабой нарыс па гісторыі з'яўлення і развіцця музеяў у г. Віцебску ад XVIII ст. да 2012 г. Другая ўтрымлівае звесткі пра музеі горада і з'яўляецца своеасаблівым даведнікам па музеях Віцебска пач. XXI ст. і ўключае апісанне экспазіцый, якія маюцца ў іх на цяперашні момант (2012 г.). Апісанне ўключае ў сябе па магчымасці наступныя дадзеныя: час стварэння музея, у якім памяшканні знаходзіцца, ініцыятары і стваральнікі, мэты стварэння, апісанне экспазіцыі. У канцы змяшчаецца кантактная інфармацыя: адрас музея, тэлефоны, адрас у Інтэрнэце: e-mail, сайт, часы наведвання, выходныя і г.д. Разам з інфармацыяй падаюцца фотаздымкі музея, некаторых куткоў яго экспазіцыі, фота некаторых найбольш цікавых экспанатаў.

Калі першая частка, верагодна, будзе больш цікавай спецыялістам, то другая мае чыста практычны характар і, спадзяёмся, будзе цікавай жыхарам і гасцям горада, якія жадаюць далучыцца да гісторыі нашага краю, атрымаць карысныя веды і пры гэтым добра адпачыць.

### *Што такое музей, экспазіцыя, крытэрыі адбору і змяшчэння звестак пра ўстановы ў кнігу*

У адпаведнасці з Законам "Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" (12 снежня 2005 г. № 70-З), музей – гэта юрыдычная асоба або структурнае падраздзяленне юрыдычнай асобы, якія рэалізуюць большасць відаў музейнай дзейнасці. Па форме ўласнасці музеі падзяляюцца на дзяржаўныя і прыватныя.

Абавязковымі ўмовамі для стварэння музея з'яўляюцца: наяўнасць культурных каштоўнасцей, навуковага праекта музея; будынак (памяшканне), які адпавядае профілю музея і патрабаванням па захоўванні музейных прадметаў і музейных калекцый, неабходныя фінансавыя сродкі для арганізацыі і ажыццяўлення музейнай дзейнасці.

У савецкі час у краіне паўстала шмат школьных музеяў. Значная колькасць з іх былі створаны фармальна, на нізкім навуковым і эстэтычным узроўні. Але пэўная колькасць школьных музеяў з'яўляліся сапраўднымі скарбніцамі, у якіх захоўваліся каштоўныя экспанаты матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа. Варта прыгадаць

літаратурны музей у в. Гудзевічы Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці, арганізаваны А. Белакозам, музей у СШ № 3 г. Мёры, створаны В.А. Ермалёнкам, гісторыка-краязнаўчы музей Радунскай СШ Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці (кіраўнік – Іван Фесенка), музей імя Пятра Машэрава ў СШ № 137 г. Мінска (кіраўнік – Анатоль Майныч), літаратурна-краязнаўчы музей Браніслава Эпімаха-Шыпілы ў Ветрынскай СШ Полацкага раёна (кіраўнік – Алена Краснова), літаратурны музей Міхася Васілька ў ПТВ № 199 г. Скідзеля Гродзенскага раёна (кіраўнік – Алена Салей), краязнаўчыя музеі ў СШ № 2 г.п. Краснаполле Магілёўскай вобласці і шэраг іншых. На аснове школьных музеяў паўсталі раённыя музеі ў Крычаве, Оршы, рыхтаваўся ў Верхнядзвінску.

У новым законе аб музеях няма паняцця "школьны музей". Існаванне такіх музеяў рэгулюецца Пастановай міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 4 снежня 2002 г. № 52 і Палажэннем аб музеі ўстановы адукацыі. У адпаведнасці з ім музей установы адукацыі з'яўляецца тэматычнай сістэматызаванай калекцыяй арыгінальных помнікаў нацыянальнай гісторыі, культуры і прыроды, работа яго цесна звязана з вучэбна-выхаваўчым працэсам установы адукацыі. Сутнасць і арганізацыя дзейнасці школьнага музея практычна адпавядае дзейнасці дзяржаўнага.

Стварэнне музея магчыма пры наяўнасці актыву навучэнцаў; асобнага памяшкання і абсталявання, якія забяспечваюць захаванасць музейных экспанатаў і ўмовы для іх паказу; экспазіцыі, якая адпавядае па змесце і афармленні сучасным патрабаванням і налічвае не меней за 100 арыгінальных экспанатаў; сабранай і зарэгістраванай у інвентарнай кнізе калекцыі музейных прадметаў. Кантроль за дзейнасцю музея ажыццяўляюць органы адукацыі.

Усім нормам і патрабаванням закона "Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь" (наяўнасць культурных каштоўнасцей; навуковага праекта музея; будынка (памяшкання), які адпавядае профілю музея; магчымасць забяспечыць патрабаванні па захоўванні музейных прадметаў; наяўнасць неабходных фінансавых сродкаў) у Віцебску адпавядае не больш за дзесятак музеяў. Але ў горадзе больш за сотню розных па ўзроўні ўстаноў, якія адпавядаюць асноўным задачам музеяў: выяўленню, камплектаванню, уліку, захаванню, вывучэнню і папулярызацыі культурных каштоўнасцей. Паводле звычкі, традыцыі мы іх называем музеямі, хаця большасць з іх вартыя толькі статуса экспазіцыі, мемарыяльнага кутка.

Але ў выданні мы прытрымліваліся не фармальных прыкмет, якія вызначаюцца ў законе (наяўнасць памяшкання, наяўнасць унікальных культурных каштоўнасцяў і інш.), а кіраваліся задачамі дзейнасці ўстановы, якія вызначаюцца ў законе: выяўленне, камплек-

таванне, улік, захаванне, вывучэнне і папулярызацыя культурных каштоўнасцей. Для гэтага мы свядома пашыраем межы тэрміна “музей” і разумеем пад ім месца, у якім экспануюцца рэчы матэрыяльнай ці духоўнай культуры, іншыя матэрыялы, інфармацыя, а таксама ёсць магчымасць доступу наведвальнікаў. Такім чынам сюды ўвайшлі і некаторыя прыватныя мастацкія галерэі, якія не маюць сталых экспазіцый, але наведванне і знаёмства з экспанатамі якіх узбагачае чалавека, спрыяе яго эстэтычнаму выхаванню. У кнігу ўключаны і выставачная зала Віцебскага абласнога інстытута развіцця адукацыі, прыстасаваная для дэманстрацыі часовых выстаў экспазіцыя ў чытальнай зале Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці, хол Віцебскай абласной бібліятэкі і іншыя ўстановы, дзе могуць экспанавацца часовыя выставы. Для прастаты ўспрыняцця назвы музеяў падаюцца без уліку статуса ўстановы (установа адукацыі, дзяржаўная ўстанова і г.д.).

### *Класіфікацыя*

Паводле “Закона аб музеях” у нашай краіне існуюць толькі дзве катэгорыі музеяў – дзяржаўныя і прыватныя. Жыццё не заўжды можна ўкласці ў жорсткія рамкі. Новая рэчаіснасць у нашай краіне сутыкаецца з рэшткамі былога савецкага мінулага. Прыватных музеяў у Віцебску практычна няма. Для дзяржаўных музеяў, якія маюцца ў горадзе на пачатак XXI ст., можна прапанаваць наступную сістэматызацыю:

музеі, якія знаходзяцца:

– у падпарадкаванні аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама;
– у падпарадкаванні ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама;
– у падпарадкаванні арганізацый і ведамстваў (прадпрыемстваў, устаноў);
– у падпарадкаванні ўстаноў адукацыі (ВНУ, абласнога ўпраўлення адукацыі, сярэдніх навучальных, сярэдніх спецыяльных і сярэдніх тэхнічных навучальных устаноў).

Такой сістэматызацыі мы будзем прытрымлівацца ў другой частцы нашага выдання, якая, як мы думаем, больш зручная для чытача і тых, хто захоча наведаць музеі Віцебска.

# 1. ГІСТОРЫЯ МУЗЕЯЎ ВІЦЕБСКА

## 1.1. Музеі Віцебска з XVI ст. па 1917 г.

*Зборы і калекцыі на Віцебшчыне ў XVII–XIX стст.*

Першы музей на Віцебшчыне быў арганізаваны ў 1780 г. У Полацкім езуіцкім калегіуме (пазней акадэмія) дэманстраваліся асобныя калекцыі каштоўных камянёў, зброі, манет. Каталог музея склаў кіраўнік калегіума, будучы генерал ордэна езуітаў – Габрыэль Грубер. У 1820 г. пасля забароны дзейнасці езуітаў у Расіі маёмасць акадэміі разам з музеем была перададзена ордэну піяраў, які быў пераведзены з Віцебска ў Полацк. У 1830 г. дзейнасць і гэтай установы была таксама прыпынена, а маёмасць перададзена кадэцкаму корпусу. Частка карцін з музея была ў 1831 г. распрададзена публічна ў Полацку, частку пакінулі кадэцкаму корпусу, але асноўная, найбольш каштоўная частка экспанатаў вагой 253 пуды 35 фунтаў, была выслана ў Санкт-Пецярбург, дзе яе далучылі да маёмасці Ваенна-марской школы[27].

З XVIII ст. у шляхты з’яўляецца цікавасць да збірання старажытнасцяў. Буйныя калекцыі ствараюцца ў родавых маёнтках магнатаў – Агінскіх, Валадковічаў, Лапацінскіх, Сапегаў, Тызенгаўзаў, Храптовічаў і іншых. Галоўным чынам у іх зборах захоўваліся творы еўрапейскіх майстроў. З цягам часу цікавасць да даўніны пабуджала некаторых праводзіць археалагічныя раскопкі. Напрыклад, у сваім маёнтку Мосар Лепельскага павета (цяпер Ушацкі раён) шляхціц Р. Бжаздоўскі праводзіў раскопкі кургана. Частку выкапаных рэчаў даслаў каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, у калекцыі якога яны захоўваліся. Даследчык В. Мяніцкі адшукаў і апублікаваў ліст караля да Бжаздоўскага ад 24 лютага 1790 г., у якім С. Панятоўскі дзякуе шляхціцу за дасланыя матэрыялы. На думку Г. Каханоўскага, гэта была першая спроба весці археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі.

Практычна ў кожнага шляхціца сярэдняй рукі захоўваліся калекцыі, якія ўключалі матэрыялы па гісторыі і культуры Віцебшчыны. Да нашых часоў дайшлі толькі некаторыя імёны. Напрыклад, на пачатку XIX ст. у памешчыкаў Ігнатовіча, Румяноўскага, Лісоўскага, Клімовіча, Шаўмана[28] пабывалі мясцовыя карэспандэнты рускага калекцыянера графа М. Румянцава, якія, азнаёміўшыся са зборамі, набылі сотні татарскіх, шведскіх, грэчаскіх, польскіх манет, а таксама 12 экзэмпляраў куфічных манет. Невялікая колькасць сярэб-

[27] Абрамова, И. История Витебских музеев // Витебский курьер. – 1998. – № 39. – С. 3.
[28] Півавар, М.В. Даследчыкі Полацка-Віцебскай даўніны XVI ст. – 1944 г.: даведнік / М.В. Півавар. – Віцебск: Віцебск. абл. друк., 2006. – С. 170.

раных манет са скарбу, знойдзенага ў раёне Оршы, была набытая М. Румянцавым у купца Надуева[29].

З прычыны недахопу інфармацыі аб калекцыях і зборах, якія знаходзіліся ў шляхецкіх маёнтках у Віцебскім і Полацкім ваяводствах у часы Рэчы Паспалітай, аб іх колькасці і якасці можна толькі меркаваць. У XIX ст. у межах Віцебскай губерні з’явіўся шэраг даследчыкаў-аматараў, якія вывучалі Прыдзвінне і мелі ўласныя калекцыі: Зіноўеў, М. Кусцінскі, М. Плятэр, барон Транзее, Л. Фохт, К. Шміт і іншыя. Некаторыя з іх праводзілі самастойныя археалагічныя раскопкі. Так, Алаізі Юзаф Ян Абрампальскі (1814–?) у сваім маёнтку Нача Лепельскага павета стварыў калекцыю, у якой утрымліваліся прадметы па мясцовай гісторыі і культуры. Разам з К.А. Гаворскім ён праводзіў раскопкі некалькіх кругападобных курганоў уздоўж Альгердавай дарогі з Полацка ў Вільню. У адным з іх былі знойдзены шкілет чалавека і прасліца (“кружочак”).

У маёнтку Крашуты пад Полацкам (па дарозе на Невель) жыў памешчык, вядомы пад крыптонімам А.І.К. (ініцыялы пакуль што не расшыфраваны), які меў калекцыю, у склад якой уваходзілі выдатная бібліятэка, карцінная галерэя, шмат арыгінальных рэчаў, вывезеных гаспадаром у 1814 г. з Парыжа[30].

Міхаіл Борх у сваім маёнтку Прэлі (пол. Prele, лат. Preljlu) Дынабургскага павета стварыў хатнюю музейную калекцыю, экспанаты якой яму дасталіся ад продкаў, але шмат чаго збіраў сам. Напрыклад, рукапісы, старадрукі, любыя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй Прыдзвіння.

У сваім маёнтку ў Краславе Віцебскай губерні (цяпер Латвія) Адам Плятэр (Plater) меў калекцыю, у якой акрамя асабістых збораў аматара захоўваліся матэрыялы знаходак археолагаў Ф. Крузе і М.І. Борха, якія таксама вывучалі Падзвінне. У музеі было шмат гістарычных дакументаў, пераважна XVII–XVIII стст. Частку матэрыялаў, сабраных на Падзвінні, А. Плятэр перадаў у Віленскі музей старажытнасцей. Многае згарэла ў час пажару ў 1863 г. Некаторыя рукапісы прац А. Плятэра захоўваюцца ў бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта.

У маёнтку Селігоры на Лепельшчыне, які належаў роду Мяніцкіх герба “Леў з муру” (“Праўдзіч”), была сабрана вялікая бібліятэка і калекцыя старадрукаў, рукапісаў, грамат, карт, гравюр. Большая частка каштоўнай бібліятэкі В. Мяніцкага апынулася ў Вільні і загінула пры пажары ў Другую сусветную вайну. Асаблівую каштоўнасць калекцыі В. Мяніцкага мелі рукапісныя творы беларускай літаратуры XIX ст. У яго бібліятэцы быў экзэмпляр драматычнай

[29] Козлов, В.П. Колумбы российских древностей. – М.: Наука, 1981. – С. 90–92.
[30] Грыцкевіч, В., Мальдзіс, А. Шляхі вялі праз Беларусь. – Мінск, 1980. – С. 145.

паэмы Гераніма Марцінкевіча "Адвячорак: аказія ў карчме пад Фальковічамі", тэксты многіх беларускіх вершаў. Менавіта ў В. Мяніцкага ў Селігорах пачаў запісваць з 1889 г. творы ў сваю славутую рукапісную "Беларускую хрэстаматыю" Б.І. Эпімах-Шыпіла – хросны бацька беларускай літаратуры.

Непадалёк ад Віцебска, у сваім маёнтку "Мілае" (цяпер в. Мазалава Віцебскага раёна) калекцыю меў публіцыст, асветнік, удзельнік літаратурнага жыцця на Віцебшчыне першай трэці XIX ст. Ігнацій Манькоўскі[31].

На Лепельшчыне ў маёнтку Завідзічы стварыў музей, які прыцягваў увагу многіх археолагаў, Міхаіл Францавіч Кусцінскі (1829–1905). Аснову калекцыі склалі матэрыялы археалагічных даследаванняў Віцебшчыны і Смаленшчыны, якія М. Кусцінскі праводзіў у 1850–1890 гг. Сабраныя матэрыялы пазней ён перадаў зяцю, які перавёз калекцыю ў в. Мікалаёва Дзісенскага павета.

Такім чынам, у XVIII – першай палове XIX ст. на тэрыторыі Віцебшчыны мелася пэўная колькасць калекцый, збораў, якія належалі шляхце і складаліся з прадметаў як знойдзеных на тэрыторыі рэгіёна, так і прывезеных з-за мяжы. Вывучэннем мясцовых старажытнасцяў займаліся галоўным чынам дваране.

*Віцебск*

Да з'яўлення публічных музеяў у горадзе асноўным месцам захавання рэчаў музейнага значэння былі рызніцы цэркваў і манастыроў, княжацкія палаты у Верхнім і Ніжнім замках. К XVIII ст. у Віцебску з'яўляюцца прыватныя калекцыі. Невялікія зборы былі таксама ў езуіцкім калегіуме. У Віцебску як губернскім горадзе сітуацыя са зборамі была неадназначнай. Шляхецкіх калекцый, якія часцей захоўваліся ў родавых маёнтках, было мала, затое меліся зборы ў багатых купцоў. Так, багаты купец, старавер Іаан Сабольнікаў (1763–1836) заклаў малітоўны дом у Віцебску, у якім знаходзілася шмат старажытных рэчаў: рукапісаў, друкаваных кніг, абразоў у каштоўных акладах. Аднак са смерцю І. Сабольнікава калекцыя была страчана.

У Віцебскай мужчынскай гімназіі захоўвалася мінералагічная калекцыя, якая належала ад'юнкту Віленскага ўніверсітэта Раману Шымановічу. Яна складалася з 1466 мінералаў[32]. Гэты збор пасля смерці калекцыянера быў падараваны ў 1814 г. братам нябожчыка – віцебскім купцом Якавам Сімановічам. У яго склад уваходзіла значная колькасць каменных сякер, сабраных на тэрыторыі Віцебскай губерні. Экспанаты размяшчаліся ў вітрынах, які стаялі ў калідорах гімназіі. Па сведчанні А.П. Сапунова, калекцыя захоўвалася неахайна і з-за

[31] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 19. – Арк. 96. Анкеты по изучению усадеб.
[32] Абрамова, И. История Витебских музеев // Витебский курьер. – 1998. – № 39. – С. 3.

нядбайнасці адміністрацыі была страчана[33]. Асобная калекцыя мелася ў фізічным кабінеце.

На 1895 г. у фізічным кабінеце было 279 апаратаў і прыбораў для эксперыментальных заняткаў. У прыродазнаўчым кабінеце захоўваліся заалагічная (41 прадмет) і мінералагічная (986 прадметаў) калекцыі. Асобна захоўваліся калекцыі нумізматыкі і фалерыстыкі, а таксама вучэбныя дапаможнікі: атласы, глобусы, геаграфічныя і гістарычныя карты, мадэлі для малявання, нотныя сшыткі і музычныя інструменты[34].

Значныя прыватныя калекцыі мелі натарыус Віцебскага суда, археолаг-аматар Караль Бергнер, святар, член Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, мясцовы карэспандэнт "Витебских губернских ведомостей" Васіль Валковіч, сакратар Віцебскага Губернскага статыстычнага камітэта, этнограф, археолаг, фалькларыст А.М. Семянтоўскі, калекцыянер Зіноўеў. Большасць прадметаў з гэтых калекцый перайшла ў збор В.П. Федаровіча. Віцебскі памешчык Л. Фохт (канец XIX – пачатак XX ст.) займаўся раскопкамі і меў калекцыю старажытных рэчаў, якую ў 1890 г. набыў Е. Раманаў. Значныя прыватныя зборы былі ў выдатных даследчыкаў Прыдзвіння і Падняпроўя, чые навуковыя даследаванні былі вядомы па ўсёй Еўрапейскай Расіі – Е.Р. Раманава і А.П. Сапунова. Некаторыя матэрыялы былі ў праф. Шапялевіча, які праводзіў раскопкі на Віцебшчыне на мяжы XIX – XX ст. Аднак найбольшымі калекцыямі ў горадзе валодалі В.П. Федаровіч, Г.А. Тэадаровіч і А.Р. Брадоўскі.

У 1880-я гг. у горадзе быў створаны першы прыватны музей. Ён належаў адвакату, вядомаму калекцыянеру, члену-карэспандэнту Кракаўскай Акадэміі навук Вацлаву Пятровічу Федаровічу[35]. Спачатку музей змяшчаўся на вул. Замкавай, потым Дварцовай (цяпер вул. Савецкая, 19).

У зборы вылучалася 7 раздзелаў: 1) рэчы старажытнасці (каменныя сякеры, скрабкі, нажы, грыўны, бранзалеты, каралі, фібулы, пярсцёнкі), 2) ваенны (халодная, агняпальная зброя, засцерагальная амуніцыя), 3) побытавыя рэчы (посуд, адзенне, абутак, упрыгожванні,

---

[33] Хмяльніцкая, Л. Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова). – Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. – С. 18.

[34] Сімакова, І.М. Вучэбныя калекцыі Віцебскай гімназіі / І.М. Сімакова // Адукацыя на Віцебшчыне: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф., Віцебск, 30–31 сак. 2010 г. / Віц. дзярж. ун-т; рэдкал: В.У. Акуневіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Віцебск: УА "ВДУ імя П.М. Машэрава", 2010. – С. 32.

[35] Федаровіч, В.П. (25.09.1848–12(25).01.1911), нарадзіўся ў Магілёве, скончыў Маскоўскі ўніверсітэт, працаваў адвакатам у Саратаве, Балашове, Царыцыне, Ерэване. З 1884 г. жыў і працаваў у Віцебску. Браў актыўны ўдзел у грамадскім і навуковым жыцці горада і губерні. З'яўляўся ініцыятарам і заснавальнікам дабрачыннага Каталіцкага таварыства ў Віцебску. Яго намаганнямі была выдадзена кніга "Гербоўнік шляхты літоўскай". Ён жа з'яўляўся ініцыятарам і складальнікам літаратурна-краязнаўчага зборніка "З ваколіц Дзвіны" (Віцебск, 1912), дзе акрамя ягоных асабістых артыкулаў публікаваліся артыкулы Я. Коласа, Я. Лучыны. Меў рукапісную "Энцыклапедыю Віцебшчыны", у якой змясціў прозвішчы і кароткія звесткі пра людзей, звязаных з Віцебшчынай.

трубкі), 4) помнікі навукі і мастацтва (кнігі, дакументы, карціны, фотаздымкі), 5) масонскі (масонскія знакі, вышыўкі, пячаткі і інш.), 6) помнікі грамадзянскага побыту (пячаткі, медалі, манеты, кафля), 7) нататкі і паперы Федаровіча.

Па ацэнцы Г. Каханоўскага, археалагічная частка збору была адной з самых багатых на тэрыторыі Беларусі ў канцы XIX ст.[36]. У калекцыі В.П. Федаровіча было больш за 5 тыс. рэчаў[37], па іншых звестках – 7 тыс. рэчаў[38]. Аснову збору даследчыка склалі калекцыі Караля К. Бергнера, графа Плятэра, М. Кусцінскага, В. Валковіча, Валадковіча[39]. Рэчы Федаровіч набываў не толькі ў калекцыянераў, але і ў знаёмых у горадзе і паветах, памешчыкаў, ксяндзоў. Тут захоўваліся рэчы, знойдзеныя пры археалагічных раскопках у Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай губернях. Дапамагаў у раскопках археолагам, у тым ліку М.Ф. Кусцінскаму. Вялізную колькасць экспанатаў В.П. Федаровіч сабраў сам, беручы ўдзел у земляных работах у Віцебску: пры зрыцці Замкавай гары, будаўніцтве электрастанцыі, правядзенні вадаправода, будаўнічых работ на вул. Замкавай. Значная колькасць прадметаў была сабрана ім пры правядзенні пошукаў на берагах Віцьбы і Дзвіны пасля веснавых паводкаў. У музеі захоўваліся рэчы не толькі па гісторыі, таму можна казаць пра тое, што ён быў па-сапраўднаму краязнаўчым і даваў комплексную характарыстыку краю.

Другой станоўчай рысай збору В.П. Федаровіча было яго сістэмнасць. Па меркаванні У.Г. Краснянскага, "музей уяўляў сабой каштоўны збор музейных рэчаў і дастаткова поўна характарызуе гісторыю мясцовага краю, асабліва ў адносінах яго польскага насельніцтва"[40]. Найбольш значнымі з'яўляліся калекцыі курыльных трубак, масонская калекцыя (адна з найбольш буйных у тагачаснай Расіі). У яго бібліятэцы (больш за 1 тыс. тамоў) былі кнігі па гісторыі Беларусі і Літвы, беларускія і літоўскія выданні XVIII–XX стст.

Пасля смерці В.П. Федаровіча калекцыя перайшла па спадчыне ягоным сынам. Для агляду калекцыі ў Віцебск прыязджаў загадчык этнаграфічнага аддзела Музея імператара Аляксандра III Н.М. Магіленскі[41].

Збору В.П. Федаровіча складала канкурэнцыю калекцыя Генрыха Адольфавіча Тэадаровіча[42]. Ён меў унікальную бібліятэку, якая

---

[36] Каханоўскі, Г.А. Вандраванні // Маладосць. – 1984. – № 10. – С. 56.
[37] Подлипский, А. Коллекция Федоровича // Нар. слова. – 1995. – 2 лют. – С. 5.
[38] Шпаковская, Г. Раритеты из коллекции Вацлава Федоровича // Нар. слова. – 2008. – 4 ліст. – С. 8.
[39] Васілевіч, Я. Віцебскі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй // Віцебшчына. – 1927. – Т. 2. – С. 198.
[40] Краснянский, В. Краткий очерк музейного строительства в Витебске // Віцебскі сшытак. – № 4. – С. 207.
[41] Абрамава, И. 90 год Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею: матэрыялы навук. канф., Віцебск, 30–31 кастр. 2008 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 57.
[42] Тэадаровіч, Г.А. (1864, г. Пінск–верасень 1917, г. Віцебск), скончыў Смаленскую гімназію, юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта (1886). Пасля заканчэння ўніверсітэта жыў і працаваў у Віцебску. Прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці горада. Браў удзел у працы Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.

агулам налічвала больш за 20 тысяч тамоў. У калекцыі твораў мастацтва былі прадстаўлены працы розных часоў і майстроў – І. Шышкіна, Ю. Пэна, Ю. Клевера і інш[43].

У 1915 г. у горад у сувязі з Першай сусветнай вайной разам са штабам Віленскай ваеннай акругі пераехаў чарцёжнік інжынернага ўпраўлення Віленскай ваеннай акругі Антон Рафаілавіч Брадоўскі[44]. Займацца калекцыянаваннем прадметаў старажытнасці ён пачаў з дзяцінства. У 1906 г. у Вільні на аснове сваёй калекцыі стварыў "Музей древностей и художественной промышленности"[45]. Спачатку музей знаходзіўся на вуліцы Завальнай, потым на вуліцы Сямёнаўскай, 10, у тым жа доме, дзе пражываў сам А. Брадоўскі. У трох пакоях змяшчалася больш за 20 тыс. рэчаў, у тым ліку акамянеласці, мінералы, зброя, гадзіннікі карціны, абразы, скульптуры, мастацкія вырабы, званочкі, веера, парцаляна, кафля, вышыўкі, пячаткі, манеты, узнагароды, знакі і іншыя. У калекцыі былі рэдкія экспанаты, сярод якіх – грамата Пятра І, аўтографы Кацярыны ІІ, А.В. Суворава, Т. Касцюшкі, Д. Давыдава, генерала Мілорадавіча.

З прыездам у Віцебск А. Брадоўскі прапанаваў перадаць гораду сваю калекцыю з мэтай стварэння гарадскога музея, але ва ўмовах Першай сусветнай вайны гэта ідэя не ажыццявілася. На аснове часткі калекцыі (каля 4,5 тыс. манет і медалёў, прадметаў археалагічных раскопак, мастацкіх твораў), якую Антон Рафаілавіч усё ж такі перадаў Віцебску, у 1918 г. быў заснаваны Віцебскі губернскі музей, у якім калекцыянер працаваў загадчыкам[46].

Музеі ў іх сучасным разуменні з'яўляюцца ў Віцебску толькі ў парыэформенны перыяд, пасля і ў выніку Вялікіх рэформ 1861–1874 гг. Аднак спробы прадпрымаліся і раней. У 1836 г. Міністэрствам унутраных спраў Расійскай імперыі быў разасланы цыркуляр аб правядзенні ў губернскіх гарадах выставаў вырабаў мясцовай прамысловасці, якія да гэтага ўжо праводзіліся ў імперыі. Выставы павінны былі складацца з 2-х раздзелаў: пастаяннага і часовага. У першым захоўваліся рэчы, якія набываліся для пастаяннага знаходжання з мэтай стварэння ў будучым т. зв. "Губернскага кабінета, ці Музеўма". У другім экспанаваліся рэчы, якія па заканчэнні выставы

[43] Подлипский, А. "Гражданственность лиры…" // Неман. – 1982. – № 5. – С. 175–176; Каханоўскі, Г.А. Вандраванні // Маладосць. – 1984. – № 10.
[44] Брадоўскі, А.Р. (8(20).10.1859, Новааляксандраўск Ковенскай губ., цяпер г. Зарасай, Літва–17.03.1928), скончыў Новааляксандраўскае павятовае вучылішча (1875), працаваў пісьмаводам, даваў прыватныя ўрокі па агульнаадукацыйных дысцыплінах, дзясятнікам на будаўніцтве крэпасці ў Коўне (цяпер Каўнас) і ваеннага порта ў Лібаве (цяпер Ліепая) (1882–1892), у інжынерным упраўленні Віленскай ваеннай акругі (1893–1918).
[45] Вся Вильна. – Вильно, 1911. – С. 42.
[46] Падліпскі, А.М. Заснавальнік віцебскага музея // ПГіКБ. – 1980. – № 2; Падліпскі, А.М., Брадоўскі, А.Р. // ЭГБ. – Т. 2. – С. 64–65.

вярталіся ўладальнікам[47]. У жніўні 1837 г. выстава была праведзена ў Віцебску. Аднак нягледзячы на патрабаванне дасланай інструкцыі музей на яе аснове не паўстаў.

У 1868 г. адчыніўся першы ў Віцебску музей – пры Віцебскім губернскім статыстычным камітэце. Асновай яго стала экспазіцыя, падрыхтаваная для Усерасійскай этнаграфічнай выставы 1867 г., якая нават была адзначана ганаровай граматай. Яшчэ ў 1867 г. віцебскі губернатар Уладзімір Токараў, які намінальна з'яўляўся старшынёй губстаткамітэта, прапанаваў арганізаваць музей пры камітэце. Стварaўся ён галоўным чынам дзякуючы намаганням сакратара камітэта – А.М. Семянтоўскага, які перадаў у музей 25 старажытных манет, у тым ліку 10 куфічных. Галоўная частка калекцыі была таксама нумізматычная, яна складалася з 225 польскіх манет. У 1870 г. былы настаўнік полацкай народнай школы Ян Цібрын перадаў у музей узоры нацыянальнага адзення, рамесныя вырабы, археалагічныя знаходкі. У музей перадаваліся старажытныя і рэдкія рэчы, знойдзеныя ў Віцебскай губерні, дублетныя рэчы з калекцый членаў Віленскай археалагічнай камісіі, знойдзеныя пры раскопках віцебскіх курганоў. Некаторыя ахвяраванні зрабілі К. Бергнер і М. Кусцінскі. Сістэмнасці ў экспазіцыі не было. На 1893 г. у фондах музея было 49 рэчаў царкоўнай даўніны, 305 рэчаў археалагічнага характару, 184 прадметы этнаграфічнага характару, 65 рэчаў, якія адносіліся да натуральных навук. Самай вялікай была нумізматычная частка – 3170 рэчаў. У 1901 г. частка музейнага збору была перададзена царкоўна-археалагічнаму музею[48]. У 1910 г. большая частка калекцыі музея была перададзена музею Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.

2 верасня 1893 г. у Віцебску было створана царкоўна-археалагічнае старажытнасховішча (епархіяльны музей старажытнасцяў). Музей стварaўся з мэтай захавання рэчаў царкоўнай даўніны, якія выйшлі з ужытку, а таксама адлюстравання гісторыі царкоўнага жыцця ў краі. Ініцыятарамі яго з'яўлення былі віцебскія краязнаўцы – А.П. Сапуноў, Е.Р. Раманаў, В. Гаворскі. У аснову калекцыі былі пакладзены рэчы з віцебскіх цэркваў, у тым ліку з Дабравешчанскай, Ільінскай, Петрапаўлаўскай, а таксама з Маркава манастыра. У зборы захоўваліся абразы, розныя выявы святых, партрэты ўніяцкіх і рымска-каталіцкіх біскупаў XVIII ст., напрастольныя крыжы, святарскія аблачэнні з шоўку, аксаміту, шэрсці. Разам з рэчамі была прадстаўлена і дакументальная спадчына – рукапісныя кнігі, дакументы цэркваў і манастыроў Полацкай епархіі, апісаныя А. Сапуновым у кнізе

---

[47] Бамбешка, І.І. Фарміраванне сеткі музейных устаноў Віцебска ў XIX – пачатку XX ст. // 90 год Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею: матэрыялы навук. канф., Віцебск, 30–31 кастр. 2008 г. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 169.

[48] Краснянский, В. Краткий очерк музейного строительства в Витебске // Віцебскі сшытак. – № 4. – С. 207.

“Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі” (1898)[49]. Калекцыя папаўнялася і ад падарункаў мясцовых калекцыянераў, а таксама губстаткамітэта.

Першапачаткова музей знаходзіўся ў памяшканнях архірэйскага дома на Саборнай плошчы (цяпер плошча Свабоды)[50]. У 1895–1903 гг. кіраўніком старажытнасховішча з’яўляўся Д.І. Даўгяла. За час яго кіраўніцтва калекцыя значна папоўнілася і была пераведзена ў новае памяшканне – над дамавой царквой архірэйскага дома. Інвентарнага вопісу калекцый не мелася. На лістапад 1897 г. было надрукавана “Описание предметов”. Пазней некаторыя звесткі пра паступленні ў музей друкаваліся ў “Известиях”.

Калекцыя музея ўяўляла сабой багаты і сістэмны збор па гісторыі праваслаўнай і ўніяцкай канфесій на Віцебшчыне. Епархіяльны музей дапаўняў музей Федаровіча, у якім канцэнтраваліся рэчы, што мелі дачыненне да гісторыі каталіцкай канфесіі і прапольскай часткі насельніцтва Віцебшчыны. Такім чынам, музей меў важнае значэнне для комплекснага адлюстравання гісторыі і культуры Віцебшчыны.

На 1905 г. калекцыя налічвала 1247 рэчаў. У 1916 г. сінод зацвердзіў статут, у адпаведнасці з якім царкоўна-археалагічнае старажытнасховішча была перайменавана ў Віцебскае царкоўна-археалагічнае таварыства. Для музея планавалася пабудаваць асобнае памяшканне, але планы былі перакрэслены рэвалюцыйнымі падзеямі 1917 г. 2 красавіка таго ж года ўсе экспанаты музея былі перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута. Калекцыі былі перавезены ў будынак губернскага архіва і тут двойчы абрабаваны. Шмат рэчаў было пашкоджана. Што было скрадзена, выявіць немагчыма, бо ў музеі не было інвентарнага вопісу. Дакладна вядома, што знікла багатая калекцыя антымінсаў і царкоўны посуд. Нават пасля рабавання калекцыі ў музеі змяшчаліся сотні абразоў розных школ іканапісу, як візантыйскага, італьянскага, беларускага, так і мясцовага накірунку. Захоўваліся ўзоры сцяннога роспісу храмаў па халсце клеявай фарбай, па-мастацку распісаныя харугвы і плашчаніцы. Добра прадстаўлена было мастацтва разьбы па дрэве. У збор уваходзілі ўзоры розных іканастасаў, ківотаў у стылях Рэнесансу і барока. Асаблівую цікавасць уяўляла калекцыя розных драўляных скульптур, якая налічвала каля 50 экспанатаў. Сярод іх, напрыклад, па-мастацку выкананыя статуі Хрыста, апосталаў, святых, анёлаў, а таксама 6 плоскіх фігур дабрадзеяў, якія ставіліся пры ўніяцкім абрадзе адпявання каля труны. У склад збору царкоўных сасудаў уваходзіла

[49] Віцебскі царкоўна-археалагічны музей // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – 1994. –Т. 2. – С. 338.
[50] Хмяльніцкая, Л. Віцебскі царкоўна-археалагічны музей // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культуралаг. зб. – Мінск, 1997. – Вып. 2. – С. 4–15.

70 рэчаў XVII–XVIII стст. Мелася вялікая калекцыя складняў, абразкоў, крыжыкаў, малюнкаў і фотаздымкаў мясцовай царкоўнай даўніны.

У 1909 г. у Віцебску была створана Віцебская вучоная архіўная камісія, якая адыграла важнейшую ролю ў культурным, навуковым і грамадскім жыцці горада. У 1910 г. пры ёй быў створаны музей. У яго аснову быў пакладзены збор віцебскага губстаткамітэта. Калекцыя хутка папаўнялася шляхам ахвяраванняў членаў камісіі. Некаторую частку экспанатаў са свайго збору перадаў і загадчык музея К.А. Змігродскі**.** Ён зрабіў важную справу па сістэматызацыі калекцыі, падрыхтаваў каталог музея (1912)[51]. Каталог меў не зусім навуковы характар, змяшчаў пералік рэчаў без іх апісання і вызначэння.

Музей меў 6 аддзелаў: царкоўная даўніна, археалагічныя рэчы (знаходкі з курганоў жалезнага і бронзавага вякоў), ваенны аддзел, пячаткі (толькі XVIII ст.), мінералогія і "рознае", нумізматычны кабінет (каля 3000 манет і медалёў). Пасля ліквідацыі ВВАК музей быў перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута, а пасля яго ліквідацыі – Віцебскаму педагагічнаму інстытуту. На яго аснове разам з экспанатамі царкоўна-археалагічнага музея было прынята рашэнне стварыць гістарычны музей пры інстытуце. Аднак па шэрагу прычын гістарычны музей тут так і не быў створаны.

На пачатку ХХ ст. хутка расце насельніцтва горада, актыўна ўтвараюцца прамысловыя прадпрыемствы, адміністрацыйныя і грамадскія ўстановы і арганізацыі. Гэта стала прычынай стварэння ведамасных музеяў. У 1913 г. на пасяджэнні Віцебскага губернскага земства было прынята рашэнне аб утварэнні пры санітарным аддзяленні перасоўнага санітарна-гігіенічнага музея-выставы[52]. Вясной–летам 1914 г. былі наладжаны першыя выставы, якія знаёмілі наведвальнікаў з асновамі медыцынскіх ведаў, гігіены, барацьбы з інфекцыямі, прапагандавалі здаровы лад жыцця. У далейшым на аснове матэрыялаў быў утвораны музей санітарнай асветы.

На працягу другой паловы ХІХ – пачатку ХХ ст. развіццё музеяў у Віцебску адбывалася ў адпаведнасці з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі: ростам цікавасці да гісторыі, станаўлення музеяў як навукова-асветных цэнтраў, развіццём новых галін навукі (археалогіі, архівазнаўства, этнаграфіі, мастацтвазнаўства і іншых). Музеі займалі значнае месца ў культурнай прасторы горада, адыгрывалі важную ролю ў культурным будаўніцтве Віцебска і яго наваколляў. У іх акумуляваўся комплекс рэчаў матэрыяльнай культуры. Музеі з'ўляліся важным сродкам рэтрансляцыі ідэй і культурных пачынанняў мясцовай інтэлігенцыі. Асветніцкая і папулярызатарская

[51] Каталог монет и медалей музея Витебской ученой архивной комнссии. Витебск, 1911; Каталог музея Витебской ученой архивной комиссии. – Витебск, 1912.
[52] Доклады второму очередному губернскому Земскому Собранию январской сессии 1913 г. – Витебск, 1913. – Ч. 1. – С. 24.

дзейнасць музеяў спрыяла фарміраванню гістарычнай свядомасці, грамадзянскіх якасцяў, любові да роднага краю.

Сярод беларускіх гарадоў Віцебск выглядаў найбольш прывабна. На працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. у горадзе былі створаны музей пры губернскім статыстычным камітэце, царкоўна-археалагічнае старажытнасховішча, музей пры Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Шырокую вядомасць атрымалі калекцыі мясцовых аматараў даўніны – А.Р. Брадоўскага, В.П. Федаровіча, Г. Тэадаровіча, В. Валковіча, К. Бергнера і іншых.

Сярод негатыўных тэндэнцый у развіцці музеяў падкрэслім неадназначнае стаўленне ўладаў, адсутнасць вышэйшых навучальных устаноў, слабую сістэматызаванасць, маладаступнасць віцебскіх музеяў. Значнай праблемай з'яўлялася складаная сітуацыя з захаваннем рэчаў, якія былі знойдзены на Віцебшчыне. Большасць з іх перадаваліся ў Эрмітаж, Віленскі музей, Археалагічную камісію (Вільня), Гістарычны музей (Масква), музеі Кракава.

Негатыўны ўплыў на станаўленне музеяў горада аказвалі складаная канфесійная сітуацыя, ідэалагічная барацьба рускага і польскага ўплываў. Напрыклад, дзейнасць створанага з мэтай пашырэння ўплыву праваслаўнай царквы і доказу "спрадвечнай рускасці краю" царкоўна-археалагічнага музея праз некаторы час амаль прыпынілася. Адной з прычын быў той факт, што большасць экспанатаў мелі ўніяцкае паходжанне, што не адпавядала мэтам, якія закладаліся пры стварэнні музея.

Такім чынам, менавіта ў другой палове XIX – пачатку XX ст. намаганнямі адміністрацыі горада і мясцовай інтэлігенцыі ў культурным асяроддзі Віцебска былі створаны ўмовы для заснавання і развіцця музеяў. Пазней, у 1920-я гг., на закладзеным падмурку былі рэалізаваны ідэі нацыянальна-культурнага будаўніцтва, калі ў горадзе існавала больш за 10 разнапланавых музеяў.

## 1.2. Музейнае будаўніцтва ў горадзе ў 1917–1944 гг.

*1917–1924 гг.*

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя 1917 г., грамадзянская вайна ў Расіі нанеслі каласальную шкоду інтэлектуальнаму патэнцыялу Віцебска. Тысячы прадстаўнікоў інтэлігенцыі ці загінулі, ці эмігрыравалі, ці згубілі магчымасць займацца актыўнай палітычнай, грамадскай, навуковай і выкладчыцкай працай.

З наступленнем нямецкіх войскаў, а потым у сувязі з савецка-польскай вайной Віцебск аказаўся прыфрантавым горадам. Частка музейных калекцый была вывезена ў цэнтральную Расію. Некаторыя трапілі за мяжу. Пасля Лютаўскай, а потым Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. пачаліся масавыя пагромы і падпалы шляхецкіх сядзіб.

Натуральна, што музейныя зборы пры іх рабаваліся мясцовымі сялянамі ў першую чаргу. Практычна не захавалася ніводнай сядзібы, якая б не пацярпела ў выніку рабаўніцтваў і крывавай анархіі. Значна пацярпелі і прыватныя калекцыі віцебскіх збіральнікаў. Частка была распрададзена ў галодныя гады. Асноўная частка іх была потым нацыяналізавана. Праца тых музеяў, якія паўсталі ў горадзе напярэдадні вайны, ускладнялася нястачай ваенных часоў і пасляваенных разбурэнняў, з прычыны адсутнасці сродкаў ці фінансавання паводле рэштказага прынцыпу.

*Асаблівасці гісторыка-культурнай сітуацыі на Віцебшчыне ў 1917 – першай палове 1920-х гг.*

Нагадаем некалькі акалічнасцяў 1920-х гг., якія трэба ўлічваць, бо яны былі характэрныя толькі для ўсходняй Беларусі, а таксама не адпавядаюць сучаснаму стану рэчаў. Па-першае, да 1924 г. Віцебск знаходзіўся ў складзе РСФСР. Па-другое, музейнае будаўніцтва палягала ў сферы дзейнасці губернскага аддзела народнай адукацыі (*Віцебскай губернскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва*). Па-трэцяе, у створанай у выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі дзяржаве працоўных і сялян (РСФСР, потым БССР), дзяржаве новага тыпу, стваралася і новая, пралетарская па змесце і інтэрнацыянальная па сутнасці савецкая культура. Новым па сэнсе і па змесце павінны быў стаць і музей. Чацвёртае. У 1924 г. горад быў вернуты ў склад БССР, і тут пачалося правядзенне беларусізацыі – палітыкі нацыянальна-дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў Беларусі. Яна мела шмат цяжкасцяў – ад недахопу грошай і кваліфікаваных кадраў да барацьбы поглядаў і метадаў яе правядзення і супраціўлення часткі партыйна-савецкай наменклатуры. Усе пералічаныя, а таксама шэраг іншых фактараў уплывалі на музейнае будаўніцтва ў Віцебску ў міжваенны перыяд.

*Дзейнасць Віцебскай губернскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва*

Пра музейную палітыку Часовага ўрада вядома мала. А пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў РСФСР пачынаюць ажыццяўляцца захады па арганізацыі дзяржаўных музеяў. Адміністрацыйна неакупаваныя нямецкімі войскамі тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай (пазней Гомельскай), Смаленскай губерній уваходзілі ў склад Заходняй камуны з цэнтрам у Петраградзе.

9 снежня 1917 г. у Петраградзе быў утвораны Народны камісарыят гістарычных маёмасцяў ("исторических имуществ"). У яго складзе была ўтворана Калегія па ахове помнікаў (са жніўня 1918 г. яна была перададзена ў наркамат асветы). Пасля пераводу

сталіцы і пераезду ўрада ў Маскву наркамат асветы заставаўся ў Петраградзе, і на працягу двух гадоў петраградская калегія дзейнічала паралельна з утвораным у Маскве ўсерасійскім аддзелам музеяў.

У Віцебску пры губернскім аддзеле адукацыі была створана Камісія па ахове помнікаў даўніны і мастацтва. У навукова-мастацкіх адносінах яна знаходзілася пад кіраўніцтвам Усерасійскай калегіі па справах музеяў і аховы помнікаў мастацтва і даўніны[53]. У яе складзе вылучаліся дзве камісіі: музейная і па ахове помнікаў гісторыі і даўніны[54].

Разам з упаўнаважанымі петраградскага аддзела па справах музеяў і аховы помнікаў (С. Наседкін, С.М. Юрэньеў) яна пачынае справу аб арганізацыі ў губерні музея. Разам з губернскім музеем пачалася праца па стварэнні Музея Рэвалюцыі, музея сучаснага мастацтва, музея на аснове калекцыі В.П. Федаровіча.

*Лёс буйнейшых калекцый*

На 1917 г. у горадзе былі 3 музеі: прыватны музей В.П. Федаровіча, калекцыя ВВАК, царкоўна-археалагічнае старажытнасховішча. Якім быў іх лёс?

Пасля 1917 г. ***калекцыя В. Федаровіча*** была нацыяналізавана. У 1918 г. большая частка калекцыі была перададзена сваякамі В. Федаровіча Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута. Але адна частка працягвала заставацца на кватэры жонкі, другая – на кватэры сына па вул. Ніжне-Пятроўскай. У 1920 г. Камітэт саюза працоўных воднага транспарту патрабаваў вызваліць памяшканне на Ніжне-Пятроўскай пад арганізаваны там клуб саюза. Калекцыя была перавезена ў Архірэйскі дом на плошчы Свабоды (был. пл. Саборная). Пад патрэбы музея былі выдаткаваны тры пакоі. Частка калекцыі знаходзілася ў памяшканні, якое займаў 7-ы стралковы батальён[55].

У 1920 г. на пасяджэнні губкамісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва было прынята рашэнне аб стварэнні асобнага музея на аснове калекцыі. У 1921 г. музей перайшоў у падпарадкаванне губернскага аддзела народнай адукацыі. 17 мая 1921 г. адказнай асобай па падрыхтоўцы да адкрыцця музея быў прызначаны У.Г. Краснянскі. Ім была праведзена каласальная праца па інвентарызацыі калекцыі. Яна паказала, што шмат рэчаў знікла, але і тое, што захавалася, мела значную каштоўнасць. З улікам асаблівасцяў калекцыі планавалася адкрыць “Музей беларуска-польскай даўніны”, на што, аднак, не хапіла сродкаў. К 1923 г. была апісана большая частка калекцыі.

---

[53] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 1. – Арк. 48–49.

[54] У кастрычніку 1921 г. Камісія рэарганізавана ў Віцебскі губернскі аддзел Галоўнага камітэта па справах музеяў і аховы помнікаў мастацтва, даўніны, народнага побыту і прыроды. У яго складзе былі два пададдзелы: 1) уліку і аховы помнікаў мастацтва, даўніны і народнага побыту; 2) музейны.

[55] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 5 (адв.). Пратаколы пасяджэнняў Віцебскай губкамісіі ад 17.02.1920 г.

У тым жа годзе музей быў адчынены для наведвальнікаў, праз пэўны час перайменаваны ў музей мясцовых старажытнасцяў. У 1924 г. ён стаў часткай Віцебскага гісторыка-археалагічнага музея[56].

***Калекцыя ВВАК***. З утварэннем РСФСР у краіне была арганізавана цэнтралізаваная архіўная служба. У Віцебску быў утвораны губархіў. Ён пачаў захады па арганізацыі сістэмы дзяржаўнай архіўнай службы ў губерні, якой пасля ліквідацыі ЦАСАК не існавала. Паколькі ВВАК па сваіх статутных палажэннях з'яўлялася грамадскай арганізацыяй, новай уладай яна ліквідавалася. "Архивная комиссия 30 мая 1919 г. слилась с Витебским отделением Московского общества исследователей памятников древности при археологическом институте, передав все сохранившееся имущество МАИ, в том числе и остатки коллекции ВУАК"[57]. Туды ж былі перададзены архіў, бібліятэка ВВАК, а таксама частка бібліятэкі былога Віцебскага езуіцкага калегіума.

Як і калекцыя ВВАК, у 1919 г. калекцыя ***царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча*** была перададзена ў склад Віцебскага аддзялення МАІ. Дакладней, у маёмасць гісторыка-этнаграфічнага кабінета. Такім чынам, практычна ўсе найбольш буйныя зборы, часткова разрабаваныя, без інвентарных вопісаў трапілі ў маёмасць Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. Аднак у складаных умовах грамадзянскай вайны, эканамічнага і палітычнага крызісу ні сістэматызацыі, ні атрыбутацыі калекцый зрабіць не ўдалося. У сувязі з закрыццём у Савецкай Расіі ў 1922 г. археалагічных інстытутаў быў зачынены і віцебскі філіял МАІ.

Калекцыі, якія павінны былі ўваходзіць у склад музея, перадаваліся ў markdown розные падначаленне, у тым ліку настаўніцкаму інстытуту (пазней Вышэйшаму педагагічнаму інстытуту). На аснове гэтых калекцый у 1923 г. Віцебскі педагагічны інстытут пачаў арганізацыю гістарычнага музея пры гэтай установе. Калекцыя ВВАК амаль не пацярпела. Яе мінералагічная частка была цалкам перададзена ў мінералагічны кабінет інстытута. Рукапісы і старадрукаваныя кнігі, якія захоўваліся ў зборы царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча, паступілі ў бібліятэку навучальнай установы. У музей педінстытута былі перададзены ў адпаведнасці з пастановай СНК БССР архіў і калекцыя А.П. Сапунова. Аднак праз пэўны час педінстытут быў пераведзены ў Мінск, і справа з рэарганізацыяй музея прыпынілася.

[56] Абрамова, И.А. Судьба коллекции В.П. Федоровича // 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. – С. 56–57.
[57] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 9. Пратаколы пасяджэнняў Віцебскай губкамісіі ад 17.04.1920 г.

*Віцебскі губернскі музей*

Нягледзячы на тое, што да рэвалюцыі ў Віцебску было некалькі музейных збораў, дзяржаўнага музея ў горадзе не было. Савецкая ўлада, якая ўсталявалася ў Віцебску ў канцы 1917 г., пачала ставіць пытанне аб стварэнні такога музея. У красавіку 1918 г. у мясцовым друку быў змешчаны зварот да насельніцтва. Вядомы калекцыянер А.Р. Брадоўскі, які пражываў з 1915 г. у Віцебску, адгукнуўся на заклік і прапанаваў прыняць у распараджэнне Віцебскага губернскага аддзела народнай адукацыі ягоны прыватны музей, каб пакласці аснову стварэння ў Віцебску губернскага музея. Наколькі шчырым быў А.Р. Брадоўскі ў сваім жаданні перадаць збор, які ён збіраў амаль 40 гадоў, сказаць складана. Свядома ён пачаў займацца краязнаўствам з 1882 г.[58]. У горад пераехаў з Вільні, дзе працаваў у інжынерным упраўленні Віленскай ваеннай акругі. У той жа Вільні ён стварыў на аснове сваёй вялізнай калекцыі музей старажытнасцяў і мастацка-прамысловы" ("древностей и Художественно-Промышленный")[59]. Цалкам верагодна, разумеючы, што праз некаторы час новая ўлада можа проста нацыяналізаваць збор, А. Брадоўскі прапанаваў для стварэння музея сваю ўласную калекцыю. Губернскі аддзел народнай адукацыі даў згоду на яе прыняцце.

19 лістапада 1918 г. быў выдадзены загад аб стварэнні віцебскага губернскага музея і прызначэнні яго загадчыкам А. Брадоўскага. Для музея быў выдзелены будынак былой Духоўнай семінарыі (яшчэ раней – базыльянскі кляштар). Музей знаходзіўся ў адной зале памерамі 12 на 6 сажняў у двухпавярховым корпусе, які прымыкаў да галоўнага трохпавярховага корпуса. Пазней прадугледжвалася далучыць прымыкаючыя памяшканні бібліятэкі былой духоўнай семінарыі (6 на 6 сажняў). Пры музеі былі 2 пакоі: склад для захоўвання экспанатаў, якія яшчэ не былі разабраны, і малы пакой (1,5 на 2 сажні), у якім пражываў А.Р. Брадоўскі. Працы па падрыхтоўцы занялі каля 6 месяцаў. Якой была экспазіцыя, дазваляе ўявіць здымак, змешчаны Б. Брэжгам у кнізе "Музеі Віцебска". Для патрэбаў экспазіцыі выкарыстоўваліся шафы і лаўкі. Матэрыялы былі размешчаны па 15 раздзелах[60]. Пасля рамонту, які быў скончаны да канца сакавіка 1919 г., у музей, што атрымаў назву Губернскага, ці гісторыка-археалагічнага, пачаўся доступ наведвальнікаў.

Збор А. Брадоўскага налічваў больш за 10 тыс. адзінак захоўвання і быў падзелены ўладальнікам на 40 калекцый, сярод якіх:

---

[58] ВАКМ. Н/А. – Ф. 37. – Спр. 2. – Арк. 7. Анкета А.Р. Брадоўскага.

[59] *Саматужныя музеі, ці музеі мастацкіх промыслаў* як тып музеяў сталі вельмі папулярнымі і атрымалі развіццё пасля правядзення Сусветнай выставы ў Лондане (1851), бо такія музеі садзейнічалі захаванню і развіццю кустарных, у тым ліку і мастацкіх, промыслаў.

[60] ВАКМ. Н/А. – Ф. 42. Спр. – 1. – Арк. 15 // цыт. па: Щеринская С.М. История ВОКМ. [Дыпломная работа]. – Віцебск, 2004. – С. 21.

археалогія, нумізматыка, прыродазнаўства, фалерыстыка, пячаткі, гадзіннікі, абразы, крыжы, рэлігійныя медалі, тканіны, вышыўкі, мазаікі, інкрустацыі, біжутэрыя, жывапіс, французскія і рускія эмалі, мастацкія вобразы з фарфору, мастацкія вырабы з бронзы, рукапісы, яўрэйская калекцыя і інш. Найбольш каштоўнай часткай лічылася нумізматычная.

Губмузей працаваў у нядзелю і суботу з 11.00 да 16.00, у сераду з 1-й па 6-ю гадзіну дня[61]. Каштарыс на 1921 г. запытваў 8645640 рублёў[62]. Атрымана было менш. Зарплата старшыні камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва складала 8400 рублёў у месяц, інструктара 7700, вартаўніка 5060 рублёў. На абсталяванне вітрын выдаткавалася 200000, на набыццё карцін старых майстроў – 200000, набыццё карцін сучасных майстроў – 175000, на асвятленне музея (10 лямпаў па 500 руб. на месяц) у год ішло 60000, на ацяпленне – 48000 руб.[63].

Лёс гэтай калекцыі мог бы скласціся і па-іншаму. Улічваючы, што ў выніку эвакуацыі музей, як і калекцыя Віленскага вайсковага збору, трапілі ў горад з Вільні, на іх прад’явіла прэтэнзіі Літоўская Рэспубліка. Аднак перапіска адносна рэстытуцыі[64] нічога не дала, у тым ліку і таму, што Вільня ўваходзіла ў склад Польшчы як цэнтр т.зв. “Сярэдзіннай Літвы”.

Акрамя наяўных калекцый, у музей пачалі змяшчаць рэчы, якія браліся на ўлік Віцебскай губернскай камісіяй па ахове помнікаў даўніны і мастацтва. Праз некаторы час у фонды губмузея былі ўключаны калекцыі Віленскага афіцэрскага таварыства, якія апынуліся ў Віцебску ў выніку эвакуацыі ў гады Першай сусветнай вайны і знаходзіліся ў Пралетарскім клубе. Ад Віцебскага жыладдзела паступіла некалькі партрэтаў, шафы з яўрэйскімі кнігамі, з Савецкага дома даставілі тры плоскія шафы і іншыя рэчы. У музей трапіла значная частка рэчаў з былых памешчыцкіх сядзіб наваколляў Віцебска. З маёнтка “з-пад Лёзна” (ці Высачанаў, ці Крынак. – *М.П.*) у музей паступіла “каменная баба”[65].

Аднак сітуацыя са станам музея была вельмі складаная. З другой паловы 1923 г. у музея адабралі падсобныя памяшканні, а ў лістападзе 1923 г. памяшканне, у якім знаходзіўся музей, было перададзена педінстытуту для стварэння там клуба. Экспанаты тэрмінова пераведзены ў будынак былога Успенскага сабора. На працягу трох дзён пры дапамозе курсантаў педінстытута (каля 60 чалавек) экспана-

[61] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 122. Отчет о деятельности Витебской губкомиссии по охране памятников.
[62] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 258.
[63] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 126–127. Тлумачальная запіска.
[64] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 6. – Арк. 81, 88, 96, 97–99. Тэлеграмы і дакументы адносна перадачы архіва і калекцыі Віленскага вайсковага збору і музея Федаровіча ў Коўна.
[65] Букіна, А. Музей Антона Брадоўскага ў Віцебску // Віцебскі сшытак. – 2000. – № 4. – С. 204.

ты музея былі перанесены. Памяшканне было абсалютна не прыстасавана для захоўвання прадметаў: сырое, не ацяплялася, вокны разбітыя, дах працякаў. Экспанаты, якія знаходзіліся ва ўпакаваным выглядзе, як і музейнае абсталяванне, моцна цярпелі ад грызуноў, птушак. Некалькі разоў у музей пранікалі злачынцы, якія скралі шмат каштоўных рэчаў. Хаця дакументы сведчаць, што належнай працы ў музеі не вялося і раней. У лісце Аддзела па ахове і рэгістрацыі помнікаў мастацтва і даўніны ў Петраград канстатавалася: "Городской музей и фонд находятся в помещении быв. Витебской духовной семинарии. Находятся без инвентаризации более 3-х лет! (на лістапад 1921 г.)"[66].

Сітуацыя змянілася толькі ў лістападзе 1924 г., калі было прынятае рашэнне аб утварэнні Віцебскага філіяла Беларускага дзяржаўнага музея.

*Дзейнасць губернскай камісіі па арганізацыі музеяў*

Найпершай з задач Віцебскай губкамісіі з'яўлялася стварэнне пры губмузеі ***аддзела***, прысвечанага ***Вялікай Рускай Рэвалюцыі***. У справаздачы губкамісіі ў прыватнасці казалася: "Мы не в силах оценить всего, что происходит в стране, … наши записи и сообщения в печати проедставялют неоценимый материал для будущих историков. На нас лежит обязанность сохранить как можно больше фактов, документов и предметов, характеризующих события Великой Русской Революции"[67].

Па планах натхняльнікаў аддзел павінен быў паўстаць на аснове, галоўным чынам, друкаваных матэрыялаў. Была распрацавана інструкцыя для іх збору, дзе ўдакладнялася, якая інфармацыя павінна збірацца ў першую чаргу: газеты, часопісы, карыкатуры, лісты, запіскі і дзённікі, матэрыялы для біяграфій удзельнікаў рэвалюцыі, вершы, байкі, сатыры, прыпеўкі, прысвечаныя рэвалюцыйным падзеям, плакаты, пракламацыі і іншыя матэрыялы[68].

Аднак паміж тэарэтычнымі выкладкамі і практычным увасабленнем распрацаванай музейнай экспазіцыі існуе, як правіла, пэўная розніца. Вядома, што Музей Рэвалюцыі паўстаў у бібліятэцы 29-й школы 2-й ступені. Арганізацыйную працу ўзначальваў упаўнаважаны Петраградскага музея рэвалюцыі Хайкін. Асновай экспазіцыі сталі матэрыялы, дастаўленыя з падвала пры клубе 1-га мая і бібліятэка Віцебскага ваеннага сходу[69], але якім быў музей, што ўяўляла сабой яго экспазіцыя, казаць цяжка.

---

[66] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 6. – Арк. 59.
[67] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 14. Отчеты, доклады, сведения Витебской губкомиссии по охране памятников.
[68] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 14. Отчеты, доклады, сведения Витебской губкомиссии по охране памятников.
[69] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 17.

Асобную ролю ў культурнай прасторы горада на пачатку 1920-х гг. адыгрываў ***Музей сучаснага мастацтва*** пры Мастацка-практычным інстытуце[70]. Лічыць музеямі большасць створаных у рэвалюцыйныя часы ўстаноў у сучасным разуменні практычна не выпадае, але, улічваючы час і сітуацыю, будзем прытрымліваціца такога тэрміна.

Нагадаем, што ў 1918 г. па рэкамендацыі А.В. Луначарскага М. Шагал стаў камісарам Віцебскага губернскага аддзела народнай адукацыі і арганізаваў Народную мастацкую школу. Праз газету “Искусство коммуны” (22.12.1918) ён запрасіў мастакоў Расіі прыехаць ствараць рэвалюцыйнае мастацтва. З Масквы, Петраграда, Кіева ў Віцебск прыехалі К. Малевіч, В. Ермалаева, І. Пуні, Эль Лісіцкі, Х. Суцін, Р. Фальк, А. Купрын. Пазней далучыліся Н. Альтман, М. Татлін. З часам школа была рэарганізавана ў 1-е вышэйшае народнае мастацкае вучылішча. У 1919 г. была праведзена выстава лепшых прац вучняў і выкладчыкаў. Акрамя вышэйзгаданых мастакоў у ёй прынялі ўдзел Д. Бурлюк, М. Ларыёнаў, І. Машкоў, П. Канчалоўскі. Узнікла ідэя зрабіць на аснове выставы музей сучаснага мастацтва. У яго стварэнні актыўны ўдзел бралі выкладчыкі вучылішча і члены губернскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і прадметаў мастацтва: М. Шагал, К. Малевіч, М. Дабужынскі, А. Ром, В. Ермалаева. Музей быў адчынены ў будынку вучылішча ў 1920-м годзе падчас святкавання 3-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. У ім экспанаваліся карціны М. Шагала, К. Малевіча, Ю. Пэна, Сомава, А. Бразера, П. Канчалоўскага, Р. Фалька, І. Машкова, А. Лентулава, В. Розанавай, А. Асмеркіна, Н. Ганчаровай, М.В. Ле-Данцю, А. Экстэр, А. Шаўчэнкі, С. Юдовіна, Д. Якерсона, А. Рома, Н. Альтмана, М. Когана, І. Пуні, П. Кузняцова, М. Ларыёнава, Я. Мініна, С. Гершова, З. Азгура, Л. Лейтмана.

Аднак дзейнасць вучылішча ўскладнялася пастаяннымі спрэчкамі паміж яго стваральнікамі адносна канцэпцыі, метадаў прэзентацыі і зместу экспазіцыі. Стылістыка супрэматызму К. Малевіча была непрымальнай для М. Шагала. З ад’ездам М. Шагала, К. Малевіча і іх паплечнікаў музей практычна перастаў існаваць. На працягу 1922 г. большасць карцін была перададзена ў Рускі музей і Траццякоўскую галерэю. 16 верасня 1925 г. 31 карціна была перададзена ў Віцебскі гісторыка-археалагічны музей. 3 лістапада 1925 г. у музей быў перададзены твор В. Кандзінскага “Уваход”, але на пачатку 1930-х гг. усе карціны “левага накірунку” былі вывезены ў Маскву. На цяперашні момант у Віцебску няма ніводнага твора мастакоў-авангардыстаў 1920-х гг.

---

[70] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 25 (адв.). Аб стварэнні музея новых мастакоў (новых художников).

*Ведамасныя музеі*

Адным з найлепшых музеяў у горадзе, краіне і Савецкай Расіі з'яўляўся створаны па ініцыятыве Губернскага прафсаюза адукацыі (Губпрофобраза) у 1919 г. ***губернскі натуральна-гістарычны*** (***прыродазнаўчы***). Ён складаўся з заалагічнага і мінералагічнага кабінетаў. Асновай музея сталі матэрыялы, сабраныя пры правядзенні гарадскіх агранамічных вячэрніх курсаў па сельскай гаспадарцы. У склад музея ўвайшлі таксама матэрыялы з маёнтка Фатынь Лепельскага раёна, з маёнтка Аляксандрава Невельскага павета (цяпер у складзе Пскоўскай вобласці РФ, але на той час уваходзіў у Віцебскую губерню)[71]. У 1923 г. мінералагічныя матэрыялы былі перададзены ў кабінет глебазнаўства сельскагаспадарчага тэхнікума.

У тым жа годзе ў музей паступілі матэрыялы Заалагічнага музея ліквідаванага ваеннага сельскагаспадарчага тэхнікума, а таксама маёмасць ліквідаванага ў 1923 г. Губернскага энтамагічнага бюро, у склад якога ўваходзіла калекцыя выдатнага натураліста, энтамолага У.А. Плюшчэўскага-Плюшчыка (1849–1929). Па меркаваннях экспертаў, калекцыя была адной з найлепшых у Расіі і Усходняй Еўропе. Разумеючы яе каштоўнасць, даследчык перадаў сваю калекцыю за 30 тыс. рублёў[72] Губернскаму аддзелу адукацыі, а ў 1921 г. сельскагаспадарчаму тэхнікуму. Аднак з прычыны адсутнасці памяшкання калекцыя захоўвалася на кватэры У.А. Плюшчэўскага-Плюшчыка. У 1923 г., калі тэхнікуму быў перададзены будынак былого пазямельнага сялянскага банка, пад захаванне і экспанаванне калекцыі быў выдадкаваны першы паверх. Тут яна знаходзілася як энтамалагічны кабінет пры ветэрынарным інстытуце (з 1924 г.). Музей падзяляўся на два кабінеты – энтамалагічны імя У.А. Плюшчэўскага-Плюшчыка і заалагічны. У фондах захоўвалася больш за 60 тыс. экспанатаў – узораў флоры і фаўны, пераважна Віцебшчыны, а таксама з розных куткоў Еўропы, Азіі, Амерыкі.

Аснову энтамалагічнага кабінета складала калекцыя У.А. Плюшчэўскага-Плюшчыка. Яна складалася з калекцыі жукоў (53 тыс. экзэмпляраў, у тым ліку 3 565 жукоў Віцебшчыны), калекцыі матылькоў (1312 матылькоў Віцебшчыны), вітрыны, 102 скрыняў з прадстаўнікамі шкодных і карысных насякомых. У заалагічным кабінеце, па розных звестках, захоўваліся 544 (620) экзэмпляры чучал птушак, 85 (76) чучал млекакормячых, у тым ліку ўнікальны экспанат – галава зубра. Сярод іншых цікавых прадметаў – 9 чучал рыб, 49 чарапоў, 8 экзэмпляраў костак маманта, знойдзеных на Віцебшчыне, калекцыя рагоў. Пры музеі мелася майстэрня[73], у якой

[71] ДАВВ. – Ф. 170. – Воп. 1. – Спр. 215. – Арк. 133–134. Естественно-исторический музей.
[72] ДАВВ. – Ф. 170. – Воп. 1. – Спр. 215. – Арк. 134. Естественно-исторический музей.
[73] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 12. – Арк. 29, 29 аб. Анкета музея.

захоўваліся 6 скрынь з тушкамі птушак з Далёкага Усходу[74]. Загадчыкам музея з'яўляўся У.А. Плюшчэўскі-Плюшчык, намеснікам загадчыка – І.А. Радкевіч.

***Ветэрынарна-заалагічны*** музей паўстаў у ветэрынарным аддзеле віцебскага губернскага земства яшчэ да рэвалюцыі дзякуючы энергіі і няўрымслівай працы загадчыка губернскага ветэрынарнага аддзела, урача, у далейшым рэктара Беларускага дзяржаўнага ветэрынарнага інстытута Яўгенія Піліпавіча Алонава (1875–1929). Выпускнік Варшаўскага ўніверсітэта, ён у 1913 г. стварыў у Віцебску першую на Беларусі ветэрынарную лабараторыю. У 1914 г. узначаліў работы па экспедыцыйнаму абследаванню жывёлагадоўлі ў Віцебскай губерні. У такой сельскагаспадарчай губерні, як Віцебская, ветэрынарная справа мела надзвычай важнае значэнне. Яшчэ ў 1915 г. для выкладання на курсах ветэрынарных фельчараў пры губернскім земстве Я. Алонавым і яго супрацоўнікамі быў падрыхтаваны шэраг вільгасных і сухіх прэпаратаў, муляжоў, мадэляў, іншых дэманстрацыйных матэрыялаў – усяго 265 прадметаў. Яны і паклалі аснову ветэрынарнаму музею. У ім было шэсць аддзелаў: аддзел муляжоў па заразных захворваннях і анатоміі жывёл, аддзел паталагаанатамічных прэпаратаў і ўродаў, аддзел рацыянальнай коўкі (калекцыя падкоў, капытоў і інш.), аддзел прышчэпачных матэрыялаў, аддзел, у якім адлюстроўвалася становішча ветэрынарнай справы ў губерні, аддзел па канавальстве.

Са студзеня 1918 г. музей быў рэарганізаваны ў ветэрынарна-заалагічны пры губернскім ветэрынарным аддзеле (вул. Леніна, 39). Нягледзячы на разруху, адсутнасць асігнаванняў, пераважна дзякуючы энергіі Я.Ф. Алонава і адданасці ягоных супрацоўнікаў, музей хутка пашырыўся. За 1924 г. яго наведала 17 938 чалавек. Наведванні праводзіліся бясплатна, з 10 да 16 гадзін, панядзелак быў выходным днём. Загадчыкам музея быў Аляксандр Мікалаевіч Загрэцкі. Бюджэт на 1924–1925 гг. складаў 1738 руб.[75].

На 1925 г. у музеі мелася каля 1,5 тыс. экспанатаў, якія экспанаваліся ў трынаццаці аддзелах: інфекцыйных хвароб, незаразных хвароб, глісных хвароб, бактэрыялогіі, акушэрства, пачварстваў у жывёл і чалавека, рацыянальнага кавання, бойнай справы, анатоміі, жывёлаводства, заалогіі, батанікі, арніталогіі. На 1927 г. тут было 1,5 тыс. экспанатаў, сярод іх каштоўныя і рэдкія прэпараты, муляжы, мадэлі, малюнкі па заразных хваробах, даглядзе за жывёламі, заалогіі і інш. Экспазіцыя размяшчалася ў 18 пакоях, 9 з якіх былі ў форме

[74] Вядома, што першапачаткова 13 скрыняў з экспанатамі з Сібіры (натуральна-гістарычным матэрыялам: тушкі і скуркі птушак), захоўваліся ў падвале Полацкіх педагагічных курсаў. [Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 6. – Арк. 91–93. Ліст у Прэзідыум Губвыканкама ад 20.09.1921 г.].
[75] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 19. – Арк. 152. Анкета зооветмузея.

анфілады[76]. У музеі экспанавалася ягня, якое мела восем ног, адно вока на ілбе і тры вухі[77].

Пры музеі працавала стацыянарная выстава, прысвечаная барацьбе з сухотамі ў жывёл і чалавека, майстэрня па падрыхтоўцы экспанатаў, вырабе муляжоў, дыярам, бібліятэка з кнігамі ветэрынарнай і сельскагаспадарчай накіраванасці, аўдыторыя для заняткаў. На 1929 г. у музеі было 4,5 тыс. прэпаратаў.

Праз некаторы час у Беларускім ветэрынарным тэхнікуме, які быў створаны ў Віцебску ў выніку аб'яднання розных навучальных устаноў, аказаўся і прыродазнаўчы музей (асновай яго з'яўлялася калекцыя У.А. Плюшчэўскага-Плюшчыка).

У 1930-я гг. у ветэрынарным інстытуце, на кафедры мясазнаўства, якую ўзначальваў вядомы вучоны, акадэмік Х.С. Гарагляд, пачалося стварэнне ***музея паталогіі мяса і мясапрадуктаў***, рыбы, малочных вырабаў, тлушчаў, прадуктаў расліннага паходжання.

У віцебскім медінстытуце меўся ***анатамічны музей***.

Вядома, што ў Віцебску дзейнічаў ***музей сельскай гаспадаркі*** пры Доме селяніна. На жаль, дакладных звестак аб яго працы вельмі мала. Аб дзейнасці музея можна меркаваць па аналогіі з тым, як была арганізавана праца музея сельскай гаспадаркі пры Цэнтральным Доме селяніна Беларусі ў Мінску[78]. Музей быў створаны для таго, каб паказаць гісторыю развіцця сялянскай гаспадаркі, выявіць дасягненні навукі і тэхнікі ў сельскай гаспадарцы і паказаць, як пазбегнуць недахопаў у працы, зрабіць вядзенне гаспадаркі як мага больш прыбытковым. У музеі планавалася стварыць наступныя раздзелы: палясводства, жывёлагадоўлі, малочнай гаспадаркі, ветэрынарыі, лугаводства, пчалаводства, садаводства, аддзел сельскагаспадарчых машын, прылад меліярацыі і здабычы торфу, аддзел сельскагаспадарчай тэхналогіі і адукацыі. Сярод экспанатаў былі ўзоры сельскагаспадарчых машын і прылад працы, гербарыі (лугавых, меданосных раслін, раслін, якія засмечваюць пасевы); сямянаў агародных раслін, калекцыя ўгнаенняў, кармоў, мадэль дацкага кармавога стала, мадэль загона для цялят і інш.[79]. Пры музеі меўся кіраўнік (аграном), які даваў тлумачэнні па розных пытаннях. Да Дня ўраджаю (1 кастрычніка) праводзілася выстава, у якую ўваходзілі экспанаты ўраджаю сёлетняга года.

Апроч пералічаных музеяў у горадзе існавалі: ***эканамічна-прамысловы*** пры эканамічным тэхнікуме, ***санітарнай асветы і гігіены*** пры губернскім аддзеле аховы здароўя, ***педагагічны*** ў Віцебскім Вышэйшым педагагічным інстытуце і іншыя. Маюцца

[76] Віцебскі Вэтэрынарна-Заолёгічны Музэй // Віцебшчына. – 1925. – Т. 1. – С. 174–175.
[77] Подлипский, А. Был и такой музей // Нар. слова. – 2007. – 11 снеж. – С. 6.
[78] ДАВВ. – Ф. 1012. – Воп. 1. – Спр. 5. – Арк. 121–124. Справаздача.
[79] ДАВВ. – Ф. 1012. – Воп. 1. – Спр. 5. – Арк. 93. Музей наглядных дапаможнікаў па с/г адукацыі.

звесткі пра тое, што існаваў ***музей Губхарчкама***. Аб гэтым сведчыў А.Р. Брадоўскі, які прапаноўваў увесці яго дырэктара ў склад членаў губкамісіі па ахове помнікаў[80].

Планавалася стварэнне яшчэ некалькіх музеяў. Так, напрыклад, член губкамісіі па ахове помнікаў даўніны Храпкоўскі прапаноўваў арганізаваць ***музей дапаможнікаў (пособий) і музей мастацкіх промыслаў***[81]. Мелася прапанова стварыць ***музей друку***, дзеля чаго М.М. Багародскі[82] прапаноўваў звярнуцца ў губдрукарню, каб агледзець рэчы, што знаходзяцца на гарышчы[83]. Планавалася таксама стварэнне ***краёвога музея побыту, саматужнай прамысловасці і рэчаў, якія характарызуюць рэвалюцыйны перыяд***[84].

Такім чынам, большасць наяўных у 1920-я гг. музеяў былі створаны на аснове дарэвалюцыйных калекцый, намаганнямі старых спецыялістаў (за выключэннем Музея сучаснага мастацтва). Музейнае будаўніцтва ў горадзе ажыццяўлялася на аснове сталых традыцый з улікам рэалій новага часу на аснове савецкай ідэалогіі.

*1924–1929 гг.*

У 1924 г. Віцебск у выніку першага ўзбуйнення быў далучаны да БССР. У гэты час у краіне распачалася палітыка “беларусізацыі”, галоўнымі мэтамі якой з’яўляліся нацыянальна-дзяржаўнае і нацыянальна-культурнае будаўніцтва.

Далучэнне да БССР надало моцны імпульс развіццю музеяў у горадзе і акрузе ў цэлым. У адпаведнасці з рашэннем СНК БССР ад 4 лістапада 1924 г. Віцебскаму гісторыка-археалагічнаму музею, які атрымаў статус аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея, надавалася фінансаванне з рэспубліканскага бюджэту. Афіцыйнае адкрыццё яго адбылося 27 красавіка 1925 г., у дзень правядзення І-га акруговага з’езда Саветаў Віцебшчыны. Фактычна музей пачаў працаваць з 27 красавіка 1927 г.[85].

[80] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 21; ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 6. – Арк. 61, 61 аб.
[81] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 3. Пратаколы пасяджэнняў Віцебскай губкамісіі ад 19.01.1920 г.
[82] Багародскі Мікалай Мікалаевіч (1877–1937) – беларускі гісторык, краязнаўца, архівіст, член-карэспандэнт Інбелкульта (1927). Адзін з ініцыятараў, стваральнікаў і членаў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Менавіта ім было складзена прашэнне аб адкрыцці камісіі, а арганізацыя атрымала сваю назву. Падрыхтаваў праект аховы помніка вайне 1812 г. на Віцебшчыне, займаўся разборам архіва губернскага праўлення, прадстаўляў ВВАК на XV археалагічным з’ездзе ў Ноўгарадзе (1911). З 1919 па 1924 г. з’яўляўся членам камісіі па ахове помнікаў гісторыі і мастацтва. У савецкі час працягваў займацца краязнаўствам. У 1928–1937 гг. – у Віцебскім культурна-гістарычным музеі, адначасова ў 1930–1937 гг. – у Віцебскім гістарычным архіве. Актыўны ўдзельнік працы Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства (1924–1928). Уваходзіў у склад праўлення, узначальваў гісторыка-культурную секцыю. Член-карэспандэнт Інстытута беларускай культуры (з 1927 г.). У 1937 г. арыштаваны, незаконна асуджаны. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 г.
[83] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 13 (адв.).
[84] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 2. – Арк. 23. Пратакол ад 29.06.1920 г.
[85] Васілевіч, Я. Віцебскі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй // Віцебшчына. – 1927. – Т. 2. – С. 197–203.

Са студзеня 1925 г. новым дырэктарам быў прызначаны вядомы археолаг, грамадскі дзеяч Я.І. Васілевіч. Філіялу рашэннем гарадскога савета надавалася імя Ф. Скарыны. Музею быў перададзены будынак гарадской ратушы, дзе музей знаходзіцца і па сённяшні дзень. Музей паўстаў, аб'яднаўшы пад сваім дахам калекцыі 4-х музеяў, якія існавалі раней асобна: музея ВВАК, царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча, калекцыі В.П. Федаровіча, якая на пачатку 1920-х гг. існавала як "Музей Беларуска-польскай даўніны", і збору А.Р. Брадоўскага, які існаваў пад назвай Віцебскага губернскага музея. У губмузей былі перададзены архіў і 1845 прадметаў[86] з прыватнай калекцыі А.П. Сапунова, які памёр у 1924 г. У фонды музея трапілі прадметы выставы фабрычна-заводскай прамысловасці, якая была падрыхтавана да І-га акруговага з'езда Саветаў Віцебшчыны. У яе склад уваходзілі 605 экспанатаў і 162 дыяграмы.

У 1927 г. кіраўніком Беларускага дзяржаўнага музея стаў славуты беларускі грамадска-палітычны дзеяч, акадэмік АН БССР В. Ластоўскі. Ён распрацаваў новы статут беларускіх дзяржаўных музеяў, які быў зацверджаны ў 1928 г. Згодна з ім Віцебскае аддзяленне БДМ стала самастойным "Беларускім Дзяржаўным Культурна-Гістарычным музеем". Яго экспазіцыя складалася з шасці аддзелаў: археалагічнага, гістарычнага (8 тыс. адзінак), мастацкага, этнаграфічнага (250 адзінак), сучаснай прамысловасці (700 адзінак), царкоўнага (800 адзінак).

У археалагічны аддзел уваходзілі наступныя калекцыі: мінералаў, палеанталогіі, каменных прылад працы, галоўным чынам неаліту, курганных раскопак (рэшткі керамікі, касцяныя прылады, металічныя прадметы, шарсцяныя тканіны (галоўным чынам XI ст.), прадметы, знойдзеныя ў выніку раскопак Віцебскіх замкаў (баявыя сякеры, падковы, будаўнічыя прылады, кераміка XVI–XVIII стст.). Агульная колькасць экспанатаў складала 8100 асобнікаў. Гістарычны аддзел быў падзелены на 4 часткі. У палеаграфічным раздзеле былі прадстаўлены дакументы XVI–XIX стст., межавыя кнігі, рукапісы, лісты, сшытак рукапісаў Я. Баршчэўскага, пракламацыі, маніфесты, абвесткі XVIII–XIX стст., фотаздымкі, рэпрадукцыі. Нумізматычная частка раздзела прадстаўлена манетамі старажытнага свету, сярэднявечнымі, Рэчы Паспалітай, ВКЛ. Захоўваліся цэлыя скарбы, напрыклад, славуты віцебскі скарб, знойдзены ў 1927 г., які склаўся з 792 штук пражскіх грошаў пачатку XIV ст. Тут жа захоўваліся медалі (823 штукі) і калекцыя масонскіх знакаў (164 штукі). У трэцяй частцы былі прадстаўлены прадметы рамесніцкіх і іншых арганізацый першай паловы XIX ст. Чацвёртая частка ўяўляла сабой ваенны куток, дзе

[86] Васілевіч, Я. Віцебскі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй // Віцебшчына.– 1927. – Т. 2. – С. 199.

экспанавалася халодная, агняпальная, парадная зброя. Усяго ў гістарычным раздзеле захоўвалася 8,3 тыс. рэчаў. Этнаграфічны раздзел утрымліваў узоры вырабаў гарадской, местачковай і сялянскай тканіны, вышывак, паясоў, вопраткі. Заслугоўвалі ўвагі багатыя калекцыі набоечных клішэ (для набіўкі ўзораў на палатне), рэдкі тып батлейкі. Тут захоўвалася 250 рэчаў. У раздзеле жывапісу мастацкага раздзела захоўваліся карціны, малюнкі, гравюры, сярод якіх найбольш каштоўнымі былі работы італьянскага майстра XVII ст. Кс. Розы, малюнкі мастакоў У. Баравікоўскага, Ю. Клевера, К. Богуша-Сестранцэвіча, Л. Слядзінскага, фамільныя партрэты польскіх мастакоў. У другой частцы мастацкага раздзела захоўваліся рэчы з фарфору, бронзы, шкла, слановай косці, мастацкія вышыўкі, ювелірныя вырабы колькасцю 12 тыс. адзінак. У аддзеле царкоўнай даўніны захоўваліся больш за 800 рэчаў рэлігійнага культу XVI–XVIII стст. У аддзеле сучаснай прамысловасці былі прадстаўлены ўзоры мясцовых фабрык: акулярнай, панчошна-трыкатажнай, кардоннай, папяровай, ільнопрадзільнай, ігольнай, махорачнай і заводаў: фанернага, толевага, скуранога, мэблевага, маслабойнага. На 1925 г. у музеі было больш за 30 тыс. прадметаў.

Атмасферу часу і ідэалагічныя ўстаноўкі савецкага перыяду 1920-х гг. дазваляе ўявіць запыт у музей Рэвалюцыі БССР, які змяшчае просьбу зрабіць копіі здымкаў для арганізацыі выставы і экспазіцыі, прысвечанай савецка-польскай вайне і вызваленню Беларусі[87]. Быў дасланы спіс, які складаўся з 51 здымка. Іх назвы даюць магчымасць зразумець асноўную накіраванасць і ідэю ствараемай экспазіцыі: “Замах на У.І. Леніна”, “Першы атрад беларускіх камуністаў, накіраваных на фронт”, “Падпольны камітэт КП(б) Беларусі часоў нямецкай акупацыі”, “Рада БНР”, “Тэкст тэлеграмы БНР імператару Вільгельму”, “Кіраўнікі ЛітБела”, “Колькасць французскіх інструктараў у Польскай арміі ў пач. 1920 г.”, “Мільеран – пастаўшчык зброі Польшчы”, “Пілсудскі і духавенства”, “Дэкларацыя Дзянікіна па рабочым пытанні”, “Мяшочніцтва часу грамадзянскай вайны на БССР”, “Польская камісія на падпісанні міру ў Рызе”, “Штаб Першай коннай на Польскім фронце”, “Наступленне Чырвонай арміі на белапольскім фронце 17 жніўня 1920 г.”, “Контррэвалюцыйныя адозвы беларускіх нацдэмаў”, “Пропуск у палон да белапалякаў”, “Антысеміты перад пралетарскім судом”, “Кулацкі тэрор”.

Да пачатку 1930-х гг. музей вельмі плённа працаваў на ніве зберажэння, вывучэння і прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны рэгіёна. Важную ролю ў гэтым адыгралі тыя вядомыя спецыялісты, якія працавалі ў ім. У першую чаргу гэта выдатныя знаўцы ў галіне

[87] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 53. – Арк. 44. Приказы директора музея.

гісторыі і матэрыяльнай культуры, якія мелі багаты досвед і бліскучую адукацыю, – У.Г. Краснянскі, М.М. Багародскі, Я.І. Васілевіч. К канцу 1920-х гг. фонды музея налічвалі ўжо больш за 30 тыс. адзінак захоўвання[88].

*1930–1941 гг.*

У канцы 1920-х гг. з усталяваннем у кіраўніцтве ВКП(б) улады І. Сталіна, адбываецца ўсталяванне таталітарнага рэжыму і культу асобы. Шырокі краязнаўчы рух быў разгромлены. Масавыя рэпрэсіі закранулі ўсе пласты грамадства. Але найбольш жорстка яны прайшліся па гуманітарнай інтэлігенцыі.

У 1930-я гг. перад краязнаўчым рухам былі пастаўлены мэты выключна эканамічнага і ідэалагічнага характару. Краязнаўцы павінны былі працаваць над вырашэннем задач сацыялістычнага будаўніцтва (вывучэнне фабрык, заводаў, калгасаў і саўгасаў, прыродных рэсурсаў, пошук карысных выкапняў, кампаніі па падвышэнні ўраджайнасці, абароназдольнасці, выкананне агітацыйных функцый і інш.). Ранейшая дзейнасць краязнаўчых арганізацый па вывучэнні нацыянальнай гісторыі, этнаграфіі і фальклору была прызнана шкоднай і “нацыянал-дэмакратычнай” па сваёй сутнасці. Сярод асноўных задач музея на ІІ пяцігодку была, напрыклад такая: “…не только агитационный, но и научно-пропагандистский охват масс”[89]. Сярод асноўных задач – рыторыка франтавая: “…овладение марксистско-ленинской методологией музейной экспозиции, … работа музеев на фронте национального просвещения, на фронте политехнирующейся школы”[90].

Закранулі рэпрэсіі і музеі горада. У лютым 1930 г. была праведзена праверка Віцебскага культурна-гістарычнага музея спецыяльнай камісіяй, у якую ўваходзілі прадстаўнікі рабочай інспекцыі, гарсавета, а таксама дырэктар Магілёўскага краязнаўчага музея Ванькоў. Па выніках правядзення праверкі дзейнасць абласнога музея была прызнана шкодніцкай, увесь навуковы персанал музея быў звольнены[91]. Пазней практычна ўсе краязнаўцы былі высланы з БССР, а ў наступныя гады расстраляны[92].

У 1932 г. віцебскі культурна-гістарычны музей быў перайменаваны ў сацыяльна-гістарычны. З мэтай паляпшэння ідэалагічнай работы старая экспазіцыя была разабрана і пачалося стварэнне новай. Яна была адчынена толькі ў 1938 г. і ўключала ў сябе тры аддзелы: старажытнай гісторыі, сярэднявечнай гісторыі, аддзел сацыялістычнага

---

[88] Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1918–1941 гг.). – Мінск: НАРБ, 2002. – С. 38.
[89] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 53. – Арк. 111.
[90] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 53. – Арк. 112.
[91] 11 лютага 1930 г. Віцебскі акруговы камітэт КП(б)Б прыняў спецыяльную пастанову.
[92] Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1918–1941 гг.). – Мінск: НАРБ, 2002. – С. 52.

будаўніцтва і сталінскай Канстытуцыі. Прычым апошні аддзел займаў найбольшую плошчу.

Але і пасля перабудовы спакою не было. У справаздачы па факце аналізу працы Віцебскага абласнога музея метадыст па музеях БССР Дземка рабіў наступныя вывады: "До 1938 г. орудовали враги народа", "В 1937 г. музей был закрыт 9 месяцев. Музей был засорен классово-враждебными элементами, вредительски оформлявшими отделы. В 1937 г. много ценностей было разбазарено … Утверждает, что оставшиеся фонды не упорядочены и не описаны. Библиотека не укомплектована классиками марксизма-ленинизма. Укомплектованность научными работниками не достаточна, они не имеют специального музейного образования"[93].

З вывадамі не пагаджаўся дырэктар Сопат[94]. Ён запэўніваў, што ўся экспазіцыя пабудавана на мясцовым матэрыяле. На што метадыст па музеях НКА БССР Дземка запытваўся: "Укажите мне конкретно в экспозиции Вашего музея место, где показаны издевательства, эксплуатация, продажа и обмен крестьян на собак. Как характерный пример можно привести и показать в музее помещицу Салтычиху".

Нягледзячы на арганізацыйныя праблемы, працягвалася праца па папаўненні фондаў музея. У 1930-я гг. фарміраваліся новыя калекцыі фотаздымкаў аб будаўніцтве ў Віцебску і рэвалюцыйным руху, збіраліся экспанаты па бандытызму (зброя, фотаздымкі, дакументы) нумары ўсіх шматтыражных газет, якія выдаваліся ў Віцебску і раёне[95]. Тэматыка экскурсій на 1939 г.: "Сталінская канстытуцыя", "Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна, аднаўленчы перыяд і вынікі сталінскіх пяцігодак", "20 гадоў ВЛКСМ", "Мастак Пэн, яго творчасць і створаная ім мастацкая школа"[96].

Працягваўся працэс перадачы матэрыялаў з віцебскага музея ў сталіцу. Так, у Дзяржаўную карцінную галерэю, якая была арганізавана ў Мінску, былі перададзены 39 карцін з Віцебскага музея. У тым ліку І.Я. Рэпіна: "Бандурыст", "Пажарнік", "Матрос", "Спакуса", "Хрыстос з чашай", "Мадонна з немаўлём", карціна І. Айвазоўскага, 5 пейзажаў Ю. Клевера. Былі і мясцовыя працы: "Саўгас Вымна" Хрусталёва, "Віцьбенскі мост" Л. Лейтмана[97].

Пры музеі былі створаны макетна-мастацкая майстэрня, кіналекторый. Была ўведзена ўніформа для работнікаў. У жанчын гэта была белая блузка, чорная спадніца, пінжак з зялёнымі пятліцамі з літарамі В.О.И.М. (Витебский областной исторический музей) адпаведнай па стылі была і мужчынская ўніформа.

---

[93] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 98. – Арк. 33–35. Выводы по обследованию работы Витебского областного музея 14.04.–18.04.1939 г. методистом по музеям БССР.
[94] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 98. – Арк. 39.
[95] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 53. – Арк. 92.
[96] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 98. – Арк. 17.
[97] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 1. – Спр. 98. – Арк. 58–59. Акт ад 16.04.1939 г.

*Іншыя музеі*

За 2 тыдні да сваёй трагічнай смерці Ю. Пэн перадаў гораду 772 карціны. 28 лютага 1937 г., ужо пасля смерці мастака, СНК БССР ухваліў пастанову, якой прадугледжвалася стварэнне ***мастацкай галерэі імя Ю. Пэна***. Аднак адчынілася яна толькі ў 1939 г. у былой кватэры мастака[98].

У маі 1940 г. у будынку былога касцёла Св. Антонія быў адчынены ***Антырэлігійны музей*** (як філіял віцебскага сацыяльна-гістарычнага музея). Стварэнне яго доўжылася з 1938 г. Для наведвання быў адкрыты толькі аддзел "Рэлігія і навука аб светаўтварэнні і чалавеку". У цэнтры будынка быў умацаваны маятнік Фуко, які, па разуменні стваральнікаў музея, павінен быў сведчыць аб абарачэнні Зямлі і спрыяць антырэлігійнай прапагандзе. У музеі дэманстраваліся парэшткі Св. Еўфрасінні Полацкай. У будучым планавалася стварэнне яшчэ трох залаў, у якіх раскрывалася б рэакцыйная сутнасць і контррэвалюцыйная роля рэлігіі ў грамадстве. Але ажыццяўленню планаў перашкодзіла вайна, якая пачалася 22 чэрвеня 1941 г.

*Музеі 1941–1944 гг.*

Горад быў захоплены фашыстамі 10–11 ліпеня 1941 г., а гэта значыць, што за крыху больш як тры тыдні правесці эвакуацыю ўсіх фондаў не атрымалася. Некаторая частка калекцыі ВАКМ (37 скрыняў[99]) разам з фондамі Мастацкай галерэі Ю.М. Пэна была вывезена ў Куйбышаў, а потым – у Саратаў. У горадзе засталося каля 15 тыс. прадметаў ВАКМ. Засталіся ў горадзе і фонды іншых музеяў – антырэлігійнага[100], заалагічнага, некаторых ведамасных і вучэбных.

У першыя дні акупацыі частка фондаў музеяў, якія засталіся ў Віцебску, была разрабаваная марадзёрамі з ліку мясцовых жыхароў, нямецкімі войскамі, частка загінула ў выніку пажараў і бамбёжак.

22 ліпеня 1941 г. нямецкімі войскамі з мэтай стварэння мясцовай дапаможнай адміністрацыі і ўзмацнення ўплыву на мясцовае насельніцтва была створана Віцебская гарадская ўправа. У яе структуру разам з іншымі ўваходзіў навуковы аддзел. Ён "прымаў меры да таго, каб навуковая распрацоўка гісторыі Віцебска і яго краю аднавілася"[101]. Управай было прынята рашэнне аб аднаўленні дзейнасці краязнаўчага музея і бібліятэкі пры ім. На аснове ветэрынарна-заалагічнага музея, які амаль не пацярпеў ад ваенных дзеянняў і марадзёраў, планавалася адкрыць вясной 1942 года біялагічны музей (Смаленская, 21). На лістапад 1941 г. у краязнаўчым музеі працавалі 4, у біялагічным – 2 чалавекі.

---

[98] Витебск: энциклопедический справочник. – Минск: БелСЭ, 1988. – С. 253.
[99] Подлипский, А. Как спасали музей // Нар. слова. – 1994. – 28 крас. – С. 3
[100] Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1941–1991 гг.) / А.А. Гужалоўскі. – Мінск: НАРБ, 2004. – С. 8.
[101] Исторические древности Витебска // Витебские ведомости. – 1941. – 30 нояб. – С. 2 // ДАВВ. – Ф. 2290. – Воп. 1. – Спр. 6. – Арк. 50.

Як выглядаў краязнаўчы музей, наколькі дзейснай была ягоная праца – сказаць цяжка. Некаторая частка фондаў музея, якая не была эвакуіравана, была разрабаваная мясцовым насельніцтвам у першыя дні акупацыі. Цалкам захаваліся экспанаты палеанталагічнага і археалагічнага аддзелаў, рэчы з курганных раскопак, а таксама частка зброі і сярэднявечных мастацкіх рэчаў. Працаваў краязнаўчы музей у адпаведнасці з патрабаваннямі фашысцкай ідэалогіі нядоўга. У акупаваным горадзе было не да наведвання музеяў, да таго ж жыхароў з падыходам фронту вывезлі ў Заходнюю Беларусь. Фонды музеяў былі вывезены таксама і ў большасці згубіліся ў віхуры вайны. Частка будзе вернутая, але страчана ўнікальная калекцыя заалагічнага музея, якая з'яўлялася працай усяго жыцця У. Плюшчэўскага-Плюшчыка. Па меркаванні выдатнага знаўцы справы А.М. Дарафеева, яе яшчэ можна спрабаваць адшукаць ў Аўстрыі, дзе былі знойдзены сляды іншых энтамалагічных калекцый, нарабаваных у СССР.

## 1.3. Музеі Віцебска ў 1944–1985 гг.

*Віцебскі абласны краязнаўчы музей (ВАКМ)*

Работы па аднаўленні краязнаўчага музея пачаліся адразу пасля вызвалення Віцебска. 4 верасня 1944 г. СНК БССР зацвердзіў пастанову Віцебскага абласнога савета дэпутатаў аб аднаўленні дзейнасці музея. У ліпені 1945 г., яшчэ да вяртання фондаў музея з Саратава, была адчынена выстава "Віцебская вобласць у гады Вялікай Айчыннай вайны". У 1945 г. галоўным захавальнікам фондаў ВАКМ стала Г.Ф. Паўленка, якая працавала на гэтай пасадзе 35 гадоў. У жніўні таго ж года намесніца дырэктара музея М.І. Папова даставіла з Саратава ў Віцебск 27 889 музейных прадметаў. Амаль 11 тыс. прадметаў удалося адшукаць і вярнуць з Рыгі (напрыклад, прылады працы першабытнага чалавека[102]), 1559 адзінак былі знойдзены ў Віцебску[103]. Нягледзячы на цяжкасці пасляваеннага жыцця, пачалося стварэнне стацыянарнай выставы. Яна была створана ў пачатку 1950-х гг. і мела раздзелы "Віцебск і вобласць да рэвалюцыі 1917 г.", "Віцебск савецкі – росквіт горада і вобласці пасля Кастрычніка", "Віцебск у гады Айчыннай вайны". Пазней да пастаяннай экспазіцыі дадаўся раздзел прыроды, а таксама раздзел пасляваеннага сацыялістычнага будаўніцтва.

У 1951 г. музей быў зачынены на капітальны рамонт, які доўжыўся з 1 красавіка па 15 кастрычніка. У выніку тэма

[102] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 3. – Арк. 2. Перспектыўны план развіцця разгортвання работы Віцебскага гістарычнага музея.
[103] Гужалоўскі, А.А. Музеі Беларусі (1941–1991 гг.) / А.А. Гужалоўскі. – Мінск: НАРБ, 2004. – С. 16.

рыбалоўства, напрыклад, папоўнілася акварыумам, які быў уманціраваны ў дол, і фантанам з праточнай вадой. У тэме "Лясы" быў размешчаны зрэз ствала 180-сантыметровай хвоі[104]. У 1953 г. была праведзена генеральная інвентарызацыя фондаў[105].

З пачаткам палітыкі "адлігі" адбываліся пэўныя змены ў дзейнасці і стаўленні грамадства да музеяў. Сярод прычын, якія паўплывалі на гэтыя змены, адзначым жаданне шырокіх пластоў насельніцтва актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, выкліканае лібералізацыяй грамадскага жыцця і адносін у сферы культуры; імкненне кіруючых колаў партыі і савецкага ўрада выкарыстаць патэнцыял грамадскага руху для развіцця актыўнасці людзей і накіроўваць яе ў патрэбным накірунку. Сваю ролю адыгралі змены ў грамадскай свядомасці людзей, выкліканыя пераменамі ў грамадска-культурных адносінах у свеце. Напрыклад, у 1960-я гг. аднаўляецца архітэктурны ансамбль Будапешта, пачынаецца рэстаўрацыя гістарычнага цэнтра Варшавы, Прагі, гарадоў Германіі. Грамадства прыцягвае ўвагу ўрадаў і само актыўна ўключаецца ў дзейнасць па захаванні культурнай спадчыны. У Беларусі гэтая тэндэнцыя выявілася ў актывізацыі дзейнасці па ахове помнікаў гісторыі і культуры: арганізацыі рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, стварэнні "Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі", шырокай дзейнасці па ўпарадкаванні месцаў пахаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны і ўзвядзенні помнікаў у гонар загінуўшых на ёй салдат. У БССР пачынае ствараецца і развівацца сістэма дзяржаўных краязнаўчых музеяў. У Віцебску, у якім на гэты час быў толькі адзін музей, гэта праявілася ў зменах у экспазіцыі ВАКМа, з'яўленні новых музеяў. Хаця трэба прызнаць, што ў Віцебску, як і ў БССР у цэлым, змены гэтыя адбываліся павольней, чым у іншых рэгіёнах СССР.

З другой паловы 1950-х гг. у фарміраванні экспазіцыі больш выразна пачынае выкарыстоўвацца краязнаўчы прынцып. Гэта яскрава бачна па яе тэматыцы: "Віцебшчына ў складзе ВКЛ", "Віцебшчына ў складзе Рэчы Паспалітай", "Віцебск у складзе Расійскай імперыі". Але ідэалагічная накіраванасць заставалася. Абавязкова прыводзіліся цытаты з прац У. Леніна, рабіўся акцэнт на класавую барацьбу і прыгнёт. Так, разарэнне Віцебска казакамі атамана Дубіны і пакаранне іх у пач. XVIII ст. інтэрпрэтаваліся як паўстанне супраць прыгнятальнікаў і праява класавай барацьбы[106]. Большасць тэм выстаў, экспазіцый усё гэтак жа адпавядалі асноўным мэтам сацыялістычнага выхавання і ідэалогіі: "Великий русский полководец Суворов" (са схемай

---

[104] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 30. – Арк. 2.
[105] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 42. – Арк. 1. Справаздача.
[106] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 86. – Арк. 10.

асноўных месцаў жыцця і дзейнасці), “Крестьянская война под руководством Болотникова”, “Россия во второй пол. XVIII в.”, “Крестьянская война под руководством Пугачева”, “Революционное движение в России в первой пол. XX в.”[107]. Такім чынам, сітуацыя заставалася неадназначнай.

У гэты перыяд ВАКМ праводзіў досыць актыўную працу. Напрыклад, за 1956 г. было арганізавана 8 выстаў у межах ВАКМ, 16 выстаў па-за яго межамі. Праведзена 166 экскурсій. Наведала музей 21 689 чалавек. Супрацоўнікамі былі падрыхтаваны 4 гутаркі на радыё, напісана 13 артыкулаў[108]. На 1960 г. на захоўванні ў ВАКМ знаходзіліся 51 242 прадметы[109].

У 1960 г. былі адкрыты аддзел сацыялістычнага будаўніцтва і асобны мастацкі аддзел. У аснове мастацкага аддзела ляжалі калекцыя твораў рускіх і беларускіх мастакоў XIX – пач. XX ст. – І. Хруцкага, І. Крамскога, У. Макоўскага, В. Паленава, К. Каровіна і іншых, перададзеныя ў дар Дзяржаўным мастацкім музеем БССР. У 1970 г. была праведзена рээкспазіцыя аддзела.

У сутарэннях будынка (цяпер Віцебская духоўная семінарыя) была створана экспазіцыя “Памяці патрыётаў Віцебшчыны. 1941–1944 гг.). У часы акупацыі ў будынку знаходзілася аператыўная служба службы бяспекі (СД-9). У скляпах утрымлівалі схопленых і западозраных у барацьбе з фашыстамі. У былых камерах прадстаўлены фотаматэрыялы пра закатаваных удзельнікаў віцебскага падполля: Л. Бярозкіну, Э. Грабянькову, А. Ермаковіч, С. Панкову, В. Харужую, Р. Шаракову і іншых.

У 1970-я гг. актыўна працягвалася праца па папаўненні фондаў музея. У выніку комплексных экспедыцый, працы з мясцовымі калекцыянерамі, грамадзянамі калекцыі ВАКМ папоўніліся на некалькі тысяч адзінак захоўвання. У асноўным гэта былі матэрыялы археалагічных даследаванняў, прылады працы і побыту сялян, узоры дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, матэрыялы па гісторыі партызанскага руху, сацыялістычных пераўтварэнняў на Віцебшчыне.

На жаль, у канцы 1970-х гг. пачалася рэстаўрацыя Віцебскай ратушы. З пачатку 1980-х гг. да 1994 г. музей быў зачынены для наведвання. Аднак працавалі перасоўныя выставы. Музейныя супрацоўнікі вялі даследчую, збіральніцкую працу. На пачатку 1980-х гг. агульная колькасць прадметаў калекцый дасягнула 88 тысяч.

Выконваючы свае абавязкі, супрацоўнікі музея выкарыстоўвалі розныя формы працы: праводзілі археалагічныя разведкі ў розных раёнах вобласці, бралі ўдзел у археалагічных раскопках, ажыццяўлялі

[107] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 42. – Арк. 7–9.
[108] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 60. – Арк. 24.
[109] ДАВВ. – Ф. 1947. – Воп. 3. – Спр. 86. – Арк. 20 адв.

нагляд за будаўніцтвам. З мэтай выяўлення матэрыялаў, прысвечаных Віцебску, праводзілі аналіз літаратуры (дарэвалюцыйных аўтараў), рабілі разборку дакументаў; праводзілі збор дакументальных і літаратурных крыніц, экспанатаў; ажыццяўлялі запіс успамінаў; праводзілі напісанне экскурсаў, лекцый, артыкулаў, распрацоўку тэматычна-экспазіцыйных планаў; апісвалі творы, праводзілі атрыбутацыю рэчаў; распрацоўвалі навуковыя тэмы; рыхтавалі экспазіцыі, выставы; ездзілі ў камандзіроўкі ў бібліятэкі, архівы краіны.

*Дзейнасць іншых музеяў*

Другім дзяржаўным музеем у горадзе стаў абласны музей ***Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова*** (1969). Стварэнне музея, прысвечанага вядомаму партызанскаму камандзіру, цалкам адпавядала ідэалагічным запатрабаванням партыі і ўпісвалася ў карціну прапагандысцкай і агітацыйнай працы, якая праводзілася ў СССР і на Віцебшчыне ў прыватнасці. Вобраз Беларусі, акупаванай фашыстамі на працягу трох гадоў вайны, фарміраваўся як вобраз “рэспублікі-партызанкі”. Таму музей быў прысвечаны не толькі жыццю і дзейнасці выдатнага ўраджэнца Віцебшчыны, аднаго з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі – Мінаю Піліпавічу Шмырову, але і разгортванню партызанскай барацьбы на Віцебшчыне. Музей быў адчынены ў асобным будынку на вул. Чэхава, 4. Прастора ўнутранага двара была выкарыстана як пляцоўка пад адкрытым небам. Тут быў усталяваны помнік М.П. Шмырову (скульптар З. Азгур), дэманстраваліся ўзоры ваеннай тэхнікі. Побач з будынкам музея былымі партызанамі высаджаны мемарыяльны парк з дубовай алеяй.

На жаль, больш у Віцебску да другой паловы 1980-х гг. музеяў не паўстала. Хаця праекты і ідэі стварэння некалькіх музеяў у горадзе і яго бліжэйшых наваколлях былі. Так, у 1960 г. віцебскім абласным камітэтам КПБ было прынята рашэнне аб аднаўленні ***сядзібы І.Я. Рэпіна*** і стварэнні на яе базе філіяла ВАКМ. Яно было вынікам намаганняў дзеячаў культуры (Я. Коласа, В. Бялыніцкага-Бірулі, І. Грабара), якія ў 1956 г. паставілі пытанне аб усталяванні на месцы былой сядзібы мемарыяльнага знака. Праект рэканструкцыі лецішча быў выкананы ў спецыялізаванай майстэрні Саюза архітэктараў БССР пад кіраўніцтвам П. Каркалёва. Асноўныя работы па рэканструкцыі будынка і ўпарадкаванні сядзібы былі праведзены Віцебскай рэстаўрацыйнай майстэрняй аб’яднання “Белрэстаўрацыя”. Дзякуючы значнай пошукавай працы загадчыцы аддзела выяўленчага мастацтва ВАКМ Я. Кічынай быў сабраны багаты матэрыял, які лёг у аснову экспазіцыі будучага музея. Але праца расцягнулася да 1988 г., калі быў выдадзены загад Міністэрства культуры БССР аб стварэнні музея

і пачаліся працы па аднаўленні былой сядзібы "Здраўнёва" каля в. Койтава Віцебскага раёна.

***Археалагічны музей***. У выніку маштабных археалагічных раскопак у горадзе ў 1970-я гг., якія праводзіліся Г. Штыхавым, М. Ткачовым, Л. Калядзінскім, Т. Бубенькай, В. Ляўко і іншымі археолагамі, былі выяўлены драўляныя канструкцыі XII–XVIII стст. у стане добрай захаванасці. Міністэрствам культуры было прынята рашэнне аб стварэнні ў Віцебску археалагічнага музея. Адпаведная пастанова была прынята Саветам Міністраў у 1980 г.[110]. Над катлаванам быў утвораны драўляны навес. Плошча раскопу складала 1000 м². Прадугледжвалася стварэнне трох залаў. У першай павінны былі быць прадстаўлены ўчасткі гарадской забудовы XII стагоддзя, у другой – забудовы XIV–XVI стст. У экспазіцыі прадугледжвалася паказаць вулічныя маставыя, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, прадметы побыту, прылады працы, зброю, упрыгожванні. У трэцяй зале планавалася прадставіць абарончы вал Верхняга замка[111]. На жаль, сродкаў, якія выдзяляў горад на існаванне закансерваванай экспазіцыі і захаванне драўляных канструкцый, было недастаткова. У выніку некалькіх абвалаў у раскопе ў яго пачала пранікаць вада, што прыводзіла да знішчэння яшчэ не гатовай экспазіцыі. Па распараджэнні кіраўніцтва горада драўляны саркафаг, узведзены над раскопам, быў разабраны, а катлаван засыпаны. Так Віцебск страціў магчымасць мець унікальны музей, аналагам якому выступае толькі "Старажытнае Бярэсце" ў Брэсце.

*Ведамасныя музеі*

Стварэнне музея ці экспазіцыі на прадпрыемстве ёсць важная і патрэбная справа. Стварэнне іх абумоўлена некалькімі мэтамі: адлюстраваць гісторыю завода, спрыяць згуртаванню калектыву, пераемнасці пакаленняў працаўнікоў, захаванню традыцый. Вельмі важнай выступае і задача прэзентацыі і дэманстрацыі прадукцыі, якая вырабляецца на прадпрыемстве. Музеі ва ўстановах ствараюцца практычна з тымі ж мэтамі. Дададзім да іх і яшчэ адну вельмі важную – вучэбную. Таму стварэнне музея на прадпрыемстве ці ва ўстанове, якія дзейнічаюць некалькі дзясяткаў гадоў, – натуральная з'ява. Можна вызначыць некалькі важных чыннікаў з'яўлення ведамасных музеяў: пэўны тэрмін існавання прадпрыемства ці ўстановы, наяўнасць волі і жадання адміністрацыі ці апантанага краязнаўцы-працаўніка, а яшчэ лепей – спалучэнне гэтых двух апошніх фактараў.

[110] Постановление Совета Министров БССР № 111 от 11 марта 1980 г. "О создании в г. Витебске археологического музея – филиала Витебского областного краеведческого музея" // [Электронны рэсурс]. Віцебская абласная бібліятэка імя У.І. Леніна. – 2004. Рэжым доступу: электронная база дадзеных "Эталон".
[111] Шакірка, С. Якім будзе археалагічны музей? // Віцебскі рабочы. – 1982. – 28 жн. – С. 4.

Першыя ведамасныя музеі ўтварыліся ў Віцебску яшчэ на пачатку ХХ ст. У 1920-я гг. у горадзе існавалі музей санітарнай асветы і гігіены пры губернскім аддзеле аховы здароўя, ветэрынарна-заалагічны музей пры губернскім ветэрынарным аддзеле, эканамічна-прамысловы пры эканамічным тэхнікуме, прыродазнаўчы пры сельскагаспадарчым тэхнікуме, педагагічны ў Віцебскім Вышэйшым педагагічным інстытуце і іншыя.

У выніку вайны практычна ўсе яны былі знішчаны. Пасля вайны стварэнне музеяў на прадпрыемствах, ва ўстановах было складанай справай: не хапала сродкаў, памяшканняў. Увогуле, стаяла задача аднаўлення разбуранага і страчанага ў выніку вайны. Аднак з часам сітуацыя мяняецца.

У 1966 г. у горадзе былі адкрыты адразу два ведамасныя музеі – Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі і віцебскага трамвая. Апошні з’яўляўся ўнікальным для СССР. Праца па яго стварэнні пачалася яшчэ ў канцы 1950-х гг. Дзякуючы падзвіжніцкай рабоце Л.А. Забэлы, які на аснове матэрыялаў, выяўленых у Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску, Цэнтральным дзяржаўным архіве кінафотадакументаў, Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці, успамінаў работнікаў дарэвалюцыйных часоў падрыхтаваў тры экспазіцыі (1966, 1974, 1985 гг.)[112]. А наогул, разам з музеем трамвая на 1 ліпеня 1971 г. у Віцебску былі 4 народныя: на заводзе імя Кірава, ДК чыгуначнікаў, у Віцебскім абласным палацы піянераў[113].

1970-я – першая палова 1980-х гг. сталі часам актыўнага стварэння музеяў на прадпрыемствах горада. Гэтаму спрыялі вялікія сродкі, якія выдаткоўваліся адміністрацыяй. Так, былі створаны музеі на фабрыцы “Чырвоны Кастрычнік”, станкабудаўнічым заводзе імя Камінтэрна, Віцебскім маторарамонтным заводзе, віцебскім заводзе заточных станкоў імя ХХІ з’езда КПСС, заводзе “Эвістар”, заводзе радыёдэталяў “Маналіт”, у аўтапарку, аўтабазе № 1, на домабудаўнічым камбінаце, фабрыцы “Віцябчанка” і іншых прадпрыемствах і ўстановах горада.

У 1970-я гг. былі створаны музеі ў ВНУ горада: гісторыі ВДМУ (1974), гісторыі ветэрынарнага інстытута (1977), гісторыі ВДПІ імя С.М. Кірава (1979). У 1975 г. пры кафедры заалогіі біялагічнага факультэта педінстытута быў адчынены Біялагічны музей, пры кафедры беларускай літаратуры – Літаратурны музей (1980), Мемарыяльны пакой-музей П.М. Машэрава (1983), Музей дэкаратыўна-прыкладнога

[112] Забэла, Л.А. // Півавар, М. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-й пал. ХХ – пач. ХХІ ст. / М. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – С. 118.
[113] ДАВВ. – Ф. 2852. – Воп. 2. – Спр. 483. – Арк. 25. Списки, паспорта народных (школьных) музеев за 1971 г. Управление культуры Витебского облисполкома.

мастацтва пры кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мастацка-графічнага факультэта (1986). Ствараліся вучэбныя музеі і ў іншых установах. Так, экспазіцыя беларускай народнай творчасці была створана ў 1975 г. пры кафедры дызайну ў тэхналагічным інстытуце. Музей тапанімічнай анатоміі быў заснаваны ў 1983 г. пры кафедры агульнай прыватнай і аператыўнай хірургіі ў ветэрынарным інстытуце.

*Музеі школ, ПТВ і тэхнікумаў*

Музеі навучальных устаноў, як і іншыя музеі, ажыццяўляюць камплектаванне, улік, захаванне, вывучэнне і папулярызацыю помнікаў гісторыі і культуры. Правядзенне заняткаў на аснове матэрыяльных і дакументальных крыніц музейных экспазіцый значна павышае іх эфектыўнасць, развівае імкненне да ўдзелу ў пазакласных мерапрыемствах. Незалежна ад профілю школьнага музея ў кожным з іх вялася выхаваўчая работа: дзейнічалі клубы і гурткі, наладжваліся народныя святы і абрады, праводзіліся ўрокі па школьных прадметах і экскурсіі для наведвальнікаў.

У 1960–1970-я гг. актыўна ствараліся музеі ў школах краіны і, адпаведна, горада. Значную ролю адыграў загад Міністэрства асветы БССР, у адпаведнасці з якім у кожнай навучальнай установе павінны быў быць створаны ленінскі пакой, або музей рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Калі ў 1958 г. у Беларусі было каля 400 школьных музеяў, то ў 1982 г. іх налічвалася ўжо каля 10 тысяч. Асноўны пік іх стварэння па вобласці прыходзіцца на другую палову 1960 гг. У Віцебску справа ішла марудней. На 20 ліпеня 1971 г. у школах Віцебска было 12 Ленінскіх куткоў, пакояў краязнаўства, працоўнай, баявой і рэвалюцыйнай славы[114]. Адзіным музеем, які па большасці крытэрыяў адпавядаў агульнапрынятым патрабаванням, з'яўляўся Народны музей у Віцебскім абласным Палацы піянераў (вул. Шчарбакова-Набярэжная, 8).

Большасць школьных музеяў і экспазіцый у горадзе былі створаны ў 1970-я – першай палове 1980-х гг.

Аднак значная частка музеяў была створана фармальна. Часта да музейных экспазіцый адносілі невялікія школьныя калекцыі краязнаўчых матэрыялаў, што захоўваліся ў рэкрэацыях школьных будынкаў і вучэбных кабінетах без адпаведнага дагляду і ўмоў захавання. Статус музея мелі і ленінскія куткі, пакоі, пастаянна дзейныя выстаўкі ідэалагічнай тэматыкі. У многіх з іх не было належнай навукова-даследчай асновы, частая змена кіраўніцтва музеяў пазбаўляла магчымасці ўсялякага кантролю за экспанатамі, якія проста губляліся. Вельмі востра стаяла праблема захаванасці экспанатаў, недахопу

[114] ДАВВ. – Ф. 2852. – Воп. 2. – Спр. 483. – Арк. 22. Даведка ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама.

экспазіцыйных плошчаў, сродкаў на іх афармленне, нізкага ўзроўню падрыхтаванасці кіраўнікоў музеяў. Аднатыпныя і малазмястоўныя экспазіцыі былі ў большасці з такіх музеяў. Хаця былі і выключэнні. Да ліку лепшых аднясём  Музей віцебскай гарадской камсамольскай арганізацыі (СШ № 25), музей Ленінскага камсамола ў ПТВ № 19, Музей баявой славы 39-й Арміі (СШ № 32), Музей баявой славы 43-й Арміі (СШ № 36), Музей 335-й штурмавой авіядывізіі (СШ № 17).

Падсумоўваючы сказанае, адзначым, што ў пасляваенны час (1944–1985 гг.) адбылося аднаўленне дзейнасці абласнога краязнаўчага музея, стварэнне другога дзяржаўнага музея – Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова. Калі дзяржаўных музеяў у горадзе за гэты перыяд дзейнічала толькі два, грамадскіх музеяў было створана некалькі дзясяткаў. У гэты перыяд пачалі дзейнасць музеі па прадпрыемствах, ва ўстановах, ВНУ, сярэдніх школах, ПТВ і тэхнікумах Віцебска. Масавасць мела свае хібы, сярод якіх – фармальны характар стварэння экспазіцый у некаторых музеях.

## 1.4. Музеі горада з 1985 г. па сённяшні дзень

На хвалі нацыянальнага адраджэння другой паловы 1980-х – 1990-х гг. сітуацыя з музейным будаўніцтвам змянілася ў корані. Адбылося павышэнне цікавасці і ўвагі да нацыянальнай культуры. Вялікую ролю ў ажыццяўленні гэтых працэсаў адыгралі музеі. У сваю чаргу, актывізацыя грамадскага жыцця і працэсы нацыянальнага адраджэння пазітыўна адбіліся на музейным будаўніцтве ў горадзе. У Віцебску значную ролю адыграў абласны краязнаўчы музей. На яго базе былі праведзены першыя краязнаўчыя канферэнцыі, створана Віцебскае аддзяленне Беларускага краязнаўчага таварыства (БКТ). Кіраўніцтва музея і супрацоўнікі бралі актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні даследаванняў Віцебшчыны. У выніку дыскусіі з удзелам зацікаўленых колаў грамадскасці была выпрацавана доўгатэрміновая праграма па стварэнні новых музеяў у горадзе і вобласці[115]. Сам музей з 1982 па 1994 г. быў зачынены на рэстаўрацыю, а яго багатыя фонды былі недаступныя для даследчыкаў. Узнікла ідэя падзяліць буйныя калекцыі і на іх аснове стварыць некалькі музеяў. Іх прапаноўвалася размясціць на першых паверхах дамоў па вуліцы Суворава. У горадзе маглі б паўстаць Музей тэатральнага мастацтва, “Віцебская кафля”, “Кераміка і шкло”, “Старадаўняя зброя”, “Жалезных спраў майстры”, “Віцебская модніца” і іншыя [гл. дадатак: Прапановы па развіцці

[115] Для нас і нашчадкаў (аб праекце плана развіцця музеяў у Віцебску) // Віцебскі рабочы. – 1988. – 10 жн. – С. 3.

музеяў у гарадах і раёнах Віцебскай вобласці на перыяд да 2000 г.; План развіцця сеткі музеяў у г. Віцебску да 2000 г.].

У "Прапановах па развіцці музеяў у гарадах і раёнах Віцебскай вобласці на перыяд да 2000 г.", прынятых Віцебскім аблвыканкамам у 1990 г., планавалася адкрыццё 18 музеяў у Віцебску і 2-х – у Віцебскім раёне. Такім чынам, калі на 1985 г. у горадзе былі 2 дзяржаўныя музеі, то да 1997 г. іх павінна было стаць 20! План быў змешчаны ў газеце "Віцебскі рабочы" за 7 красавіка і выклікаў грамадскую дыскусію адносна колькасці, месца размяшчэння, зместу экспазіцый будучых музеяў. Так, напрыклад, С. Навумчык прапаноўваў размясціць музей літаратуры ў будынку № 3 на вул. Талстога[116]. Актыўны ўдзельнік гісторыка-культурнага клуба "Узгор'е" М. Паўлаў лічыў, што для Віцебска, які ганарыцца адным з найлепшых медінстытутаў у СССР, варта стварыць музей гісторыі медыцыны[117]. Мастак А. Мемус меркаваў, што змяшчэнне музея архітэктуры і горадабудаўніцтва ў адноўленым будынку Дабравешчанскай царквы XII ст. абясцэніць ідэю, і прапаноўваў для гэтага плошчу 1000-годдзя. Сумняваўся аўтар у вартасці стварэння музея ў будынку па адрасе Даватара, 20 (па прычыне таго, што будынак драўляны) і прапаноўваў яго размясціць у доме на вул. Калініна, 20. Прычым, прапаноўваў аздобіць яго дэкор кафляй (чаго не зробіш з драўляным будынкам). Цікавай выглядала ідэя аўтара артыкула стварыць "Квартал майстроў" на вул. Грыбаедава, а таксама Музей старажытных рамёстваў у адным з будынкаў ансамбля былых даходных дамоў на рагу вуліц Чэхава і Суворава[118]. Дыскусія працягвалася, з'яўляліся іншыя публікацыі. А.І. Юр'еў выказаў свае прапановы па арганізацыі музея гарадской архітэктуры[119]. Розгалас і прапановы сягалі далёка за межы горада і вобласці і выклікалі дыскусію нават ў беларусаў Польшчы[120].

З цікавай ініцыятывай выступіў віцебскі мастак Ю.С. Чарняк. Ён прапанаваў стварыць на аснове СШ № 2 комплексны музей, прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Разам з адлюстраваннем асноўных падзей вайны ў ім меркавалася адлюстраваць удзел віцяблян у абароне горада ў 1941 г., працэс разгортвання падпольнай барацьбы, дзейнасць савецкіх патрыётаў у няроўнай барацьбе з акупантамі, доўгія баі (доўжыліся 9 месяцаў, з восені 1943 г. па чэрвень 1944 г.) за вызваленне Віцебска, увекавечыць памяць ахвяр фашысцкага генацыду, подзвіг падпольшчыкаў, партызан, салдат і афіцэраў савецкага войска, якія вызвалялі Віцебшчыну. План атрымаў падтрымку ў кіраўніцтва

[116] Навумчык, С. Не адкладываць на будучыню // Віцебскі рабочы. – 1988. – 10 жн. – С. 3.
[117] Паўлаў, М. Не губляю надзеі // Віцебскі рабочы. – 1988. – 10 жн.
[118] Мемус, А. Каб форма адпавядала зместу // Віцебскі рабочы. – 1988. – 10 жн. – С. 3.
[119] Старые, старые идеи // Віцьбічы. – 2001. – 23 жн. – С. 7.
[120] Булдык, Н. Пачатак "музейнага буму"? // Голас Радзімы. – 1988. – 22 снеж. – С. 3.

вобласці, у прыватнасці намесніка першага сакратара абласнога камітэта КПБ па ідэалогіі І.А. Навумчыка. На 1991 г. было запланавана спыніць набор вучняў у СШ № 2 і паступова, з вызваленнем памяшканняў, пачынаць працу над маштабным праектам. Аднак 1991 г. (распад СССР, паглыбленне эканамічнага крызісу) паставіў іншыя задачы перад адміністрацыяй і жыхарамі горада і некалькі змяніў акцэнты ў музейным будаўніцтве.

Гэтыя акцэнты добра бачны пры параўнанні рашэнняў Віцебскага гарвыканкама № 446 ад 26 кастрычніка 1988 г. і № 163 ад 29 красавіка 1993 г. [гл. дадатак: План развіцця сеткі музеяў у г. Віцебску да 2000 г.]. Калі ў рашэнні ад 26 снежня 1988 г. у Віцебску планавалася стварыць 16 новых музеяў, то ў рашэнні ад 29 красавіка 1993 г. – толькі 12. Адназначна планавалася стварэнне ў Віцебску мастацкага і літаратурнага музеяў, музея-сядзібы І.Я. Рэпіна, музея заснавальнікаў Віцебскай мастацкай школы, музея тэатральнага мастацтва, музея патрыятычнага руху на Віцебшчыне ў гады Вялікай Айчыннай вайны, музея старадаўняй зброі ў “Духаўскім круглiку”, музея фальклору і народнай творчасці. Ад ідэі стварэння некаторых (археалагічнага музея, музеяў “Віцебская кафля”, “Віцебская модніца”, гісторыі горадабудаўніцтва, музея савецка-польскага сяброўства) па шэрагу прычын прыйшлося адмовіцца. Затое ў 1993 г. былі запланаваны музеі, якія адлюстроўвалі характэрныя асаблівасці гісторыі горада і сталі сапраўдным яго ўпрыгожаннем: Музейны комплекс мастака М. Шагала, Музей воінаў-інтэрнацыяналістаў, Музей прыватных калекцый.

У канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. былі заснаваны новыя філіялы ВАКМ – музей-сядзіба І.Я. Рэпіна “Здраўнёва”, літаратурны музей, мастацкі, прыватных калекцый. У 1990 г. адбылося абмеркаванне архітэктурнага вырашэння і мастацкага ўвасаблення будучай экспазіцыі літаратурнага музея. Расла колькасць экспанатаў. Так, у 1993 г. у асноўным фондзе ВАКМ было 120 тыс. адзінак захоўвання, у навукова-дапаможным – 30 тысяч.

У 1994 г., пасля 12-гадовага рамонту, быў адчынены Віцебскі абласны краязнаўчы музей. Тэрмін вельмі значны. Чаму рамонт і рээкспазіцыя занялі такі значны прамежак часу? Прывядзем некаторыя нашы меркаванні. Па-першае, паўплывала недастатковая колькасць прафесійных кадраў, здольных хутка правесці рамонт, рэстаўрацыю, стварыць экспазіцыю, адпаведную часу і новым тэндэнцыям у музейнай справе. Некаторыя будынкі Ратушы, якія патрабавалі капітальнага рамонту, былі знесены, а потым узведзены нанава. Па-другое, працэс рэканструкцыі прыйшоўся на час палітыкі “перабудовы” і атрымання Рэспублікай Беларусь суверэнітэту. У гэты час адбываюцца значныя змены ў грамадскай свядомасці, у культурнай і ідэалагічнай парадыгмах. На 1980-я гг. прыходзяцца змены ў

музеялогіі, якія у першую чаргу тычыліся зменаў у падыходах да камплектавання калекцый. Усё ўскладнялася фінансавымі цяжкасцямі, якія абвастрыліся з эканамічным і палітычным крызісам канца 1980-х – пачатку 1990-х гг.

Працавала, праўда, толькі адна стацыянарная выстава, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне. З пэўнымі зменамі яна дзейнічае і зараз. Толькі праз 4 гады, у 1998 г. была адкрыта другая стацыянарная выстава – "Старажытны Віцебск", якая распавядае пра заснаванне горада і жыццё на Віцебшчыне ў часы сярэднявечча. У 2003 г. адкрыта трэцяя пастаянная экспазіцыя, прысвечаная прыродзе Беларускага Паазер'я. У 2004 г. адноўлена дзейнасць Музея памяці патрыётаў Віцебшчыны (былая турма СД). На жаль, гэтымі тэмамі да сённяшняга дня абмяжоўваецца краязнаўчая тэматыка, прадстаўленая ў музеі. Для комплекснай характарыстыкі краю не хапае шэрагу раздзелаў, у тым ліку і тых, якія б адлюстроўвалі гісторыю XIV–XX стст. На цяперашні момант музей мае 14 экспазіцыйных залаў, плошча якіх складае 1 754 м². У асноўным фондзе – каля 200 тыс. экспанатаў, у навукова-дапаможным – 56 тыс. адзінак захоўвання[121].

У 1998 г. у Віцебску па ініцыятыве групы творчай інтэлігенцыі быў створаны Цэнтр сучаснага мастацтва. Асноўнымі яго мэтамі з'яўляюцца захаванне, вывучэнне і папулярызацыя культурнай спадчыны г. Віцебска, традыцый Віцебскай мастацкай школы. У 2007 г. Цэнтр рэарганізаваны ва ўстанову культуры "Музей "Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва". У склад музея ўваходзяць выставачная зала на вуліцы Белабародава, 5, а таксама выставачная зала "Музычная гасцёўня" (вул. Фрунзэ, 11). Як філіялы ВЦСМ існуюць майстэрня мастака А. Магучага і майстэрня мастака Салаўёва.

У 2007 г. у горадзе пачала працу выставачная зала Цэнтра культуры "Віцебск" – "Духаўскі круглік". Галоўнай мэтай будаўніцтва вежы з'яўлялася кансервацыя і мемарыялізацыя рэшткаў Нарожнай (Вуглавой) вежы віцебскага каменнага замка 1-й паловы XIV ст. На жаль, ад ідэі стварэння ў вежы музея старажытнай зброі адмовіліся. Цяпер на пяці паверхах выставачнай залы размешчаны экспазіцыі, прысвечаныя сярэднявечнаму Віцебску і гісторыі фестывалю "Славянскі базар у Віцебску".

Па шэрагу прычын да канца не даведзены план развіцця музеяў, распрацаваны і прыняты Віцебскім гарвыканкамам. Так і не паўстаў музей-майстэрня рэзчыка Ф. Максімава, які планавалася стварыць па адрасе вул. Грыбаедава, 13[122]. У 1995 г. сустрэла падтрымку прапанова стварэння галерэі і кватэры-музея мастакоў Аркадзя і Зінаіды

[121] Савіцкі, Г. Віцебскі абласны краязнаўчы музей // Бел. гіст. часопіс. – 2008. – № 4. – С. 21–26.
[122] Ф. 2222. – Воп. 5. – Спр. 49. – Арк. 11. Даведка.

Астаповіч[123]. Было прынята рашэнне гарвыканкама, якое, аднак, не было выканана.

*Ведамасныя музеі*

Крызіс 1990-х негатыўна адбіўся на стане практычна ўсіх прадпрыемстваў. Некаторыя з іх перасталі існаваць, значная частка знаходзіцца ў стане пошуку сродкаў, неабходных для мадэрнізацыі. Аднак і ў такой сітуацыі музеям, якія адлюстроўваюць гісторыю прадпрыемства ці ўстановы, забяспечваюць захаванне традыцый, прафесійнага майстэрства, повязь пакаленняў, надаецца пэўная ўвага.

Страціў свой статус музей фабрыкі “Чырвоны Кастрычнік”. Цяпер гэта толькі куточак, які месціцца ў бібліятэцы завода. Страчаны музей станкабудаўнічага завода імя Камінтэрна. Праўда, некаторая частка экспанатаў захоўваецца і нават экспануецца ў музеі станкабудаўнічага завода “Вістан”. Беззваротна страчаны музей палка ваенна-транспартнай авіяцыі, які размяшчаўся ў Журжаве.

Але з’яўляюцца новыя музеі. Сярод найбольш цікавых – Музей гісторыі віцебскага водаправода (1994), Музей спажыўкааперацыі (1998), Куток гісторыі Віцебскай мытні (2001), Музей гісторыі віцебскай энергасістэмы (2003), Музей гісторыі газіфікацыі Віцебскай вобласці УП “Віцебскаблгаз” (2003), Музей міліцыі (2007), музей ДАІ (2007), Музейна-выставачная экспазіцыя Галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці (2007), Музей кіно (2008), Зала спартыўнай славы Віцебскай вобласці (2009) і інш.

Працэс стварэння вучэбных музеяў у ВНУ працягваецца і ў новым тысячагоддзі. У 2002 г. адчынена выставачная зала мастацка-графічнага факультэта ВДУ імя П.М. Машэрава. Створаны Музей гісторыі педагагічнага факультэта ВДУ (2004), Музей алімпійскай славы на факультэце фізічнай культуры і спорту ВДУ (2007). У Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны створаны музей пры кафедры эпізааталогіі (2007), у Віцебскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце – зала для экспанавання вынікаў навуковых распрацовак і вынаходніцтваў і іншыя экспазіцыі.

Карыстаюцца папулярнасцю і ведамасныя музеі і выставы, якія былі створаны яшчэ ў савецкія часы: Музей гісторыі віцебскага трамвая (1966), Музей Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі (1966), Пажарна-тэхнічная выстава Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС (1973), Музей працоўнай славы завода радыёдэталяў “Маналіт” (1982), “ВІСТАН” (былы станкабудаўнічы завод імя С.М. Кірава) (1985), Народны музей працоўнай славы фабрыкі “КІМ” (1991), створана выставачная зала на Віцебскім тэлевізійным заводзе “Віцязь”

---

[123] Ф. 2222. – Воп. 5. – Спр. 49. – Арк. 10.

(1996). Неўзабаве плануецца адкрыццё Музея гісторыі адукацыі Віцебскага рэгіёна і некаторых іншых.

Як месца, дзе пастаянна экспануюцца цікавыя рэчы на продаж, можна прыгадаць мастацкі салон-краму “Ольга”, а таксама мастацкі салон “Фэст”, што падпарадкоўваецца аддзелу культуры Віцебскага гарадскога выканаўчага камітэта.

*Музеі школ, ПТВ, тэхнікумаў, ліцэяў, каледжаў*

З палітыкай перабудовы, атрыманнем незалежнасці, адыходам ад сацыялістычнай і фарміраваннем дзяржаўнай ідэалогіі, развіццём нацыянальнай сістэмы адукацыі адбываюцца пэўныя змены ў сістэме школьных музеяў. З аднаго боку, вызначылася тэндэнцыя скарачэння колькасці музеяў, з другога – перапрафіляванне існуючых[124].

На 1993 г. на ўліку у гарадскім аддзеле адукацыі знаходзіліся 44 грамадскія музеі (прадпрыемстваў, школ, ПТВ, тэхнікумаў)[125]. На 1995 г. у горадзе дзейнічала 17 музеяў сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і прафесійных устаноў. З іх 13 – школьныя музеі[126]: Музей гісторыі школы (СШ № 10), Музей 335-й штурмавой авіядывізіі (СШ № 17), Музей баявой і працоўнай славы (СШ № 20), Музей “Памяць” (СШ у г.п. Руба), Музей моладзевых рухаў (СШ № 25), Музей гісторыі школы (СШ № 29), Музей “Віцебшчына ў Вялікай Айчыннай вайне” (СШ № 31), Музей У.І. Леніна (СШ № 31), Музей баявой славы 39-й Арміі (СШ № 32), Музей баявой славы 43-й Арміі (СШ № 36), Музей “Дзяцінства, абпаленае вайной” (СШ № 38), Музей М.Ф. Шмырова (СШ № 43), Віцебскі абласны музей пошукавых атрадаў (Віцебскае абласное аб’яднанне пазашкольнай працы).

5 музеяў дзейнічалі ў ПТВ г. Віцебска: Музей баявой славы Віцебскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава 251-й стралковай дывізіі і гісторыі ПТВ № 19 (ПТВ № 19), Музей баявой і працоўнай славы (ПТВ № 46), Музей баявой славы 953-га штурмавога авіяцыйнага палка (ПТВ № 96), Музей гісторыі ПТВ № 96 (ПТВ № 96).

На 2000 г. у горадзе дзейнічала 13 музеяў, у тым ліку 5 у Першамайскім раёне (СШ № 31, 32, 36, 38, 43), 5 – у Кастрычніцкім (СШ № 5, 10, 29, 30, 34), 3 – у Чыгуначным (СШ № 15, 17, 20) [127].

Падзеі канца XX – пачатку XXI ст. неадназначна адбіліся на стане музеяў навучальных устаноў. Некаторыя музеі зніклі, з’явіліся

---

[124] На 1995 г. у вобласці дзейнічала каля 150 музеяў школ і ПТВ, сярод іх: 44 гісторыка-краязнаўчых і этнаграфічных; каля 50 музеяў баявой і працоўнай славы; 14 – гісторыі школ, ПТВ, гаспадарак; 17 – знакамітых землякоў.

[125] Ф. 2222. – Воп. 5. – Спр. 33. – Арк. 31. Рашэнне аб стварэнні кватэры-музея (1995).

[126] Захавальнікі спадчыны: зб. матэр. у дапамогу кіраўнікам этнаграфічных музеяў навучальна-выхаваўчых устаноў Віцебшчыны / А.У. Куржалаў [гал. рэд.]; уклад. Н. Зайцава. – Віцебск: саматужн. выданне, 2001. – 46 с.

[127] Ф. 322. – Воп. 15. – Спр. 113. – Арк. 38. Даведка “Спіс школьных музеяў г. Віцебска”.

новыя. У адпаведнасці з праведзенымі намі даследаваннямі, на пачатак 2012 г. у горадзе маецца **41** музей (у тым ліку музейныя пакоі, экспазіцыі), якія размяшчаюцца ў навучальных установах. 29 з іх размяшчаюцца ў агульнаадукацыйных сярэдніх школах, гімназіях. 3 музеі – у дзяржаўных цэнтрах пазашкольнай працы. 9 музеяў знаходзяцца ва ўстановах, якія забяспечваюць сярэдне-прафесійную і сярэдне-тэхнічную адукацыю [гл. спіс “Музеі Віцебска пачатку XXI ст.”].

Вынікае, што колькасць музеяў, экспазіцый значна павялічылася! На жаль, страчаны музей віцебскай гарадской камсамольскай арганізацыі (Музей маладзёжных рухаў) у СШ № 25. У той жа час тут знаходзіцца цэлы комплекс музеяў і экспазіцый, у тым ліку: Музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, найцікавейшая экспазіцыя пры кабінеце паперапластыкі, Экспазіцыя лепшых прац у кабінеце лепкі, Музейны пакой І.І. Салярцінскага, Малая мастацкая галерэя. Перастаў існаваць музей У.І. Леніна ў СШ № 31, але пачаў дзейнічаць цікавы музей гісторыі школы.

Сярод найлепшых, якія варта наведаць гасцям і жыхарам горада, у першую чаргу адзначым Музей мастацка-тэхнічнай творчасці (ці, як на нашу думку, лепей яго назваць – “Музей кулінарнага майстэрства”) пры Віцебскім дзяржаўным політэхнічным прафесіянальным ліцэі № 2, Музей Ганаровых грамадзян г. Віцебска ў СШ № 12, Музейны пакой Героя Савецкага Саюза М.І. Кузняцова ў СШ № 23, Комплекс музеяў і экспазіцый у СШ № 25, выставу “Скарбонка народных рамёстваў” у СШ № 28, Народны музей баявой славы 39-й Арміі ў гімназіі № 5, Музей Сям’і ў гімназіі № 7, Музей баявой славы 43-й Арміі ў гімназіі № 9, Музей пошукавых атрадаў пры Віцебскім абласным аб’яднанні пазашкольнай працы.

### *Прыватныя музеі*

У канцы 1980-х пачалі паўставаць прыватныя музеі. Першынцам з’яўлялася прыватная галерэя Алеся Пушкіна. Знаходзілася яна на другім паверсе будынка на вуліцы Суворава. Аднак з прычыны апазіцыйнасці, эпатажнасці мастака, пэўных фінансавых цяжкасцяў яна перастала існаваць. Канцэпцыі музея адпавядаюць некаторыя прыватныя галерэі, якія робяць пастаянныя выставы. На пачатку XXI ст. у Віцебску дзейнічае прыватны мастацкі салон-галерея “Сцяна”, які належыць мастаку М. Дундзіну. У галерэі экспануюцца творы жывапісу, графікі, мастацкай і традыцыйнай керамікі, аўтарскія вырабы з розных матэрыялаў. У салоне праводзяцца выставы-продажы сучасных віцебскіх мастакоў. Прыгадаем таксама салон “Лера” – творчую майстэрню мастакоў Рудэнкаў.

Вельмі арыгінальнымі з’яўляліся яшчэ некалькі музеяў, якія, на жаль, на дадзены момант не існуюць. Гэта **музей рыбалкі** (экспазіцыя старажытных рыбалоўных прылад) і **выстава сувенірнага абутку** (экспазіцыя, прысвечаная шавецкаму майстэрству пры ПТ “Каблучок”). У першым змяшчаліся аўтэнтычныя прыклады рыбалоўных прылад, якія выкарыстоўваліся на Віцебшчыне ў розныя часы ад старажытнасці да нашых дзён. Праз прагляд выставы сувенірнага абутку можна было ўбачыць гісторыю абутку, тэндэнцыі моды, яе асаблівасці ў розных краінах. Шэраг з патоку абутку з’яўляюцца ўзорамі высокага мастацтва і выкананы з густам. У горадзе, які мае некалькі абутковых прадпрыемстваў і даўнія традыцыі, стварэнне музея шавецкай справы вельмі актуальна.

У складаных умовах канца XX – пач. XXI ст. Віцебску ўдалося захаваць музейную сетку, а таксама тэндэнцыю яе далейшага росту, якая адпавядае агульнасусветнай практыцы павелічэнная колькасці музеяў прыкладна на 10% кожныя 5 гадоў. Аднак, Віцебск адстае ад еўрапейскіх гарадоў па колькасці музеяў “на душу насельніцтва”.

Працягваецца курс на мадэрнізацыю музейных устаноў з мэтай іх адаптацыі да сучасных тэхнічных умоў. Пачалося ўкараненне ў музейную дзейнасць інфармацыйных тэхналогій і сучасных прафесійных стандартаў. У новых умовах музеі працягваюць выконваць свае функцыі, якія мала змяніліся з часоў з’яўлення самой ідэі стварэння першых скарбніц культуры. Больш за тое, ва ўмовах нарастаючай глабалізацыі, якая нівелюе культурную розніцу, музеі з’яўляюцца запатрабаваным грамадствам інстытутам, якія прызваны захоўваць нацыянальную культуру краіны, спрыяць выхаванню гістарычнай свядомасці, нацыянальнай самасвядомасці, грамадзянскіх якасцяў, эстэтычных густаў грамадзян.

# 2. МУЗЕІ ВІЦЕБСКА

## 2.1. Дзяржаўныя музеі

(музеі і выставачныя залы, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама і аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама)

*Віцебскі абласны краязнаўчы музей (ВАКМ)*

Музей створаны ў 1918 г. на аснове калекцый В. Федаровіча, А. Брадоўскага, ВВАК, Віцебскага губстаткамітэта, царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча. Знаходзіцца ў цэнтры горада, у будынку ратушы. З'яўляецца адным з найбуйнейшых у Беларусі. У фондах каля 200 тыс. музейных прадметы. У склад пастаяннай экспазіцыі ўваходзяць некалькі выстаў: "Старажытны Віцебск IX–XIV стст.", "Абаронцы Айчыны 1941–1945 гг.", "Прырода Віцебскага краю".

Экспазіцыя "Старажытны Віцебск" размяшчаецца ў дзвюх залах на першым паверсе. У ёй распавядаецца пра з'яўленне чалавека на тэрыторыі сучаснай Віцебшчыны, заснаванне і рост горада, існаванне Віцебска як цэнтра самастойнага княства і часу ўваходжання ў склад ВКЛ. Экспануюцца больш за 1 тыс. прадметаў, знойдзеных у час раскопак у беларускім Падзвінні і Верхнім Падняпроўі. Асобныя вітрыны прысвечаны заняткам і рамёствам даўніх жыхароў Віцебшчыны: кавальскай справе (нажы, сярпы, замкі, ключы, падковы), ювелірнай (пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, каралі, шыйныя грыўні), вырабам са скуры, косці, дрэва. Сярод найбольш цікавых прадметаў: калекцыя каменных сякер эпохі неаліту, у тым ліку каменная сякера II тысячагоддзя да н.э., якая выкарыстоўвалася ў якасці амулета-абярэга, баявыя бранзалеты, берасцяная грамата.

Другая пастаянная выстава, "Абаронцы Айчыны", змяшчаецца ў чатырох залах. У першай зале распавядаецца пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны, абарончыя баі на тэрыторыі Віцебшчыны. Другая прысвечана перыяду акупацыі, які доўжыўся з ліпеня 1941 г. па ліпень 1944 г. Змяшчаюцца здымкі, дакументы аб пяці лагерах смерці ў Віцебску. Рэканструяваны выгляд барака канцлагера "5-ы полк", у якім было закатавана больш за 80 тыс. савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян. На сценах змешчаны нашыўкі вязняў, прылады для катаванняў, якімі карысталіся фашысцкія ахоўнікі, аб'явы акупантаў. Тры блокі фотаздымкаў распавядаюць пра падпольную барацьбу савецкіх патрыётаў, якая распачалася адразу пасля акупацыі горада.

У наступнай зале адлюстроўваецца партызанская барацьба на Віцебшчыне. У экспазіцыі – фотаздымкі, асабістыя рэчы, прадметы

побыту, вопратка, дакументы, газеты, якія выдаваліся ў тыле ворага, а таксама прадметы, якія выкарыстоўваліся партызанамі ў баявых аперацыях: вугальная міна, самаробныя аўтамат, граната.

Асобная частка экспазіцыі прысвечана вызваленню Віцебшчыны ў выніку аперацыі "Баграціён" летам 1944 г. На вітрынах змяшчаюцца нямецкая і савецкая агнястрэльная зброя, узнагароды, сцягі воінскіх злучэнняў, якія прымалі ўдзел у вызваленні Віцебшчыны.

У асобнай зале змешчаны жывапісныя і скульптурныя творы – выявы Герояў Савецкага Саюза – ураджэнцаў Віцебшчыны: А. Гараўца (адзіны лётчык у свеце, які ў адным баі збіў 9 самалётаў), партызанскіх камандзіраў і выдатных падпольшчыкаў К. Заслонава, П.М. Машэрава, М. Сільніцкага, М.П. Шмырова.

Трэцяя пастаянная выстава – "Прырода Віцебскага краю" – дае магчымасць атрымаць уяўленне пра жывёльны і раслінны свет Беларускага Паазер'я. 11 дыярам адлюстроўваюць жыццё розных груп жывёл і птушак. Агляд лепш пачаць з дыярамы "Кар'ер Гралёва", у якім здабываюць даламіт, які ўтварыўся больш за 300 млн гадоў таму. У пародзе можна ўбачыць акамянеласці і адбіткі істот, якія існавалі шмат гадоў таму: губак, імшанак, іглаexistence скурых, каралаў, малюскаў. Ёсць і прадстаўнікі больш позніх перыядаў, у тым ліку эпохі мамантаў. Прадстаўлены калекцыі малюскаў, насякомых, гербарыі. Цікавыя і іншыя дыярамы: "Дзікі", "Асвейскае возера", "Глушцы на такавішчы", "На лясной сцяжыне", "На лузе", "У чаканні зімы", "Зімовае паляванне", "Ельня".

У фондах зберагаюцца і іншыя цікавыя зборы, якія перыядычна выстаўляюцца на часовых выставах: дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; вышыўкі беларускіх майстроў 1-й пал. XIX ст.; этнагарафіі і фальклору, якія адлюстроўваюць побытавае жыццё жыхароў Беларускага Паазер'я. У музеі захоўваюцца буйнейшая ў краіне нумізматычная калекцыя; збор еўрапейскага, рускага, беларускага фарфору і шкла (налібоцкай і ўрэцкай мануфактур) XVIII–XIX стст. Цікавасць выклікае адна з буйнейшых ва Усходняй Еўропе масонская калекцыя еўрапейскіх і расійскіх лож XVIII–XIX стст. На аснове калекцыі стралковай, халоднай, параднай зброі XVIII–XIX стст. краін Еўропы і Усходу, якая дасталася ВАКМ ад В. Федаровіча, мэтазгодна стварыць асобны музей.

Сапраўднай каштоўнасцю, вартай уключэння ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі, з'яўляецца па-майстэрску выкананы срэбраны рыцарскі пояс. На асобных пласцінах змешчаны партрэты польскіх каралёў, на спражцы – сцэны з каранацыі Стэфана Баторыя, што дае падставу называць гэты артэфакт "Поясам Стэфана Баторыя". У фондах знаходзяцца артэфакты і дакументы, якія належалі выдатным людзям, напрыклад кларнет XVII ст. караля Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага, лісты выдатнага пісьменніка 1-й пало-

вы XIX ст. Я. Баршчэўскага да Юліі Шапялевіч-Корсак, граматы XVI–XVII стст. з аўтографамі каралёў Рэчы Паспалітай, ювелірныя ўпрыгожванні, унікальныя ўзнагароды розных часоў і народаў. У калекцыі ВАКМ захоўваюцца 13 так званых яфімкаў з прыкметай (1654), усяго ў свеце захавалася 900 такіх манет.

У асобных залах праводзяцца часовыя выставы рознай тэматыкі. Для жадаючых арганізуюцца экскурсіі з пад'ёмам на вежу ратушы, каб палюбавацца панарамай горада з вышыні 40 метраў.

Адрас: вул. Леніна, 36.
Тэл.: +375 212 36-05-87.
Сайт: www.ratusha.by.
E-mail: vokm@rambler.ru.
Час наведвання: 10.00–18.00.
Выходны: аўторак.

*Віцебскі Мастацкі музей (філіял ВАКМ)*

Знаходзіцца ў самым цэнтры горада, на плошчы Свабоды, у будынку былога Акруговага суда, узведзенага ў 1883 годзе па праекце архітэктара І. Камінскага. У лістападзе 1917 г. тут месціўся Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які каардынаваў захоп улады бальшавікамі, у савецкі час тут знаходзіўся Віцебскі абкам партыі, абкам ЛКСМБ. Будынак дайшоў да нашых часоў амаль без зменаў.

Музей створаны 22 лютага 1992 г. Плошча экспазіцыі 700 м². Экспазіцыйна-выставачная плошча – 858,1 м². Асноўны фонд налічвае каля 5 тыс. адзінак захоўвання, навукова-дапаможны – больш за 1,7 тыс. У музеі зберагаюцца калекцыі станковага алейнага жывапісу (больш за 850 прадметаў), графікі (больш за 5,3 тыс. работ), тэмпернага жывапісу (больш за 230 работ), скульптуры (160 музейных прадметаў), калекцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (больш за 2 тыс. прадметаў).

Асноўная экспазіцыя размешчана ў некалькіх залах на другім паверсе і адлюстроўвае развіццё жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ад XVIII да XX ст.

У асобным зале экспануюцца калекцыя ікон, партрэты рэлігійных і дзяржаўных дзеячаў, калекцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (у тым ліку ўнікальная разьба па дрэве), кафлі. Гонар музея – карціны вядомых рускіх мастакоў І. Айвазоўскага, У. Баравікоўскага, А. Васняцова, П. Верашчагіна, К. Каровіна, І. Крамскога, І. Куінджы, Б. Кустодзіева, І. Левітана, У. Макоўскага, В. Паленава, В. Пярова, А. Рыцоні, І. Шышкіна і іншых. Асаблівы гонар калекцыі – некалькі прац І.Я. Рэпіна, які на працягу 1892–1900 гг. жыў у сваім маёнтку "Здраўнёва" непадалёк ад Віцебска. Для царквы ў в. Слабада (цяпер г.п. Руба-2), каля якой быў пахаваны бацька мас-

така, ён напісаў абразы на цынку “Хрыстос з кубкам” і “Божая маці з немаўлём”, якія цяпер экспануюцца ў музеі.

Творчасць беларускіх мастакоў і мастакоў, якія працавалі ў Беларусі, прадстаўлена палотнамі І. Хруцкага, С. Заранкі, С. Жукоўскага, Ю. Клевера, В. Бялыніцкага-Бірулі. Асобная зала прысвечана працам віцебскага мастака мяжы XIX – пач. XX ст. – Юдэля Пэна. У музеі захоўваецца найбагацейшая калекцыя ў Беларусі – 166 жывапісных, 17 графічных твораў. Вядомая на ўвесь свет віцебская мастацкая школа прадстаўлена работамі С. Юдовіна, Д. Якерсона, А. Рома, Я. Мініна, С. Гершова, З. Азгура, Л. Лейтмана, а таксама працамі выкладчыкаў і выпускнікоў Віцебскага мастацкага тэхнікума: М. Даўгялы, С. Лі, В. Сухаверхава, В. Цвірко, С. Андруховіча, І. Ахрэмчыка, Г. Бржазоўскага.

На першым паверсе створаны персанальныя залы вядомых віцебскіх мастакоў П. Явіча і Ф. Гумена. Працы мастакоў перыядычна экспануюцца на тэматычных выставах. У залах трэцяга паверха і цокальным экспануюцца часовыя выставы рознай тэматыкі.

У фондах музея захоўваюцца станковыя карціны сучасных віцебскіх мастакоў сяр. XX – пач. XXI ст.: В. Дзежыца, І. Бароўскага, В. Ціхаменкі, Л. Шчамялёва, А. Каржанеўскага, У. Кухарава, С. Гваздзікава, А. Талкача, П. Явіча, А. Скавародкі, В. Шылко, А. Салаўёва, С. Кухто, А. Малея, А. Краўчанкі, А. Кавалёва, А. Доманава, Ю. Кегелева і іншых. Графічныя работы сучасных віцебскіх мастакоў прадстаўлены працамі Ф. Гумена, У. Вальнова, Л. Воранавай, У. Іванова, А. Карпана, П. Кірыліна, Р. Клікушына, А. Люцко, А. Мемуса, В. Ральцэвіча, І. Сталярова, У. Шапо, І. Шкуратава, Г. Шутава, А. Шыёнка і іншых майстроў.

У музеі захоўваецца каштоўная калекцыя дэкаратыўнаприкладнога мастацтва, якая ўключае ў сябе габелены і вышыўку XVIII ст., шкляныя вырабы, зробленыя на ўрэцкай і свержаньскай мануфактурах (першых на беларускіх землях), узоры парцаляны расійскіх заводаў Гарднера, Папова, Кузняцова, а таксама ўзоры заходнееўрапейскага і ўсходняга прыкладнога мастацтва.

Калекцыя скульптуры прадстаўлена працамі выдатных беларускіх скульптараў З. Азгура, А. Бембеля, А. Глебава, Д. Якерсона, сучасных віцебскіх мастакоў І. Казака, А. Гваздзікава, В. Магучага, А. Слепава, Ф. Максімава. У калекцыі скульптуры змяшчаюцца таксама творы Г. Рыдэра, А. Обера, У. Бяклемішава, маецца некалькі твораў вядомага расійскага скульптара М. Андрэева.

Адрас: вул. Леніна, 32.
Тэл.: +375 212 36-31-45, 36-22-31.
Сайт: www.ratusha.by.
Час наведвання: 10.00–18.00.

*Віцебскі Літаратурны музей (філіял ВАКМ)*

Музей створаны 26 кастрычніка 1988 г. паводле пастановы Віцебскага гарвыканкама на хвалі нацыянальнага адраджэння другой пал. 1980-х гг. Стварэнне такога музея было вельмі актуальным на фоне заняпаду беларускай мовы, нізкага ўзроўню гістарычнай свядомасці і зніжэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. У лютым 1990 г. адбылося абмеркаванне праекта, 14 траўня 1998 г. музей адкрыўся для наведвальнікаў. Плошча экспазіцыі – 218 м². Агульная плошча – 250 м². Акрамя асноўнай экспазіцыі, ёсць зала для правядзення выстаў. У фондах больш за 1 тыс. экспанатаў.

Музей знаходзіцца ў цэнтры горада, на плошчы Свабоды, у будынку былой электрычнай станцыі, якая выпрацоўвала электрычнасць для трамвая – першага ў Беларусі, трэцяга ў Расійскай імперыі. Будынак з’яўляецца помнікам прамысловай архітэктуры канца XIX ст. На будынку ў 2005 г. была прымацавана памятная шыльда, прысвечаная першай у Віцебску электрастанцыі (скульптар В. Магучы).

Экспазіцыя прысвечана развіццю беларускай літаратуры на Віцебшчыне па асобных этапах ад XII да XX ст. Яна пачынаецца з разгляду гісторыі сярэднявечнай Полаччыны, якая як частка Віцебшчыны з’ўлялася важным духоўным цэнтрам, з якога пачыналася распаўсюджанне пісьменства і асветы на беларускіх землях. Прадстаўлены матэрыялы пра важнейшыя асяродкі духоўнасці ў рэгіёне – Полацк, Друцк, славутых асоб (Ефрасінню Полацкую). У экспазіцыі можна ўбачыць старадрукі і муляжы нацыянальных рэліквій нашай краіны – “Друцкага Евангелля”, слоўнік П. Бярынды, прадметы пісьменства сярэднявечных людзей – пісала, воскавыя дошчачкі. Другі этап прысвечаны распаўсюджанню ідэй Адраджэння ў XV–XVI стст., жыццю і дзейнасці беларускага і ўсходнееўрапейскага першадрукара Францыска Скарыны, а таксама Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага, якія адыгралі важнейшую ролю ў развіцці культуры нашай краіны і Еўропы ў цэлым.

Асобным этапам вылучаюцца XVIII–XIX стст., дзе прадстаўлена дзейнасць пісьменнікаў-ураджэнцаў Віцебшчыны, якія працавалі ў дыскурсе польскай і беларускай культуры – Францішка Багамольца, Францішка Князьніна, Францішка Вуля. Асобна адзначым дзейнасць Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Аляксандра Рыпінскага, Геранімa Марцінкевіча, Янкі Журбы, якія пачыналі пісаць творы на беларускай мове. Менавіта Ігнацыя Манькоўскага, які жыў у наваколлях Віцебска, доўгі час лічылі аўтарам першай паэмы, напісанай на беларускай мове, – “Энеіды навыварат”. Ураджэнцам Віцебшчыны быў Канстанцін Вераніцын, аўтар другой паэмы, напісанай на беларускай мове, – “Тарас на Парнасе”, што даказана выдатным даследчыкам усходнеславянскай літаратуры Г. Кісялёвым. Шмат матэрыялаў

прысвечана рускім пісьменнікам, якія пэўным чынам былі звязаны з Віцебшчынай, – А. Пушкіну, М. Гогалю, І. Лажэчнікаву, І. Буніну, Г. Успенскаму, А. Грыну, У. Маякоўскаму.

Асобна трэба адзначыць экспазіцыю, звязаную з легендамі і паданнямі Віцебшчыны. У в. Мурагі сучаснага Расонскага раёна нарадзіўся выдатны фалькларыст і пісьменнік Ян Баршчэўскі, аўтар кнігі "Шляхціц Завальня, ці Беларусь у фантастычных апавяданнях". Радзімай выдатнага беларускага этнографа і фалькларыста М.Я. Нікіфароўскага з'яўляецца в. Вымна каля Віцебска. Яго праца "Нячысцікі" – буйнейшае даследаванне па міфалогіі беларусаў.

Складаны міжваенны перыяд сацыялістычнага будаўніцтва (1917–1941), які характарызаваўся росквітам беларускай літаратуры ў 1920-я гг. і страшнымі рэпрэсіямі, у выніку якіх 80% нацыянальнай гуманітарнай інтэлігенцыі было расстраляна, кінута ў турмы, выслана за межы Радзімы. Сярод беларускіх, рускіх, польскіх, яўрэйскіх пісьменнікаў так званага "расстралянага пакалення" прадстаўлены матэрыялы пра жыццё і творчасць ураджэнцаў Віцебшчыны – І. Батрака, У. Дубоўкі, М. Зарэцкага, Т. Кляшторнага. В. Ластоўскага і іншых. Частка экспазіцыі прысвечана беларускай літаратуры гадоў Вялікай Айчыннай вайны і пісьменнікам, якія загінулі ў яе часы (А. Гейнэ, Р. Жалязняк і інш.).

Пасляваеннае развіццё літаратуры Віцебшчыны адлюстравана ў дзейнасці такіх геніяў нацыянальнай літаратуры, як Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Пятрусь Броўка.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 13.

Тэл.: +375 212 36-50-18; 37-05-89.

Музей на дадзены момант знаходзіцца на рэканструкцыі.

*Музей прыватных калекцый (філіял ВАКМ)*

Створаны ў адпаведнасці з пастановай упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама 9 верасня 1992 г. У аснове калекцыі прыватны збор (7007 рэчаў) выдатнага віцебскага калекцыянера Івана Данілавіча Галькевіча (1898–1976), які быў перададзены гораду ўдавой Аляксандрай Пятроўнай Галькевіч. Адчынены ў маі 1996 г., размешчаны ў будынку былога ўпраўляючага Сялянскім пазямельным банкам, у якім у савецкія часы пражывалі першыя сакратары Віцебскага абласнога камітэта КПБ.

Экспазіцыя змяшчаецца ў 4-х залах. Плошча – 116 м². У фондах больш за 7 тыс. адзінак захоўвання. Аснову складаюць калекцыя І.Д. Галькевіча, а таксама іншыя калекцыі, падараваныя віцебскімі калекцыянерамі. Напрыклад, М.І. Калковым, які перадаў музею каля 1,5 тыс. прадметаў. У пастаяннай экспазіцыі знаходзіцца 1400 экспанатаў.

У першай зале змяшчаюцца археалагічная частка збору (каменныя сякеры), калекцыі пячатак, знакаў і жэтонаў розных краін і часоў, скульп-

туры (з 30 выстаўляецца 12 прадметаў), курыльных трубак, літаратурная (кнігі з дарчымі надпісамі, рэдкія экзэмпляры featured рознага кшталту выданняў, часопісаў). У фондах музея захоўваюцца кнігі з аўтографамі І. Тургенева, А. Чэхава, У. Караленкі, М. Прышвіна, У. Неміровіча-Данчанкі, І. Рэпіна, Я. Коласа, Я. Купалы, М. Шолахава, М. Ісакоўскага, К. Сіманава, С. Міхалкова, І. Эрэнбурга і іншых выбітных асоб. Ёсць рэчы аднаго з пачынальнікаў рускага футурызму Д. Бурлюка, злепак з пасмяротнай маскі Л. Бетховена. На асобным стэндзе прадстаўлена інфармацыя пра жыццёвы і прафесіны шлях І.Д. Галькевіча.

У другой зале знаходзіцца нумізматычная калекцыя, у якой прадстаўлены манеты і плацёжныя сродкі (ракавіны кауры, манеты старажытнага Рыма, сярэбраныя грыўны), якімі карысталіся на тэрыторыі Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён (з наяўных 3500 экспанатаў прадстаўлены каля 600). У склад калекцыі ўваходзіць самая вялікая на Беларусі калекцыя нямецкіх сярэбраных манет перыяду 1876–1933 гг.

У трэцяй зале прадстаўлена адна з найбуйнейшых у краіне калекцый памятных медалёў, значкоў Расіі і СССР.

У чацвёртай змешчана калекцыя ўзнагарод розных краін і часоў (Венгрыі, Германіі, Ірана, Расіі, СССР, Турцыі, Японіі і інш.). Сярод найбольш цікавых – ордэн “За Радзіму” (Аўстра-Венгерская імперыя), “За заслугі” (Манчжоў-Го), ордэн Сяброўства (КНР), ордэн “Перамогі і Свабоды” (ПНР), Ганаровы знак ордэна Арла (Эстонія), ордэн Свяшчэннага скарбу (Японія) і іншыя.

У дзвюх асобных залах і калідоры перыядычна экспануюцца калекцыі з прыватных збораў віцебскіх калекцыянераў, а таксама грамадскіх арганізацый і дзяржаўных музеяў featured рознай накіраванасці, у тым ліку баністыкі, сфрагістыкі, фалерыстыкі. Так, за час дзейнасці музея тут экспанаваліся калекцыі паштовак з відамі Віцебска канца XIX–XX стст., самавараў, этыкетак, бутэлек, зброі, вайсковай вопраткі, ваенна-гістарычных мініяцюр (ваенная тэхніка Другой сусветнай вайны) і інш.

Адрас: вул. 1-я Даватара, 26.

Тэл.: +375 212 37-22-69.

Час наведвання: 10.00–18.00.

Выходны: панядзелак.

*Музей-сядзіба І. Рэпіна “Здраўнёва” (філіял ВАКМ)*

Створаны 11 жніўня 1988 г. па загадзе Міністэрства культуры як філіял ВАКМ. Адчынены ў 2000 г. Знаходзіцца каля в. Койтава, у 16 км на поўнач ад Віцебска. Уяўляе адноўленую сядзібу вядомага рускага мастака І.Я. Рэпіна, які набыў тут маёнтак у 1892 г., збудаваў па асабістым праекце сядзібу і жыў вясну–лета–восень да 1902 г.

У Здраўнёве мастаком былі напісаны вядомыя карціны – “Беларус”, “Асенні букет”, “Месячная ноч”, “Дуэль”, “На сонцы”, “Яблыні цвітуць”, “На Заходняй Дзвіне. Усход сонца” і іншыя.

Комплекс музея-сядзібы ўключае ў сябе сядзібны дом, дом аканома, склеп, парк. Каля гаспадарскага дома ўсталяваны помнік выдатнаму мастаку. Плошча ахоўнай зоны – 8,8 га, зоны рэгуліравання забудовы – 35 га. Плошча экспазіцыі ў галоўным будынку – 212 м².

У галоўным доме размешчана мемарыяльная экспазіцыя, прысвечаная вядомаму рускаму майстру. У першай зале распавядаецца пра мастака, абставіны набыцця ім маёнтка Сафіёўка, гісторыю пабудовы сядзібы “Здраўнёва”. У другой зале прадстаўлены матэрыялы з гісторыі жыцця І.Я. Рэпіна ў маёнтку, адносінаў з мясцовымі сялянамі, якія вельмі паважалі мастака. У наступных залах – гасцінай, сталовай і іншых – па магчымасці адноўлена аўтэнтычная абстаноўка канца XIX ст. З мэтай стварэння атмасферы, у якой жыў, працаваў і адпачываў выдатны мастак, у залах змешчаны мэбля, кнігі, побытавыя рэчы, знаходкі, якія былі зроблены ў выніку археалагічных раскопак у 1990-я гг., дакументы, фотаздымкі Віцебска і наваколляў канца XIX ст., выкарыстаны копіі малюнкаў, замалёвак і фотаздымкаў І.Я. Рэпіна, якія ён рабіў у наваколлях Здраўнёва. У майстэрні змешчаны копіі найбольш вядомых карцін І. Рэпіна, напісаных у “віцебскі перыяд”: “Беларус”, “Асенні букет. Партрэт дачкі”. Найбольш каштоўныя экспанаты, якія маюць дачыненне да Я. Рэпіна, – рэпінскія акварэлі, малюнкі, два абразы на цынку, напісаныя для Слабодскай царквы, – захоўваюцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

На другім паверсе адлюстраваны жыццёвыя лёсы нашчадкаў І.Я. Рэпіна, у тым ліку сям’і малодшай дачкі Таццяны Рэпінай-Язевай, якая з 1918 па 1930 г. пражывала ў Здраўнёве. На ўсіх нашчадкаў Рэпіна былі падрыхтаваны дакументы для высылкі ў Сібір, і толькі па асабістым загадзе І. Сталіна сваякам было дазволена выехаць на ўз’яднанне з сям’ёй бацькі ў Фінляндыю. На трэцім паверсе размяшчаюцца часовыя выставы. У летні перыяд можна падняцца на вежу і ўбачыць жывапісныя наваколлі Здраўнёва. У доме аканома размяшчаюцца адміністрацыя музея і асобная зала, у якой праводзяцца часовыя выставы рознай тэматыкі.

Тэрыторыя добраўпарадкавана. Захавалася сажалка, абсаджаная ніцымі вербамі. На беразе зроблена альтанка, да вады вядзе лесвіца. Усталявалася традыцыя наведвання сядзібы вясельнымі картэжамі.

Адрас: Віцебскі р-н, г.п. Руба, музей-сядзіба “Здраўнёва”.

Тэл.: +375 212 29-16-73.

Праезд на гарадскіх аўтобусах № 26 і 26-а, ад прыпынку “Койтава” – пешкі 1,5 км.

Каса працуе: 11.00–17.30.

Выходныя: панядзелак, аўторак.

*Экспазіцыя памяці патрыётаў Віцебшчыны (філіял ВАКМ)*

Экспазіцыя размешчана ў падвалах будынка Віцебскай духоўнай семінарыі (вул. Крылова, 7). У час нямецка-фашысцкай акупацыі Віцебска са жніўня 1941 па снежань 1943 г. тут размяшчалася аператыўная каманда службы бяспекі нацыстаў (СД-9). Сюды дастаўлялі арыштаваных падпольшчыкаў, грамадзян, западозраных у сувязях з партызанамі. Пасля допытаў і катаванняў, якія праводзіліся на верхніх паверхах будынка, ахвяраў пераводзілі ў падвалы, дзе яны, як правіла, змяшчаліся да расстрэлу. Па няпоўных дадзеных, толькі за перыяд з 18 ліпеня па 18 снежня 1942 г. праз турму СД прайшло больш за 3 тыс. чалавек.

У камерах, у якіх утрымліваліся савецкія грамадзяне, створана экспазіцыя, якая распавядае пра арганізацыю і дзейнасць віцебскага падполля і яго герояў: В. Харужай, С. Панковай, Е. Суранавай, Л. Бярозкінай, А. Ермаковіч, Р. Шыраковай, Э. Грабянькова, Л. Марчанкі і інш. Сцены і самі камеры з’яўляюцца экспанатамі. Рэстаўраваны аўтэнтычныя надпісы, што пакінулі вязні, якіх фашысты прыгаварылі да смерці. Сучасная экспазіцыя аформлена ў 2003 г.

Адрас: вул. Леніна, 32 (вул. Крылова, 7).

Тэл.: +375 212 36-22-31, 36-31-45, 36-05-87.

Адрас у Інтэрнэце: www.ratusha.by.

Час наведвання: 10.00–18.00.

Выходны: аўторак.

Экскурсія замаўляецца ў галоўным будынку ВАКМ на вул. Леніна, 32 (Ратуша).

*Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова*

Музей адчынены ў 1969 г. і прысвечаны жыццю і дзейнасці выдатнага ўраджэнца Віцебшчыны, аднаго з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі – Міная Піліпавіча Шмырова.

Экспазіцыя размешчана ў 4-х залах плошчай 216 м². Ва ўнутраным дворыку маецца выставачная пляцоўка памерам 35 м². У запасніках музея знаходзіцца больш за 8 тыс. адзінак захоўвання, з іх больш за 1,2 тыс. – навукова-дапаможнага фонду. Першы раздзел экспазіцыі прысвечаны маладосці М.П. Шмырова, яго службе ў войску, партыйнай і савецкай рабоце ў 1920–1930-я гг., арганізацыі і першым баявым дзеянням атрада “Бацькі Міная” да ўтварэння 1-й Беларускай партызанскай брыгады ў наваколлях Суража і Віцебска. У другой частцы асвятляецца разгортванне партызанскай барацьбы на Віцебшчыне, супрацьстаянне з карнікамі, вызваленне Віцебшчыны ў выніку аперацыі “Баграціён”.

У трэцяй зале распавядаецца аб працоўнай дзейнасці былога камбрыга ў пасляваенны час. Прадстаўлены матэрыялы пра тое, як ушанавана імя партызанскага камандзіра, – фотаздымкі помнікаў, вуліц, названых у гонар Героя, эксперыментальнай базы, мадэль карабля, які насіў імя М.П. Шмырова. Яго імем у Віцебску былі названы вуліца, парк, школа, ГПТВ № 37, установлены помнікі і мемарыяльныя дошкі. Дэманструецца дакументальны фільм “Бацька Мінай”, зняты на кінастудыі “Беларусьфільм”. У асобнай зале адноўлена абстаноўка рабочага кабінета былога легендарнага партызанскага камандзіра і савецкага работніка. У экспазіцыі – дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы М.П. Шмырова.

Нагадаем сумны факт аб асабістай трагедыі М. Шмырова як бацькі. Чацвёра дзяцей партызанскага камандзіра былі захоплены фашыстамі ў заложнікі. М. Шмырову было прапанавана здацца ў палон ў абмен на жыццё дзяцей. Не верачы словам фашыстаў і маючы загад камандавання, М. Шмыроў не пагадзіўся на прапановы. Дзеці былі расстраляныя. У памяць аб гэтых падзеях у г.п. Сураж узведзены помнік, а паэт Аркадзь Куляшоў напісаў паэму “Балада аб заложніках”.

У экспазіцыі прадстаўлены этапы станаўлення і развіцця партызанскага руху на захопленай ворагам тэрыторыі БССР, звесткі пра сумесныя дзеянні партызан і салдат Чырвонай Арміі пры вызваленні Суражскага раёна, утварэнні “Віцебскіх/Суражскіх варот”. У экспазіцыі прадстаўлена шмат зброі, тагачаснае адзенне, асабістыя рэчы партызан, воінскія ўзнагароды, лістоўкі, партызанскія сцягі, медыцынскія інструменты, якімі карысталіся ў партызанскім шпіталі. Пад столлю змешчана мадэль самалёта По-2, на якім з “Вялікай зямлі” партызанам дастаўляліся боепрыпасы, выбухоўка, эвакуіраваліся параненыя. Асобна прадстаўлены матэрыялы пра пераход на бок партызан 825-га батальёна Волжска-татарскага легіёна.

У выставачнай зале праводзяцца часовыя выстаўкі рознай тэматыцы. Навуковымі супрацоўнікамі распрацаваны музейныя ўрокі на асобныя тэмы гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сярод якіх – “Рэйкавая вайна”, “Акупацыйны рэжым”, “Карныя экспедыцыі супраць партызан і мірнага насельніцтва”, “Віцебскія вароты” і іншыя. Цікавымі будуць і музейна-адукацыйныя праграмы: “Партызанскі рух на Віцебшчыне ў XVII–XX стст.”, “Адлюстраванне вобраза партызан у творах літаратуры і мастацтва”, ваенна-гістарычная гульня “Старонкі ваеннай гісторыі”.

Ва ўнутраным двары музея размяшчаюцца прыклады воінскай тэхнікі – артылерыйская гармата, мінамёт, макет “Рэйкавая вайна”. Створаны зямлянкі. Побач высаджаны былымі партызанамі мемары-

яльны парк з дубовай алеяй, дзе ўстаноўлены помнік М.П. Шмырову (скульптар З. Азгур).

Адрас: вул. Чэхава, 4.
Тэл.: +375 212 36-69-54.
Адрас у Інтэрнэце: www.shmyrev.musuem.by.
E-mail: museum_smurev@tut.by.
Час наведвання: 10.00–18.00.
Выходны: панядзелак.

*Віцебскі гарадскі музей воінаў-інтэрнацыяналістаў*

Створаны 17 снежня 1992 г. паводле рашэння Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў і ініцыятывы гарадской і абласной асацыяцый ветэранаў вайны ў Афганістане. Адчынены для наведвання ў 1995 г. Музей размешчаны на першым паверсе шматпавярховага дома на вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў, які быў пабудаваны для афіцэраў, што служылі ў Афганістане. Экспазіцыя размешчана ў 3-х залах. Плошча – 136 $м^2$. У асноўным фондзе захоўваецца каля 8 тыс. адзінак захоўвання, у навукова-дапаможным – больш за 7,5 тыс.

Важнай прычынай таго, што музей быў створаны ў Віцебску, з'яўляецца той факт, што на Віцебшчыне размяшчалася 103-я гвардзейская паветрана-дэсантная дывізія і 339-ы ваенна-транспартны авіяцыйны полк, якія першымі былі ўведзены ў Афганістан і былі выведзены ў ліку апошніх.

Экспазіцыя размешчана ў 3-х залах і мае назву "Афганістан. Як гэта было: праблемы вайны і міру на фоне падзей 1979–1989 гг.". У першай зале прадстаўлена інфармацыя пра гісторыю, культуру, традыцыі, побытавае жыццё народаў, якія насяляюць Афганістан. Адлюстравана гісторыя развіцця канфлікту, які прывёў да ўводу савецкіх войск у краіну і пачатку грамадзянскай вайны, першых баявых дзеянняў. Сярод найбольш цікавых экспанатаў, прадстаўленых у экспазіцыі, – трафейная зброя, боепрыпасы і ваенны рыштунак замежнай вытворчасці (усходнія кінжалы, гармата-гаўбіца, шабля, міны, снарады, буйнакаліберны кулямёт, мінамёт), нацыянальныя касцюмы народаў, якія насяляюць Афганістан, а таксама ўзоры ваеннай формы, у якой служылі савецкія афіцэры і салдаты; прадметы побыту афганцаў (збаны, малельныя дыванкі, упрыгожванні). На сцяне змяшчаюцца аб'ёмная карта Афганістана, карты размяшчэння і баявых аперацый савецкіх воінскіх злучэнняў у Афганістане. Асобна прадстаўлены ўзнагароды, асабістыя рэчы, фотаздымкі, лісты ўдзельнікаў афганскай вайны.

У другой зале асвятляецца роля 103-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі і 339-га ваенна-транспартнага авіяцыйнага палка, а таксама іншых падраздзяленняў савецкіх войскаў, якія

дыслацыраваліся ў Афганістане. Трэцяя зала прысвечана 151 ўраджэнцу Віцебшчыны, якія загінулі і памерлі ад ран і хвароб пры службе за межамі СССР, у лакальных канфліктах у Афганістане, Анголе, В'етнаме, Егіпце, Карэі, Сірыі, Эфіопіі і іншых краінах.

У 1997 г. непадалёк ад музея адкрыты помнік "Боль" у памяць загінуўшых воінаў-інтэрнацыяналістаў, які ўключае ў сябе мемарыяльную капліцу, помнік і сцяну са спісамі ахвяр афганскай вайны – ураджэнцаў Віцебшчыны. На ганку дома, у якім змяшчаецца музей, усталяваны корпус марской міны.

Адрас: вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 20.
Тэл.: +375 212 22-39-72, 61-40-75, 23-82-53.
Адрас у Інтэрнэце: w3.vitebsk.by/afgan.
Час наведвання: панядзелак–пятніца: 10.00–18.00,
субота–нядзеля: 9.00–17.00.

*Музей М. Шагала ў Віцебску*

Заснаваны паводле рашэння Віцебскага гарвыканкама 23 лютага 1991 г. Размяшчаецца ў 2-х будынках і складаецца з дома-музея і арт-цэнтра: "**Дом-музей Марка Шагала**" і "**Арт-цэнтр Марка Шагала**".
Адрас: вул. Савецкая, 25.
Тэл./факс: +375 212 37-27-37; 36-03-87.

*Дом-музей Марка Шагала*

Адкрыты для наведвальнікаў у 1997 г. Змешчаны ў пабудаваным бацькам будучага мастака доме, у якім М. Шагал правёў дзіцячыя і юнацкія гады.

Экспазіцыя размяшчаецца ў некалькіх пакоях і складаецца з раздзелаў: "Бакалейная лаўка", "Пакой хлопчыкаў", "Гасцёўня", "Чырвоны пакой", "Кухня". Інтэр'ер дома і ўбранства пакояў былі рэканструяваны дзякуючы ўспамінам і аўтабіяграфічнай кнізе "Маё жыццё", а таксама па работах М. Шагала, выкананых у віцебскі перыяд яго жыцця, з прыцягненнем архіўных дакументаў.

З мэтай аднаўлення дакладнай абстаноўкі і ўзнаўлення духу часу пры стварэнні экспазіцыі выкарыстаны прадметы яўрэйскага побыту мяжы XIX–XX стст., копіі архіўных дакументаў, фотаздымкі, копіі работ мастака, якія маюць дачыненне да жыцця ў доме. Прадстаўлены і некалькі аўтэнтычных рэчаў, якія належалі сям'і мастака. Аўтар экспазіцыі – віцебскі мастак Ю.С. Чарняк.

Пры будынку музея адноўлены дворык, выкладзены брукаванкай і невялічкі садзік, у якім усталяваны помнік "Віцебская мелодыя на французскай скрыпцы", прысвечаны М. Шагалу (віцебскі скульптар В. Магучы).

Распрацаваны доўгатэрміновы праект, які прадугледжвае поўнае аднаўленне сядзібы Шагалаў, а таксама гістарычную рэканструкцыю квартала, у якім знаходзіцца музей. Плануецца аднаўленне каменнай і драўлянай забудоваў стылю кан. XIX – пач. XX ст., у якіх будуць змяшчацца атэлі, рэстараны, кафэ, сувенірныя лаўкі.

Адрас: вул. Пакроўская, 11.

Тэл.: +375 212 36 34 68.

Адрас у Інтэрнэце: www.chagall.vitebsk.by.

E-mail: праз сайт музея.

Час наведвання: 11.00–18.30.

Выходныя:

– з 1 кастрычніка па 1 траўня – панядзелак, аўторак;

– з 1 траўня па 1 кастрычніка – панядзелак.

*Арт-цэнтр Марка Шагала*

Створаны ў 1992 г. Цэнтр размяшчаецца ў асобным будынку канца XIX ст., які належаў жонцы палкоўніка Няфедзьева. З мастаком ён звязаны ўскосна – будынак можна ўбачыць на карціне М. Шагала «Над горадам».

У фондах і экспазіцыі ўтрымліваецца больш за 300 арыгінальных графічных прац мастака (літаграфіі, ксілаграфіі, афорты, акватынты). Большасць была падорана музею дачкой мастака, Ідай Шагал, а таксама ўнучкамі Мерэт Мейер Грабер і Бэлай Мейер. Сярод падарункаў: цыкл каляровых ілюстрацый мастака да Бібліі (1956, 1960), цыкл каляровых літаграфій “12 каленаў Ізраіля” (1960), серыя афортаў – ілюстрацый да паэмы М.В. Гогаля “Мёртвыя душы” (1923–1925, 96 лістоў). Значны ўклад у экспазіцыю зрабіў доктар Генрых Мандэль з нямецкага горада Ірэль, які падараваў музею значную колькасць графічных работ мастака.

У фондах музея захоўваецца больш за 200 графічных прац прадстаўнікоў еўрапейскага авангарда: П. Пікаса, Ф. Лежэ, А. Маціса, Х. Міро, Ж. Брака і іншых мастакоў гэтага накірунку. У цэнтры захоўваецца калекцыя сучаснага мастацтва, якая сфарміравана на аснове работ удзельнікаў I і II Міжнародных Шагалаўскіх пленэраў (Віцебск, 1994, 1997), а таксама выстаў, якія адбываліся ў музеі.

Пры цэнтры створана спецыялізаваная навуковая бібліятэка па творчасці М. Шагала і мастацтву класічнага авангарда (больш за 5 тыс. тамоў), сярод якіх ёсць тыя, што ўтрымліваюць досыць рэдкія публікацыі першай паловы XX ст.

Маецца выставачная зала, у якой праводзяцца часовыя тэматычныя выставы.

Адрас: вул. Савецкая, 25.

Тэл.: +375 (212) 36-03-87.

Час наведвання: 11.00–18.30.
Выходныя:
– з 1 кастрычніка па 1 сакавіка – панядзелак, аўторак;
– з 1 сакавіка па 1 кастрычніка – панядзелак.

*Музей "Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва"*

Створаны 1 лютага 1998 г. як Цэнтр сучаснага мастацтва па ініцыятыве групы творчай інтэлігенцыі на чале з В.М. Кірылавай пры падтрымцы аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама з мэтай захавання, вывучэння і папулярызацыі культурнай спадчыны г. Віцебска, традыцый Віцебскай мастацкай школы, творчага аб'яднання УНОВІС[128], далейшага развіцця сучаснага мастацтва ў горадзе Віцебску, садзеяння і дапамогі творчай інтэлігенцыі ў ажыццяўленні праграм і культурных акцый у галіне сучаснага мастацтва, вывучэнні працэсаў яго развіцця. У 2007 г. рэарганізаваны ва Установу культуры "Музей "Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва".

У склад музея ўваходзяць: музей, выставачная зала (вул. Белабародава, 5), выставачная зала "Музычная гасцёўня" (вул. Фрунзе, 11), комплекс мастацкіх майстэрняў.

Музей знаходзіцца ў будынку па вуліцы Праўды, 5а, пабудаваным у 1913 г. для сям'і віцебскага банкіра Ізраіля Вульфавіча Вішняка. З 1918 па 1923 г. у будынку месціліся Віцебскае народнае мастацкае вучылішча, майстэрні УНОВІСа, Віцебскія свабодныя мастацкія майстэрні, Віцебскі мастацка-практычны інстытут, у якім працавалі М. Шагал, К. Малевіч, Эль Лісіцкі, В. Ермалаева, М. Суэцін, І. Чашнік і іншыя мастакі. На цяперашні момант ідзе распрацоўка канцэпцыі праекта музеефікацыі і стварэння экспазіцыі, прысвечанай Віцебскай мастацкай школе.

Адрас: вул. газеты "Праўда", 5а.
Тэл./факс: +375 212 36-02-93;
+375 212 36-51-92, +375 212 21-48-94.
E-mail: vitebskCCA@gmail.com; art_center@rambler.ru.

*Выставачная зала Віцебскага цэнтра сучаснага мастацтва*

Утворана як выставачная зала Віцебскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі. Плошча экспазіцыі – 368 м². Уключае ў сябе дзве залы, у тым ліку вялікую залу, падзеленую на секцыі. У выставачнай зале пастаянна праводзяцца выставы featured тэматыкі, як правіла, беларускіх, віцебскіх мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога

[128] **УНОВІС** (УНОВИС – утвердители нового искусства) – творчае аб'яднанне авангарднай накіраванасці ў Віцебску (1919–1922), створанае К. Малевічам. Мастакі, якія ўваходзілі ў аб'яднанне, імкнуліся ўвесці прынцыпы новага, футурыстычнага мастацтва.

мастацтва. Праводзяцца таксама канцэрты, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Пры зале працуе салон, у якім можна набыць работы віцебскіх мастакоў.

Адрас: вул. Белабародава, 5.

Тэл.: +375 212 21-48-94.

Час наведвання: 10.00–18.00.

Выходны: панядзелак.

*Выставачная зала "Музычная гасцёўня" Віцебскага цэнтра сучаснага мастацтва*

Яшчэ ў канцы 1980-х гг. у горадзе планавалася стварэнне музея музычнай культуры. Гэтага патрабуюць багатыя традыцыі горада і вобласці. У 1920-я гг. тут існавала Народная кансерваторыя, з Віцебскам звязаны імёны выдатных музыкантаў і музыказнаўцаў – ураджэнцаў Віцебшчыны: М.В. Анцава, І.І. Салярцінскага, Рысак. На пачатку 1990-х гг. праводзіўся збор матэрыялаў для стварэння музея музычнай культуры.

Зала знаходзіцца на першым паверсе ў будынку аддзела культуры віцебскага гарвыканкама. Экспазіцыйная плошча – 80 м². У зале праводзяцца выставы рознай тэматыкі. Напрыклад, менавіта тут адбывалася выстава конкурсных прац на лепшы помнік легендарнай заснавальніцы Віцебска княгіні Вользе, крэўскаму і віцебскаму князю, а таксама Вялікаму князю Літоўскаму Альгерду. У зале праводзяцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, камерныя канцэрты.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 11.

Тэл.: +375 212 36-92-51.

Час наведвання: 10.00–19.00, перапынак на абед: 14.00–15.00.

Серада: 11.00–20.00, перапынак на абед: 15.00–16.00.

Выходныя: панядзелак, аўторак.

*Выставачная зала Цэнтра культуры "Віцебск" "Духаўскі круглік"*

Створана ў 2007 г. з мэтай кансервацыі і мемарыялізацыі рэшткаў Нарожнай (Вуглавой) вежы віцебскага каменнага замка 1-й паловы XIV ст., размяшчэння экспазіцыі, прысвечанай сярэднявечнаму Віцебску і папулярызацыі ведаў пра яго.

У канцы 1980-х планавалася аднаўленне вежы ў аўтэнтычным выглядзе і стварэнне ў ёй музея зброі. Сучасны выгляд збудавання – гэта мастацкая рэканструкцыя вежы XIV ст. Аўтарскі праект выкананы архітэктарам Р. Лядэнкам. Памеры вежы: 9,2 х 9,2 м, вышыня – 27 м. Вежа мае 5 паверхаў. Аўтар экспазіцыі, прысвечанай гісторыі горада і фестывалю "Славянскі базар у Віцебску", – віцебскі мастак А. Вышка.

У жыхароў і гасцей горада часта ўзнікае пытанне, чаму квадратная ў праекцыі вежа мае назву "Духаўскі круглік". Справа ў тым, што

каменная Нарожная (Вуглавая) вежа, пабудаваная ў XIV ст., праз пэўны час была разбурана. У XVII ст. на яе месцы пабудавалі драўляную, якая была васьмівугольныя ў плане (таму і *круглік*). Знаходзілася яна насупраць Святадухаўскай (Духаўскай) царквы, пабудаванай князем Альгердам у XIV ст., таму круглік называўся Духаўскім. Цяпер на месцы царквы знаходзіцца вежа з гадзіннікам аблвыканкама.

Экспазіцыя выставачнай залы складаецца з 2-х частак. Першая прысвечана гісторыі горада і віцебскіх замкаў, другая – гісторыі фестывалю "Славянскі базар у Віцебску".

Ідэя стварэння музея з'явілася ў 1984 г., калі ў выніку раскопак археолагаў М. Ткачова і Т. Бубенькі былі знойдзены падмуркі і рэшткі праслаў (сцен) вежы Ніжняга замка, пабудаванага ў 1330–1351 гг. па загадзе князя Альгерда. Значную ролю ў яго ўзвядзенні адыграла жонка князя, Ульяна Цвярская.

Знаходка пацвердзіла існаванне каменных замкаў і даказала, што Віцебск адыгрываў вельмі важную ролю ў жыцці дзяржавы як ваенны, палітычны, адміністрацыйны цэнтр Усходняй Еўропы. Гэта быў практычна адзіны каменны замак ва Усходняй Беларусі, які час ад часу выконваў функцыі сталіцы, бо вялікі князь Альгерд, які асноўным вектарам сваёй знешняй палітыкі лічыў усходні, шмат часу жыў у горадзе і зрабіў яго сваёй часовай рэзідэнцыяй.

На цокальным паверсе можна ўбачыць закансерваваныя рэшткі падмурка вежы, азнаёміцца з гісторыяй іх знаходкі. Тут жа змяшчаюцца партрэты князя Васількі, Альгерда Гедымінавіча, княжны Вольгі і Ульяны як асоб, што адыгралі ключавую ролю ў заснаванні горада, яго развіцці і далейшым працвітанні.

Экспазіцыя другога паверха распавядае пра гісторыю віцебскіх замкаў – Верхняга (Горняга), Ніжняга (Дольнага) і Узгорскага. У цэнтры размешчана копія аксенаметрычнага плана "Чарцяжа места Віцебскага 1664 г.", на якім падрабязна адлюстраваны цэнтр горада сярэдзіны XVII ст.

Выявы вежаў, храмаў, будынкаў старадаўняга горада ў спалучэнні з чорна-белымі і каляровымі фотаздымкамі відаў места канца XIX – пачатку XX ст. дазваляюць пранікнуцца атмасферай старога Віцебска і адчуць сувязь з сучасным горадам.

На трэцім і чацвёртым паверхах прадстаўлена экспазіцыя, прысвечаная фестывалю "Славянскі базар у Віцебску". Экспанаты – фотаздымкі, дакументы, узнагароды, узоры абсталявання, якое выкарыстоўвалася на канцэртах, аўтографы ўдзельнікаў распавядаюць пра гісторыю мерапрыемства, што вядзе пачатак ад 1991 г., яго самыя цікавыя і запамінальныя моманты.

Пяты паверх выкарыстоўваецца як канферэнц-зала на 50 чалавек. Тут размешчаны аб'ёмны макет рэканструкцыі цэнтра Віцебска. Пяты паверх выкарыстоўваецца як аглядная пляцоўка, з якой вельмі добра бачны цэнтр горада. Па жаданні можна замовіць экскурсію ў летні амфітэатр.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 11а.

Тэл.: +375 212 35-91-38; 35-81-39.

Часы наведвання: 10.00–18.00.

Выходныя: панядзелак, аўторак.

*Выставачная зала Культурна-гістарычнага комплекса "Залатое кальцо горада Віцебска "Дзвіна"*

Знаходзіцца ў будынку былых саляных складоў (лабазаў), узведзеных у кан. XVIII ст. для захоўвання прыпасаў расійскага войска. Будынкі саляных складоў – помнік архітэктуры класічнага стылю. Першапачаткова ўстанова была створана ў снежні 1994 г. як Цэнтр народных рамёстваў і мастацтваў "Задзвінне" з мэтай захавання, развіцця і прапаганды мясцовых відаў народнага мастацтва Беларускага Прыдзвіння і яго традыцый. У 2011 г. атрымала сучасную назву.

Цэнтр мае 2 шматфункцыянальныя выставачныя залы, у якіх праводзяцца часовыя выставы па ткацтве, разьбе па дрэве, ганчарстве, кавальскай справе, жывапісе, выцінанцы, саломапляценні і інш.

Пры цэнтры створаны майстэрні па традыцыйных рамёствах, кабінеты для заняткаў, галерэі з гандлярнымі радамі, кафэ "Задзвінне". На задвор'і размешчаны паказальныя майстэрні керамікі з пячамі для абпалу вырабаў з гліны. Перыядычна праводзяцца кірмашы рамёстваў, святкаванні народных каляндарных святаў. У час правядзення Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" менавіта на вуліцы Чайкоўскага каля цэнтра праводзіцца "Горад майстроў", які збірае сотні аматараў народнай творчасці з Беларусі і бліжэйшага замежжа.

У фондах установы ўтрымліваюцца лепшыя ўзоры твораў народнага мастацтва і самадзейных мастакоў, побытавыя рэчы XIX–XX стст. (ручнікі, посцілкі, кросны, прасы, патэльні і інш.). Плануецца стварэнне пастаяннай выставы, прысвечанай народным рамёствам Віцебшчыны.

Супрацоўнікі цэнтра праводзяць даследчую работу, экспедыцыі, выяўляюць самадзейных майстроў, мастакоў, рамеснікаў, якія працуюць у розных жанрах, аказваюць метадычную дапамогу, ладзяць выставы, конкурсы, стымулююць да далейшай дзейнасці на ніве народных рамёстваў. Пры цэнтры зарэгістраваны 23 клубныя ўстановы, якія займаюцца народнымі рамёствамі, а таксама ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй.

Неўзабаве каля Цэнтра будзе пабудавана прыстань і спуск да ракі Дзвіна. Плануюцца рэканструкцыя дома Чайкоўскага, 14 і стварэнне там кузні, рэканструкцыя сярэднявечнага пасялення на беразе Дзвіны.

Адрас: вул. Чайкоўскага, 3.

Тэл.: +375 212 36-05-81;36-35-72.

Час наведвання: 10.00–18.00, нядзеля 11.00–19.00.

Выходныя: панядзелак, аўторак.

*Выставачная зала віцебскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці*

Створана ў 1991 г. Мае дзве залы, у якіх экспануюцца галоўным чынам вынікі працы дамоў рамёстваў і цэнтраў народнай творчасці раёнаў Віцебскай вобласці, народных майстроў, самадзейных мастакоў. Выставы штомесяц змяняюцца. Такім чынам, рэгулярнае наведванне выстаў дае магчымасць атрымаць поўнае ўяўленне пра стан і ўзровень народнай творчасці на Віцебшчыне. У залежнасці ад прадстаўленасці ў рэгіёне майстроў пэўных накірункаў і ўзроўню выканаўцаў экспануюцца рэчы інсітнага (наіўнага) мастацтва і народнай матэрыяльнай культуры, выкананыя ў розных тэхніках і методыках, у тым ліку ткацтва, разьбы па дрэве, ганчарства, жывапісу, вышыўкі, вязання, выцінанкі, салома- і лозапляцення, габелена, аплікацыі з бяросты і інш.

Для дзяцей і ўсіх жадаючых у цэнтры распрацаваны "Урок традыцыйнай народнай культуры", на якім выкладаецца гісторыя станаўлення народнай культуры, аналізуюцца асноўныя яе адгалінаванні, на практыцы даецца магчымасць далучыцца да абраных накірункаў.

Адрас: вул. Леніна, 35а.

Тэл.: +375 212 42-87-71; 36-37-04.

Час наведвання: 10.00–19.00; перапынак на абед: 13.00–14.00.

Выходныя: нядзеля, панядзелак.

## 2.2. Музеі ўстаноў

*Музей гісторыі віцебскага трамвая трамвайна-тралейбуснага ўпраўлення*

Музей знаходзіцца ў адміністрацыйным будынку трамвайнага дэпо. У фондах музея захоўваюцца больш за 2 тыс. экспанатаў. Плошча экспазіцыі – 110 м². Створаны па ініцыятыве Л.А. Забэлы, які працаваў у Віцебскім трамвайна-тралейбусным упраўленні (1959–1985) на аснове архіўных дакументаў (НГАБ, ДАВВ, БДАКД і інш.), успамінаў работнікаў ТТУ. Першая экспазіцыя створана ў 1966 г., другая – у 1974 г, трэцяя адчынена ў 1985 г.

Прысвечаны гісторыі трамвая і электрычнага транспарту ў горадзе. Віцебск з'яўляецца першым у Беларусі горадам, дзе з'явіўся

трамвайны рух. Ні Санкт-Пецябруpг, ні Масква – сталічныя гарады – не мелі трамвая, а невялікі Віцебск займеў яго трэцім сярод гарадоў Расійскай імперыі, у склад якой уваходзілі беларускія землі. На сродкі бельгійскага акцыянернага таварыства былі пракладзены трамвайныя пуці, закуплена абсталяванне, пабудавана і пачала працу электрастанцыя. Першы трамвай ў Віцебску пачаў рух 30 чэрвеня 1898 г.

У экспазіцыі, якая складаецца з 5 раздзелаў, адлюстроўваецца гісторыя стварэння і развіцця электрычнага транспарту ў Віцебску, Беларусі і свеце. У першым раздзеле адлюстравана гісторыя стварэння і развіцця электрычнага трамвая ў горадзе з 1896 па 1917 г. Экспануюцца фотаздымкі, карціны, дакументы, макеты, дыярамы, асабістыя рэчы працаўнікоў. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя вынаходніку Ф.А. Піроцкаму, які першым стварыў электрычны трамвай (1880). Другі раздзел адлюстроўвае міжваеннае жыццё, развіццё трамвайнай сеткі. Трэці прысвечаны ўдзелу трамвайшчыкаў у Вялікай Айчыннай вайне. Чацвёрты – аднаўленню разбуранай гаспадаркі і пасляваеннаму развіццю. У пятым асвятляецца развіццё электрычнага транспарту ў Віцебску з 1970 г. па нашы дні.

Сярод найбольш цікавых экспанатаў – дагавор паміж бельгійскім акцыянерным таварыствам і віцебскай гарадской управай, акцыя на 100 франкаў акцыянернага таварыства "Трамваі Віцебска", макет будынка электрастанцыі, якая вырабляла ток для трамвая (цяпер будынак Літаратурнага музея), матэрыялы пра пуск у 1898 г. першага трамвая, фотакопія ліста працоўных аб залічэнні У.І. Леніна ганаровым машыністам віцебскай гарадской цэнтральнай электрастанцыі, панарама Віцебска з указаннем трамвайных маршрутаў, інфармацыя аб пасляваенным аднаўленні і рэканструкцыі трамвайнай гаспадаркі, каса-паўаўтамат з кампосцерам, якімі абсталёўваліся трамваі ў 1960-я гг., плакат аб адкрыцці ў Віцебску тралейбуснага руху (1978), а таксама сімвалічны ключ ад комплексу тралейбуснага дэпо, які быў уручаны будаўнікамі ў 1978 г., і іншыя. У экспазіцыі змешчаны макеты розных трамвайных вагонаў, якія эксплуатаваліся ў горадзе: ад першых бельгійскай вытворчасці, да чэшскіх і савецкіх. У музеі захоўваецца "Кніга ганаровых трамвайшчыкаў", у якую заносяцца прозвішчы тых, хто адпрацаваў у ТТУ больш за 35 гадоў.

18 чэрвеня 2002 года музею гісторыі Віцебскага трамвая і тралейбуса нададзена званне "Народны музей". 13 снежня 2010 г. ганаровае званне "Народны музей" пацверджана рашэннем Калегіі Міністэрства культуры РБ № 149.

Адрас: вул. 5-я Фрунзэ, 7.
Тэл.: +375 212 24-32-46; 24-13-46; 24-33-39.
Сайт: www.vttu.by/main.jsp?tag=museum.
Час наведвання: 8.00–17.00.
Выходныя: субота, нядзеля.

*Музей Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі*

Створаны ў 1966 г. у гонар 100-годдзя Віцебскага чыгуначнага вузла як музей рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. У 1980 г. нададзена званне народнага музея.

У першай зале распавядаецца пра пачатак будаўніцтва чыгункі ў Віцебскай губерні. Першы састаў прайшоў па маршруце Віцебск–Полацк 5 (18) кастрычніка 1866 г. Каля ўвахода знаходзіцца станцыйны звон, які абвяшчаў аб прыбыцці і адпраўленні цягніка на станцыі Адамова. Побач – дыярама "Будаўніцтва чыгункі". У экспазіцыі адлюстраваны ўдзел чыгуначнікаў у рэвалюцыйнай барацьбе, работа чыгуначнага транспарту ў гады Першай сусветнай, грамадзянскай войнаў, Кастрычніцкай рэвалюцыі, этапы аднаўлення гаспадаркі віцебскага чыгуначнага вузла. Шмат увагі нададзена актыўнай працы чыгуначнікаў у гады першых пяцігодак. Як сведчанне тых часоў у музеі захоўваюцца 4 чырвоныя сцягі, якія атрымалі чыгуначнікі за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве. Асаблівую цікавасць наведвальнікаў усіх узростаў выклікае макет чыгуначнай станцыі з дзейснымі мініяцюрнымі цягнікамі на электрычнай хадзе.

У другой зале прадстаўлены матэрыялы пра ўдзел працаўнікоў чыгуначнага вузла ў Вялікай Айчыннай вайне, аднаўленні народнай гаспадаркі. Прэзентуюцца дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы чыгуначнікаў, узоры тэхнікі. У экспазіцыі змешчаны макеты ўсталяваных на тэрыторыі лакаматыўнага дэпо помнікаў, прысвечаных загінуўшым у гады вайны чыгуначнікам.

У трэцяй зале спалучаюцца старыя традыцыі і новыя рэаліі. Экспануюцца "Кніга працоўнай славы" і матэрыялы пра дасягненні па ўвядзенні новых форм працы ва ўмовах рынкавых адносін на транспарце. Сярод цікавых экспанатаў – макеты станцыі, паравозаў, цеплавозаў, у тым ліку самага першага, распрацаванага братамі Чарапанавымі, стэнды, на якіх адлюстраваны змены ў знешнім выглядзе станцый на працягу XIX – пач. XXI ст., рухомага саставу 1920-х–1990-х гг. Шмат прыкладаў інструментаў і абсталявання: ад ліхтароў станцыйных наглядальнікаў да пуцявога малатка, рэльсарэзкі, семафора, стрэлак. Асобна прадстаўлены сродкі сувязі і апаратура, неабходныя для жыццядзейнасці чыгункі: апарат Морзэ, тэлефон з дынама-машынай, тэлетайп.

Музей упрыгожаны скульптурамі самадзейнага скульптара Пятра Смалякова, які доўгі час працаваў у Віцебскім дэпо.

У лакаматыўным дэпо знаходзіцца яшчэ адна экспазіцыя, прысвечаная гісторыі віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. Яна распрацавана і аформлена ў 1980-я гг. А.П. Лапшыным, загадвае музеем Людміла Іванаўна Смірнова.

На цяперашні дзень у арганізацыях Беларускай чыгункі налічваецца 39 музеяў і пакояў баявой і працоўнай славы, агульная колькасць фондаў налічвае больш за 45 тыс. адзінак захоўвання.

Адрас: вул. Някрасава, 2а/46.

Тэл.: +375 212 37-84-15.

Час працы: 8.00–17.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

Наведванне магчымае пры папярэдняй дамоўленасці.

*Пажарна-тэхнічная выстава Віцебскага абласнога ўпраўлення Міністэрства надзвычайных сітуацый*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні ў будынку ўпраўлення МНС па Віцебскай вобласці. Створана ў 1973 г. Заснавальнікам з'яўляўся М.З. Крымер. Асноўнае назначэнне выставы – супрацьпажарная прапаганда, навучанне насельніцтва мерам пажарнай бяспекі, адлюстраванне гісторыі развіцця пажарнай справы на Віцебшчыне. Выстава выкарыстоўваецца і пры правядзенні прафесійнай арыентацыі сярод моладзі.

Першы раздзел распавядае пра гісторыю станаўлення пажарнай справы на Віцебшчыне. Лічыцца, што прафесійная пажарная каманда з'явілася ў Віцебску ў 1853 г.  Перад першай дыярамай "Здабыча першабытнымі людзьмі агню" тлумачыцца, якое станоўчае значэнне ў жыцці людзей меў раней і мае цяпер агонь. На другой дыяраме "Пажар у Віцебску" адлюстраваны наступствы небяспечнага абыходжання з агнём. У экспазіцыі змешчаны ўзоры тэхнікі і прылад, якія выкарыстоўваліся ў розныя часы для тушэння пажараў, у тым ліку пажарныя ствалы (брандспойты), пажарны звон, ражок брандмайстра, пажарны гідрант, калонка, пенатушыцелі. У цэнтры залы ўсталявана двухцыліндровая ручная помпа, якой качалі ваду для тушэння пажару ў кан. XIX – пач. XX ст. На стэндах змешчаны ўзоры абмундзіравання пажарных розных часоў, а на манекенах можна ўбачыць форму і рыштунак сучаснага байца пажарнага разліку, якія выкарыстоўваюцца пры тушэнні пажару, а таксама і пры тушэнні высокатэмпературных узгаранняў. У экспазіцыі змешчаны мініяцюры гужавых пажарных разлікаў з абсталяваннем XIX ст., а таксама макеты пажарных аўтамабіляў у маштабе 1:34.

У час наведвання адбываецца знаёмства з рознымі відамі (асноўнымі і спецыяльнымі) пажарнай тэхнікі, прынцыпамі працы розных тыпаў вогнетушыцеляў, прыборамі папярэджання пажараў. Растлумачваюцца правілы паводзінаў пры ўзгаранні, пажары, правілы карыстання вогнетушыцелямі.

У зале пажарна-ахоўнай сігналізацыі і пажарнай аўтаматыкі распавядаецца пра асноўныя прычыны пажараў, а таксама пра сістэмы

супрацьпажарнай абароны. Наведванне мэтазгоднае пры выкладанні курса “Асновы бяспечнага жыцця”.

У зале “Пажарная прафілактыка” можна пазнаёміцца з тымі матэрыяламі, якія лепей выкарыстоўваць пры будаўніцтве дома і яго ўнутраным абсталяванні. На макеце жылога будынка можна пабачыць, чаму лесвічныя пралёты не павінны быць загрувашчаны рэчамі (веласіпедамі, пральнымі машынамі, старымі шафамі і інш.). У асобна размешчанай зале крыміналістыкі захоўваюцца і экспануюцца рэчы, якія часцей за ўсё становяцца прычынамі пажараў, у тым ліку газавыя балоны, лямпавыя тэлевізары, грэлкі, саматужна зробленыя электранагравальныя прыборы, “жучкі” і іншыя. Ёсць нетыповыя рэчы, якія могуць стаць прычынай узгарання. Напрыклад, экспануецца люстэрка, якое стаяла насупраць вакна, і, калі промні сонца траплялі на яго, яны адлюстроўваліся на абрус і падпальвалі яго. Прычынай пажару ў яркі, сонечны дзень можа стаць і просты слоік з вадой, з якога паліваюць кветкі. Калі на яго трапляюць сонечныя промні, ён становіцца штучнай лінзай і можа быць прычынай узгарання.

Перад будынкам упраўлення на ганаровай стаянцы змешчана пажарная машына.

Адрас: вул. Жасткова, 13.

Тэл.: +375 212 47-93-24.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі віцебскага водаправода пры ВА “Водаканал”*

Змяшчаецца ў асобным памяшканні на 4-м паверсе будынка галаўной канторы прадпрыемства. Створаны ў 1994 г. Ініцыятарам стварэння музея быў П.М. Зямлянскі, які кіраваў установай з 1971 г. Значную ролю ў стварэнні музея адыграла В.І. Акуневіч. Аўтар экспазіцыі М.М. Дундзін.

На 12 стэндах прадстаўлена гісторыя развіцця забеспячэння вадой жыхароў горада ад часоў сярэднявечча да нашых дзён. На адным са стэндаў прадстаўлены матэрыялы раскопак горада XVII ст., у тым ліку і драўляныя трубы і прыстасаванні, па якіх вада падавалася гараджанам Віцебска. Другі стэнд распавядае пра стварэнне водаправода ў горадзе. Першая спроба адбылася яшчэ ў 1872 г., але яна была беспаспяховай. Стварэнне водаправода пачалося ў 1892 г. канцэсіянерамі “Таварыства віцебскіх водаправодаў” пад кіраўніцтвам Ф. Цэханавецкага, І. Гласко, Ю. Хлюдзінскага. Іншыя стэнды распавядаюць пра далейшае развіццё водаправоднай сеткі, аднаўленне разбуранай у гады Вялікай Айчыннай вайны гаспадаркі, сучасны стан арганізацыі, яе перспектывы.

Экспазіцыя густоўна і арыгінальна аформлена. У цэнтры залы ўсталяваны калонка XIX ст. і чыгунныя люкі, якімі ўкрываліся

камунікацыі. Можна ўбачыць узоры прадметаў розных часоў і вытворцаў, ад малавядомых XIX ст., да тых, якія і цяпер знаходзяцца ў карыстанні. Увагу прыцягвае дыярама, якая адлюстроўвае працэс дастаўкі вады вадавозамі ў горадзе ў XIX ст.

У рэкрэацыі змешчана дошка гонару прадпрыемства, ветэранаў працы, матэрыялы пра арганізатараў будаўніцтва водаправода ў Віцебску, стваральнікаў, кіраўнікоў, лепшых і адказных работнікаў “Водаканала” з пач. XX ст. да нашых часоў.

У двары прадпрыемства ўсталяваны помнік крату. Гэтая жывёла жыве ў зямлі і з мэтай пошуку корму шмат рые. З’яўляецца талісманам водаправодчыкаў, якія па характары сваёй справы таксама шмат капаюць для пракладкі камунікацый.

Адрас: вул. Міру, 37.

Тэл.: +375 212 24-05-03 (прыёмная); 24-25-11.

*Музей спажыўкааперацыі пры Віцебскім аблспажыўсаюзе*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе будынка Віцебскага аблспажыўсаюза. Адкрыты 11 ліпеня 1998 г. У фондах больш за 1,5 тыс. рэчаў, 800 фотаздымкаў.

На пачатку агляду наведвальнік можа даведацца, што такое кааператыўны рух і якія яго асноўныя накірункі: нарыхтоўка, перапрацоўка, гандаль, будаўніцтва, прадстаўленне паслуг і інш. У музеі адлюстравана гісторыя кааператыўнага руху на Віцебшчыне і Беларусі з XIX ст. па нашы дні. У экспазіцыі змешчана інфармацыя пра тое, што першае спажывецкае таварыства ў горадзе было ўтворана ў 1892 г., пра першых выпускнікоў кааператыўнага тэхнікума (1923), пра ўдзел кааператараў у Вялікай Айчыннай вайне, пра аднаўленне сеткі спажыўкааперацыі і яе развіццё ў вобласці ў пасляваенны час.

У экспазіцыі прадстаўлены фотаздымкі, баявыя, працоўныя і спартыўныя ўзнагароды. Цікавасць наведвальнікаў выклікае вітрына з манетамі і бонамі, якія былі ў звароце ў Расійскай імперыі і СССР; экспазіцыя, на якой размешчаны значкі і ўзнагароды, якімі ўзнароджваліся пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва. Увагу прыцягвае і экспазіцыя “Інструменты ўзважвання”, на якой змешчаны бязмены, вагі, шалі розных мадэляў, якія выкарыстоўваліся на Віцебшчыне ў розныя часы, напрыклад, драўляны бязмен, нямецкія чашкавыя вагі, шалі, што выкарыстоўваліся на рынках і ў крамах. Такія вагі можна пабачыць толькі ў гэтым музеі. Асобна прадстаўлена абсталяванне, без якога немагчымы гандаль: касавыя апараты, лічыльная тэхніка ад звычайных лічыльнікаў да арыфмометраў і калькулятараў. На асобнай вітрыне прадстаўлены ўзоры прадукцыі, якую выраблялі кааператары Віцебшчыны: каўбасы, кансервы

з садавіны і гародніны, тушонка, канцэнтраты, сокі, напоі, мінеральная вада і іншыя прадукты харчавання.

На адным са стэндаў змешчаны партрэт выпускніка віцебскай гімназіі, дзекабрыста І.І. Гарбачэўскага, які стаў аўтарам статута кааператыва "Большая артель", што выкарыстоўваўся ў Расійскай імперыі на працягу XIX ст. як узорны пры стварэнні статутаў для іншых кааператываў. Цікавасць выклікае і тэкст "Гімна кааперацыі", напісанага ў 1913 г. На асобных стэндах – фотаздымкі кіраўнікоў Аблспажыўсаюза, асоб, якія займалі кіруючыя пасады, заслужаных работнікаў гандлю, ветэранаў.

Музей адыгрывае значную ролю ў прафесійнай арыентацыі моладзі. Пасля наведвання музея лепш разумееш, што такое спажыўкааперацыя, чым яна займаецца, куды пайсці вучыцца. Разумееш тую значную, але малавядомую ролю, якую адыгрывае Віцебскі абласны саюз спажывецкіх таварыстваў (Аблспажыўсаюз) у жыцці вобласці і краіны. А гэта амаль 2,5 тыс. рознічных гандлёвых прадпрыемстваў, амаль 650 прадпрыемстваў грамадскага харчавання, 13 хлебзаводаў, больш за 80 цэхаў па вытворчасці кандытарскіх вырабаў, каўбасных, рыбных прадуктаў, па вытворчасці безалкагольных напояў, мінеральнай вады, нехарчовых тавараў.

Музей мае статус Народнага (пацверджаны ў 2010 г.). У планах – развіццё і пашырэнне экспазіцыі.

Кіраўнік – Інэса Аляксандраўна Крамарэнка.

Адрас: вул. Беларуская, 3.

Тэл.: +375 212 36-66-82.

Час працы: 9.00–17.30.

Выходныя: субота, нядзеля.

Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

*Куток гісторыі Віцебскай мытні (Гісторыі мытнай справы)*

Створаны ў 2001 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні. У экспазіцыі распавядаецца пра гісторыю мытнага абкладання на Віцебшчыне ад часоў Полацкага княства да нашых дзён. Прыводзяцца копіі дагавораў паміж Полацкам, Смаленскам і Гоцкім берагам, прывілеі вялікіх князёў Літоўскіх, віслых пячатак, старонак мытнай кнігі Віцебска XVII ст., спісу абкладаемых мытам тавараў. Пасля ўваходжання Віцебска ў склад Расійскай імперыі мытні ў Віцебску не было, таксама як і ў СССР. Адноўлена яна была ў 1991 г. Прадстаўлена сучаснае жыццё мытні. Цяпер гэта тры мытныя пасты: "Лёзна", "Езярышча" і "Стайкі", а таксама пункты мытнага афармлення Езярышча-1, Езярышча-2, Шлыкі, Стайкі, Калышкі, Лёзна, Завольша. У экспазіцыі сцягі і сімволіка, спартыўныя ўзнагароды, атрыма-

ныя супрацоўнікамі ў спаборніцтвах па службовым трохбор'і, кросу, мініфутболу.

У сувязі з будаўніцтвам новага корпуса мытні куток гісторыі часова не працуе. Адкрыццё запланавана на 2012 г.

Адрас: вул. Лазо, 114.

Тэл.: +375 212 35-03-22.

Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі міліцыі пры ўпраўленні ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама*

Знаходзіцца ў будынку Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. Створаны ў 1980-я гг. Праект распрацаваў і выканаў віцебскі мастак Ю.С. Чарняк. У 2007 г. была створана новая экспазіцыя, аўтарам якой з'яўляецца Іна Абрамава. Пры афармленні часткова выкарыстана старая экспазіцыя. У асноўным фондзе – больш за 200 экспанатаў.

Экспазіцыя размешчана ў 2-х залах. У першай адлюстравана гісторыя станаўлення і развіцця міліцыі ў Віцебскай губерні, акрузе, вобласці з 1917 па 1941 г. Экспануюцца копіі дакументаў аб утварэнні міліцыі Часовым урадам, а потым створанай бальшавікамі савецкай міліцыі. Змешчаны фотаздымкі розных службовых асоб, якія займалі ключавыя пасады ў кіраўніцтве. Аснову савецкай міліцыі ў Віцебскай губерні ў 1917–1920 гг. складалі ў асноўным латышы. Асобна прадстаўлены матэрыялы, якія адлюстроўваюць стварэнне і дзейнасць крымінальнага вышуку, дзейнасць віцебскай школы міліцыі, якая дзейнічала ў горадзе з 1927 па 1941 г. і рыхтавала малодшы і сярэдні камандны састаў. Змешчаны тэкст прысягі савецкага міліцыянера, які быў прыняты ў 1935 г. Да гэтага дзейнічалі спачатку кантрактныя абавязальніцтвы, а потым ганаровае абяцанне. К 1930-м гг. міліцыя склалася як служба.

Сярод цікавых экспанатаў, што змешчаны на вітрынах і стэндах, пералічым аўтэнтычныя рэчы, якімі карысталіся міліцыянеры ў 1920-я гг.: тэлефонны апарат, рэвальвер, вінтоўка, друкарская машынка, ліхтар. Цікавым выглядае размяшчэнне ў экспазіцыі копіі каравульных будак, якія стаялі на галоўных плошчах Віцебска ў 1920-я гг. Атмасферу рэвалюцыйных часоў удала падкрэслівае афішная тумба, на якой змяшчаюцца газеты і паведамленні 1917 г. і пачатку 1920-х гг.

Другая зала прысвечана гісторыі віцебскай міліцыі ў пасляваенны час. У цэнтры экспазіцыі пераходны чырвоны сцяг МВД БССР, які пакінуты ў музеі на вечнае захоўванне. Побач прадстаўлена калекцыя ўзнагарод, якімі ўганароўваліся віцебскія міліцыянеры ў гады вайны і пасля яе. Цікавая калекцыя галаўных убораў, якія насілі

міліцыянеры. Дэманструюцца фуражкі, кубанкі, крапавы берэт і нават баявая пажарная каска. Цікавасць выклікаюць узоры міліцэйскай формы розных гадоў (1947, 1975, 1985 гг.), а таксама калекцыя пагонаў, шэўронаў, нашывак, гузікаў, какардаў розных часоў. Увагу прыцягвае парадны генеральскі шынель начальніка Віцебскага Упраўлення унутраных спраў А. Кляшчонка. Незвычайна для сучасніка выглядаюць бланк-узор абавязальніцтва, якое бралі на сябе міліцыянеры ў сацыялістычным спаборніцтве, нарукаўная павязка народнага дружынніка.

Асобна прадстаўлена інфармацыя пра дзейнасць экспертна-крыміналістычнага аддзела. Тут дэманструюцца тэхніка, якой карысталіся спецыялісты для раскрыцця складаных злачынстваў, узоры справаводства розных часоў, матэрыялы справы аб выкрыцці маньяка Г.М. Міхасевіча.

Асобны стэнд прысвечаны ўдзелу 1300 віцебскіх міліцыянераў у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. На стэндзе экспануецца процівагаз, прыборы радыяцыйнага вымярэння “Рассвет”, “Радуга”, памятны знак, які выдаваўся ўдзельнікам аперацыі. Асобны стэнд прысвечаны міліцыянерам, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў. Тут змешчаны кіцель С.В. Дарафеева, фуражка Л.Л. Зыбіка. У экспазіцыі можна азнаёміцца з інфармацыяй пра ўдзел віцебскіх міліцыянераў у зводным атрадзе, які забяспечваў ахову правапарадку на Алімпіядзе 1980 г. у Маскве; аб газеце віцебскіх міліцыянераў “02”; пра спартыўныя перамогі ахоўнікаў правапарадку.

Для тых, хто цікавіцца міліцэйскімі буднямі больш, будуць цікавыя стойкі з планшэтамі, на якіх змешчана інфармацыя пра зброю, форму, якая была ў беларускай савецкай міліцыі на працягу 1917–1990-х гг. Заўжды выклікаюць цікавасць вітрыны са змешчанымі ў іх калекцыямі агнястрэльнай зброі: вінтоўкамі, карабінамі, аўтаматамі, пісталетамі, кулямётам. Тут можна ўбачыць і абрэзы, кастэты, якія ўжывалі ў барацьбе з супрацоўнікамі міліцыі сяляне ў 1920–1930-я гг., а таксама зброю бандытаў. Заканчваецца экскурсія ў цэнтры залы, дзе змешчана копія першага закона, які быў прыняты ў Рэспубліцы Беларусь, – “Закона аб міліцыі”.

У калідоры трэцяга паверха размешчаны стэнды і вітрыны, на якіх размяшчаюцца часовыя выставы. Па замове магчыма правядзенне тэматычных экскурсій.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 41а.

Тэл.: +375 212 24-05-38.

Наведванне магчымае толькі па папярэдняй дамоўленасці.

*Экспазіцыя, прысвечаная гісторыі дарожнай аўтаінспекцыі (ДАІ)*

Знаходзіцца ў рэкрэацыі другога паверха адміністрацыйнага будынка Віцебскага абласнога ўпраўлення ДАІ. Арганізавана ў 2007 г. у гонар 70-годдзя стварэння ДАІ. Асноўныя мэты – адлюстраванне гісторыі арганізацыі, а таксама прапаганда высокай культуры паводзінаў удзельнікаў дарожнага руху. Адным з арганізатараў выступіў Ю.А. Дзямідаў.

Экспазіцыя складаецца з 14 тэматычных стэндаў, на якіх прадстаўлены вехі станаўлення ДАІ і асноўныя дасягненні арганізацыі. Экспануюцца пастановы ўрада аб утварэнні ўстановы, прыборы і інструменты, якімі карысталіся супрацоўнікі, узнагароды за службу і спартыўныя дасягненні, падарункі і сувеніры ад калег з розных рэгіёнаў краіны і замежжа. На асобных стэндах прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя начальнікам, якія кіравалі абласным упраўленнем ДАІ, супрацоўнікам, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў. Сярод цікавых экспанатаў – першыя Правілы дарожнага руху (1940), секундамер, што выкарыстоўвалі ў якасці радара: інспектар вымяраў хуткасць аўтамабіля, адмерваючы яго рух ад аднаго слупа да другога, а перавышэнне вымяралася інтуітыўна. На стэндзе, прысвечаным дзейнасці рэгістрацыйна-экзаменацыйнага аддзела, змешчаны нумарныя знакі розных часоў.

На асобных стэндах прадстаўлена інфармацыя пра структурныя падраздзяленні ДАІ: дарожна-паставую службу, дзяжурную часць, службу дарожнай інспекцыі і арганізацыі дарожнага руху, службу адміністрацыйнай практыкі, штаб.

На стэндзе, прысвечаным службе прапаганды ДАІ, адлюстравана інфармацыя пра акцыі, прафілактычныя мерапрыемствы, якія ладзіць ДАІ, прыклады сацыяльнай рэкламы.

У цэнтры экспазіцыі змешчаны матацыкл “Урал” узору 1965 г., на якім рабілася патруляванне вуліц і ажыццяўляўся эскорт урадавых дэлегацый. Матацыкл мае незвычайную для цяперашніх часоў жоўта-блакітную афарбоўку, якая была характэрна для патрульных экіпажаў у 1960–1980-я гг.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 57.

Тэл.: +375 212 48-78-16.

Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей кіно (музейная экспазіцыя УП “Кінавідэапракат” Віцебскага аблвыканкама)*

Змяшчаецца ў 2-х залах Дома кіно. Адкрыта ў 2008 г. у гонар 110-годдзя дэманстрацыі першага сеанса ў г. Віцебску. У экспазіцыі прадстаўлены дакументы і матэрыялы, якія адлюстроўваюць гісторыю развіцця кінематографа ў Беларусі ўвогуле і Віцебскай вобласці

ў прыватнасці. Першы кінапаказ у Віцебску адбыўся 15 лютага 1898 г. у памяшканні яхт-клуба (цяпер Успенская горка). Гэта быў першы кінапаказ у Беларусі. Падзея праходзіла на тры гады пазней першага паказу ў свеце, на год раней, як у Мінску, Маскве, Санкт-Пецярбургу. Дэманстраваліся двуххвілінныя стужкі "Іспанскі танец" і "Французская артылерыя на парадзе". Апературам быў Фелікс Місгіш – апературам братоў Люм'ераў.

У экспазіцыі першай залы адлюстроўваецца тая важная роля, якую кінематаграфія мела ў СССР. Прыгадаем словы правадыра сусветнага пралетарыяту У.І. Леніна: "Найбольш важным з усіх відаў мастацтва для нас з'яўляецца кіно". З Віцебскам звязана дзейнасць Беларускага дзяржаўнага кінатэхнікума – першага ў СССР, які дзейнічаў у горадзе ў міжваенны час. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы пра лепшых людзей, якія працавалі ў арганізацыі, дэманструюцца іх фотаздымкі, асабістыя рэчы. Экспануецца Чырвоны сцяг, які атрымалі віцебскія кінапракатчыкі за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве, вузкаплёначны кінаапарат "Украіна" (1968), "Радуга", на якіх і цяпер можна дэманстраваць фільмы. Наведвальнікі могуць параўнаць афішы розных гадоў. Асаблівы гонар экспазіцыі – піяніна, якое выкарыстоўвалася на сеансах пачатку XX ст. пры дэманстрацыі "нямых" фільмаў. Падобны інструмент можна ўбачыць у вядомай камедыі, прысвечанай развіццю кінематографа, – "Чалавек з бульвара Капуцынаў".

Адной з мэтаў экспазіцыі з'яўляецца знаёмства наведвальнікаў з працэсам кінапаказу і кінапракату. Гэтай мэце прысвечана другая зала. У ёй змешчана абсталяванне, неабходнае для дэманстрацыі, захоўвання і рамонту фільмаў. Напрыклад, маецца перамотачны стол, фільмастат, дзе стужкі захоўваюцца ў спецыяльнай шафе з падтрыманнем рэжыму вільготнасці. У экспазіцыі прадстаўлены апараты і абсталяванне, неабходнае для дэманстрацыі фільмаў розных часоў. Пры музеі створана фільмабаза. Значную ролю ў стварэнні музея адыграла Генеральны дырэктар аб'яднання – Алёна Пятроўна Матус. Загадвае музейнай экспазіцыяй Марына Аляксееўна Турава.

Адрас: вул. Леніна, 40 (Дом кіно).
Тэл.: +375 212 37-48-11 (вахта); 37-37-82.
Час працы: 9.00–18.00.
Выходны: нядзеля.
Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

*Музейна-выставачная экспазіцыя Галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці*

Знаходзіцца ў будынку віцебскага абласнога ўпраўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Змяшчаецца ў рэкрэацыі на 5-м паверсе. Плошча экспазіцыі – 25 м². Адкрыта ў 2007 г. Пры падрыхтоўцы аказалі дапамогу розныя ведамасныя музеі,

Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці. У фондах больш за 600 экспанатаў.

У экспазіцыі прадстаўлены дакументы банкаўскай дзейнасці XIX–XXI стст.: крэдытныя дамовы, вэксальныя паперы, дакументы палявых кас часоў Вялікай Айчыннай вайны, палявыя кніжкі салдат, грашовыя купюры, манеты розных перыядаў гісторыі Беларусі, якія знаходзіліся ў абароце на Віцебшчыне. Асобна прадстаўлены памятныя манеты Нацыянальнага банка Беларусі. У задумах – распрацаваць стэнд, дзе будуць прадстаўлены памятныя манеты і купюры, якія маюць дачыненне да Віцебшчыны (прысвечаныя князям Рагвалоду, Усяславу, Ефрасінні Полацкай, І. Хруцкаму, музею-сядзібе "Здраўнёва" І.Я. Рэпіна, геральдыцы гарадоў вобласці і іншыя). Змешчаны
экзэмпляры лічыльна-грашовай тэхнікі ад лічыльнікаў да камп'ютараў. Асобна прадстаўлены фотаздымкі, дакументы, узнагароды ветэранаў працы. Асаблівая адзнака – Пераходны Чырвоны сцяг, атрыманы аддзяленнем у сацыялістычным спаборніцтве.

Сярод цікавых экспанатаў – драўлянае крэсла кіраўніка Віцебскай абласной канторы дзяржбанка БССР, клятвеннае абяцанне дзяржаўнага служачага Расійскай імперыі, у якім чыноўнік прысягаў на вернасць цару і Айчыне, а таксама абяцаў не браць хабару, замок ад банкаўскага сейфа з ключамі (сам сейф не змяшчаецца ў памяшканні). На асобным стэндзе прадстаўлены асноўныя даты з гісторыі станаўлення фінансава-грашовай сістэмы на Віцебшчыне. Цікавасць выклікае вітрына, на якой экспануюцца шынель, спецыяльныя торбы, пячаткі, якімі карысталіся інкасатары ў 1950–1970-я гг.

Аўтар экспазіцыі – віцебскі мастак Ю.С. Чарняк. Загадчык музея – Л.М. Баханава.

Адрас: вул. Леніна, 17.

Тэл.: +375 212 29-74-08.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці і напісанні ліста на імя начальніка Галоўнага ўпраўлення НБРБ па Віцебскай вобласці.

*Музей гісторыі віцебскай энергасістэмы рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Віцебскэнерга" (РУП "Віцебскэнерга")*

Адкрыты для наведавання ў 2003 г. Знаходзіцца ў галаўным будынку "Віцебскэнерга". Экспазіцыя размяшчаецца ў асобным памяшканні на першым паверсе. Падзелена на тры часткі. У першай адлюстравана гісторыя з'яўлення электрастанцый і энергасістэмы ў Віцебску і вобласці ад пабудовы ў 1897 г. першай станцыі, якая давала ток першаму ў Беларусі трамваю, да будоўляў першых пяцігодак і сучаснага стану галіны прамысловасці. Энергія ў цэлым і электрычнасць

у прыватнасці адыгрываюць важнейшае значэнне ў гісторыі чалавечай цывілізацыі. У СССР як краіне новага тыпу, якой даводзілася ў варожым атачэнні дабівацца будаўніцтва грамадства сацыяльнай справядлівасці, важнейшае значэнне надавалася развіццю энергетыкі. Па вядомым выказванні лідара Камуністычнай партыі і СССР У.І. Леніна, "сацыялізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны". Менавіта на Віцебшчыне была пабудавана першая электрастанцыя па распрацаваным плане ГОЭЛРО (Государственный план электрификации России) – БелДРЭС, якая працавала на торфе, што здабываўся на Асінаўскіх балотах. У экспазіцыі прадстаўлены аб'ёмны макет электрастанцыі, пляцёныя кошыкі, так званыя "тарфушкі", у якіх уручную, па калена ў ледзяной вадзе пераносілі здабыты торф для спальвання і атрымання электрычнасці.

У цэнтры прадстаўлена схема электрычных сетак у Віцебскай вобласці, абсталяваная светадыёдамі. Яна дазваляе ўявіць складаны працэс дастаўкі электраэнергіі ад станцыі да спажывальніка. Атмасферу працы энергетыкаў перадае дыярама "Падстанцыя ў Віцебскім раёне". Каля схемы змешчаны партрэты кіраўнікоў "Віцебскэнерга".

Нагадаем, што Віцебшчына адыгрывае асобнае месца ў энергасістэме Беларусі. Яна выпрацоўвае 48% энергіі ў краіне. Тут знаходзіцца буйнейшая электрастанцыя ў Беларусі і Еўропе – Новалукомльская (2459,5 МВт, гадавая выпрацоўка электраэнергіі – 10–14 млрд кВт/ч). У Віцебскай энергасістэме пачынаў працу і даслужыўся да пасады міністра энергетыкі Беларусі А.У. Азярэц, цяперашні міністр энергетыкі.

Сярод цікавых экспанатаў – імянныя каскі розных часоў, якія належалі выдатным энергетыкам. Па апошнім можна бачыць, як мянялася мода і якія новыя матэрыялы ўжываліся для захавання здароўя манцёраў. Цікавасць выклікаюць нямецкія лічыльнікі 1930-х гадоў, якія працуюць у залежнасці ад колькасці манет, укінутых у іх, унікальныя ізалятары, выраблены з дрэва ў 1930-я гг., універсальныя лазы для падымання на апоры электраперадач і простыя "кіпцюры-кошкі", якія выкарыстоўваюць манцёры, і іншыя экспанаты. Цікавасць выклікаюць і вітрыны, у якіх размешчаны юбілейныя і памятныя значкі, звязаныя з развіццём энергетыкі Беларусі і СССР.

Значную ролю ў падрыхтоўцы музея адыграў М.А. Казлоўскі. Аўтар праекта экспазіцыі і яго выканаўца – віцебскі мастак Ю.С. Чарняк.

Адрас: вул. газеты "Праўда", 30.
Тэл.: +375 212 49-22-89.
Час працы: 11.00–12.30.
Выходныя: субота, нядзеля.
Наведванне магчымае толькі па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі газіфікацыі Віцебскай вобласці УП "Віцебскаблгаз"*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні ў адміністрацыйнай частцы галоўнага корпуса ўстановы. Створаны ў 2003 г. па ініцыятыве генеральнага дырэктара прадпрыемства П.П. Шэршня.

Першая зала прысвечана гісторыі газіфікацыі вобласці, якая пачалася ў 1960 г. На пачатку экспазіцыі размешчаны копіі загадаў, пастаноў урада і мясцовых уладаў аб утварэнні адміністрацыйных структур. Сярод цікавых дакументаў – абаненцкія карткі, узоры заявак, дамовы аб пастаўцы газу прыватным асобам і інш. Асаблівую цікавасць уяўляюць, на нашу думку, фотаздымкі 1960-х гг., на якіх можна ўбачыць, як адбывалася наглядная дэманстрацыя выгод ад карыстання газам у сельскай мясцовасці. На сцяне – пано "Запаўненне балонаў зжыжаным газам на чыгуначнай станцыі".

Ніжні ярус экспазіцыі дэманструе газавыя балоны, газавыя пліты розных мадыфікацый і розных гадоў вытворчасці, праточныя воданагравальнікі ("калонкі"), першыя аварыйныя ўстаноўкі, рэгулятары ціску ў ёмкасцях. Сярод цікавых экспанатаў – лічыльнік газу, зроблены ў 1931 г., якім карысталіся на Львоўшчыне (Украіна), выбухабяспечныя тэлефоны, пераносны газааналізатар, прыстасаванне, якое дазваляла выкарыстоўваць газ для нагрэву чыгуннага вугальнага праса. У экспазіцыі газавая пліта з нумарам 1000000, выпушчаная Ленінградскім заводам, якая была ўручана перадавіку вытворачасці калгаса "Радзіма" ў Расонскім раёне, стотысячная пліта, устаноўленая на Віцебшчыне цялятніцы Н.З. Ляшчовай, якая працавала ў калгасе "Стайкі" Гарадоцкага раёна. Для спецыялістаў і аматараў цікава будзе пабачыць набор іскрабяспечных ражковых ключоў, калекцыю венцеляў, кранаў, манометраў і інш.

У зале "Аблгаз сёння" прадстаўлены матэрыялы, якія адлюстроўваюць супрацоўніцтва з партнёрамі, грамадскае, спартыўнае жыццё ўстановы, юбілеі, дабрачыннасць, дасягненні супрацоўнікаў. На вітрынах – падарункі і сувеніры ад дэлегацый з Расіі, Украіны, В'етнама, Венесуэлы. На фотаздымках – моманты пуску газу ў раённых цэнтрах Віцебшчыны, на якіх прысутнічалі старшыня Віцебскага аблвыканкама У. Андрэйчанка (Обаль, 2002, Шумілінскі раён), міністр энергетыкі У.І. Сямашка (Гарадок, 2002), Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка (Глыбокае, 2004). У экспазіцыі дэманструецца дыплом "Чалавек года Віцебшчыны 2010", якім быў узнагароджаны генеральны дырэктар УП "Віцебскаблгаз" П.П. Шэршань.

Пры музеі маецца відэатэка, якая складаецца з падрыхтаваных фільмаў, што адлюстроўваюць жыццё прадпрыемства, творчасць калектываў мастацкай самадзейнасці, спартыўныя спаборніцтвы, у якіх бралі ўдзел супрацоўнікі ўстановы.

Пры музеі маецца **экспазіцыя “Гісторыя УП “Віцебскаблгаз” у асобах”**. Створана ў 2006 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні. На стэндах прадстаўлена інфармацыя пра кіраўнікоў газавай гаспадаркі Беларусі, Віцебскай вобласці, рэгіёнаў вобласці, а таксама лепшых супрацоўнікаў абласной установы. У вітрынах: узнагароды, граматы, прызы, якімі ўшаноўваліся і ўганароўваліся найбольш выдатныя працаўнікі арганізацыі. Асобна дэманструюцца пасведчанні і значкі дэпутатаў розных часоў, якія мелі народныя выбраннікі, што працавалі ў “Віцебскаблгазе” і прадстаўлялі калектыў і жыхароў вабласці ў розных дзяржаўных структурах.

Таксама пры музеі маецца **выставачна-дэманстрацыйная зала**, якая складаецца з 2-х пакояў. У ёй дэманструюцца рэчы, зробленыя рукамі працаўнікоў установы. Штогод “Віцебскаблгаз” праводзіць сярод сваіх філіялаў конкурс. Лепшыя працы дэманструюцца і захоўваюцца ў зале. Прадстаўлены наступныя рубрыкі: мастацкая апрацоўка дрэва, металу, жывапіс і дэкаратыўнае пано, вырабы з прыродных матэрыялаў, вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут можна ўбачыць вельмі цікавыя экспанаты, сярод якіх, напрыклад, па-майстэрску выкаваны меч, ружа з метала, стулы, сталы, зробленыя з дрэва і ўпрыгожаныя разьбой, рэчы з саломкі.

У рэкрэацыях і калідорах – працяг экспазіцыі. Тут адлюстравана карта вобласці з абазначанымі аб’ектамі, якія маюць дачыненне да газавай гаспадаркі. На фотаздымках – усе структурныя падраздзяленні, гаспадарчыя і сацыяльныя аб’екты арганізацыі. Асобна прадстаўлены фотаздымкі ганаровых працаўнікоў газавай гаспадаркі вобласці па гадах.

На вучэбным палігоне УП “Віцебскаблгаз”, які знаходзіцца ў в. Ноўка Віцебскага раёна, можна ўбачыць адноўленую спецтэхніку: аўтацыстэрну для перавозкі зжыжанага газу, аўтамабіль для перавозкі балонаў, аўтамабіль аварыйнай газавай службы, розныя механізмы і прыстасаванні, неабходныя для паспяховай эксплуатацыі газавай гаспадаркі вобласці.

Адрас: вул. газеты “Праўда”, 36.

Тэл.: +375 212 47-45-62 (вытворча-тэхнічны аддзел).

E-mail: pto@oblgas.by; info@oblgas.by.

Наведванне магчымае толькі па папярэдняй дамоўленасці.

*Зала спартыўнай славы Віцебскай вобласці*

Знаходзіцца ў рэкрэацыях памяшканняў пад трыбунамі віцебскага стадыёна Цэнтральнага спартыўнага комплексу. Створана ў 2009 г.

У экспазіцыі адлюстравана гісторыя Алімпійскіх гульняў, змешчана інфармацыя пра спартоўцаў – прызёраў Алімпійскіх гульняў розных гадоў, якія нарадзіліся на Віцебшчыне, спартыўныя аб’екты рэгіёна. У асобным кутку экспануюцца ўзнагароды і прыват-

ныя рэчы выдатных спартоўцаў. Напрыклад, саколка вядомай біятланісткі Святланы Парамыгінай, у якой яна перамагла на Кубку свету ў 1994 г., чэмпіёнскі пояс выдатнага баксёра Вячаслава Яноўскага, які ён атрымаў за перамогу на Алімпіядзе ў Сеуле ў 1988 г.

Экспануецца інфармацыя пра выдатных спартоўцаў, якія нарадзіліся на Віцебшчыне і дасягнулі высокіх вынікаў у абраным відзе спорту і Алмпійскіх гульнях. Сярод такіх – Рамуальд Кім (штурханне молата, Токіа, 1964), Ігар Каныгін (класічная/грэка-рымская барацьба, Масква, 1980), Ларыса Петрык (спартыўная гімнастыка, Мехіка, 1968), Вячаслаў Яноўскі (бокс, Сеул, 1988), Наталля Міхневіч (Хараненка) (штурханне ядра, Пекін, 2008).

Перад стадыёнам на асобнай пляцоўцы ўтворана алея Алімпійскай славы. На 20 стылізаваных медалях змешчаны імёны віцебскіх спартоўцаў, якія сталі чэмпіёнамі і прызёрамі Алімпійскіх гульняў у розныя гады.

Адрас: пр-т Люднікава, 12.

Тэл.: +375 212 24-96-20, 24-85-54.

Час працы: экспазіцыю можна наведаць у час працы комплексу.

*Пакой працоўнай славы аўтатранспартнага прадпрыемства № 1 (АТП № 1)*

Знаходзіцца на другім паверсе адміністрацыйнага корпуса прадпрыемства ў закрытым шклом холе. Створаны ў пачатку 1980-х гг. Аўтарам першапачатковай экспазіцыі з'яўляўся Ю.С. Чарняк. За 1990–2000-я гг. два разы перапрацоўвалася, апошні раз у 2009 г., у гонар 65-годдзя арганізацыі.

На сценах – стэнды "Вытворчая база прадпрыемства ў 1970–1990 гг.", "Заслужаныя работнікі аўтатранспарту", "Грамадскае жыццё калектыву". "Перавозка грузаў". Асобна дэманструецца павялічаная копія загада аб утварэнні аўтабазы № 1 г. Віцебска ў жніўні 1944 г. Цікава, што ўсе чатыры першыя кіроўцы былі жанчынамі, бо ішла вайна і мужчыны былі прызваны ў войска. Побач дэманструеца аб'ёмны, выкананы з паперы макет будынкаў і тэрыторыі прадпрыемства. Разам ім знаходзяцца Чырвоныя сцягі, якія аўтакалона атрымала за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве. Адзін са сцягоў мае незвычайнае навершша, з юбілейным надпісам у гонар 50-годдзя Савецкай улады. У цэнтры экспазіцыі стэнд, прысвечаны дырэктарам АТП № 1.

На здымках, змешчаных на стэндах, – будынкі (гаражы, майстэрні, маторныя, кацельня і інш.), службы, якія ўваходзяць у склад прадпрыемства, першае святкаванне Дня аўтамабіліста (1969), Герой Сацыялістычнай Працы М.Л. Цвяткоў, які працаваў у аўтапарку. У вітрынах змешчаны граматы, пасведчанні, ганаровыя

пасведчанні, якімі ўганароўваліся работнікі прадпрыемства, кубкі за спартыўныя перамогі. На сценах у калідоры насупраць пакоя працоўнай славы фотаздымкі розных мадэляў аўтамабіляў, якія працавалі ў аўтакалоне.

На пляцоўцы перад брамай, якая вядзе ў АТП № 1, на спецыяльным пастаменце пастаўлены аўтамабіль МАЗ-208 – першая марка грузавога аўтамабіля, вырабленага на Мінскім аўтамабільным заводзе адразу пасля вайны. Менавіта гэтая мадэль з’яўлялася найбольш распаўсюджанай у АТП і зарэкамендавала сябе ў працы на будоўлях краіны.

Адрас: вул. Гагарына, 68.

Тэл.: +375 212 23-12-11.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Куток працоўнай славы аўтобуснага парка № 1 г. Віцебска*

Знаходзіцца на другім паверсе адміністрацыйнага корпуса ўстановы ў асобным памяшканні, якое выкарыстоўваецца як куток адпачынку і бібліятэка. Створаны ў 1970-я гг. віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком. Некалькі разоў экспазіцыя мянялася.

На пяці стэндах адлюстроўваюцца старонкі гісторыі прадпрыемства ад стварэння ў 1954 г. да сённяшняга дня. На першым змешчаны фотаздымкі ветэранаў прадпрыемства. Тых, што стаялі ля яго вытокаў. Сярод іншых Ізабэла Станіславаўна Галючанка, якая працавала кіроўцам аўтобуса і была ўзнагароджана ордэнам Леніна. Увагу прыцягвае фотаздымак Марсэля Германавіча Леймнса, бельгійца па нацыянальнасці, які працаваў у аўтапарку ў 1950–1960-я гг. У часы вайны ў нямецкім канцлагеры ён пазнаёміўся з дзяўчынай з Віцебска, закахаўся ў яе і пераехаў на сталае жыццё ў горад. Другі стэнд прысвечаны асобам, якія былі ўзнагароджаны нагрудным знакам “Ганаровы транспартнік”, значком “За працу без аварый”, ордэнамі Леніна, “Знак Пашаны”, Дружбы народаў, Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі “За працоўную доблесць”, “За працоўную адзнаку”. Трэці – прысвечаны ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, якія працавалі ў аўтапарку. На чацвёртым адлюстраваны кіроўны апарат прадпрыемства. На пятым можна ўбачыць грамадскае жыццё, творчыя калектывы, спартыўныя дасягненні аўтобуснага парка. На ўвесь горад вядомы ВІА “Вакзал”, лідэрам якога з’яўляецца Я.І. Кавалеўскі.

Адрас: вул. Церашковай, 7.

Тэл.: +375 212 47-60-12 (прыёмн.); 48-78-40.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі адукацыі пры ўпраўленні адукацыі Віцебскага аблвыканкама / “Гісторыі адукацыі ў Віцебскім рэгіёне”*

Ідэя стварэння музея ўзнікла яшчэ ў 1980-я гг. 29 верасня 1985 г. загадчыкам Віцебскага аблана быў выдадзены загад “Аб стварэнні музея гісторыі народнай адукацыі Віцебскай вобласці”. Віцебскі мастак Ю.С. Чарняк распрацаваў праект. Да 1988 г. былі сабраныя і закупленыя матэрыялы. Аднак стварыць музей не ўдалося. Падрыхтоўка новай экспазіцыі пачалася ў 2000-я гг. Музей знаходзіцца ў асобных памяшканнях у будынку былога Польскага дома.

У складзе музея плануецца вылучыць 8 раздзелаў. Першы прысвечаны з’яўленню асветы на тэрыторыі Падзвіння ў часы Полацкага княства. Другі – развіццю адукацыі ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Будуць разгледжаны розныя мадэлі адукацыі – каталіцкая (галоўную ролю у якой адыгрывалі езуіцкія калегіумы), праваслаўная (дзейнасць брацтваў), пратэстанцкая. Плануецца адлюстраваць дзейнасць выдатных асветнікаў – ураджэнцаў Віцебшчыны: Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага. Трэці раздзел прысвечаны гісторыі развіцця адукацыі на Віцебшчыне ў складзе Расійскай імперыі. У ім будзе распавядаецца пра дзейнасць Віленскай (пазней – Беларускай) навучальнай акругі, гімназій, настаўніцкіх інстытутаў. Прыведзены звесткі пра выдатных настаўнікаў і найбольш вядомых выпускнікоў навучальных устаноў Віцебшчыны – гісторыка А.П. Сапунова, заснавальніка рускай санскрыталогіі К. Косава, паэта Т. Ладу-Заблоцкага і іншых. У чацвёртым раздзеле будзе распавядаецца пра міжваенны перыяд у гісторыі БССР (1921–1941), калі ў савецкай дзяржаве, краіне новага тыпу, распачынаецца ліквідацыя непісьменства і праводзіцца культурная рэвалюцыя. Асобныя стэнды будуць прысвечаны структуры апарату кіравання, установам адукацыі нацыянальных меншасцяў (яўрэйскай, польскай, рускай), стварэнню сістэмы вышэйшай школы, сярэдне-спецыяльнай і спецыяльнай, прафесійна-тэхнічнай адукацыі, дашкольнаму і пазашкольнаму выхаванню. Пяты і шосты раздзелы прысвечаны гісторыі адукацыі ў гады вайны і пасляваеннаму перыяду 1945–1991 гг. Некалькі стэндаў будуць прысвечаны піянерам-героям Віцебшчыны, педагогам – удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны.

Асобныя стэнды плануецца прысвяціць педвучылішчам вобласці – Віцебскаму, Полацкаму, Пастаўскаму, Глыбоцкаму, Лепельскаму, Высачанскаму, тэхнікумам, ПТВ, СПТВ, ВНУ рэгіёна. Будзе асветлена роля спецыялізаваных устаноў і арганізацый – Інстытута ўдасканалення настаўнікаў, аддзела навукі і вучэбных устаноў абкама партыі, прафсаюзнай арганізацыі, Дзіцячага фонда. Асобны стэнд будзе прысвечаны настаўнікам-вучоным, вядомым настаўнікам – ураджэнцам рэгіёна.

У сёмым раздзеле “Сістэма адукацыі на сучасным этапе” будзе распавядацца пра развіццё адукацыі ў незалежнай Беларусі. Будуць адлюстраваны асаблівасці пераходнага перыяду: стварэнне гімназій, ліцэяў, з’яўленне каледжаў, змены ў статусах устаноў, пераўтварэнне інстытутаў ва ўніверсітэты. Прадстаўлены абласны апарат упраўлення адукацыі, раённыя, гарадскія аддзелы адукацыі, ВНУ, каледжы, дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты, прытулкі вобласці.

Асобна будзе адлюстроўвацца дзейнасць пазашкольных устаноў, праца Рэспубліканскай асацыяцыі пошукавых клубаў “Пошук”, якая створана на базе віцебскіх клубаў.

Восьмы раздзел – “Зала Пашаны”. Тут будуць змешчаны фотаздымкі настаўнікаў, якія былі ўзнагароджаны ордэнамі, медалямі, якія маюць ганаровае званне “Народны настаўнік”, “Заслужаны настаўнік БССР, СССР”, “Выдатнік адукацыі БССР, СССР, Рэспублікі Беларусь”.

У экспазіцыі плануецца змясціць статыстычную інфармацыю, вучэбную літаратуру, падручнікі, дапаможнікі, па якіх выкладаліся вучэбныя прадметы ў розныя часы, узнагароды розных перыядаў гісторыі нашай краіны.

Адкрыццё запланавана на бліжэйшы час.

Адрас: Кастрычніцкі праезд, 2.

Тэл.: +375 29 672-68-40.

Час наведвання: 8.00–17.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

*Экспазіцыя ў тэатры “Лялька”*

У 1985 годзе пры Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа была арганізаваная невялікая лялечная трупа. У 1986 г. быў створаны Беларускі тэатр “Лялька”. Першай пастаноўкай была п’еса Віталя Вольскага “Дзед і жораў” паводле вядомай беларускай народнай казкі “З рога ўсяго многа”.

Экспазіцыя змяшчаецца ў фае тэатра, мае дзве залы, падзеленыя праходам. Прысвечана гісторыі віцебскага тэатра “Лялька” і лялечнага тэатра як з’явы сусветнага мастацтва. Галоўным чынам яна складаецца з лялек, якія ўжываліся ў розных пастаноўках тэатра на працягу яго існавання. Экспанаты ўтрымліваюцца ў 10 вітрынах і на асобных стэндах. Можна ўбачыць розныя тыпы лялек – трысняговыя, пальчатkавыя, марыянеткі, сіцылійскія марыянеткі. Экспануюцца лялькі і рэквізіт з розных пастановак – экзатычныя птушкі, ослік, гарлачы з пастаноўкі “Аладзін”, кот у ботах з аднайменнай пастаноўкі, лялькі, выраблены для спектакля “Казкі дзядзечкі Рымуса”, лялькі, якія выкарыстоўваліся ў спектаклях паводле казак Ганса-Хрысціяна Андэрсана, персанажы пастаноўкі “Хлопчык-Зорка”. У асобных вітрынах змешчаны ўзнагароды “За лепшую рэжысуру”, “За лепшую

сцэнаграфію", "За акцёрскае майстэрства" і іншыя, якія атрымалі "лялькаўцы" на конкурсах у Расіі, Латвіі, Літве, Германіі, Польшчы, Украіне, Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Балгарыі, Егіпце, Іране.

На сценах у калідорах змяшчаюцца батлейкі з розных рэгіёнаў Беларусі.

Наведванне экспазіцыі будзе цікавым не толькі дзецям розных узростаў, але і дарослым, таму што казкі і іх персанажы закранаюць вечныя катэгорыі (суадносіны знешняй і духоўнай прыгажосці, грэх, расплата за грэх, пакаянне і дараванне і інш.).

Адрас: вул. Пушкіна, 2.

Тэл.: +375 212 37-34-61 (літаратурная частка); 36-32-31; 36-32-50 (факс).

E-mail: info@lialka.vitebsk.net.

Час наведвання: у час працы тэатра, але не пажадана ў час правядзення спектакляў: 10.30, 13.00 па буднях, 11.00 – субота, нядзеля.

Наведаць экспазіцыю магчыма па ўваходным квітку. Па папярэдняй дамоўленасці можна замовіць дэманстрацыю батлейкі прафесійнымі акцёрамі.

*Галерэя працоўнай славы ўстановы аховы здароўя "Віцебскі абласны клінічны анкалагічны дыспансер"*

Знаходзіцца на першым паверсе паліклінікі, у рэкрэацыі будынка паліклінікі дыспансера. Ініцыятар стварэння – галоўны ўрач установы А.В. Томчына. Распрацоўку экспазіцыі пачынала В.І. Акуневіч. Стваральнік – С.Ю. Караўкіна. Выкарыстаны матэрыялы, якія збіраліся з 2005 г. Урачыстае адрыццё плануецца на 1 лістапада 2012 г.

Прысвечана гісторыі стварэння і дзейнасці ўстановы аховы задроўя. На закрытых стэндах і вітрынах дэманструюцца копіі дакументаў, кнігі, артыкулы дактароў, якія працуюць у дыспансеры, граматы, дыпломы, якімі ўзнагароджаны работнікі. Можна ўбачыць фотаздымкі, якія распавядаюць пра гісторыю стварэння дыспансера, яго развіццё, асобныя эпізоды лячэбнага працэсу. На адным з фота адлюстраваны момант адкрыцця будынка паліклінікі Прэзідэнтам Беларусі.

Адрас: вул. П. Броўкі, 33.

Тэл.: +375 212 22-40-31 (прыёмная).

Час працы: час працы паліклінікі.

*Экспазіцыя "Віцебшчына прафсаюзная" пры Віцебскім абласным аб'яднанні прафсаюзаў*

Знаходзіцца ў актавай зале на 3-м паверсе ўстановы. Створана ў 2010 г. Уяўляе сабой некалькі стэндаў і вітрын. Раздзелы "Ля вытокаў", "Гады, абпаленыя вайной", "Курсам сацыяльнага партнёр-

ства”, “Прафсаюзы ў XXI стагоддзі” распавядаюць пра асноўныя этапы развіцця прафсаюзнай арганізацыі Віцебскай вобласці. У экспазіцыі прадстаўлены копіі дакументаў, фотаздымкі, узнагароды прафсаюзаў СССР, БССР і Віцебшчыны.

Адрас: вул. Калініна, 4.

Тэл.: +375 212 37-35-36.

*Хол Віцебскай абласной бібліятэкі імя У.І. Леніна*

Знаходзіцца на першым паверсе бібліятэкі. Праводзяцца выставы жывапісных і графічных работ беларускіх і замежных мастакоў, фотавыставы. Перыядычна экспануюцца тэматычныя выставы рознай накіраванасці.

Адрас: вул. Леніна, 8а.

Тэл.: +375 212 37-21-62.

Можна наведаць: 10.00–21.00 (панядзелак–чацвер), 10.00–18.00 (субота, нядзеля).

Выходны: пятніца.

*Царкоўна-археалагічны музей (кабінет) Віцебскай епархіі*

З’яўляецца спадкаемцам царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча, якое існавала ў горадзе ў 1893–1917 гг. Адноўлены як кабінет на пачатку 1990-х гг. Пачаў прымаць наведвальнікаў у пачатку 2005 г.

Знаходзіўся ў будынку Віцебскай Духоўнай семінарыі. Плошча памяшкання больш за 150 м². У экспазіцыі змяшчаліся матэрыялы па гісторыі праваслаўя на Віцебшчыне ад пачатку распаўсюджання хрысціянства ў X ст. Былі адлюстраваны важнейшыя і складаныя моманты жыцця праваслаўнай царквы ў XVII, XIX стст., часы “ваяўнічага атэізму” і ганенняў на веру, адраджэння ў канцы XX – пачатку XXI ст. У зале з асноўнай экспазіцыяй змяшчаліся іконы, богаслужэбныя кнігі, нотныя зборнікі, рэчы, якія выкарыстоўваюцца пры літургічным служэнні, узоры святарскага аблачэння, макеты новых і адноўленых храмаў, матэрыялы археалагічных раскопак, архіўныя дакументы, фотаздымкі, матэрыялы з паломніцкіх паездак па святых месцах і іншыя рэчы. Асобна былі прадстаўлены матэрыялы пра аднаўленне храмаў Віцебска ў 1980–2000-я гг. Шэраг рэчаў ахвяраваны архібіскупам Дзімітрыем, клірыкамі епархіі, прыхаджанамі. Некаторыя іконы былі перададзены з мытнага ўпраўлення пасля адабрання ў кантрабандыстаў. У фондах больш за 500 рэчаў. Калекцыя пастаянна папаўняецца.

У рэкрэацыі духоўнага вучылішча змешчана галерэя партрэтаў патрыярхаў Рускай праваслаўнай царквы, выкананых вядомым рускім мастаком А.М. Шылавым, у тым ліку гістарычныя рэканструкцыі

на аснове парсун XVII ст. – рэфарматара Нікана, Іаасафа ІІ – адзінага беларуса, які займаў патрыяршы прастол.

На цяперашні час у сувязі з тым, што ў будынку Духоўнай семінарыі па вул. Крылова, 7 адсутнічаюць памяшканні, частка экспазіцыі пераведзена і размешчана ў храме Антонія Рымляніна (ніжні храм Уваскрасенскай (Рынкавай) царквы). Частку экспазіцыі мяркуецца размясціць у Прэабражэнскім храме (ніжні храм Успенскага кафедральнага сабора). Пры капліцы Св. Вольгі плануецца стварэнне музея іконнага жывапісу.

Адрас: вул. Талстога, храм Антонія Рымляніна (ніжні храм Уваскрасенскай (Рынкавай) царквы).

Тэл.: +375 212 35-85-11.

Час наведвання: 10.00–18.00, штодзень.

## 2.3. Музеі прадпрыемстваў

*Народны музей працоўнай славы адкрытага акцыянернага таварыства (фабрыкі) "КІМ"*[129]

Музей прысвечаны гісторыі і дасягненням прадпрыемства. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе адміністрацыйнага корпуса. Створаны да святкавання 60-годдзя фабрыкі (1991). Аўтар праекта экспазіцыі – С.М. Казлова. Значную ролю у арганізацыі адыграла В.М. Рубінава. Афармленне музея праводзілі супрацоўнікі камбіната "Мастацтва".

Музей мае 5 залаў. У першым адлюстравана гісторыя стварэння фабрыкі ў 1928 г. і развіцця да 1941 г. Панчошна-трыкатажная фабрыка будавалася ў Віцебску ў адпаведнасці з планам першай пяцігодкі сацыялістычнай індустрыялізацыі. Адкрыццё прадпрыемства адбылося 7 верасня 1931 г. у Міжнародны дзень моладзі. Улічваючы, што на будаўніцтве прадпрыемства працавала таксама ў асноўным моладзь, было прынята рашэнне надаць фабрыцы імя Камуністычнага інтэрнацыянала моладзі (скарочана КІМ).

Адчуць атмасферу эпохі дапамагае артыкул "Фабрыка КІМ пад сталінскім сонцам". Гэта былі часы, калі ўсё было ўпершыню. З рабочых фабрыкі Т.К. Падскочава першай з жанчын Віцебска атрымала ордэн Леніна (дэманструецца ў зале). Шматстаночніца Г.В. Норкіна была першай дзяўчынай у горадзе, якая ажыццяўляла скачкі з парашутам. Яна ж пазней стала першай жанчынай – дырэкта-

[129] "Камуністычны інтэрнацыянал моладзі". Такое імя фабрыка насіла да 1994 г. У сувязі са зменай рэалій жыцця, адсутнасцю арганізацыі, у гонар якой прадпрыемства было названа, але шырокую вядомасць, якую атрымала марка "КІМ", быў праведзены конкурс на новы сэнс старой назвы. Абрэвіятуры надалі новае сэнсавае значэнне: "Класіка індустрыі моды".

рам фабрыкі. У цэнтры залы ў шкляной вітрыне дэманструецца інструментальная мерка (кляймо) выдатнага работніка М.Г. Парэцкага, яго інструменты. Цікава пабачыць плакаты 1920–1930-х гг., экзэмпляры газеты “Кімавец”. Больш эмацыянальнаму ўспрыняццю экспазіцыі дапамагаюць вітраж “Будаўніцтва фабрыкі імя КІМ”, які выканаў Ф. Гумен, дыярама “Фабрыка імя КІМ ў 1930-я гг.”.

У зале змешчаны фотаздымкі першых будаўнікоў прадпрыемства, фабрыкі, цэхаў. На іх адлюстраваны сцэны грамадскага і культурнага жыцця рабочых прадпрыемства. У экспазіцыі ёсць здымак, які атрымаў сусветную вядомасць. На ім выява фабрыкі як аднаго з першынцаў сталінскай пяцігодкі. Здымак змяшчаўся ў газетах, падручніках, на паштоўках і стаў хрэстаматыйным. Віцебск ведаюць і па іншых сімвалах, якія звязаны з фабрыкай. Для работнікаў прадпрыемства быў пабудаваны “Дом-камуна” (1927–1929), у якім былі і жылыя, і грамадскія памяшканні. Цяпер ён больш вядомы як “5-ы камунальны дом”. Перад гэтым домам стаіць другі сімвал часу, а цяпер і Першамайскага раёна горада – помнік інтэрнацыянальнаму сяброўству. Ёсць здымкі з прыкметамі часоў “вялікага тэрору” 1933–1937 гг. На адным з калектыўных здымкаў працаўнікоў твар адной з жанчыны рэтушор адмыслова закрыў сцягам, бо некалькі членаў яе сям’і былі аб’яўлены “ворагамі народа”.

Другая зала прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Больш за 900 работнікаў фабрыкі бралі ўдзел у вайне, больш за 200 з іх загінулі. На тэрыторыі прадпрыемства ўзведзена памятная стэла з прозвішчамі тых, хто загінуў за свабоду краіны. На стэндах распавядаецца пра тое, як праводзілася эвакуацыя прадпрыемства ў 1941 г., як з трох эшалонаў, якія паспелі аправіць з Віцебска, у г. Ульянаўск прыйшоў толькі адзін, як у максімальна сціслы тэрмін была адноўлена праца прадпрыемства і была выраблена першая прадукцыя для фронту. Асобна прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя падпольнай барацьбе ў акупаваным Віцебску і ўдзелу ў ёй кімаўцаў.

Трэцяя зала прысвечана пасляваеннаму аднаўленню фабрыкі. У адноўленыя цэхі было пастаўлена абсталяванне з Германіі, якое было атрымана ў якасці рэпарацыі за нанесеную фашыстамі шкоду. З Ульянаўска вярнулася толькі частка абсталявання. У рэтра-кутку размешчаны мініяцюрныя ўзоры прадукцыі, якую выпрабляла фабрыка ў тыя часы. На стэндах фотаздымкі, што распавядаюць пра цяжкія крокі аднаўлення разбуранага горада. Але негледзячы на цяжкасці, на тварах людзей шчаслівыя ўсмешкі, аптымізм і вера ў тое, што калі ўдалося перамагчы ў такой страшнай вайне, то будучыня можа быць толькі светлай.

У чацвёртай зале адлюстравана гісторыя фабрыкі ў 1958–1985 гг. Гэта час, калі прадпрыемства амаль кожны год з’яўлялася пе-

раможцам сацыялістычнага спаборніцтва ў Першамайскім раёне горада Віцебска, вобласці, краіны, СССР. У адпаведнасці з гэтымі дасягненнямі шмат работнікаў фабрыкі адзначаліся высокімі ўрадавымі ўзнагародамі, напрыклад, А.Ф. Арцёменка стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Рабочыя станавіліся дэлегатамі з’ездаў рознага ўзроўню. Тут шмат савецкай сімволікі: сцягі за перамогі ў спаборніцтвах, узнагароды, значкі. Адлюстраваны новыя формы сацыялістычнага спаборніцтва (калектывы камуністычнай працы), прафсаюзнае жыццё. У гэты час фабрыка мела свой палац спорту, басейн, прафілакторый, дзіцячы аздараўленчы лагер “Чайка” і іншыя сацыяльныя ўстановы.

Пятая зала прысвечана перыяду ад 1986 г. да нашых дзён. Экспазіцыя, прысвечаная гісторыі прадпрыемства ў гады палітыкі “перабудовы”, аформлена ў чырвона-чорна-белай колеравай гаме, што адлюстроўвае асаблівасці эпохі. У афармленні выкарыстаны разбіты герб Савецкага Саюза, які сімвалізуе распад вялікай дзяржавы, пачатак зацяжнога крызісу, у якім апынулася краіна. Сярод цікавых экспанатаў – капсула з пасланнем нашчадкам, якую трэба ўскрыць у 2017 г., граматы, памятка “Рабочая пуцёўка”, якая выдавалася маладому спецыялісту на пачатку яго працы на фабрыцы, пасведчанне “Заслужаны ветэран працы”, схема “Структурная схема арганізацыі ідэалагічнай работы на фабрыцы”. Цікавасці заслугоўваюць і здымкі першамайскіх і кастрычніцкіх дэманстрацый, на якія для ўдзельнікаў ад фабрыкі “КІМ” кожны раз шыліся новыя, арыгінальныя касцюмы. У экспазіцыі прадстаўлены некалькі агрэгатаў, якія выкарыстоўваліся на фабрыцы: панчошны аўтамат КАС-22, пад столлю прымацаваны элементы кругла-трыкатажнага апарата. Гонар экспазіцыі – дасягненні прадпрыемства. У першую чаргу гэта “Белыя амфары” – галоўныя прызы аднайменнага ўсебеларускага конкурсу мадэльераў і дызайнераў. Чатыры разы калекцыі Т. Гарыдавец, Т. Арысавай, М. Давыдавай станавіліся пераможцамі ў гэтых прэстыжных спаборніцтвах.

У асобным кутку прадстаўлены ўзоры сучаснай прадукцыі. Для тых, хто не ведае горада, цікавым будзе куток яго славутых месцаў. Нагадваюць пра ролю прадпрыемства аб’екты, якія звязаны з КІМам: культурна-дзелавы цэнтр “Віцебск” (былы “КІМ”), фірменныя крамы КІМа, фотаздымкі цэхаў і вытворчасцяў фабрыкі. У цэнтры залы – мініяцюрны макет фабрыкі, якая і цяпер займае плошчу 12,4 га. У лепшыя часы на ёй працавала больш за 6,5 тыс. чалавек. Цяпер толькі 1,5 тыс. рабочых, але і на сёння гэта другое месца ў горадзе.

Некаторыя матэрыялы пра фабрыку, яе сучасны стан размешчаны ў фае на першым паверсе. Тут жа асобная зала, у якой экспануецца

гатовая прадукцыя прадпрыемства, асобная зала з подыумам для дэманстрацыі вырабаў.

Адрас: вул. М. Горкага, 42.

Тэл.: +375 212 34-13-44 (прафкам).

Час працы: 9.00–17.00.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей прадпрыемства Віцебскага станкабудаўнічага завода “ВІСТАН”*

Створаны ў 1985 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на тэрыторыі завода. Прысвечаны гісторыі станкабудаўнічага завода імя С.М. Кірава (цяпер завод “Вістан”). Арганізатарам быў начальнік бюро навуковай арганізацыі працы А.С. Лернер.

Экспазіцыя адлюстроўвае галоўныя этапы станаўлення завода. Гісторыя пачынаецца ў 1914 г., калі з пачаткам Першай сусветнай вайны ў казармах 100-га Востраўскага пяхотнага палка была створана 5-я тылавая артылерыйская майстэрня Паўночнага фронта. Майстэрня займалася рамонтам воінскіх павозак, тачанак, зарадных скрыняў, палявых кухань, дробным рамонтам гармат. З 1918 г. на базе ваенных майстэрняў быў створаны завод сельскагаспадарчых машын і прылад. З 1922 г. ён атрымаў назву “Чырвоны Металіст”. У 1929 г. быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. На пачатку 1930-х гг. у сувязі з правядзеннем індустрыялізацыі пераарыентаваны на вытворчаць станкоў. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў эвакуіраваны ў Арэнбург, дзе вырабляў міны, снарады, абсталяванне для абароннай прамысловасці. У 1944 г. рээвакуіраваны ў Віцебск. У 1960–1964 гг. праведзены рэканструкцыя і пашырэнне завода. З распадам СССР рэзка знізіўся попыт на традыцыйную прадукцыю завода – бесцэнтрова-шліфавальныя станкі, аўтаматычныя лініі, што адбілася на стане прадпрыемства і яго работнікаў.

У экспазіцыі прадстаўлены макеты станкоў, якія выпрабляліся на заводзе, узоры прадукцыі – паменшаная копія плуга, малатарня, ручны свідравальны станок, макеты сучасных высокапрадукцыйных станкоў (для лазернай рэзкі ліставога матэрыялу, для даводкі шарыкаў падшыпнікаў, шліфавальныя, такарныя і іншыя). На дадзены момант “ВІСТАН” – адзіны ў краіне завод, які вырабляе круглашліфавальнае і суперфінішнае абсталяванне.

Захоўваюцца Чырвоныя сцягі, якія былі атрыманы за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве, ганаровыя граматы, дыпломы, падарункі да юбілееў прадпрыемства, медалі, заваяваныя на міжнародных выставах.

У перспектыве разглядаецца пытанне аб пераводзе музея ў іншае памяшканне, якое будзе мець уваход з вуліцы і будзе адкрытым для наведвальнікаў.

Адрас: вул. Дзімітрава, 36/7.

Тэл.: +375 212 37-69-14; унутраны тэлефон: 8-14.

Сайт: www.vistan.by.

E-mail: info@vistan.ru, vistan@vitebsk.net.

*Музей баявой і працоўнай славы фабрыкі “Сцяг індустрыялізацыі”*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні ў адміністрацыйным будынку на тэрыторыі фабрыкі. Арганізаваны ў 1970-я гг. па ініцыятыве начальніка вучэбна-курсавога камбіната прадпрыемства Л.І. Маскаленкі. Складаецца з 3-х залаў. Музей адлюстроўвае гісторыю фабрыкі, якая была створана ў часы сацыялістычнай індустрыялізацыі адной з першых у БССР.

Першая зала прысвечана стварэнню прадпрыемства ў другой палове 1920-х – пач. 1930-х гг. У экспазіцыі – копіі фотаздымкаў, дакументаў, якія адлюстроўваюць пачатак жыцця фабрыкі. У цэнтры – дыярама, на якой паказаны Віцебск 1920-х гг. з выявай корпуса прадпрыемства. У вітрынах размешчаны шанцавы інструмент, пры дапамозе якога будаваліся катлаваны для карпусоў прадпрыемства, узоры першай прадукцыі: споднявая бялізна, верхняе адзенне.

Другая зала прысвечана даваеннаму развіццю фабрыкі. У першай яе частцы прадстаўлены вынікі працы першынца першых пяцігодак індустрыялізацыі ў БССР, фотаздымкі стаханаўцаў, ударнікаў сацыялістычнай працы. Змешчаны ўзоры прадукцыі, якая ў асноўным прызначалася для Чырвонай Арміі: шынялі, кіцелі для афіцэраў, салдацкая форма, будзёнаўкі, шапкі-вушанкі і інш. Другая частка другой залы прысвечана цяжкім дням вайны. Паказаны маршрут, па якім ішлі цягнікі са станкамі і абсталяваннем, якое вывозілася ў эвакуацыю ў глыбокі тыл Савецкага Саюза, як праходзіла манціраванне абсталявання ў будынку крытага базара ў г. Саратаў, размешчаны фотаздымкі найлепшых працаўнікоў.

Трэцяя зала адлюстроўвае развіццё прадпрыемства ў пасляваенныя часы: вяртанне прадпрыемства ў Віцебск, пабудову новых карпусоў, аднаўленне вытворчасці, развіццё сацыяльна-побытавай сферы фабрыкі. Разам з узорамі новай прадукцыі, якую паралельна з вайсковай формай выраблялa прадпрыемства, – паліто, курткі, шапкі, змешчаны партрэты перадавікоў вытворчасці, у тым ліку Герояў Сацыялістычнай Працы – М.І. Мацэнка, М.В. Анібраевай. У экспазіцыі – мільённая швейная машына класа 10-22М (прыклад асноўнага абсталявання, на якім выконваліся заказы дзяржавы),

прэзентаваная Аршанскім заводам “Легмаш”, ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга А.І. Сарокінай, які яна атрымала за сумленную працу на прадпрыемстве, чырвоныя сцягі, якімі фабрыка была ўзнагароджана за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве. У цэнтры залы – вітрына з падарункамі гасцей, дэлегацый ад сумежных прадпрыемстваў. Нагадаем, што ў 1980 г. фабрыка была ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Працоўнага Сцяга.

У памяшканні музея праводзяцца пасвячэнні маладых спецыялістаў прадпрыемства, сустрэчы ветэранаў працы. У музеі захоўваецца кніга, створаная Л.І. Маскаленкам да 50-годдзя прадпрыемства прысвечаная гісторыі прадпрыемства, яго людзям.

Адрас: вул. Гагарына, 11.

Тэл.: +375 212 48-61-15 (прыёмная, прафкам).

E-mail: znamya@tut.by.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей фабрыкі “Чырвоны Кастрычнік”*

Створаны ў 1960-я гг. Знаходзіцца ў памяшканні бібліятэкі на другім паверсе будынка фабрыкі. Раней размяшчаўся ў будынку былога адміністрацыйнага корпуса. Значна пацярпеў у сувязі са зменай статуса і рэарганізацыяй прадпрыемства, у выніку якой страчана значная колькасць экспанатаў. Сучасная экспазіцыя адлюстроўвае гісторыю аднаго са старэйшых у горадзе прадпрыемстваў ад стварэння ў 1923 г. на аснове нацыяналізаваных саматужных майстэрняў фабрыкі “Самаход”. У 1927 г. яна была перайменавана ў гонар Г. Лекерта. У 1938 г. атрымала сучасную назву – “Чырвоны Кастрычнік”.

Экспазіцыя распавядае пра асноўныя этапы развіцця прадпрыемства, яго ролю ў эканамічным жыцці горада і краіны. Напрыклад, у савецкія часы фабрыка пастаўляла сваю прадукцыю ў больш чым у 500 кропак СССР і краін сацыялістычнай арыентацыі. На сродкі прадпрыемства была пабудавана добрая сацыяльная структура: 5 дашкольных і дзіцячых устаноў, аздараўленчы лагер “Бярозка”, басейн “Маладосць”. Адным з сімвалаў горада стаў будынак фабрычнага інтэрната на праспекце ген. Люднікава.

З 1924 па 1926 г. на фабрыцы працаваў Я. Фамін, які ў чэрвені 1941 г. стаў адным з арганізатараў абароны Брэсцкай крэпасці. Прэзентуюцца каталогі і ўзоры прадукцыі – розныя мадэлі жаночага, мужчынскага і дзіцячага абутку. Большая частка прадстаўленых экспанатаў адлюстроўвае савецкую эпоху – узнагароды пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва, пераходзячыя Чырвоныя сцягі, кубкі, граматы, ганаровыя знакі, падарункі сяброў з розных рэгіёнаў СССР і сацыялістычных краін. Цікавасць уяўляе расповяд пра арганізацыю правядзення вольнага часу для працоўных прадпрыемства, дзейнасць

духавога, эстраднага, тэатральнага, харавога гурткоў, танцавальнага калектыву. На аснове прадпрыемства ў канцы 1980-х гг. было створана адно з першых у краіне сумесных прадпрыемстваў – "Белвест".

Адрас: пр-т Люднікава, 10.

Тэл.: +375 212 24-75-00 (прыёмная).

Час працы: 13.00–17.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Выставачная зала Віцебскага дывановага камбіната*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні адміністрацыйнага корпуса. Утворана ў першай палове 1970-х гг. Складаецца з дзвюх залаў.

У першай распавядаецца пра гісторыю камбіната. Прадпрыемства, якое мы ведаем як дывановы камбінат, было ўтворана як ільнопрадзільная фабрыка "Дзвіна" ў 1900 г. Яна паўстала дзякуючы ўдзелу бельгійскага капіталу і з'яўлялася самым буйным прадпрыемствам у краі. На стэндзе можна ўбачыць фатаграфіі першага дырэктара фабрыкі T. Hansen, упраўляючага фабрыкай Desire t'Felt, групавыя здымкі старэйшых рабочых. На іншых стэндах – матэрыялы пра развіццё фабрыкі ў пачатку XX ст., удзел у сацыялістычнай індустрыялізацыі. Сярод цікавых экспанатаў – пасведчанне "Героя Першай пяцігодкі", якое належала В.А. Матвееву, фота першага дырэктара фабрыкі ў савецкія часы  М.А. Круглага, здымак членаў камсамольскай арганізацыі прадпрыемства і іншыя.

З пачаткам вайны фабрыка была эвакуіравана ў г. Бійск Алтайскага краю. На стэндах – інфармацыя пра тое, як фабрыка працавала ў новых умовах, лёсы рабочых-франтавікоў, тых, хто працаваў у савецкім тыле, тых, хто заставаўся ў акупаваным Віцебску. У 1946 г. было прынята рашэнне аб утварэнні на базе адноўленых карпусоў ільнопрадзільнай фабрыкі дываноова-плюшавага камбіната. Справа ў тым, што сюды прыбывала абсталяванне, атрыманае ад Германіі па рэпарацыях за нанесеную шкоду ў часы акупацыі БССР. На стэндах – матэрыялы, якія адлюстроўваюць станаўленне і развіццё новага тыпу прадпрыемства. У 1960–1970-я гг. працоўныя прадпрыемства бралі ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве. Усесаюзную вядомасць атрымалі брыгада П.М. Шалаева, а П.Д. Клімкоў атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы. Тут жа дэманструюцца сцягі за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве.

У другой зале экспануюцца ўзоры вырабаў камбіната розных часоў. Разам з дыванамі, якія выраблялія для шырокіх слаёў насельніцтва, можна ўбачыць эксклюзіўныя, з партрэтамі партыйных і палітычных дзеячаў СССР (М.С. Хрушчова, Л.І. Брэжнева, І.В. Сталіна, М.В. Зімяніна, К.Т. Мазурава і інш.). Цікавыя дываны, створаныя па матывах казак, твораў А.С. Пушкіна, па сюжэтах

мультфільмаў. Прадстаўлены дываны, створаныя на рэлігійныя сюжэты. Як памятка пра савецкія часы – дываны, якія вырабляліся да юбілейных дат Кастрычніцкай рэвалюцыі, Савецкай Беларусі, Камуністычнай партыі. Заслугоўваюць увагі дываны, на якіх адлюстраваны помнікі архітэктуры і памятныя месцы Віцебска, герб горада, герб Віцебскай вобласці, дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь і іншыя.

Адрас: вул. М. Горкага, 75.

Тэл.: +375 212 34-33-52 (бібліятэка).

Сайт: http://www.carpet.vitebsk.by.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей працоўнай славы прадпрыемства “Візас” (завода заточных станкоў імя XXII з’езда КПСС)*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні. Створаны ў сяр. 1970-х гг. па ініцыятыве дырэктара Дз.С. Арапава. Плошча – 108 м².

У пачатку экспазіцыі на сцяне змешчана пано “Геаграфія паставак экспартнай прадукцыі прадпрыемства”, на якім адлюстраваны карта свету і некалькі дзясяткаў краін, у якія адпраўляліся станкі, што выраблялiся на прадпрыемстве.

Першая зала прысвечана стварэнню прадпрыемства. Завод быў заснаваны ў г. Клін як чыгуналіцейны. У гады вайны ён быў эвакуіраваны ў г. Беларэцк, а ў 1944 г. перавезены ў Віцебск, дзе вырабляў ваенную прадукцыю. З цягам часу прадпрыемства пашырылася і стала Віцебскім заводам заточных станкоў імя XXII з’езда КПСС. На вітрынах – дакументы, узоры прадукцыі, фотаздымкі, узнагароды, якія адлюстроўваюць асноўныя этапы шляху прадпрыемства. Асобныя стэнды прысвечаны перадавікам вытворчасці, сямейным дынастыям, якія склаліся на заводзе, дырэктарам, што ў розны час кіравалі прадпрыемствам. Сярод іншых, напрыклад, Б.М. Піваваронак, які з’яўляўся дырэктарам завода з 1969 па 1976 г., а потым займаў пасаду намесніка міністра станкабудаўнічай і інструментальнай вытворчасці СССР.

Другая зала – “Візас на сусветным рынку” – афармлена вядомым беларускім мастаком Алесем Пушкіным. У ёй дэманструюцца паменшаныя макеты станкоў, якія вырабляла і робіць прадпрыемства, напрыклад, паўаўтамат для заточкі чарвячных фрэз. У зале размешчаны крэслы на 30 асоб. Яна выкарыстоўваецца для правядзення сходаў, сустрэч ветэранаў прадпрыемства, узнагароджання пераможцаў, іншых урачыстых мерапрыемстваў.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 83.

Тэл.: +375 29 652-40-70.

Сайт: www.vizas.org.

E-mail: info@vizas.org.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей працоўнай славы завода радыёдэталяў “Маналіт”*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе адміністрацыйнага корпуса. Створаны ў 1982 г. Прысвечаны гісторыі прадпрыемства, папулярызацыі асноўных дасягненняў, прафесійнай арыентацыі моладзі. Агульная плошча – 247 м². Мае 5 залаў. Ініцыятарам стварэння выступіла Раіса Аляксандраўна Раскіна. Значную ролю адыграў Яўген Майсеевіч Кавалерчык. Праект экспазіцыі музея распрацаваны Ю.С. Чарняком.

Першая зала прысвечана заснаванню завода (люты 1957 г.), пачатку яго будаўніцтва, першым дасягненням. На пачатку экспазіцыі змешчана фотапано, у якім адлюстраваны асноўныя аб’екты эканамічнага, грамадскага, побытавага, культурнага і спартыўнага жыцця прадпрыемства. На другой сцяне размешчана карта свету з адзначанымі краінамі, у якія пастаўлялася прадукцыя завода. Прадпрыемства было засакрэчаным, бо працавала ў структуры ваеннапрамысловага комплексу. У 1970 – першай палове 1980-х гг. на ім працавала 12 тыс. чалавек.

Незвычайным экспанатам у экспазіцыі з’яўляецца аўтаматызаваны даведачны апарат, які раней змяшчаўся на чыгуначных станцыях, а ў музеі прыстасаваны пад яго патрэбы. Націскаючы адпаведныя клавішы, можна атрымаць інфармацыю пра рабочых, якія з’яўляліся дэлегатамі Вярхоўнага Савета БССР і СССР, працаўнікоў, якія былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна, інфармацыю пра цэхі, філіялы вытворчага аб’яднання, камсамольскую, прафсаюзную арганізацыі, мастацкую самадзейнасць і іншыя матэрыялы. Нягледзячы на тое, што экспазіцыя некалькі састарэла, яна ўсё ж такі ўяўляе цікавасць для былых работнікаў фабрыкі, гісторыкаў, сучаснікаў.

Адрас: вул. М. Горкага, 145.

Тэл.: +375 212 34-36-73.

Наведванне магчымае толькі па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі ААА “Віцебскдрэў”*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе адміністрацыйнага корпуса. Створаны ў канцы 1970–1980-х гг. па ініцыятыве парторга прадпрыемства Ю.Д. Цішына. Знаходзіўся ў асобнай зале Палаца культуры домабудаўнічага камбіната. Частка экспанатаў страчана. Адноўлены да 80-годдзя прадпрыемства.

На стэндах і вітрынах адлюстраваны старонкі гісторыі прадпрыемства, змешчаны фотаздымкі асноўных цэхаў і структурных падраздзяленняў. Цікава ўбачыць фотаздымкі канца 1940-х – 1970-х гг., на якіх выявы сушыльнай камеры, цэха ДВП, ДСП, пажарнага дэпо, эпізодаў будаўніцтва вуліцы М. Горкага ў Віцебску, басейна, піянерскага лагера “Арлёнак”, якія належалі прадпрыемству.

Асобныя стэнды прысвечаны ветэранам вайны, якія працавалі на прадпрыемстве, ветэранам працы. У афармленні музея браў удзел М.С. Гвоздзікаў. Чалавек цікавага і нялёгкага лёсу, М.С. Гвоздзікаў з'яўляецца аўтарам словаў "Песні пра камбінат", якая лічыцца неафіцыйным гімнам прадпрыемства. У інтэр'еры змешчаны карціны, на якіх адлюстраваны будынкі і цэхі прадпрыемства. У адной з вітрын змешчаны макет помніка завадчанам, якія загінулі ў гады вайны, створанага вядомым віцебскім скульптарам А.М. Гвоздзікавым, сынам М.С. Гвоздзікава.

Асобна дэманструецца перасоўная выстава, прысвечаная 80-годдзю прадпрыемства. Сярод найбольш цікавых экспанатаў, якія змешчаны ў музеі, прыгадаем аб'ёмны макет, які займае ўсю цэнтральную частку памяшкання, "Знак якасці СССР", якім была ўзнагароджана фабрыка ў гонар 50-годдзя стварэння СССР, Чырвоны сцяг, якім фабрыку ўзнагародзілі ў гонар 50-годдзя прадпрыемства.

У музеі дэманструюцца ўзоры прадукцыі прадпрыемства: дзверы, аконныя рамы, шклопакеты з дрэва і ПВХ, ліштвы і іншыя вырабы.

Адрас: Стаханаўскі зав., 7.

Тэл.: +375 212 34-26-09; 34-09-42.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Выставачная зала ААА "Віцязь" (Віцебскага тэлевізійнага завода)*

Створана ў 1996 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні ў адміністрацыйным корпусе. Ініцыятарам стварэння выступіў былы дырэктар завода Л.І. Ціханаў. Адлюстроўвае гісторыю прадпрыемства, якое з'яўлялася адным з горадаўтваральных. У 1980-я гг. з'яўлялася адным з буйнейшых у горадзе, на ім працавала да 11 тыс. работнікаў. Цяпер – 3,1 тыс. чалавек.

Расповяд пра гісторыю прадпрыемства пачынаецца з раздзела "Што такое "Віцязь" – завод, які ўключае ў сваю структуру 55 падраздзяленняў, у тым ліку вытворчыя: рамонтна-будаўнічае ўпраўленне, выпрабавальны цэнтр, кацельню "Паўднёвая", нарыхтоўчае ўпраўленне, падсобную гаспадарку "Вясна"; сацыяльныя: медсанчасць "Віцязь", аздараўленчы лагер, ліцэй № 5 і іншыя. Экспазіцыя пабудавана па храналагічным прынцыпе. Пачатак вядзецца ад 3 сакавіка 1976 г., калі быў створаны Віцебскі тэлезавод (ВТЗ) на чале з А.В. Матвіеўскім. На стэндзе экспануюцца загад аб стварэнні ВТЗ, фотаздымак міністра радыяпрамысловасці СССР П.С. Плешакова, выкапіроўка з карты Віцебска з адзначаным месцам, дзе планавалася стварэнне завода, фотаздымкі мясцовасці, на якой паўсталі карпусы прадпрыемства, эпізоды працэсу будаўніцтва. Тут жа размешчаны першы створаны на прадпрыемстве тэлевізар "Віцязь-722", 500-тысячны і мільённы тэлевізары, якія сышлі з канвеера завода. У вітрынах – макеты станкоў і абсталявання, на якім вырабляліся

тэлевізары, дэталі, вузлы, платы, розныя варыянты мадэляў, дызайнерскіх рашэнняў, што прадстаўляліся на мастацкі савет.

Акрамя тэлевізараў завод у розныя часы выпрабляў разнастайныя віды прадукцыі: медтэхніку, установкі кантактнай зваркі, апараты сціснутага паветра, маніторы, фатометры, побытавую тэхніку (сокавыціскалкі, мясарубкі, машынкі для закатвання), будаўнічыя матэрыялы, якія выпрабляюцца з другаснай сыравіны, нават шахматы і іншыя віды прамысловых тавараў. Для дзяцей будзе цікавым убачыць мініяцюрныя пластыкавыя мадэлі самалётаў, караблёў і ваеннай тэхнікі, якія выпрабляліся на заводзе ў 1990-я гг. У цэнтры залы размешчана асноўная прадукцыя завода – розныя мадэлі тэлевізараў. Сярод іх такія вядомыя маркі, як “Генезіс”, “Унітар”, “Еўропа” і іншыя.

На стэндах і вітрынах – фотаздымкі эпізодаў працоўнага жыцця завода, розных цэхаў і прадпрыемстваў, мастацкай самадзейнасці, спартыўных і культурных падзей, у якіх удзельнічалі працаўнікі. На асобных стэндах экспануюцца сувеніры і падарункі партнёраў аб’яднання. Асаблівую цікавасць выклікаюць мадэлі браняносных крэйсераў “Новік” і “Дыяна”, створаныя ў маштабе 1:100 былым фатографам аддзела 103 М.Ф. Чыстабаевым. Асобны стэнд распавядае пра дзейнасць завадской газеты “Рабочае слова”.

На музейных плошчах арганізуюцца часовыя экспазіцыі з архіва музея: “Калектыў ВТЗ на дэманстрацыі”, “Калектыў ВТЗ на суботніках” і іншыя тэматычныя выставы.

Адрас: вул. П. Броўкі, 13-А.

Тэл.: +375 212 22-00-50, 22-37-52.

Час наведвання: чацвер–пятніца.

Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

*Экспазіцыя на маторарамонтным заводзе*

Музей быў створаны ў савецкія часы па ініцыятыве дырэктара завода Мікалая Іванавіча Аўчыннікава, займаў асобнае памяшканне. Разам з дакументамі, фотаздымкамі, якія адлюстроўвалі гаспадарчае развіццё і культурна-масавае жыццё заводаў у 1970–1980-я гг., дэманстраваліся ўзоры прадукцыі: рухавікі, насосы. Аднак са зменай кіраўніцтва прадпрыемства музей быў ліквідаваны. Новая экспазіцыя, якая прысвечана сучаснаму стану завода, яго дасягненням, прамысловай прадукцыі, размешчана ў калідоры адміністрацыйнага корпуса. Плануецца аднаўленне пэўнай часткі экспазіцыі, якая будзе размешчана ў актавай зале.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 81, корп. 3.

Тэл.: +375 212 24-02-66.

Сайт: http://www.vmrz.by/contacts.php.

E-mail: vmrz@tut.by.

## 2.4. Музеі вышэйшых навучальных устаноў

### Музеі ўстановы адукацыі “Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М. Машэрава”

*Музей гісторыі ўстановы адукацыі “Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М. Машэрава”*

Музей створаны ў 1979 годзе ў межах святкавання 60-годдзя з дня заснавання інстытута. Першапачаткова размяшчаўся ў вучэбнай аўдыторыі на першым паверсе. У 2004 г. экспазіцыя была пашырана і размешчана ў спецыяльна абсталяваным для гэтага холе другога паверха. Новае памяшканне музея мае значную плошчу і добра абсталявана сучаснай аргтэхнікай, што дазваляе праводзіць на яго базе навучальныя і асветныя мерапрыемствы для вялікіх груп наведвальнікаў, прычым як студэнтаў ВДУ, так і навучэнцаў горада і жадаючых. У 1994 годзе музей атрымаў званне народнага. У яго фондах больш за 4 тыс. экспанатаў, з іх 3 тыс. – галоўны фонд.

Экспазіцыя паказвае гісторыю развіцця навучальнай установы ад настаўніцкага інстытута да ўніверсітэта. Тэматыка стэндаў прысвечана розным перыядам гісторыі ўстановы як настаўніцкага інстытута, інстытута народнай адукацыі (1919–1924), інстытута (з 1930 г.). З 1934 г. інстытут насіў імя С.М. Кірава. З 1998 г. – імя П.М. Машэрава. У 1995 г. установа была рэарганізавана ў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт.

Гісторыю ўстановы прадстаўляюць дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы, навуковыя працы выкладчыкаў, звесткі пра выдатных выпускнікоў і яго супрацоўнікаў. У цэнтры музея знаходзіцца карта-план універсітэта, размешчаная на фоне архітэктурных помнікаў Віцебска.

У экспазіцыі прэзентуюцца асноўныя стуктурныя падраздзяленні ВНУ – гістарычны, хіміка-біялагічны, фізіка-матэматычны, мастацка-графічны, філалагічны, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, фізічнай культуры, падрыхтоўчы факультэты. Калектыў універсітэта налічвае больш за 11 тыс. чалавек. З іх амаль 5 тыс. – студэнты дзённага аддзялення, больш за 5,5 тыс. – завочнага. Падрыхтоўку спецыялістаў па 40 спецыяльнасцях забяспечваюць 42 кафедры, 586 выкладчыкаў, з іх 8 акадэмікаў, 22 доктары і 221 кандыдат навук. Універсітэт мае 5 вучэбных карпусоў, 5 інтэрнатаў на 1700 месцаў, сталоўку, 50 гаспадарчых аб’ектаў. Асобныя падраздзяленні ВНУ – батанічны сад, навукова-даследчая лабараторыя па засваенні, рэканструкцыі і ахове жывёльнага свету Беларускага Паазер’я. У асобных раздзелах экспазіцыі распавядаецца пра асноўныя накірункі дзейнасці і навуковыя дасягненні выкладчыкаў і студэнтаў.

Аўтар дызайн-праекта – заг. кафедры дызайну мастацка-графічнага факультэта В.У. Кулянёнак.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 33 (2 паверх).

Тэл.: +375 212 21-59-58.

http://www.vsu.by/index.php?option=com_content&task=view&id=836&Itemid=88889066.

Час наведвання: 9.30–18.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Мемарыяльны пакой-музей П.М. Машэрава*

ВДУ з гонарам носіць імя выдатнага партыйнага і грамадскага дзеяча БССР, першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі (кіраўніка краіны па цяперашнім разуменні), Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы – П.М. Машэрава, які нарадзіўся ў в. Шыркі Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. У 1939 г. ён скончыў Віцебскі педагагічны інстытут. У гады Вялікай Айчыннай вайны ваяваў у партызанскім атрадзе на Віцебшчыне. З 1998 г. універсітэт носіць імя выдатнага земляка і былога студэнта.

Ідэя стварэння музея ўзнікла адразу пасля гібелі П.М. Машэрава ў аўтамабільнай катастрофе ў 1980 г. Першапачаткова планавалася стварэнне Музея славутых землякоў у в. Машканы Сенненскага раёна, паблізу ад роднай вёскі П.М. Машэрава, аднак гэтыя планы не спраўдзіліся.

Пад мемарыяльны пакой-музей адведзена аўдыторыя на першым паверсе ўніверсітэта агульнай плошчай 70 м². Экспазіцыя была распрацавана супрацоўнікамі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, адчынена 28 мая 1983 г. і першапачаткова мела статус яго філіяла. У 1994 годзе мемарыяльны пакой-музей П.М. Машэрава перайшоў на баланс універсітэта. У 2006–2007 гг. у музеі была праведзена рэканструкцыя.

У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя жыццёваму шляху нашага славутага земляка. Выкарыстаны афіцыйныя ўрадавыя дакументы, матэрыялы дзяржаўных, ведамасных, прыватных архіваў, музеяў, перыядычных выданняў. Напрыклад, у фондах зберагаюцца тэксты выступленняў П.М. Машэрава, асабістыя запісы, карта Беларусі з нанесеным маршрутам аблёту гаспадарак Мінскай вобласці. У музеі захоўваюцца асабістыя рэчы, кнігі, прысвечаныя выдатнаму кіраўніку БССР, відэаматэрыялы.

Разам з мемарыялізацыяй асобы выдатнага партызанскага кіраўніка, грамадскага, партыйнага, адміністрацыйнага, гаспадарчага дзеяча нашай краіны музей займаецца культурна-асветніцкай, вучэбна-навуковай і выхаваўчай працай сярод студэнтаў і жыхароў горада. У музеі праводзяцца сустрэчы з ветэранамі працы, выпускнікамі ВДУ.

Ён адчынены для наведвання не толькі студэнтамі. Акрамя экскурсій, прысвечаных жыццю і дзейнасці П.М. Машэрава, праводзяцца экскурсіі, падрыхтаваныя па асобных тэмах, у тым ліку “Развіццё партызанскага руху на Віцебшчыне”.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 33 (1 паверх).

Тэл.: +375 212 21-59-58.

http://www.vsu.by/index.php?option=com_content&task=view&id=837&Itemid=88889066.

Час наведвання: 9.30–18.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Літаратурны музей кафедры беларускай літаратуры факультэта беларускай філалогіі і культуры*

Ідэя стварэння музея ўзнікла яшчэ на пачатку 1970-х гг. у сувязі са святкаваннем 1000-годдзя Віцебска. Аднак адкрыты ён быў толькі 12 красавіка 1980 г. як вучэбны музей ВДПІ імя С.М. Кірава. Асноўнымі мэтамі з’яўляліся збор, захаванне, вывучэнне і прэзентацыя літаратурных здабыткаў Віцебшчыны. Арганізатарамі музея з’яўляліся віцебскі паэт Д. Сімановіч, дацэнт кафедры рускай літаратуры З.А. Андрыянава, дацэнт кафедры беларускай літаратуры А.М. Канапелька. У фондах захоўваецца больш за 600 экспанатаў.

Пачынаецца агляд са стэнда, прысвечанага гісторыі стварэння музея. Працягваецца ён у раздзеле “З вякоў мінулых” (пісьменства і духоўная культура Віцебшчыны ад старажытных часоў да XX ст.). Наступная частка прысвечана беларуска-рускім літаратурным сувязям – рускім пісьменнікам, якія былі звязаны з Віцебшчынай, – А. Пушкіну, Г. Дзяржавіну, І. Фанвізіну, А. Дэльвігу, І. Лажэчнікаву, І. Буніну, Г. Успенскаму. Раздзел “З літаратурных крыніц Віцебшчыны” прысвечаны класікам беларускай літаратуры Янку Купалу і Якубу Коласу, Васілю Быкаву, Уладзіміру Караткевічу, Рыгору Барадуліну і іншым выдатным беларускім пісьменнікам.

У раздзеле “Сучасная літаратурная Віцебшчына” распавядаецца пра пісьменнікаў-ураджэнцаў Віцебскай вобласці: А. Касценя, І. Пракаповіча, С. Рублеўскага.

У музеі захоўваюцца і экспануюцца дакументы, рэчы пісьменнікаў, фотаздымкі, карціны, якія адлюстроўваюць развіццё пісьменства і літаратурныя традыцыі Віцебшчыны. Сярод найбольш цікавых экспанатаў музея – творы з аўтографамі, рукапісы, у тым ліку В. Быкава, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, І. Шамякіна, Е. Лось, М. Лынькова, бюсты пісьменнікаў работы выпускнікоў мастацка-графічнага факультэта.

Экспануецца невялікая калекцыя побытавых рэчаў беларускіх сялян XIX – другой паловы XX ст.: цапы, ночвы, калаўрот, пранікі, прасы, збаны, андаракі, посцілкі, сурвэткі, ручнікі і іншыя рэчы.

Асаблівую цікавасць уяўляе карта "Літаратурная Віцебшчына", на якой адзначаны населеныя пункты, дзе нарадзіліся вядомыя літаратары Прыдзвіння (знаходзіцца ў вучэбнай аўдыторыі № 625).

Адрас: Маскоўскі пр-т, 33 (5 паверх).

Тэл.: +375 212 21-96-73 (дэканат факультэта беларускай філалогіі і культуры).

E-mail: flf@mail.by.

Час наведвання: 9.30–18.00.

Выходны: нядзеля.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Біялагічны музей кафедры заалогіі біялагічнага факультэта*

Вучэбны біялагічны музей быў адчынены пры кафедры заалогіі біялагічнага факультэта 1 верасня 1975 г. на аснове матэрыялаў, што былі назапашаны кафедрай з 1945 года, а таксама некаторых матэрыялаў калекцый, сабраных натуралістамі-аматарамі (У.А. Плюшчэўскім-Плюшчыкам, П.А. Донавым) у пачатку XX ст. і выкладчыкамі кафедры Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1930-я гг. Рээкспазіцыя праводзілася ў 1993 і 2006 гг.

Музейная экспазіцыя размяшчаецца на чацвёртым паверсе галоўнага корпуса ВДУ і складаецца з некалькіх частак. Галоўная частка размяшчаецца ў асобным памяшканні плошчай 138 м². У фондах музея захоўваюцца больш за 1,2 тыс экспанатаў (не ўлічваючы больш за 3600 адзінак захоўвання насякомых). У рэкрэацыі перад уваходам у музей змешчаны партрэт яго заснавальніка, вядомага беларускага энтамолага, педагога, былога загадчыка кафедры заалогіі А.І. Радкевіча (1898–1977).

У экспазіцыйнай зале змешчаны 14 вітрын з беспазваночнымі жывёламі, 20 вітрын з пазваночнымі. Усяго ў вітрынах змяшчаецца больш за 1100 экспанатаў (калекцыі беспазваночных, чучалы і муляжы пазваночных, у тым ліку млекакормячых, птушак, рэптылій, рыб, вільготныя прэпараты амфібій сусветнай фаўны. Сярод іх тэматычныя – біягрупы "Рыбы возера Дрывяты", "Зайцы-белякі", "Лісіца звычайная", "Выдра". Цікавасць уяўляе дыярама "Змешаны лес", у якой змешчаны чучалы дзіка, казулі, ваўка, рысі, птушак беларускіх лясоў (сіваграка, філіна, соек, кугакаўкі). У асноўнай зале таксама размяшчаецца дэкаратыўная кампазіцыя "Вядомыя заолагі" (4 планшэты), стэнд-карта па ахове прыроды Беларусі.

У экспазіцыі музея можна ўбачыць шэраг відаў млекакормячых, насякомых, малюскаў трапічнай фаўны. Сярод найбольш цікавых экспанатаў музея – чучалы белага мядзведзя, кенгуру, расамахі,

гіганцкага амара, камчацкага краба, павука-птушкаеда з Паўднёвай Амерыкі, вялізнага трапічнага скарпіёна з паўднёва-ўсходняй Азіі (Тайланд), палярнай савы, чучалы катрана (зубатай акулы), сцерлядзі, сяўругі, кубінскага блакітнага рака.

Прыцягваюць увагу наведвальнікаў луска асятра памерам больш 10 см, нос рыбы-пілы, чучала, пер'е і яйкі афрыканскага страуса і страуса нанду, вялізны панцыр супавой чарапахі, коканы і матылі тутавага і дубовага шаўкапрадаў.

У экспазіцыі змяшчаецца пазванок самага вялікага млекакормячага на Зямлі – сіняга кіта, дарэчы, адзіны ў краіне. Такі рэдкі экспанат быў знойдзены школьнікамі ў балоце ў Лепельскім раёне. Па меркаваннях супрацоўнікаў кафедры, ён захоўваўся ў калекцыі мясцовага аматара прыроды, якая, верагодна, была разрабавана ў 1812 г. французскімі войскамі.

Уражваюць чучалы гюрзы, кобры, гадзюкі, хамелеонаў, агамы вадзяной, геконаў, верацейніцы, розных відаў яшчарак. Цікавасць выклікае дыярама "Зімоўка вужоў".

З амаль 3-х тысяч птушак, якія гняздуюцца на Беларусі, прадстаўлены больш за 70 відаў, у тым ліку змеяеда, маркута, пустальгі, белага і чорнага буслоў, чаплі шэрай, гусі-гуменніцы, глушцоў, рабчыкаў, фазана, зімародка.

Асаблівую цікавасць уяўляе калекцыя матылькоў (больш за 2600 экзэмпляраў), сярод якіх найбольш цікавыя ўяўляюць трапічныя і мясцовыя матылі. Вельмі прыцягальная для наведвальнікаў любога ўзросту калекцыя ракавін малюскаў паўднёвых мораў, якія вылучаюцца сваёй стракатай афарбоўкай і арыгінальнымі формамі.

У музеі можна ўбачыць калекцыю птушыных яек (больш за 50 адзінак захоўвання), чарапоў (мядзведзя, аленя, лася, сайгі), муляжы нільскага кракадзіла, археаптэрыкса, стэпавага яшчара (пангаліна). У музеі пастаянна экспануюцца больш за 25 відаў рэдкіх жывёл, а таксама жывёл, якія ўключаны ў другое выданне "Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь".

Частка экспазіцыі біялагічнага музея змяшчаецца ў рэкрэацыі чацвёртага паверха вучэбнага корпуса, дзе размяшчаюцца 5 дыярам, якія адлюстроўваюць прыроду Віцебскай вобласці ў розныя сезоны: "Такуючыя цецерукі", "Зімуючыя птушкі", "Хваёвы бор", "Бабры", "Возера".

Тут жа змешчана выстава "Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь", што складаецца з 29 стэндаў, на якіх змешчана інфармацыя пра ахоўваемых жывёл і расліны на Віцебшчыне. Асобная выстава, якая складаецца з 8 стэндаў, прысвечана кафедры заалогіі ВДУ імя П.М. Машэрава, яе гісторыі, выкладчыкам, дасягненням. Таксама ёсць выстава "Беларускае Паазер'е" (7 стэндаў). Асобна адзначым насценны роспіс "Міграцыя рэчыва і энергіі ў біясферы".

Пры кафедры заалогіі маецца куток жывой прыроды з акварыумамі і тэрарыумамі.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 33 (4 паверх).

Тэл.: +375 212 21-58-45 (дэканат біялагічнага факультэта).

Час наведвання: 9.30–18.00.

Выходны: нядзеля.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мастацка-графічнага факультэта*

Створаны ў 1986 г. з мэтай захавання і экспазіцыі лепшых вучэбных, курсавых і дыпломных работ студэнтаў мастацка-графічнага факультэта. Музей знаходзіцца на першым паверсе ў будынку мастацка-графічнага факультэта. У 2001–2002 гг. былі пабудаваны дадатковыя плошчы і выставачная зала. Абноўлены музей быў адчынены ў маі 2003 г. Плошча музея 100 м². У фондах захоўваецца больш за 800 работ.

У экспазіцыі змяшчаюцца работы па асноўных відах апрацоўкі матэрыялаў, па якім праводзіцца навучанне на кафедры: рэчы з паперы, саломкі, металу, скуры, тэкстылю, гліны, інтарсія (інкрустацыя металу, косці, каменю і іншых матэрыялаў у дрэва) і маркетры (складанне выявы з пласцінак розных парод дрэва), выцінанка, такарныя вырабы, разьба па дрэве, роспіс па дрэве, вучэбныя работы па мадэльна-макетнай справе, мазаіка, вырабы з гіпсу, вышыўка і ткацтва, габелен, бацік.

Сярод экспануемых рэчаў ёсць унікальныя, праца над якімі прыводзіла да стварэння новых тэхнік і методык у рабоце з матэрыялам. Сярод іншых: дакладныя мадэлі караблёў (галеры, карвета, галеона, каравэлы, рыбалоўнага траўлера), выкананыя ў прапорцыях 1:72; макеты (папяровыя і з пап’е-машэ) замкаў, храмаў, гістарычных будынкаў, архітэктурных помнікаў; партрэт Якуба Коласа, выкананы ў тэхніцы інкрустацыі з рога; бюст А. Міцкевіча; шахматы, выразаныя з дрэва; вазы “Тры сястры: Беларусь, Расія, Украіна”; яркія і эмацыянальныя працы, выразаныя з дрэва, – “Распяцце”, абрамленні для люстэркаў, гадзіннікаў,ківоты, прадметы мэблі.

Пры музеі праводзяцца вучэбныя заняткі са студэнтамі па наступных накірунках: разьба па дрэве, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, народныя мастацкія рамёствы, габелен, бацік, вышыўка, вязанне, работа са скурай, методыка выкладання працоўнага навучання і інш. У музейны комплекс факультэта ўваходзіць таксама выставачная зала кафедры выяўленчага мастацтва. Музей праводзіць выязныя выставы.

*Выставачная зала мастацка-графічнага факультэта*

Адчынена ў 2002 годзе. Штогод адбываецца 8–10 калектыўных і персанальных выстаў сучаснага беларускага і замежнага мастацтва (Кітай, Латвія, Расія). Экспануюцца найлепшыя працы студэнтаў, выкладчыкаў кафедры, а таксама мастакоў горада і вобласці. Праводзяцца персанальныя выставы (П.М. Явіча, А.Ф. Карпана, А.А. Скавародкі і іншых віцебскіх мастакоў), экспануюцца работы з дзіцячых пленэраў.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 33а, корпус мастацка-графічнага факультэта.

Тэл.: +375 212 21-58-70.

E-mail: hgfsenko@vsu.by.

Сайт: www.hgf.vsu.by.

Час наведвання: 8.00–17.00; у суботу: 9.00–12.00.

Выходны: нядзеля.

Экскурсія праводзіцца па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей гісторыі педагагічнага факультэта*

Створаны ў межах святкавання 50-годдзя педагагічнага факультэта ВДУ (2004). Урачыстае адкрыццё адбылося ў снежні 2006 г.

Экспазіцыя прысвечана гісторыі стварэння і развіцця педагагічнага факультэта ВДУ, гісторыі развіцця адукацыі ў Беларусі ў цэлым і на Віцебшчыне ў прыватнасці. На сямі стэндах адлюстраваны асноўныя этапы развіцця факультэта. Паказаны асноўныя накірункі дзейнасці факультэта ў навучальнай, выхаваўчай, навуковай працы, спартыўныя дасягненні студэнтаў. Асобны стэнд прысвечаны міжнародным сувязям з замежнымі ВНУ, а таксама П.М. Машэраву ў час яго вучобы на рабфаку (1934–1935) і фізіка-матэматычным факультэце (1935–1939).

Адрас: вул. Чэхава, 11/44.

Тэл.: +375 212 23-02-43.

E-mail: pedfakultet@gmail.com.

Час наведвання: 8.00–17.00.

Выходны: нядзеля.

Экскурсія праводзіцца па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей алімпійскай славы пры факультэце фізічнай культуры і спорту*

Знаходзіцца на першым паверсе факультэта фізічнай культуры і спорту ў асобным памяшканні. Экспазіцыя складаецца з 29 стэндаў, афармленых у адным ключы і размешчаных на двух сценах. Памяшканне выкарыстоўваецца для правядзення заняткаў.

Музей прысвечаны алімпійскім гульням – буйнейшым міжнародным спартыўным спаборніцтвам, якія праводзяцца раз на ча-

тыры гады. Першая частка экспазіцыі прысвечана гісторыі ўзнікнення і правядзення антычных алімпійскіх гульняў. На карце старажытнай Грэцыі адзначаны гарады і правінцыі, якія з’яўляліся цэнтрамі спартыўных спаборніцтваў, частак панэлінскіх гульняў – Алімпійскіх, Піфійскіх, Істмійскіх, Нямейскіх.

Распавядаецца пра спаборніцтвы, якія ладзіліся на антычных алімпійскіх гульнях: бег на стадыю (192 м), двайны бег (дзве стадыі), на 7 стадый (1344 м), бег ва ўзбраенні (384 м), адзінаборствы (кулачны бой, панкратыён (рукапашны бой), барацьба); штурханне кап’я, дыска; пентатлон (пяцібор’е), які ўключаў бег на стадыю, штурханне дыска, штурханне кап’я, скачок у даўжыню і барацьбу; конныя спаборніцтвы (скачкі на каляsніцах), а таксама спаборніцтвы трубачоў і герольдаў. Прыводзяцца правілы гульняў, расклад іх правядзення па днях.

Адлюстравана гісторыя аднаўлення гульняў ў XIX ст., іх развіццё ў XX і XXI стст. Асобна прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя алімпійскаму руху на Беларусі і Віцебшчыне. Можна ўбачыць першыя правілы гульні ў футбол, дэманструюцца фотаздымкі гонак на прыз “лепшага ездака на веласіпедзе” Віцебска 1894 г., першай беларускай веласіпедыстцы – А. Серафімовіч і інш. Асобна прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя сімволіцы Алімпійскіх гульняў у нумізматыцы, фалерыстыцы.

Змешчаны фотаздымкі выкладчыкаў, выпускнікоў факультэта, чэмпіёнаў, пераможцаў спаборніцтваў розных часоў. На асобным стэндзе – імёны студэнтаў ВДУ, якія выканалі нарматыў майстра спорту і майстра спорту міжнароднага класа. Асобныя стэнды прысвечаны віцяблянам – чэмпіёнам і прызёрам Алімпійскіх гульняў – Т. Лазаковіч, С. Лаўрэнаву, Г. Аляшчуку, С. Быкоўскаму і іншым. Адлюстроўваецца і гісторыя кафедры тэорыі і методыкі фізічнай культуры і спорту, асвятляецца валанцёрская дзейнасць Віцебскага маладзёжнага клуба адаптыўнай культуры “АФІС”.

Адрас: вул. Чапаева, 30.

Тэл.: +375 212 24-21-43.

Час наведвання: 8.00–17.00.

Выходны: нядзеля.

Экскурсія праводзіцца па папярэдняй дамоўленасці.

## Музеі Віцебскай ордэна “Знак Пашаны” дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны

*Музей гісторыі ўстановы*

Адчынены ў 1977 г., змяшчаецца ў будынку бібліятэкі. Экспазіцыйная плошча – больш за 100 м². У фондах захоўваецца больш за 4 тыс. экспанатаў. У экспазіцыі можна вылучыць некалькі сэнсавых частак. У першай распавядаецца пра стварэнне навучальнай

установы. Прадстаўлены падручнікі, прэпараты, абсталяванне, мадэлі, фотаздымкі, апісанне навуковага, дыягнастычнага, лячэбнага, лабараторнага абсталявання. Можна ўбачыць партрэты рэктараў, вядомых вучоных, якія працавалі ў акадэміі, стваральнікаў навуковых школ у галінах ветэрынарыі, заатэхніі. Прыводзяцца дадзеныя пра выдатных выпускнікоў установы.

У асобнай частцы адлюстраваны вынікі навукова-педагагічнай працы вучоных. Змешчана інфармацыя пра кафедры клінічнага, перадклінічнага, сацыяльна-гуманітарнага, агульнаадукацыйнага профіляў і структурныя падраздзяленні ўстановы. У цэнтры экспазіцыі змешчаны сцягі, ордэны, медалі, ганаровыя граматы і іншыя ўрадавыя ўзнагароды, якімі адзначаны ўклад установы і яе супрацоўнікаў у развіццё народнай гаспадаркі краіны. Сяброўскія сувязі акадэміі адлюстроўваюць віншавальныя адрасы, сувеніры, падарункі ветэранаў, выпускнікоў, калег з розных навучальных устаноў.

У акадэміі маецца 8 кафедральных музеяў, якія з’яўляюцца структурнымі навукова-даследчымі і вучэбнымі падраздзяленнямі. Некаторыя з іх маюць вузкую спецыялізацыю і наведванне іх будзе цікавым толькі спецыялістам ці аматарам навукі. Іншыя, такія, як анатамічны, заалагічны, ветэрынарна-санітарнай экспертызы ці віварый, будуць цікавыя шырокаму колу наведвальнікаў.

*Анатамічны музей*

Афіцыйна створаны ў 1925 г. як шкілетная майстэрня. Значную ролю ў развіцці музея адыграў першы рэктар – Я.Ф. Алонаў, які з’яўляўся стваральнікам ветэрынарна-заалагічнага музея, што паўстаў у ветэрынарным аддзеле віцебскага губернскага земства ў 1915 г. Большая частка экспанатаў загінула ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Збор новых калекцый пачаўся ў пасляваенны перыяд. У фондах утрымліваецца больш за 1,5 тыс. экспанатаў.

У музеі экспануецца адзіны ў Беларусі шкілет слана, дакладней, сланіхі Нэлі, якая пражыла 46 гадоў у Мінскім цырку. Да цікавых экспанатаў, якія варта ўбачыць, аднясём чучала каня генерала П.Х. Вітгенштэйна, героя вайны 1812 г., корпус якога вызваляў Віцебшчыну ад французаў. Чучала любімага каня пароды гюнтэр рабілі адмыслова выкліканыя з Францыі таксідэрмісты. Цікавасць уяўляе і шкілет арлоўскага рысака “Гром”, які ў 1930-я гг. з поспехам выступаў на віцебскім іпадроме. Мала дзе можна ўбачыць у нашай краіне і чучалы тыгра, вярблюда, дэльфіна, кракадзіла і іншых экзатычных і, наадварот, звычайных для нашай мясцовасці звяроў.

Адрас: вул. 1-я Даватара, 7/11.

Тэл.: +375 212 36-09-55.

*Заалагічны музей*

Створаны ў 1924 г. як энтамалагічны і заалагічны музей Беларускага ветэрынарнага тэхнікума. У аснову легла калекцыя выдатнага натураліста, энтамолага У.А. Плюшчык-Плюшчэўскага, якая налічвала 60 тыс. экспанатаў – узораў флоры і фаўны, пераважна Віцебшчыны, а таксама розных куткоў Еўропы, Азіі, Амерыкі. На жаль, у гады вайны яна была страчана, а стварэнне новай экспазіцыі пачалося ў пасляваенны час.

У экспазіцыі музея больш за 70 чучал, больш за 350 вільгасных прэпаратаў, больш за 700 мікрапрэпартаў, 45 калекцый. Прадстаўлены каля 50 відаў экзатычных жывёл, сярод якіх зялёныя ігуаны, чырвана-хвостыя ўдавы, леапардавыя зублефары, павукі-птушкаеды, дэкаратыўныя тхары. Самы стары экспанат – вільгасны прэпарат “Кашачая акула – катран”.

Разам з наведваннем заалагічнага музея варта пабываць і ў экза-тэрарыуме. Ён уяўляе сабой жывы куток, у якім жывуць экзатычныя жывёлы, а таксама ёсць калекцыя акварыумных рыбак. Прадстаўлены істоты з усіх кантынентаў, за выключэннем Антарктыды, усе аддзелы заалогіі, пачынаючы з малюскаў і заканчваючы млекакормячымі. Сярод найбольш цікавых – лятучы сабака, прадстаўнік сямейства рука-крылых з Афрыкі.

*Паталагаанатамічны музей*

Стварэнне пачалося ў 1926 г., калі выкладчык А.Д. Бальзаменаў падрыхтаваў калекцыю гісталагічных і музейных экспанатаў для практычнага курса па паталагічнай анатоміі. У музеі прадстаўлены прэпараты, якія адлюстроўваюць агульныя патамарфалагічныя працэсы, а таксама паталагічныя змены, якія адбываюцца пры розных хваробах у сельскагаспадарчых і дамашніх жывёл. Зберагаюцца прэпараты па хваробах коней, буйной рагатай жывёлы, свіней, птушак, сабак, коз, авечак, трусоў. Тут захоўваюцца, вывучаюцца і экспануюцца каля 2 тысяч макрапрэпаратаў, а таксама малюнкі, схемы, слайды.

*Музей кафедры паразіталогіі і інвазіўных хвароб*

Заснавальнік – І.А. Шчарбовіч. Асновай з’яўляецца калекцыя паразітычных чарвей (гельмінтаў, глістоў), жывёл, птушак, амфібій, рыб. На цяперашні момант вядома больш за 200 хваробаў, узбуджальнікі якіх могуць перадавацца ад жывёл да чалавека. У экспазіцыі больш за 700 макрапрэпаратаў і больш за 5 тыс. мікрапрэпаратаў, якія прадстаўляюць узбуджальнікаў гельмінтозаў чалавека і жывёл. Экспануюцца таксама розныя насякомыя, кляшчы, малюскі, ракападобныя, якія з’яўляюцца пераносчыкамі шэрагу

хвароб. Паразіталагічны музей з'яўляецца адным з буйнейшых у краіне.

*Музей кафедры ветэрынарна-санітарнай экспертызы імя Х.С. Гарагляда*

Знаходзіцца ў будынку на вул. Савецкай, пабудаваным у 1903 г. Створаны ў 1930-я гг., калі кафедру мясазнаўства ўзначальваў вядомы вучоны акадэмік Х.С. Гарагляд, які пачаў стварэнне музея паталогіі мяса і мясапрадуктаў, рыбы, малочных вырабаў, тлушчаў, прадуктаў расліннага паходжання. У гады вайны экспанаты не пацярпелі.

Разам з прэпаратамі, якія адлюстроўваюць хваробы жывёл, змяшчаюцца 84 муляжы дакладнай копіі прадукцыі, што выпрабляецца на прадпрыемствах перапрацоўчай прамысловасці. На стэндах 34 гатункі сыру, 9 гатункаў каўбасы, 9 відаў грыбоў, садавіны, гародніны, 15 відаў круп, 13 тлушчаў расліннага і жывёльнага паходжання.

Цікавымі з'яўляюцца ўзоры харчовай прадукцыі, якая выраблена з няякаснай сыравіны. Галоўным чынам гэта прадукты, забраныя ветсанэкспертамі з крамаў і вытворчасцяў.

*Музей тапанімічнай анатоміі пры кафедры агульнай прыватнай і аператыўнай хірургіі*

Заснаваны ў 1983 г. Асноўныя экспанаты – шкілеты, на якіх абазначаны кропкі абязбольвання, асноўныя крывяносныя і нервовыя магістралі. З дапамогай экспанатаў студэнты наглядна вывучаюць асноўныя прынцыпы правядзення хірургічных аперацый.

*Музей кафедры эпізааталогіі*

Створаны ў 2007 г. Экспануюцца ўзоры біяпрэпаратаў, выданні розных часоў (падручнікі, дапаможнікі, метадычныя распрацоўкі, рэкамендацыі, інструкцыі, манаграфіі, узоры навукова-тэхнічнай дакументацыі).

Для дзяцей, якія ніколі не бачылі сельскагаспадарчых жывёл, цікавым будзе наведванне **віварыя**, створанага ў 1950-я гг. У ім утрымліваюцца нутрыі, сабакі, цяляты, парсюкі, ягняты, індыкі, качкі, гусі, куры. У планах стварэнне мінітрусафермы, птушніка, пітомніка для дробных лабараторных жывёл.

Экскурсіі праводзяцца па папярэдняй дамоўленасці.

## Музеі Віцебскага дзяржаўнага ордэна Дружбы народаў медыцынскага ўніверсітэта

*Музей гісторыі ВДМУ*

Створаны ў 1974 г. па рашэнні рэктарата ВНУ. Знаходзіцца ў памяшканні канферэнцзалы. У фондах утрымліваецца больш за 3000 адзінак захоўвання. Знаходзіцца ў галоўным корпусе ўніверсітэта.

Экспазіцыя прысвечана гісторыі развіцця медыцыны і вышэйшай медыцынскай адукацыі на тэрыторыі Беларусі. Прадстаўлены гісторыя стварэння ВНУ, дасягненні яго выкладчыкаў і студэнтаў у навуковай, педагагічнай, доктарскай, грамадскай дзейнасці. На стэндах прадстаўлены фотаздымкі, манаграфіі, падручнікі, дысертацыі, аўтарэфераты дысертацый, падрыхтаваныя супрацоўнікамі, патэнты, асабістыя рэчы, ваенныя, працоўныя, спартыўныя ўзнагароды, альбомы выпускнікоў. Атмасферу савецкіх часоў перадаюць карціны, вітраж, вымпелы і ўзнагароды мінулай эпохі.

З мэтай правядзення тэматычных выстаў выкарыстоўваецца вестыбюль галоўнага вучэбнага корпуса. Наведванне музея карысна асобам, якія цікавяцца гісторыяй медыцыны, школьнікам, якія хочуць стаць урачамі.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 27.

Тэл.: +375 212 24-94-38; 24-30-38.

Экскурсіі праводзяцца па папярэдняй дамоўленасці.

*Анатамічны музей кафедры анатоміі ВДМУ*

Заснаваны ў 1937 г. праф. В.І. Ашкадэравым[130]. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў разбураны. Аднаўленне пачалося ў 1949 г. Сучасная экспазіцыя створана ў 2010–2012 гг. Дызайн распрацаваны загадчыкам кафедры А.К. Усовічам. Знаходзіцца на першым паверсе марфалагічнага корпуса ўніверсітэта. Размяшчаецца ў 4-х пакоях. Агульная плошча – 450 м². Асноўны фонд – больш за 1000 экспанатаў. Створаны з мэтай падрыхтоўкі студэнтаў, але дазволены доступ шырокай публіцы.

Першая частка прысвечана эвалюцыі і развіццю чалавека. Гэта адлюстроўваюць мадэлі, муляжы, стэнды. На сцяне прадстаўлены стадыі эмбрыягенезу (этапы развіцця немаўляці).

Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягвае зала тэтралогіі (пачварстваў). Сярод іншых экспанатаў дэманструюцца дзіця з дзвюма галовамі, цыклоп, дзіця, у якога адсутнічае вялікі мозг, косці звода чэрапа і іншыя.

[130] Чеботарева, Т. “Экспонат” всегда мертв [Электронный ресурс] // Сайт “Советская Белоруссия”. 10.01.2004. – Режим доступа: http://sb.by/post/33700.

Кабінет № 103 прэзентуе апарат руху. Тут прадстаўлены прэпарыраваныя косці, суставы, мышцы, 2 муміі. Дзве рэнтгенвітрыны дазваляюць рабіць візуалізацыю розных аддзелаў чалавечага арганізма ў ультрагукавым, рэнтгенаўскім, магнітна-рэзанансным сканаванні. У кабінеце створаны мемарыяльны куток прафесара В.І. Ашкадэрава. Ён уключае ў сябе стэнд, на якім змешчана інфармацыя пра жыццёвы, педагагічны і навуковы шлях выдатнага даследчыка, а таксама бюст вядомага навукоўцы. Кабінет № 102 арыентаваны пераважна на студэнтаў стаматалагічнага факультэта. Тут дэманструюцца прэпараты сківачнай зоны, у тым ліку для мадэлявання зубоў. Прадстаўлены розныя этапы развіцця зубоў, паталогіі, шляхі іх карэкцыі. У кабінеце створаны мемарыяльны куток прафесара З.І. Ібрагімавай, якая 31 год з’яўлялася загадчыцай кафедры. На стэндзе дэманструюцца яе ўзнагароды, асабістыя рэчы, некаторыя прэпараты, створаныя ёю.

Кабінет № 101 прысвечаны галаўному мозгу. Тут прадстаўлены прэпараты, якія адлюстроўваюць розныя ўчасткі мозга, яго паталогіі і нормы развіцця. Анатомія ўнутраных органаў прадстаўлена ў кабінеце № 111. Прэпараты па сардэчна-сасудзістай сістэме сабраны ў зале № 110, прэпараты спіннога мозга і перыферычнай нервовай сістэмы змяшчаюцца ў зале № 109. Увогуле, у залах выстаўляюцца прэпараваныя органы, якія адлюстроўваюць галоўныя сістэмы жыццядзейнасці чалавека: апорна-рухальны апарат, мочаполавы апарат, стрававальную, лімфатычную, нервовую, сардэчна-сасудзістую, дыхальную, эндакрынную сістэмы арганізма і органаў адчуванняў. Уздоўж сцен ва ўсіх залах музея змешчаны рэнтгенвітрыны, якія дазваляюць рабіць візуалізацыю розных аддзелаў чалавечага арганізма ў рэнтгенаўскім, магнітна-рэзанансным сканаванні.

Экскурсіі праводзяцца выкладчыкамі кафедры.

Унікальнасць музея ў тым, што студэнты самастойна могуць працаваць з прэпаратамі. У музеі змяшчаюцца практычна ўсе прэпараты, якія маюцца ў анатамічных атласах.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 27.

Час працы: 8.00–19.00.

Выходныя: субота, нядзеля.

E-mail: admin@vgmu.vitebsk.by.

Тэл.: +375 212 24-81-62.

*Музей патанатоміі пры кафедры патанатоміі*

Створаны ў 1935 г. па ініцыятыве заг. кафедры С.В. Вайнберга. У гады вайны калекцыя загінула. Аднаўленне пачалося пасля вайны. Музей знаходзіцца ў асобным памяшканні на 3-м паверсе марфалагічнага корпуса. Прадстаўлены прэпараты, якія

адлюстроўваюць паталогіі развіцця сардэчна-сасудзістай, нервовай, дыхальнай, эндакрыннай сістэм арганізма. У калекцыі прадстаўлены больш за 500 макра- і больш за 2 тысячы мікрапрэпаратаў.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 27.

E-mail: admin@vgmu.vitebsk.by.

*Музей кафедры медыцынскай біялогіі і агульнай генетыкі*

Створаны ў 1960-я гг. па ініцытыве дацэнта А.М. Зубінай. Значную ролю ў зборы калекцыі адыграў член-карэспандэнт НАН Беларусі прафесар Я.Л. Бекеш. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе марфалагічнага корпуса ўніверсітэта.

У шкляных шафах экспануюцца прэпараты, якія адлюстроўваюць розныя этапы антрапагенезу, эмбрыянальнага і постэмбрыянальнага развіцця. Прадстаўлена параўнальная сістэма органаў пазваночных. Напрыклад, у 10 ёмкасцях можна ўбачыць стадыі развіцця зародыша ад 6 тыдняў да 6,5 месяцаў з інтэрвалам 2–3 тыдні. Сярод цікавых экспанатаў, якія захоўваюцца ў музеі, адзначым бівень і частку бярцовай косткі маманта, знойдзеныя ў кар’еры “Гралёва” непадалёк ад Віцебска. У асобнай шафе дэманструюцца гельмінты – плоскія, круглыя чэрві і захворванні, якія яны выклікаюць: альвакакоз, эхінакакоз, фасцыялёз і іншыя. У вітрынах можна пабачыць розныя тыпы членістаногіх, пазваночных, безпазваночных. Як важны практычны матэрыял, які вывучаецца ў тэме “Атрутныя істоты”, дэманструюцца атрутныя жывёлы: тарантул, каракурт, скарпіён, скалапендра, саламандра, гюрза, эфа, гадзюка і іншыя.

У калідорах кафедры размешчана больш за 50 планшэтаў, якія адлюстроўваюць розныя тэмы з гісторыі медыцыны, развіцця жыцця на Зямлі, генныя, інвазіўныя захворванні і інш.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 27.

E-mail: admin@vgmu.vitebsk.by.

*Музей кафедры судовай экспертызы*

Адрас: пр-т Фрунзэ, 27.

E-mail: admin@vgmu.vitebsk.by.

## Музеі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта

*Музей гісторыі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта (ВДТУ)*

Музей знаходзіцца ў вучэбным корпусе № 4, у аўдыторыі № 301. Створаны ў 1994 г. У 2007 г. праведзена рээкспазіцыя. У музеі распавядаецца пра заснаванне навучальнай установы, яе будаўніцтва, арганізацыю вучэбнай, навуковай і выхаваўчай працы ў 1960–1980-я гг.

Экспануюцца матэрыялы, прысвечаныя першым выкладчыкам, студэнтам, дасягненням у мастацкай самадзейнасці, спорце, пра знакавыя падзеі гісторыі ўстановы, яе матэрыяльна-тэхнічную базу. Змешчана інфармацыя пра факультэты і іх спецыялізацыю, якая дае магчымасць пазнаёміць наведвальнікаў з верагоднымі перспектывамі і кар'ерным ростам у абранай прафесіі. Асаблівы гонар – узнагароды з розных конкурсаў і фестываляў моды, у тым ліку "Белай амфары", "Мельницы моды", "Заваднога апельсіна" і іншых прэстыжных мерапрыемстваў.

**Выставачная зала.** Пры музеі маецца асобная выставачная зала, у якой праводзяцца выставы студэнтаў і выкладчыкаў кафедры дызайну. На іх можна ўбачыць дыпломныя і курсавыя работы навучэнцаў па розных галінах: афармлення ўпакоўкі, адзення, абутку, рэчаў са скуры, тканін, керамікі, лялек, прадуктаў харчавання, напояў, касметыкі, будаўнічых матэрыялаў, паліграфічных выданняў, выстаў і рэкламы (камунікатыўнаму дызайну), па аб'ёмнаму дызайну, дызайну прадметна-прасторавых комплексаў. Загадчык музея Дарафеева Ірына Анатольеўна.

<u>Адрас</u>: Маскоўскі пр-т, 72, вуч. корп. № 4, каб. № 301.

Тэл.: +375 212 47-71-68.

Час наведвання: 8.00–17.00; перапынак на абед: 13.30–14.30.

Выходныя: субота, нядзеля.

Экскурсіі праводзяцца па папярэдняй дамоўленасці.

Асобная **зала** выдзелена **для экспанавання вынікаў навуковых распрацовак і вынаходніцтваў**, якія былі зроблены выкладчыкамі і студэнтамі ўніверсітэта.

Прадстаўлены дасягненні па асноўных накірунках навуковых даследаванняў, якія праводзяцца ва ўніверсітэце: абсталяванне для лёгкай і тэкстыльнай прамысловасці, тэхналогіі і абсталяванне для перапрацоўкі прамысловых адходаў, тэхналогіі выпрацоўкі вырабаў пражы і нітак, тэхналогіі выпрацоўкі тканых і трыкатажных вырабаў, медыцынскіх трыкатажных вырабаў і інш.

Сярод найбольш цікавых экспанатаў – спецыяльныя ніткі, якія не гараць у агні, для пашыву вопраткі супрацоўнікам пажарных разлікаў, тканіны, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне пры аперацыях на сэрцы, і інш.

<u>Адрас</u>: Маскоўскі пр-т, 72, вуч. корп. № 4, каб. № 303.

*Экспазіцыя беларускай народнай творчасці пры кафедры дызайну*

Створана ў 1975 г. пры заснаванні кафедры. Знаходзіцца ў 2-х кабінетах у вучэбным корпусе ВДТУ № 2. У кабінеце № 41 экспануюцца ўзоры беларускага народнага ткацтва. На працягу шэрагу гадоў выкладчыкі кафедры з мэтамі пашырэння прафесійнага майстэрства праводзілі экспедыцыі па розных раёнах Віцебскай і Брэсцкай абласцей Беларусі. У выніку быў сабраны ўнікальны матэрыял па роз-

ных напрамках народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: ручнікі, узоры вышыўкі, вязання, ткацтва, выцінанкі і інш. Значная частка яго выкарыстоўваецца ў навучальным працэсе, пры распрацоўцы ўзораў для айчыннай прамысловасці, падрыхтоўцы студэнцкіх работ. Разам з прадметамі з тэкстылю, выкананымі ў тэхніцы пераборнага ткацтва, у кабінеце дэманструюцца і прадметы, якія выкарыстоўваліся ў тэхналогіі падрыхтоўкі тканіны: кросны, калаўрот. Памяшканне выкарыстоўваецца як вучэбная аўдыторыя.

У кабінеце № 22 экспануюцца ўзоры беларускага традыцыйнага мужчынскага і жаночага народнага касцюма: кашулі, пасы, хусткі, андаракі і інш. Разам з аўтэнтычнымі рэчамі, якія датуюцца 1-й пал. ХХ ст., прадстаўлены і лепшыя дыпломныя работы кан. ХХ – пач. ХХІ ст., створаныя выпускнікамі ВДТУ ў тэхніцы традыцыйнага народнага ткацтва.

Асобна адзначым вялікую і цікавую калекцыю лялек, якая захоўваецца ў музейным пакоі. Адзначым, што куклы вырабляюцца студэнтамі не дзеля забавы, а з мэтай распрацоўкі касцюма, стварэння яго вобраза і афармлення ў матэрыяле.

Адрас: вул. газеты "Праўда", 59, № 41, 22 (вуч. корп. № 2).

Наведванне магчымае толькі па папярэдняй дамоўленасці.

*Экспазіцыя, прысвечная гісторыі гір і гіравога спорту (музей гір)*

У трэнажорнай зале інтэрната ВДТУ № 2 маецца экспазіцыя, прысвечаная гіраваму спорту. Стваральнік экспазіцыі – майстар спорту міжнароднага класа па гіравым спорце, трэнер секцыі ВДТУ па гіравым спорце і армрэслінгу Аляксандр Іванавіч Дзянісюк. У памяшканні захоўваецца калекцыя з 17 спартыўных гір. Ёсць 2 двухпудовыя гіры дарэвалюцыйнай вытворчасці. Ёсць гіры з нестандартнай формай – прамавугольныя, з падоўжанымі ручкамі, разборныя.

Адрас: інтэрнат ВДТУ № 2 (Маскоўскі пр-т), трэнажорная зала.

Наведванне магчымае па папярэдняй дамоўленасці.

## 2.5. Музеі і выставачныя залы ўстаноў адукацыі
(СШ, цэнтры пазашкольнай адукацыі, ліцэі, каледжы, школы мастацтваў)

*Экспазіцыя, прысвечаная гісторыі гімназіі № 1*

У канцы 1970-х гг. віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком у СШ № 15 (сёння гімназія № 1) было створана некалькі экспазіцый, прысвечаных ВЛКСМ, ЛКСМБ, У.І. Леніну, гісторыі савецкага грамадства. Са зменамі, якія адбыліся ў нашым грамадстве, яны перасталі адпавядаць часу і былі прыбраныя з рэкрэацый.

Новая экспазіцыя створана ў 2000-я гг. Змяшчаецца ў рэкрэацыі і кабінеце гісторыі. Адлюстравана гісторыя стварэння СШ № 15,

гімназіі № 1. Дэманструюцца дакументы, фотаздымкі па даваеннай і пасляваеннай гісторыі школы. Асобна экспануюцца матэрыялы, прысвечаныя вучням і настаўнікам – удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны. На зменнай выставе “Яны здабывалі гонар Бацькаўшчыны” дэманструюцца матэрыялы пра славутых ураджэнцаў горада і тых, хто сваёй працай забяспечыў яму і краіне дабрабыт і працвітанне, у тым ліку пра М. Каспяровіча, Ж. Алфёрава.

Адрас: вул. Даватара, 10/2.

Тэл.: +375 212 37-23-12; 37-01-29.

E-mail: gimn1_vit@tut.by.

На дадзены момант музей знаходзіцца на рэканструкцыі.

*Музей малалетніх вязняў у гімназіі № 3 (былая СШ № 1)*

Знаходзіцца на 3-м паверсе школы ў памяшканні вучэбнага класа. Музей створаны ў 2007 г. па ініцыятыве Віцебскага аддзялення арганізацыі малалетніх вязняў, а таксама былога дырэктара гімназіі Н.І. Жаваранкавай. Утвораны з мэтай захаваць памяць пра дзяцей, якія перанеслі жахі ваеннага часу, захаваць сувязь паміж пакаленнямі.

У экспазіцыі змешчаны матэрыялы, у якіх распавядаецца пра сістэму фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў, апавядаецца пра тыя, у якіх змяшчаліся малалетнія вязні – ураджэнцы і жыхары цяперашняй Віцебскай вобласці: Майданэк, Дахаў, Асвенцым, Саласпілс, Патуліцэ і іншыя. Экспануюцца дакументы, якія сведчаць пра нялюдскую сістэму знішчэння людзей, арганізаваную фашыстамі ў Віцебску і Віцебскай вобласці: канцэнтрацыйны лагер “Пяты полк”, каля так званых “Архірэйскіх дач”, гета і іншыя месцы масавага знішчэння.

Пры арганізацыі экспазіцыі выкарыстаны матэрыялы, якія збіраліся на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў. У фондах і на вітрынах захоўваецца больш за 200 экспанатаў: успаміны, лісты, малюнкі, дакументы, плакаты, анкеты, рэчы, зробленыя вязнямі па памяці, макеты абутку, які выкарыстоўваўся ў канцлагерах. Кабінет, абсталяваны тэхнічнымі сродкамі, выкарыстоўваецца як вучэбны. Маецца відэатэка.

Штогод 11 красавіка, у Міжнародны дзень малалетніх вязняў, у музейным пакоі адбываюцца сустрэчы.

Адрас: вул. газеты “Праўда”, 57.

Тэл.: +375 212 48-14-90, 28-18-46.

E-mail: Vgim3@mail.ru.

*Музей баявой славы 39-й Арміі ў гімназіі № 5 (былая СШ № 32)*

Адчынены ў 1979 г. у СШ № 32 г. Віцебска. Знаходзіцца ў асобным памяшканні. Агульная плошча – 120 м². Прысвечаны баявому шляху 39-й Арміі, а таксама падраздзяленням, якія ўваходзілі ў яе

склад у час вызвалення Віцебшчыны: 139-й артбрыгадзе, 262-й, 91-й, 19-й, 17-й, 164-й, 158-й, 251-й стралковым дывізіям, 28-й танкавай брыгадзе, медыцынскай службе Арміі.

Экспазіцыя змяшчаецца ў трох залах. У першай зале распавядаецца пра гісторыю стварэння музея, пошукавую працу, праведзеную настаўнікамі і вучнямі, а таксама ветэранамі. Прадстаўлены ўзнагароды музея, змешчана карта-схема баявога шляху 39-й Арміі. Другая частка залы прысвечана пачатку вайны. У час экскурсіі выкарыстоўваецца гуказапіс паведамлення Савінфармбюро аб нападзе Германіі на СССР. Вітрыны адлюстроўваюць баявыя аперацыі, у якіх брала ўдзел Армія – Маскоўскай бітве, Ржэўска-Вяземскай, Смаленскай, пачатку вызвалення БССР. Асаблівую цікавасць уяўляе дыярама “Танкавы бой за горад Ржэў”.

Другі раздзел першай залы прысвечаны гісторыі падрыхтоўкі і правядзення аперацыі па вызваленні БССР “Баграціён”, а таксама Віцебскай аперацыі. Дэманструюцца матэрыялы, якія адлюстроўваюць удзел падраздзяленняў і асобных байцоў, якія вызначыліся пры вызваленні горада, у тым ліку Ф. Блахіна, М. Яглінскага, У. Смятаніна. Змешчаны дыярама “Першы дзень у вызваленым Віцебску”, а таксама матэрыялы пра воінскія часткі і злучэнні, якія былі ўзнагароджаны за ўдзел у Віцебскай аперацыі. У зале экспануюцца рэчы, знойдзеныя пошукавымі атрадамі на месцах баёў: часткі зброі, гільзы, каскі, асабістыя рэчы салдат. Прадстаўлены муляжы зброі. У цэнтры залы бюст камандуючага 39-й Арміі генерал-палкоўніка І.І. Люднікава. Можна ўбачыць ягоныя асабістыя рэчы: тэчку, нагрудныя знакі.

У трэцяй зале змешчана скульптурная галерэя бюстаў Герояў Савецкага Саюза, якія атрымалі гэтае высокае званне за ўдзел у вызваленні Віцебска. Асобная частка трэцяй залы прысвечана ўраджэнцам Віцебшчыны – якія бралі ўдзел у вайне ў Афганістане. Тут жа змешчаны стэнд, на якім прадстаўлена інфармацыя пра выпускнікоў школы, якія абралі прафесію афіцэра. Зала прыстасаваная для правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў, сустрэч.

У музеі праводзяцца ўрокі міласэрнасці, урокі памяці, тэматычныя бяседы, прысвечаныя Дню абаронцы Айчыны, Дню Перамогі, дню вываду савецкіх войскаў з Афганістана. У 2001 г. атрымаў званне “Народны”.

Адрас: вул. Чкалава, 19а.
Тэл.: +375 212 22-20-52, 22-17-74.
E-mail: gimnasia5@tut.by.

*Экспазіцыя, прысвечаная экалогіі і энергазберажэнню ў гімназіі № 6 (былая СШ № 41)*

Створана ў 2006 г. па ініцыятыве дырэктара гімназіі Г.В. Іванова і заг. кафедры экалогіі ВДУ імя П.М. Машэрава А.М. Дарафеева. Экспазіцыя размешчана ў калідоры на 1-м і 3-м паверхах гімназіі, канферэнц-зале і кабінетах біялогіі і хіміі. Экспазіцыя, прысвечаная экалогіі і энергазберажэнню, створана за кошт віцебскай абласной інспекцыі навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў. Фінансаванне адбывалася таксама за кошт сродкаў міністэрства аховы прыроды Галандыі.

У калідоры на першым паверсе размешчаны стэнды, якія распавядаюць пра прадмет асноваў энергазберажэння для дзяцей малодшага ўзросту. На трэцім паверсе экспануюцца стэнды з матэрыяламі пра сістэму асобных ахоўваемых тэрыторый Рэспублікі Беларусь (запаведнікаў, заказнікаў, нацыянальных паркаў), Чырвоную кнігу Беларусі, асноўныя паняцці і тэрміны экалогіі. У канферэнц-зале (былы пакой юннатаў) на стэндах змяшчаюцца звесткі пра асноўныя пагадненні ў галіне аховы прыроды, сістэму аховы прыроды ў краіне, асноўныя міжнародныя экалагічныя арганізацыі, кароткія звесткі пра раку Дзвіна. Зала абсталявана сродкамі мультымедыя, мае некалькі дзясяткаў крэслаў, круглы стол, якія дазваляюць праводзіць у ёй заняткі, канферэнцыі, семінары, імпрэзы рознага характару.

Улічваючы, што гімназія знаходзіцца на беразе Дзвіны, першапачаткова планавалася стварэнне ў ёй музея ракі Дзвіна. Вельмі пажадана стварэнне такога музея ў перспектыве.

Адрас: вул. 3-я Цірааспальская, 9.

Тэл.: +375 212 23-92-98.

E-mail: ecogimn@tut.by.

*Музей Сям'і ў гімназіі № 7 (былая СШ № 39)*

Створаны ў 2004 г. да 60-годдзя вызвалення Беларусі. Праца па арганізацыі пачалася з 2000 г. Экспазіцыя размяшчаецца ў 2-х вучэбных кабінетах, асобнай зале і калідоры гімназіі. Агульная плошча – 273 м². Плошча экспазіцыі 105 м². У фондах больш за 500 экспанатаў. Прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя гісторыі, традыцыям, звычаям, культуры беларускай сям'і. Змешчаны таксама інфармацыя пра сямейныя адносіны, досвед сямейнага выхавання, рэліквіі сем'яў дзяцей, якія вучацца ў гімназіі.

У асобным кабінеце змяшчаецца экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, якая мае некалькі тэматычных накірункаў: "Лёс сям'і ў лёсе краіны", у якой адлюстраваны гісторыі дзядуляў, што ваявалі на фронце, унукі якіх вучацца ў гімназіі; "Ветэраны жывуць побач", прысвечаная ветэранам, што пражываюць на тэрыторыі мікрараёна; "У небе над Радзімай" – у ёй адлюстроўваюцца лёсы

ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, што служылі лётчыкамі: П.В. Шкіндзера, В.П. Шпакава, П.В. Цурбанава. Апошні, палкоўнік П. Цурбанаў, служыў разам са славутым лётчыкам-асам, тройчы Героям Савецкага Саюза – І.М. Кажадубам.

У кабінеце № 108 размешчаны тэматычныя экспазіцыі "Адкуль наш род", "Побыт і сямейныя традыцыі беларусаў". Разам з друкаванымі матэрыяламі тут экспануюцца рэчы, якія выкарыстоўвалі нашы продкі ў жыцці: рушнікі, посцілкі, прасы, ночвы, пранікі, батлейка (створаная ў нашы дні) і іншыя рэчы.

Кабінет № 106 прэзентуе экспазіцыю, якая адлюстроўвае сутнасць сям'і як унікальнай грамадскай з'явы. Яе раскрываюць наступныя тэмы: "Рэліквіі маёй сям'і", "Прафесіі нашых бацькоў", "Свет зацікаўленняў маёй сям'і". Тут захоўваюцца рэчы, створаныя рукамі дзяцей і бацькоў у тэхніцы вышыўкі, вязання, выцінанкі, разьбы па дрэве. У галоўнай зале музея, зале Сямейнай славы можна даведацца пра сем'і, якія выхавалі сваіх дзяцей так, што імі ганарыцца ўся краіна. Цікавая і фотаэкспазіцыя "Ад зацікаўлення да прафесіі", якая распавядае пра выпускнікоў школы.

У калідоры першага паверха змешчана экспазіцыя, якая адлюстроўвае гісторыю навучальнай установы, яе працоўныя будні, грамадскае жыццё, асноўныя дасягненні, сімволіку. Разам з фотаздымкамі творчых калектываў, побытавых момантаў жыцця школы тут экспануюцца граматы, дыпломы, кубкі, сімвалічны ключ ад навучальнай установы. Фотаэкспазіцыя "Сямейны партрэт у школьным інтэр'еры" змешчана ў калідоры і прысвечана розным бакам узаемадзеяння школы і сям'і.

Адной з важных частак працы музея з'яўляецца складанне радаводаў, знаёмства з сямейнымі традыцыямі, рэліквіямі, зацікаўленнямі. Знаёмства з экспазіцыяй дае магчымасць дзецям паіншаму зірнуць на дарослых – сваіх бацькоў, настаўнікаў і лепш разумець іх. Бацькам, у сваю чаргу, – мець больш зносінаў з дзецьмі. Наведванне музея спрыяе выхаванню будучага сем'яніна, які разумее каштоўнасці сямейнага жыцця.

Адрас: пр-т Перамогі, 29а.

Тэл.: +375 212 21-61-33, 21-00-32, 21-00-52.

Экспазіцыю можна наведаць пасля 14.00.

E-mail: gimnazium7_vit@tut.by.

*Музей баявой славы 43-й Арміі гімназіі № 9 (былая СШ № 36)*

Музей знаходзіцца на другім паверсе ў спецыяльным памяшканні. Створаны ў 1984 г. у гонар 40-годдзя вызвалення БССР і г. Віцебска. Аўтар праекта – віцебскі мастак Ю.С. Чарняк[131]. У 1984 г.

[131] Чарняк, Ю.С. "Мае музеі – мае дзеці…" // Культура. – 2007. – 5–11 мая. – С. 3.

святкавалася 40-годдзе вызвалення БССР, Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У горад на святочныя мерапрыемствы павінны былі прыехаць ганаровыя госці. Улічваючы, што ВАКМ на той час быў зачынены на рамонт, кіраўніцтвам горада было прынята рашэнне арганізаваць музей, прысвечаны 23-й Арміі, якая вызваляла Віцебск, у СШ № 36. Стварэнне адбывалася ў вельмі сціслы тэрмін, намаганнямі дзясяткаў прадпрыемстваў горада, пад асабістым кантролем кіраўнікоў віцебскага абласнога камітэта КПБ і аблвыканкама.

Музей мае тры залы. У першай распавядаецца пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны, захоп тэрыторыі БССР, усталяванне акупацыйнага рэжыму, разгортванне партызанскай барацьбы на тэрыторыі краіны і на Віцебшчыне ў прыватнасці.

Другая зала прысвечана асвятленню баявога шляху 43-й Арміі і падраздзяленняў, якія ўваходзілі ў яе склад: 145-й, 204-й, 334-й стралковым дывізіям, 317-му асобнаму супрацьтанкаваму батальёну і іншым. Адлюстраваны ўдзел злучэння ў галоўных аперацыях вайны, а таксама ў вызваленні Віцебшчыны.

Трэцяя зала – "Зала Перамогі" – прысвечана ветэранам. У цэнтры знаходзіцца бюст камандуючага 43-й Арміяй генерала А.П. Белабародава, на стэндах змешчаны фотаздымкі, асабістыя рэчы салдат, сяржантаў, старшын, афіцэраў-ветэранаў, якія служылі ў 43-й Арміі, прасочаны іх баявыя і мірныя лёсы. У асобных альбомах сабраны матэрыялы пра сотні ўдзельнікаў вызвалення Віцебска. Акрамя стэндаў, у экспазіцыі змешчана шмат рэчаў, знойдзеных пошукавымі атрадамі пры археалагічных працах на месцах баёў: калючы дрот, каскі, фрагменты ўзбраення, асабістыя рэчы байцоў і іншыя. Экспазіцыя густоўна аформлена.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 41а.

Тэл.: +375 212 22-52-22 (вахта); 22-04-97.

E-mail: school36_vit@tut.by.

*Музейны пакой у СШ № 2, прысвечаны 18-му Гвардзейскаму авіяцыйна-знішчальнаму палку*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе школы. У 1970-я гг. у школе віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком было створана некалькі экспазіцый, прысвечаных ВЛКСМ, У.І. Леніну. У асобным класе мелася экспазіцыя, створаная ў гонар вызвалення Віцебшчыны. Усе яны былі страчаны ў 1990-я гг.

Новая экспазіцыя створана ў 2010 г. Значную ролю ў яе арганізацыі адыграў ветэран Узброеных сіл СССР І.А. Паўлаў. Экспазіцыя складаецца з 6 тэматычных вітрын і стэндаў, у якіх адлюстравана гісторыя 18-га Гвардзейскага знішчальнага авіяпалка. Першы – "Начало боевого пути" – прысвечаны фарміраванню воінскага злу-

чэння. У іншых – “В небе Подмосковья”, “Нам дороги эти позабыть нельзя”, “В небе Белоруссии” – адлюстроўваецца баявы шлях палка на працягу Вялікай Айчыннай вайны. Усяго за гады вайны лётчыкамі палка былі збіты 427 фашысцкіх самалётаў. У баях загінулі 42 савецкія лётчыкі. У раздзеле “В небесах мы летали одних” распавядаецца пра лётчыкаў-французаў, якія ваявалі ў складзе авіяцыйнага палка. На стэндзе “С миссией доброй воли” адлюстраваны ўдзел лётчыкаў палка ў Карэйскай вайне 1950–1953 гг. Знішчальнікамі быў збіты 91 самалёт праціўніка, страты палка склалі 8 лётчыкаў і 18 экіпажаў. У інтэр’еры экспануюцца мадэлі самалётаў, створана дыярама. Асобна прадстаўлены баявы шлях воінскага злучэння.

Стэнды багата ілюстраваныя фотаздымкамі паветраных баёў, ваеннай тэхнікі, лётчыкаў. Дэманструюцца прыборы, якімі карыстаюцца лётчыкі ў час палётаў. У экспазіцыі прадстаўлены кнігі на тэматыку ваенна-паветраных сіл, у тым ліку кніга І.А. Паўлава “Не крылья в небо поднимают самолеты”.

Адрас: вул. Белабародава, 6.
Тэл.: +375 212 36-99-97; 36-90-75.
Інтэрнэт-адрас: www.school2.tut.su.
E-mail: vitebsk_school2@extra.by.

*Экспазіцыя ў СШ № 3, прысвечаная Герою Савецкага Саюза Л. Беліцкаму*

У 1960-я гг. настаўнік-краязнаўца М.С. Рыўкін арганізаваў музей, у якім змяшчаліся экспанаты, прысвечаныя гісторыі горада, школы. Страчаны ў 1990-я гг. У 2012 г. рыхтуецца адкрыццё экспазіцыі, прысвечанай Герою Савецкага Саюза Леаніду Беліцкаму, які ў 1973 г. скончыў СШ № 3. Званне Героя Савецкага Саюза ён атрымаў за выкананне інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане.

Адрас: пр-т Люднікава, 2.
Тэл.: +375 212 24-49-53; +375 212 24-48-53.

*Музейны пакой 27-й Омскай двойчы Чырванасцяжнай стралковай дывізіі ў СШ № 5*

Знаходзіцца ў асобным пакоі на другім паверсе. Створаны ў 2002 г. па ініцыятыве ветэрана А.М. Аўчыннікава. Прысвечаны гісторыі 27-й Омскай стралковай дывізіі, якая ў міжваенны час дыслацыравалася ў Віцебску, у раёне сучаснага парка Мазурына.

Першая частка экспазіцыі прысвечана стварэнню воінскага злучэння, баявым аперацыям, у якіх брала ўдзел дывізія ў гады Грамадзянскай вайны на Усходнім фронце: абароне Пермі, Омскай, Златавустаўскай, Варшаўскай аперацыях (чэрвень–жнівень 1920 г.). У другой частцы адлюстроўваецца ўдзел у баях у складзе Заходняга

фронту ў чэрвені 1941 г. Асобны стэнд прысвечаны вядомым камандзірам, якія камандавалі дывізіяй, а таксама праходзілі службу ў яе радах. Сярод іншых – вядомыя “чырвоныя” героі Грамадзянскай вайны С.С. Вастрацоў, І.Ф. Блажэвіч, П.М. Шаранговіч, І.М. Хабараў і інш. У 1920 г. камандзірам дывізіі з’яўляўся В.К. Путна, у гонар якога ў Віцебску названа вуліца.

Адрас: вул. Гагарына, 85.

Тэл.: +375 212 23-23-32; 23-21-37; 23-21-62.

E-mail: 5_schoolvit@mail.ru.

*Музей гісторыі школы ў СШ № 6*

У 1984 г. віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком была створана экспазіцыя, прысвечаная аднаму з палкоў, які вызваляў Віцебск у 1944 г., а таксама экспазіцыя, прысвечаная У.І. Леніну. Экспазіцыі размяшчаліся ў рэкрэацыі. У канцы 1990-х гг. была распрацавана новая экспазіцыя, прысвечаная народнай традцыйнай культуры і побыту беларусаў. У яго арганізацыі значную ролю адыгралі настаўнікі школы: А.А. Сахарава, Т.Дз. Шыліна, В.А. Сяргеева, Г.І. Ландычэнка. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе. Мае багатую калекцыю этнаграфічных матэрыялаў, сабраных па Віцебскай вобласці.

Знаходзіцца на рэканструкцыі. Мяркуецца стварэнне дзвюх залаў. Першая прысвечана гісторыі школы, другая – роднаму краю. Адкрыццё плануецца на 2013 г.

Адрас: вул. Лазо, 15.

Тэл.: +375 212 24-22-28; 24-37-09.

E-mail: vitebskschool6@mail.ru.

*Экспазіцыя, прысвечаная беларускім народным традыцыйным промыслам, у СШ № 7*

Экпазіцыя змешчана ў калідоры. Прысвечаная беларускім народным традыцыйным промыслам, галоўным чынам ткацтву. Складаецца з 4-х уладжаных у нішах сценаў вітрын, на якіх размешчаны ўзоры народных промыслаў, галоўным чынам – сабраныя вучнямі школы ў сваякоў: ручнікі, посцілкі, выцінанкі, сурвэткі, падузорнікі, карункі і іншыя. Прадстаўлены пераважна матэрыялы 2-й паловы XX ст.

Адрас: вул. Я. Коласа, 39.

Тэл.: +375 212 36-43-91; 36-39-83.

*Музейная экспазіцыя “Гісторыя Савецкай дзяржавы” ў СШ № 8*

Знаходзіцца ў калідоры на другім паверсе школы. На стэндах, выраблены на пачатку 1980-х гг., адлюстравана гісторыя станаўлення сацыялістычных ідэй і светапогляду, падзей палітычнай барацьбы XIX – пачатку XX ст.

Другая частка распавядае пра стварэнне СССР як дзяржавы працоўных і сялян. Адлюстраваны асноўныя этапы гісторыі краіны: Грамадзянская вайна, НЭП, сацыялістычныя пераўтварэнні 1920-х – 1930-х гг., Вялікая Айчынная вайна, перыяд аднаўлення, будаўніцтва "развітога сацыялізму".

Нягледзячы на састарэласць некаторай часткі матэрыялаў, асобныя стэнды ўяўляюць пэўную цікавасць. Напрыклад, матэрыялы пра ўзнікненне народніцкага руху, фарміраванне рабочай партыі ў Расійскай імперыі (РСДРП). На стэндах галоўным чынам змяшчаюцца фотаздымкі, цытаты, лозунгі з мінімумам тэкставай інфармацыі. Сярод цікавых матэрыялаў – здымкі дзеячаў рабочага, сацыялістычнага руху, дзеячаў Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі (бальшавікоў).

Адрас: вул. К. Маркса, 37/2.

Тэл.: +375 212 34-22-51; 34-31-63.

E-mail: 8school@tut.by.

*Музей партызанскай славы ў СШ № 9*

Знаходзіцца ў вучэбным класе. Створаны 24 чэрвеня 1964 г. як музей 1-й Віцебскай партызанскай брыгады. Ініцыятарам і стваральнікам з'яўляўся настаўнік фізічнай культуры Вярхоўскай СШ А. Ганчароў. Аднак з часам значная частка экспанатаў была згублена. У 2010 г., пасля рэканструкцыі, адбылося адкрыццё абноўленай экспазіцыі. Адлюстроўвае гісторыю станаўлення партызанскага злучэння, якое дзейнічала на тэрыторыі паўночна-ўсходняй часткі Віцебскага, Гарадоцкага і Суражскага раёнаў. На стэндах фотаздымкі, копіі дакументаў, якія распавядаюць пра асноўныя падзеі барацьбы з фашыстамі ад утварэння партызанскага атрада пад кіраўніцтвам І.Д. Буцьянава і А.П. Аўраменкі да фарміравання 1-й Віцебскай партызанскай брыгады пад кіраўніцтвам М.Ф. Біруліна і злучэння яе з войскамі Чырвонай Арміі ў лістападзе 1943 г. Прадстаўлены таксама матэрыялы, прысвечаныя вызваленню Віцебшчыны летам 1944 г.

Сярод найбольш цікавых матэрыялаў, якія экспануюцца на вітрынах, прыгадаем: супрацьтанкавыя міны, штык ад вінтоўкі Мосіна, мінамётныя міны, гільзы, засцерагальны шчыток ад кулямёта Максім, кулямётныя ленты. Цікавасць выклікаюць падручнік па арыфметыцы для пачатковай школы (выданне 1933 г.), кніга "Кузьма Минин" (1945), лістоўкі, групавыя і індывідуальныя фотаздымкі, нацельная кашуля, ручны гадзіннік, якія належалі аднаму з партызан, боты камандзіра 1-й Віцебскай партызанскай брыгады М. Біруліна і іншыя экспанаты.

Асобны стэнд прысвечаны гісторыі пасёлка. На ім адлюстравана сувязь Вярхоўя з жыццём і дзейнасцю вядомых асоб: доктарам Кар-

лам Гюбенталем, якому належала мястэчка, мастаком Іллёй Рэпіным, які напісаў для слабадской царквы дзве іконы.

Адрас: г.п. Руба-2 (Вярхоўе), вул. Школьная, 4.

Тэл.: +375 212 29-03-59; 21-13-12.

*Музей гісторыі школы СШ № 10*

Музей адкрыты ў 1987 г. Дэманструюцца матэрыялы, прысвечаныя гісторыі школы па асноўных перыядах ад заснавання, удзелу вучняў і настаўнікаў у Вялікай Айчыннай вайне, падзеям сучаснасці. Сабраны матэрыялы аб настаўніках і выдатных выпускніках навучальнай установы. Праект распрацаваны віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком.

Цяпер знаходзіцца на рэстаўрацыі.

Адрас: вул. Путна, 3.

Тэл.: +375 212 36-22-14; 36-98-27.

E-mail: s10vitebsk@narod.ru.

*Музей Ганаровых грамадзян г. Віцебска ў СШ № 12*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе корпуса пачатковай школы. Створаны ў 2010 г. Ініцыятарам і стваральнікам выступіла настаўніца пачатковых класаў Алена Пятроўна Маўсесян. Плошча экспазіцыі – 17,5 м². У фондах больш за 500 экспанатаў, з іх 264 – асноўны фонд.

Першапачаткова планавалася, што экспазіцыя будзе прысвечана славутым землякам. Быў сабраны значны матэрыял па тэме, праведзены кансультацыі са спецыялістамі Мастацкага музея, Віцебскага гарвыканкама. У выніку было вырашана стварыць музей, прысвечаны ганаровым грамадзянам г. Віцебска.

Пры стварэнні экспазіцыі выкарыстаны храналагічны прынцып. Экскурс пачынаецца з 1964 г., калі Віцебскім гарвыканкамам было прынята рашэнне аб стварэнні "Кнігі ганаровых грамадзян г. Віцебска" і палажэння аб наданні звання ганаровага грамадзяніна. Перад уваходам дэманструюцца копіі гэтых пастаноў гарвыканкама. На першым стэндзе прадстаўлены фотаздымкі і інфармацыя пра першых ганаровых грамадзян горада: Ф.Ц. Блахіна, М.П. Шмырова, М.І. Дружыніна, М.І. Мацэнка. Першым Ганаровым грамадзянінам Віцебска стаў 26 чэрвеня 1964 г. Герой Савецкага Саюза, былы камандзір 1-й Беларускай партызанскай брыгады Мінай Піліпавіч Шмыроў, легендарны "бацька Мінай". Прадстаўлены матэрыялы пра Героя Сацыялістычнай Працы, ветэрана працы фабрыкі "Сцяг індустрыялізацыі" Марыю Мацэнка, Героя Савецкага Саюза, сапёра Фёдара Блахіна, узвод якога пры вызваленні Віцебска выратаваў падрыхтаваны фашыстамі да падрыву мост праз Дзвіну, Героя Савецкага

Саюза, генерал-палкоўніка Міхаіла Дружыніна, удзельніка баёў за вызваленне горада ў чэрвені 1944 г.

Калі ў 1964 г. ганаровымі грамадзянамі сталі пераважна асобы, якія зрабілі важкі ўклад у вызваленне Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, то ў 1967 г. гэта былі камуністы, якія адыгралі важную ролю ў аднаўленні і развіцці эканомікі і гаспадаркі горада: М.А. Макараў, М.М. Міхайлаў, А.Н. Салоха, С.-Т.Д. Пескіна.

У музеі сабраны матэрыялы пра 49 грамадзян, якія маюць званне Ганаровага грамадзяніна г. Віцебска. Сярод іх – 12 Герояў Савецкага Саюза. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы пра людзей розных прафесій і лёсаў. Але аб’ядноўвае іх адно – значны ўклад у развіццё горада. Сярод Ганаровых грамадзян – ураджэнец Віцебска, Нобелеўскі лаўрэат, дырэктар фізіка-тэхнічнага інстытута РАН Жарэс Алфёраў, народны артыст БССР, загадчык кафедры кампазіцыі Беларускай акадэміі музыкі А.В. Багатыроў, былы старшыня віцебскага гарвыканкама Пётр Драздоў.

У вітрынах дэманструюцца аўтэнтычныя экспанаты – капялюш легендарнага партызанскага камбрыга М.П. Шмырова, граматы і медалі заслужанага трэнера СССР і БССР, заслужанага дзеяча фізкультуры Вікенція Дзмітрыева, баксёрскія пальчаткі заслужанага трэнера СССР Валерыя Кандраценкі, які падрыхтаваў алімпійскага чэмпіёна Сеульскай алімпіяды 1988 г. Вячаслава Яноўскага, лента “Ганаровы грамадзянін горада Віцебска” заслужанага будаўніка БССР Мікалая Мядзведскага.

Прадстаўлены таксама асабістыя рэчы іншых ганаровых грамадзян: Сяргея Шабашова – удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога першага сакратара віцебскага абкама партыі, Мікалая Самаркіна – былога камандзіра партызанскай брыгады імя У.І. Леніна, актрысы Зінаіды Канапелькі. Генерал Мікалай Зайцаў доўгі час з’яўляўся камандзірам 337-га палка паветрана-транспартнай авіяцыі, які абслугоўваў Віцебскую 103-ю паветрана-дэсантную дывізію і базіраваўся ў Віцебску. На вітрыне прадстаўлены ягоны нагрудны знак “Парашутыст-інструктар”, чарнільная ручка, генеральскія пагоны. Ёсць на вітрынах цікавыя гадзіннікі: кішэнны – Фёдара Шмакава, народнага артыста СССР і Рэспублікі Беларусь, і наручны – былога кіраўніка гаркама КПБ В.В. Міхельсона, які ён атрымаў у памяць пра ўдзел у XXV з’ездзе КПСС у 1976 г.

Музей мае аўдыятэку з запісамі ўспамінаў Ганаровых грамадзян і іх сваякоў.

У савецкія часы школа мела комплекс экспазіцый, распрацаваных мастаком Ю.С. Чарняком: музей камсамола, экспазіцыю, прысвечаную маладагвардзейцам, а таксама гісторыі савецкага грамадства, якія размяшчаліся ў рэкрэацыі.

Адрас: вул. П. Броўкі, 7.
Тэл.: +375 212 22-32-41; 22-09-94.
E-mail: school12_vit@tut.by.

*Музей "Памяць" у СШ № 15 ( г.п. Руба)*

Музей адкрыты ў 1987 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні. Створаны па ініцыятыве былога дырэктара, настаўніка гісторыі А.М. Аглушэвіча. Пачатак паклаў ліст, які даслаў у школу ў 1981 г. журналіст У.І. Літвіноў, у якім прасіў сабраць матэрыялы і адлюстраваць лёсы дзяцей, якія ў гады вайны былі вывезены фашыстамі ў канцлагеры. Асноўную працу па апытанні былых малалетніх вязняў разам з вучнямі школы ўзяла на сябе настаўніца В.А. Рыдлінская. У выніку актыўнай збіральніцкай працы былі сабраны значныя матэрыялы пра жыццёвыя лёсы некалькіх дзясяткаў жыхароў Рубы, якія апынуліся ў фашысцкім палоне. Музей афармлены на высокім мастацкім узроўні. У асноўным фондзе больш за 500 экспанатаў, у дапаможным – больш за 300.

Музей мае 6 залаў. Першая прысвечана пачатку вайны, абарончым баям на тэрыторыі Беларусі. У асобнай вітрыне экспануюцца макеты савецкай і нямецкай зброі, змешчаны матэрыялы пра эвакуацыю прамысловых прадпрыемстваў, танкавую бітву ў ліпені 1941 г. пад Сянно, пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці – ураджэнцаў Віцебскай вобласці (Б.Н. Сурына, А.А. Чувікава, С.Л. Каранеўскага, Я.М. Фаміна, Т.Л. Ткачова). У цэнтры змешчана пано "Перамога". У зале "У нямецкай няволі" экспануюцца фотаздымкі больш за 40 жыхароў Рубы, якія дзецьмі сталі вязнямі фашыскіх канцлагераў, распавядаецца пра іх жыццёвыя лёсы.

Зала "Дарогамі франтавікоў" прысвечана рубаўчанам-франтавікам, якія ваявалі на франтах сусветнай вайны, працавалі ў тыле. Чацвёртая зала адлюстроўвае партызанскую барацьбу ў фашысцкім тыле. Змешчаны матэрыялы пра 3 партызанскія брыгады, якія ваявалі ў наваколлях Рубы: 1-ю Беларускую, 1-ю Віцебскую і імя Ленінскага камсамола. Асаблівую цікавасць выклікаюць макет зямлянкі, схема вядомага Буёўскага боя, які вялі партызаны з карнікамі. Пятая зала прысвечана вызваленню БССР. У шостай экспануюцца матэрыялы пра землякоў-франтавікоў, якія дайшлі да Берліна. Тут жа знаходзяцца стэнды, прысвечаныя рубаўчанам, якія выконвалі інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане, у тым ліку верталётчыку В.А. Дольнікаву, які загінуў у гэтай вайне.

Адрас: 211321, г.п. Руба, вул. Цэнтральная, 12.
Тэл.: +375 212 29-18-55; 29-16-42; 29-22-88.
Час працы: аўторак: 15.30– 6.30; пятніца: 14.30–15.30.
Даехаць у г.п. Руба можна на гарадскіх аўтобусах № 2, 26 і 26 "а".

*Музей 335-й штурмавой авіядывізіі ў СШ № 17*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе новага корпуса школы. Асноўны фонд – каля 700 экспанатаў, дадатковы – больш за 1,3 тыс. экспанатаў.

Першая экспазіцыя, прысвечаная гісторыі Віцебска, была створана ў 1972 г. мастаком Ю.С. Чарняком. Пазней тэматыка была пашырана. Яшчэ ў 1978 г. на адрас Віцебскага абласнога аб'яднання пазашкольнай працы прыйшоў ліст з матэрыяламі ад ветэранаў 335-й авіядывізіі. Яны прапаноўвалі стварыць на базе якой-небудзь школы музей авіязлучэння. Значную збіральніцкую працу правяла метадыст аб'яднання Р.А. Зейфман. Ініцыятарам стварэння выступіла дырэктар школы Н.А. Шаўчэнка, якая арганізавала часовую выставу і запланавала ўладкаванне музейнага пакоя ў новым будынку школы. У 1995 г. музей быў створаны. Арганізатарам стала Л.П. Паўлава. Вялікую ролю адыграў начальнік Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі М.Х. Крылоў. Чалавек, неабыякавы да гісторыі сваёй малой радзімы, (дапамог у стварэнні музеяў у СШ у вёсках Дабрамыслі, Крынкі Лёзненскага раёна), ён прапанаваў розным падраздзяленням віцебскага чыгуначнага вузла паўдзельнічаць у стварэнні музея, аргументаваўшы гэта тым, што ў школе вучацца дзеці чыгуначнікаў, якія павінны ведаць гісторыю горада, памятаць, якім коштам далася перамога ў Вялікай Айчыннай вайне. Тэматыка была некалькі пашырана, і музей атрымаў статус музея народнай славы.

Экспазіцыя адлюстроўвае баявы шлях 335-й Віцебскай штурмавой ордэнаў У.І. Леніна, Чырвонага Сцяга і Суворава ІІ ст. авіядывізіі, баі на тэрыторыі Віцебшчыны ў гады вайны. Асобна прадстаўлена інфармацыя пра падраздзяленні, якія ўваходзілі ў склад авіядывізіі: 6-ы Маскоўскі штурмавы авіяполк, 683-ці Полацкі штурмавы авіяполк, 826-ы Віцебскі штурмавы авіяполк. За паўтара года ў 826-ы Віцебскі штурмавы авіяполк 39 лётчыкаў былі ўганараваны званнем Героя Савецкага Саюза. Сярод найбольш цікавых фактаў прывядзём інфармацыю пра аднаго з лётчыкаў дывізіі – Уладзіміра Гуляева, які быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Баявога Сцяга, пасля вайны стаў кінаакцёрам, здымаўся ў больш як 40 кінафільмах, у тым ліку ў фільме "Брыльянтавая рука".

У экспазіцыі дэманструюцца баявыя ўзнагароды, фрагменты баявога ўзбраення (каскі, кірасы, шчыток ад кулямёта "Максім", флягі, супрацьтанкавая стрэльба, макеты аўтаматаў), побытавыя рэчы лётчыкаў, лісты, фотаздымкі, кнігі, газеты, часопісы пра Вялікую Айчынную вайну.

У музеі маюцца раздзелы, у якіх адлюстравана гісторыя горада ад старажытнасці да нашых часоў. Частка экспазіцыі прысвечана

выпускнікам школы – удзельнікам вайны, а таксама гісторыі партызанскага і падпольнага руху на Віцебшчыне.

Музей падтрымлівае сувязі з музеем 6-га Маскоўскага штурмавога авіяпалка ў СШ № 692 г. Масквы. Маецца бібліятэка. Праводзяцца пасяджэнні метадычных аб'яднанняў выкладчыкаў Чыгуначнага раёна г. Віцебска.

Адрас: вул. Някрасава, 3.

Тэл.: +375 212 34-82-42.

*Музейны пакой Героя Савецкага Саюза М.І. Кузняцова ў СШ № 23*

Знаходзіцца ў асобным пакоі на 3-м паверсе. Створаны ў 1969 г. Праект музея, а таксама экспазіцыі, прысвечанай гісторыі савецкага грамадства, распрацаваў Ю.С. Чарняк, але выкананне праводзілася іншым мастаком. Значную ролю адыграла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Рыма Пятроўна Ісакава. Нягледзячы на тое, што музей носіць імя М.І. Кузняцова, ён мае комплексны характар.

Цэнтральная частка прысвечана дзейнасці Мікалая Іванавіча Кузняцова (1911, в. Зыранка, Свярдлоўскай вобл. – 9.03.1944, с. Барацін Бродаўскага раёна Львоўскай вобл.), савецкага разведчыка, Героя Савецкага Саюза (5.11.1944), які ў часы Вялікай Айчыннай вайны дзейнічаў на тэрыторыі захопленай фашыстамі Украіны. Праяўляючы незвычайную адвагу і вынаходлівасць, дасканала валодаючы нямецкай мовай, ён дзейнічаў пад выглядам нямецкага оберлейтэнанта Паўля Зіберта. Асабіста ім былі ліквідаваны 11 генералаў і важных чыноўнікаў акупацыйнай адміністрацыі нацысцкай Германіі. У тым ліку: галоўны суддзя Украіны Функ, імперскі дарадчык рэйхскамісарыята Украіна Галь, віцэ-губернатар Галіцыі Баўэр, камандуючы карнымі войскамі на Украіне генерал Ільген. На працягу значнага часу разведчык прадстаўляў савецкаму камандаванню важныя разведвальныя звесткі.

На стэндах змешчаны матэрыялы пра дзейнасць дыверсійнай групы (партызанскага атрада) "Победители", паплечнікаў разведчыка, асобныя факты з дзейнасці групы, Указ аб узнагароджанні М.І. Кузняцова званнем Героя Савецкага Саюза. У цэнтры аб'ёмны гіпсавы партрэт разведчыка, выкананы віцебскім скульптарам А. Гвоздзікавым.

Другая частка экспазіцыі мае краязнаўчы характар. У ёй падаюцца матэрыялы пра асноўныя падзеі гісторыі Віцебска. Значная ўвага надаецца мікрараёну Маркаўшчына. Дэманструюцца пано "Свята-Троіцкі Маркаў мужчынскі манастыр", "Віцебск", стэнд "Вуліцы Маркаўшчыны расказваюць", макет "Цэрквы Маркавага манастыра", выраблены настаўнікам школы У.Ф. Шалудкевічам. Змяшчаюцца ма-

тэрыялы па геральдыцы горада. Сярод цікавых экспанатаў – супрацьтанкавая стрэльба, гільзы ад снарадаў, макеты гранат, каскі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Матэрыялы краязнаўчага характару экспануюцца ў калідорах школы, напрыклад, стэнд “Пазнай Маркаўшчыну”, на якім змешчаны карта мікрараёна, фотаздымкі найбольш цікавых аб’ектаў, кароткая інфармацыя пра іх і адзначаны месцы знаходжання.

Трэцяя частка прысвечана гісторыі школы. Тут экспануюцца матэрыялы, прысвечаныя настаўнікам і вучням навучальнай установы. Ёсць стэнды “Яны стаялі ля вытокаў школы”, “Дырэктары школы”. Цікавым з’яўляецца стэнд “Яны вярнуліся ў другім статусе”, дзе падаюцца фотаздымкі вучняў, якія сталі настаўнікамі і вярнуліся на працу ў родную школу. Асабліва цікавы экспанат “Граніт навукі – камень ведаў”, які ўяўляе сабой вялізны камень з надпісам, перададзены выпускнікамі 1995 г. будучым вучням.

У кабінеце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва змешчана экспазіцыя “**Матуліна скарбонка**”, у якой праводзяцца выставы вышыўкі, вязання, вырабаў з саломкі, падручных матэрыялаў. У цэнтры знаходзіцца макет печы, калаўрот. На сцяне намалявана схема складання радавода.

У рэкрэацыі другога паверха змешчаны стэнд “Экалагічная сцяжына Маркаўшчыны”, на якім адлюстраваны аб’екты, што найбольш уплываюць на экалагічны стан мікрарэгіёна: прадпрыемства “Віцебскія дываны”, камбінат шоўкавых тканін, водазабор “Маркаўшчына”, СШ № 23, рака Дзвіна.

У пераходзе паміж 2-м і 3-м паверхамі размешчана **выстава** памяці былога настаўніка **У.Ф. Шалудкевіча**. На карцінах можна ўбачыць пейзажы і вуліцы мікрараёна Маркаўшчына розных часоў.

Адрас: вул. Горкага, 61-а.

Тэл.: +375 212 34-37-13, 34-06-72.

E-mail: school23Vitebsk@yandex.ru.

*Экспазіцыя, прысвечаная гісторыі пасёлка Тарны, у СШ № 24*

Знаходзіцца ў калідоры на трэцім паверсе. Матэрыялы змешчаны на самаробных стэндах. На стэндзе “Тарны – мая малая Радзіма” змешчаны пейзажныя фотаздымкі наваколляў, выявы асноўных прадпрыемстваў мікрараёна: мясакамбіната, футравай фабрыкі, ачышчальных збудаванняў. Стэнд “Гісторыя школы” распавядае пра гісторыю навучальнай установы, настаўнікаў, выдатных выпускнікоў. Фота розных часоў адлюстроўваюць разнастайныя старонкі жыцця ўстановы, перадаюць атмасферу 1950-х гг. – пач. XXI ст. Расповяд пра гісторыю пасёлка пачынаецца ад маёнтка Цялятнікі (адлюстраваны на карце-схеме сяр. XIX ст.), вядзецца да стварэння ў 1930-я гады

тарнабудаўнічага камбіната, даводзіцца да сучаснага дня мікрараёна. Асобны стэнд "Іх імёнамі названы вуліцы Тарнага" прысвечаны ўраджэнцам Віцебшчыны, якія загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане ў 1978–1988 гг.

Адрас: вул. 2-я Прыбярэжная, 1.

Тэл.: + 375 212 26-84-61, 26-84-93.

E-mail: school_24_v@tut.by.

*Комплекс музеяў і экспазіцый мастацка-эстэтычнай накіраванасці ў СШ № 25 (музей ДПМ, папераластыкі, І. Салярцінскага, Малая мастацкая галерэя)*

У 1982 г. у школе быў адкрыты ***музей Віцебскай гарадской камсамольскай арганізацыі***. Ён меў больш за 2 тыс. экспанатаў. Знаходзіўся ў асобным памяшканні. Адлюстроўваў гісторыю камсамольскай арганізацы ад стварэння першых ячэек на ільнопрадзільнай фабрыцы "Дзвіна" і ў прафтэхшколе абуткоўцаў і стварэння ў чэрвені 1918 г. гарадской Віцебскай камсамольскай арганізацыі да 1980-х гг. Экспазіцыя мела раздзелы: "Камсамол горада ў ХІ пяцігодцы", "Камсамол горада на ХХ з'ездзе ВЛКСМ", "Камсамол горада выконвае рашэнні XVII з'езда КПСС". Праводзіліся экскурсіі "Месца службы – Афганістан", "Гісторыя камсамола ў з'ездах камсамола", "Твае героі – камсамол". На 1987 г. захоўвалася больш за 2,5 тыс. экспанатаў: узнагароды, камсамольскія пуцёўкі, білеты, фотаздымкі. Сярод найбольш рэдкіх – нумары газеты "Юный творец", органа Віцебскага губернскага райкама РКСМ (май 1921 г.). На жаль, музей страчаны.

У адпаведнасці з мастацка-эстэтычным накірункам, які мела школа да сяр. 2000-х г., у ёй назапашаны багаты матэрыял, які экспануецца ў выглядзе некалькіх музеяў і экспазіцый, створаных пры майстэрнях.

1. **Музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва**. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на 3-м паверсе. Створаны ў сяр. 1980-х гг. Таццянай Уладзіміраўнай Пятровай. Дэманструюцца лепшыя працы, выкананыя ў розных тэхніках па розных накірунках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: рэчы з саломкі, скуры, тэкстылю, гліны, такарныя вырабы, разьба па дрэве, вышыўка, вязанне, ткацтва, габелен, бацік, ікебана, фларыстыка. Экспануюцца паменшаныя мадэлі храмаў, карціны, створаныя з пялёсткаў кветак. У музеі змяшчаюцца і рэчы матэрыяльнай культуры кан. XIX – 2-й пал. XX ст.: калаўрот, куфар, колы, прасы, газавыя лямпы і іншыя рэчы.

2. **Экспазіцыя пры кабінеце папераластыкі**. У кабінеце маецца экспазіцыя лепшых экспанатаў, вырабленых вучнямі і майстрамі школы. Экспануюцца рэчы, вырабленыя з паперы, сярод найбольш цікавых: аб'ёмныя мадэлі аўтамабіляў (джып "Хамер", пажарная ма-

шына, экскаватар, гоначныя баліды, цяжкавагавы грузавік), самалётаў і верталётаў, зброі (АК-47, кулямёт “Максім”, трохлінейная вінтоўка Мосіна, вінтоўка М-16, СВД, аўтаматы ППШ, “Шмайсер”, пісталеты розных мадэляў), посуду (кубкі, талеркі, самавар). Усе мадэлі спраўныя. Асаблівае захапленне выклікаюць гадзіннік і рыцар у поўным узбраенні. Цікавасць выклікаюць паменшаныя копіі помнікаў архітэктуры: Віцебскай, Мінскай ратуш, Успенскага сабора, іншых храмаў Беларусі, але гонар калекцыі – копіі Эйфелевай, Пізанскай, Астанкінскай башняў, вырабленых амаль у чалавечы рост. Для маленькіх дзяцей распрацавана падрыхтоўка лялек з паперы. Маецца макет веласіпеда, у якім ўсе часткі рухаюцца. Здаецца, калі б быў невялічкі чалавек зусім маленькай вагі, то ён бы мог пакатацца на тым самакаце! Люстры, забаўныя пчолкі, вырабленыя з паперы і падвешаныя пад столлю, могуць палепшыць настрой любой аўдыторыі. Большасць мадэляў размалявана, і іх часта цяжка адрозніць ад сапраўдных рэчаў. На працягу шэрагу гадоў кабінетам папераластыкі кіруе І.А. Баталка.

3. **Экспазіцыя** лепшых прац у **кабінеце лепкі**. Дэманструюцца вылепленыя з гліны фігуркі, цацкі, вазы, кубачкі, скарбонкі, пано, насценныя талеркі, карціны.

4. **Музейны пакой І.І. Салярцінскага**. Размяшчаецца ў асобным памяшканні на другім паверсе, у класе для заняткаў музычным мастацтвам. Дэманструюцца музычныя інструменты (піяніна, цымбалы, акардэон, балалайка, баян, бубен, бразготкі, лыжкі), карта аб’ектаў музычнай культуры г. Віцебска. У шафах захоўваюцца рэфераты і матэрыялы па музычнай культуры Беларусі: “Беларускія народныя інструменты”, “Музыка Беларусі XX ст.”, “Фартэпіяннае мастацтва Беларусі XX ст.”, “Вянок беларускіх народных мелодый” і іншыя. У пакоі праводзяцца заняткі, мерапрыемствы.

5. **Малая мастацкая галерэя**. Размяшчаецца ў кабінеце рускай мовы і літаратуры. Некалькі разоў на год тут праводзяцца зменныя выставы жывапісу на розныя тэмы. Сярод апошніх па часе: “Сын Чалавечы: Мастакі свету пра Хрыста”, “Мадонны Рафаэля”, “Вобраз Маці Божай у рускай іконе”, “Ефрасіння Полацкая: Вяртанне”, “Тэма Раства (Калядаў) у рускім і еўрапейскім жывапісе і паэзіі”, “Архітэктурныя помнікі і храмы Беларусі”, “Вобраз анёла ў жывапісе” і іншыя. Арганізатарам выстаў выступаюць ініцыятыўная група творчай інтэлігенцыі Віцебска, супрацоўнік Віцебскага абласнога інстытута развіцця адукацыі В.І. Маісеенка і настаўніца СШ № 25 Тамара Сямёнаўна Сокатава.

Практычна ўсе рэкрэацыі, калідоры выкарыстоўваюцца для размяшчэння часовых выстаў.

Цікавасць выклікае і касцюмерная, у якой маецца больш за 400 касцюмаў.

Адрас: вул. Чкалава, 22.

Тэл.: +375 212 22-78-71, 22-16-06.

E-mail: sc25perv@tut.by.

*Выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Скарбонка народных рамёстваў” у СШ № 28*

У 1980-я гг. віцебскі мастак Ю.С. Чарняк распрацаваў і выканаў праект музея У.І. Леніна. У 1990-я музей быў страчаны. Школа на працягу існавання мела мастацка-эстэтычны накірунак. У 2003 г. было прынята рашэнне аб стварэнні выставы, галоўнымі мэтамі якой з’яўляюцца: дэманстрацыя лепшых работ вучняў, зберажэнне традыцыйнага мастацтва беларускага народа, спрыянне эстэтычнаму выхаванню навучэнцаў. Галоўную ролю ў стварэнні адыгралі Таццяна Віктараўна Мастыка і Святлана Анатольеўна Кампут. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе школы. Плошча – 60 м².

У экспазіцыі прадстаўлены рэчы, выраблены ў тэхніцы як традыцыйных беларускіх народных рамёстваў, так і сучасных: контурная і геаметрычная разьба па дрэве, вязанне кручком, традыцыйная і сюжэтная вышыўка, ласкутнае шыццё, аплікацыя з саломкі (аб’ёмная і пласкасная), выраб лялек, бісерапляценне, вышыўка лентамі, габелены, бацік. Асабліва ўражваюць вышываныя ручнікі і кашулі.

Асобна адзначым пано, прысвечанае беларускай традыцыйнай народнай сімволіцы. У цэнтры кампазіцыі фігуры хлопчыка і дзяўчынкі ў нацыянальных строях. Па баках ад іх размешчаны сімвалы каляндарна-абрадавых і сямейна-абрадавых святаў: Багач, Ярыла, Купала, Масленіца, Русалка, Васьмірог, Маці-Зямля і інш.

Рэчы размешчаны на сценах, а таксама на стылізаваных плятнях і тумбах. У афармленні выставы выкарыстаны і аўтэнтычныя рэчы XIX ст. – каромысел, скалка, ганчарныя вырабы і іншыя вырабы.

Адрас: вул. газеты “Праўда”, 43.

Тэл.: +375 212 47-50-02, 47-22-52.

E-mail: schooll-28@yandex.ru.

*Музей гісторыі школы ў СШ № 29*

Музей адкрыты ў 1991 г. у гонар святкавання 50-годдзя школы, якое адзначалася ў 1990 г. Знаходзіцца на 3-м паверсе ў памяшканні, якое выкарыстоўваецца для заняткаў музыкай. У фондах каля 1 тыс. экспанатаў. У экспазіцыі, якая адлюстроўвае працоўны шлях навучальнай установы, фотаздымкі, лісты былых вучняў, запісы ўспамінаў настаўнікаў, некаторыя асабістыя рэчы.

Гісторыя і будні школы адлюстраваны ў стэндах: “Нашы медалісты”, “Педагагічныя традыцыі школы”, “Ветэраны педагагічнай працы”, “Школа сёння”, “Выпускнікі школы – абаронцы Айчыны”. На стэндзе “Імі ганарыцца школа” змешчана інфармацыя пра вядомых выпускнікоў школы, сярод якіх І. і А. Куржалавы, В. Дашкевіч, Э. Давыдоўская, Дз. Коўба, З. Стагурская і іншыя.

Асобны стэнд прысвечаны былому дырэктару школы – Людміле Васільеўне Бараноўскай, якая з’яўлялася членам вышэйшай палаты беларускага парламента – Савета Рэспублікі, займала значныя пасады ў міжпарламенцкім аб’яднанні Расіі і Беларусі. На стэндзе прадстаўлены фотаздымкі розных перыядаў яе жыцця, дэпутацкія значкі, пасведчанне дэпутата, узнагароды, нататнік. Яшчэ адзін стэнд прысвечаны Герою Савецкага Саюза В.В. Піменаву. З 1961 па 1971 г. ён вучыўся ў 29-й школе, скончыў Разанскае вышэйшае паветрана-дэсантнае вучылішча, звязаў сваё жыццё з войскам. Званне Героя Савецкага Саюза атрымаў у 1984 г. за аказанне інтэрнацыянальнай дапамогі ў Афганістане. У памяць аб выдатным выпускніку 29-я школа носіць імя В.В. Піменава. У вітрыне змешчаны кіцель з зоркай Героя Савецкага Саюза, копія ўзнагароднага ліста, дыплом, пасведчанне аб адукацыі, наручны гадзіннік і іншыя рэчы.

Адрас: зав. 26 Чэрвеня, 6.

Тэл.: +375 212 55-15-37; 55-23-54.

*Музей гісторыі школы і экспазіцыя “Віцебшчына ў Вялікай Айчыннай вайне” ў СШ № 31*

Створаны на аснове вядомага ў горадзе і краіне музея У.І. Леніна, адчыненага ў 1970 г. у гонар стагоддзя з дня нараджэння правадыра. Займае асобнае памяшканне на першым паверсе. Уключае наступныя раздзелы: гісторыя стварэння ўстановы, выдатныя вучні (былы дырэктар перадаў фотаздымкі ўсіх выпускнікоў ад заснавання школы), настаўнікі (па прадметах і накірунках). Сярод найбольш цікавых экспанатаў – друкарская машынка, партатыўны прайгравальнік, бюсты дзеячаў Камуністычнай партыі СССР і краін свету, узнагароды за працоўныя і спартыўныя дасягненні, а таксама прыклады шпаргалак і прыстасаванняў для паспяховай, але нелегальнай здачы экзаменаў.

У рэкрэацыі каля музея змешчана **экспазіцыя “Віцебшчына ў Вялікай Айчыннай вайне”**. Адчынена ў 1972 г. На драўляных стэндах прадстаўлена інфармацыя, прысвечаная гісторыі Віцебшчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У тым ліку разгортванню партызанскага і падпольнага руху ў вобласці. Змешчаны фотаздымкі камандзіраў першых партызанскіх атрадаў, партызанаў, якія

вызначыліся ў баях з ворагам. Асобны стэнд прысвечаны выдатнай дачцэ беларускага народа, змагарцы за нацыянальнае вызваленне Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. В.З. Харужай. У 1942 г. яна з'яўлялася адным з арганізатараў падпольнага партыйнага цэнтра ў Віцебску, аднак была схоплена фашыстамі і пасля катаванняў у засценках турмы СД расстраляна. Асобныя стэнды распавядаюць пра вызваленне Віцебска ў чэрвені 1944 г., удзел у аперацыі "Баграціён" 17-й, 19-й гвардзейскіх стралковых дывізій, а таксама французскага знішчальнага палка "Нармандыя-Нёман", пра помнікі, якія ўзвёў беларускі народ у гонар вялікай Перамогі.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 15.
Тэл.: +375 212 21-01-51.
E-mail: perv_sc31@tut.by.

*Музей "Беларуская хатка" ў СШ № 34*

Быў створаны ў 1995 г. Ініцыятарам і арганізатарам з'яўляўся настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аляксей Іванавіч Піменаў. Большая частка экспанатаў была сабрана ім у выніку паходаў па родным краі. Некаторую частку перадалі бацькі і сваякі вучняў. Сабраныя экспанаты ляглі ў аснову экспазіцыі, якая была аформлена ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры. Частка сцяны была аформлена пад традыцыйную беларускую хату пач. ХХ ст. Захоўваліся побытавыя сялянскія рэчы: маслабойка, ночвы, прасы, дзяжа і іншыя. Кніга ўліку паступленняў не вялася. Экспазіцыя актыўна выкарыстоўвалася на ўроках літаратуры, асабліва пры вывучэнні паэмы Я. Коласа "Новая зямля", твораў У. Караткевіча, І. Мележа і іншых беларускіх пісьменнікаў.

З сыходам настаўніка на пенсію ў 2006 г. музей пакрысе пачаў прыходзіць у запусценне. Зараз знаходзіцца на рэканструкцыі. Большая частка экспанатаў знаходзіцца ў асабістым архіве А.І. Піменава.

Адрас: вул. газеты "Праўда", 63.
Тэл.: +375 212 48-12-27, 47-32-37.
E-mail: vitebsk-school34@tut.by.

***Музей Героя Савецкага Саюза Ю.В. Смірнова ў СШ № 35***

Музей прысвечаны Герою Савецкага Саюза Ю.В. Смірнову. Радавы 77-га гвардзейскага стралковага палка 26-й стралковай дывізіі 11-й гвардзейскай арміі 3-га Беларускага фронту вызначыўся пры прарыве варожай абароны на поўдзень ад Оршы. 24 чэрвеня 1944 г. у складзе танкавага дэсанта прарваўся ў тыл ворага каля в. Шалашына. У начным баі быў цяжка паранены і трапіў у палон. Нягледзячы на зверскія катаванні, ён не выдаў ворагу ваеннай тайны. Нічога

не дамогшыся, фашысты распялі яго. Пахаваны ў г.п. Арэхаўск. Званне Героя Савецкага Саюза пасмяротна нададзена 6 кастрычніка 1944 г.

Музей знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе. Піянерская дружына мела ганаровае званне імя Ю. Смірнова. У выніку збору матэрыялаў, перапіскі з саслужыўцамі, сваякамі быў утвораны куток, на аснове якога ў 1979 г. арганізаваны музей. Значную ролю ў яго стварэнні адыграў дырэктар школы Я.Л. Бродскі.

Экспазіцыя складаецца з 9 стэндаў, на якіх адлюстраваны жыццёвы шлях Ю. Смірнова, абставіны подзвігу, помнікі, мемарыялізацыя памяці пра Героя. У цэнтры экспазіцыі бюст Героя Савецкага Саюза Ю.В. Смірнова, карціна "Ю. Смірноў на допыце". Сярод матэрыялаў дэманструюцца фотаздымкі Ю. Смірнова, Указ Вярхоўнага Савета СССР аб наданні яму звання Героя Савецкага Саюза, клятва воінаў 26-й гвардзейскай дывізіі і інш. Асобны стэнд прысвечаны юбілею вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ветэранам, якія пражываюць у мікрараёне школы. У 1970-я гг. мастак Ю.С. Чарняк распрацаваў і выканаў некалькі экспазіцый, звязаных з імем У.І. Леніна, якія размяшчаліся ў рэкрэацыях школы.

Адрас: вул. 11-я Сацыялістычная, 1.

Тэл.: +375 212 34-00-22, 34-00-03.

E-mail: pervsc35@tut.by.

*Музей "Дзяцінства, абпаленае вайной" у СШ № 38*

Знаходзіцца на другім паверсе будынка школы ў асобным памяшканні. Адкрыты ў 1991 г. Мае каля 400 экспанатаў. Прысвечаны малалетнім вязням фашысцкіх канцлагераў. На стэндах прадстаўлена інфармацыя пра ўсталяванне нямецкага акупацыйнага рэжыму, палітыку генацыду, страты, якія панёс ад яе савецкі народ. Паказаны механізм знішчэння мільёнаў мірных грамадзян Еўропы, і ў першую чаргу СССР, на прыкладзе канцлагераў Асвенцым, Майданэк, Трасцянец. Дэманструецца карта Віцебскай вобласці з назвамі месцаў масавага знішчэння грамадзян і колькасцю закатаваных людзей па раёнах і гарадах.

У экспазіцыі распавядаецца пра ўдзел дзяцей у супраціве фашыстам, пра ўдзел у партызанскай і падпольнай барацьбе, прыводзяцца фотаздымкі, апісанні подзвігаў піянераў-герояў на Віцебшчыне. Па замове праводзяцца экскурсіі на тэмы "Дзеці – вязні канцлагераў", "Удзел дзяцей у вызваленні Віцебскай вобласці", "Дзеці на франтах Вялікай Айчыннай вайны" і іншыя.

Адрас: Маскоўскі пр-т, 45а.

Тэл.: +375 212 21-49-28 (прыёмная).

E-mail: Sc38_perv@mail.ru.

*Музей Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова ў СШ № 43*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні. Музей адкрыты ў 1965 г. У 2004 г. была праведзена рээкспазіцыя. Плошча – 40 м². У асноўным фондзе больш за 200 экспанатаў, у дадатковым – каля 300.

У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя жыццю выдатнага партызанскага камандзіра М.П. Шмырова. Яны змешчаны ў храналагічным парадку: дзіцячыя гады, удзел у Першай сусветнай вайне, праца ў міжваенны час, арганізацыя партызанскага атрада на Суражчыне і пачатак барацьбы супраць фашыстаў. Асобна прадстаўлены матэрыялы пра партызанскі побыт, паплечнікаў "бацькі Міная", яго пасляваеннае жыццё. Сярод найбольш цікавых экспанатаў, прадстаўленых у экспазіцыі, – асабістыя рэчы партызанскага камандзіра, дэпутацкія кніжкі, тэлефонны апарат, капялюш Міная Піліпавіча. Цікавасць уяўляюць пастановы віцебскага гарадскога выканкама аб наданні вуліцы Прамой Крупскай імя М.П. Шмырова (1950), а таксама аб наданні СШ № 43 імя М.П. Шмырова (1965). На жаль, найбольш цікавыя экпанаты – 45-міліметровая гармата, узоры ўзбраення часоў Вялікай Айчыннай вайны, рэшткі самалёта Як-9 былі забраныя супрацоўнікамі спецслужб у 2011 г. Музей мае статус народнага (2005, пацверджаны ў 2010).

Асаблівую цікавасць наведвальнікаў выклікае вежа танка Т-70, змешчаная ў двары школы. У жніўні 1990 г. яна была паднятая з дна р. Лучоса з удзелам вучняў – членаў пошукавага атрада.

Адрас: вул. Шмырова, 30.

Тэл.: +375 212 27-02-23; 22-79-82.

*Музейны пакой "Беларуская хатка" ў СШ № 44*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе школы. Былая лабаранцкая афармлена як сялянская хата пач. ХХ – першай паловы ХХ ст. Сцены распісаны пад бярвенне, у цэнтры размешчана імітацыя рускай печы, у "чырвоным" куце змешчана ікона з набожнікамі. Уздоўж сцен размешчаны рэчы, якія меліся ў побыце беларускіх сялян. Афармленне экспазіцыі праводзіла В. Шыцік.

Пакой быў створаны ў 2007 г. па ініцыятыве настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Вольгі Георгіеўны Тылец. У аснову экспазіцыі пакладзены рэчы бабулі настаўніцы, якія яна збірала на пасаг: посцілкі, ручнікі, набожнікі, падузорнікі, люстэрка і іншыя. Пазней у экспазіцыю былі ўключаны іншыя рэчы, якія прыносілі настаўнікі і вучні школы: калаўрот, прасы, каромысел, маслабойка, рубель, пранік і іншыя. Асабліва цікавы экспанат – услончык, пры дапамозе якога маленькае дзіцятка вучылася хадзіць.

У калідоры каля пакоя знаходзіцца пастаянная выстава творчых работ вучняў па прадмеце "Тэхнічная і абслугоўваючая праца".

У 6 вітрынах змешчаны работы, якія зрабілі хлопцы на занятках у тэхніцы разьбы, тачэння, металаапрацоўкі, металапластыкі, мадэлявання, а таксама дзяўчаты – вязання, вязання кручком, вышыўкі, вышыўкі бісерам, саломапляцення, арыгамі, роспісу па дрэве, і інш.

Адрас: пр. Фрунзэ, 96.
Тэл.: +375 212 24-58-56; 24-39-98.
E-mail: School-44Vitebsk@yandex.ru.

*Музей арганізацыі "Чырвоны Крыж" у СШ № 45*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на другім паверсе школы. Створаны ў 2008 г. Афармлены ў выглядзе стэндавых планшэтаў, якія размешчаны па абедзвюх сценах пакоя.

Экспазіцыя мае 5 тэматычных раздзелаў. Адлюстроўвае гісторыю стварэння грамадскай арганізацыі Чырвоны Крыж, яе віцебскага аддзялення. Асобна распавядаецца пра гісторыю і прычыны стварэння арганізацыі ў сяр. XIX ст. Адлюстроўваюцца асаблівасці з'яўлення філіялаў на беларускіх землях у гады руска-турэцкай вайны 1876–1877 гг., калі ў губернскіх гарадах утвараліся школы для падрыхтоўкі сясцёр міласэрнасці, праводзіліся акцыі па збору сродкаў для параненых. Прадстаўлены матэрыялы аб дзейнасці Чырвонага Крыжа ў гады сусветных войнаў. У раздзелах "Вывучаем гуманітарнае права", "Работа з бежанцамі", "Нашы валанцёры" распавядаецца аб гуманітарным праве, дзейнасці Віцебскай абласной арганізацыі, яе супрацоўніках і валанцёрах. У памяшканні музейнага пакоя праводзяцца часовыя выставы, на якіх экспануюцца работы вучняў – удзельнікаў конкурсаў, што ладзяцца арганізацыяй. Асобна экспануюцца працы пераможцаў тэматычных конкурсаў, прысвечаных барацьбе са СНІДам, праблемам бежанцаў, гвалту ў сям'і і інш.

Адрас: вул. Чкалава, 47-а
Тэл.: +375 212 25-39-96; 25-29-10.
Сайт: www. strix.etodesign/museum.com.
E-mail: HPervsc45@tut.by.

*Выставачная зала Віцебскай дзіцячай мастацкай школы № 1*

Размяшчаецца ў асобным памяшканні на другім паверсе школы. Экспазіцыйная плошча – 70 м². У выставачнай зале праводзяцца выставы работ вучняў і выкладчыкаў навучальнай установы, а таксама іншых дзіцячых мастацкіх школ горада. Экспануюцца жывапісныя, графічныя, скульптурныя, дэкаратыўна-прыкладныя работы. Будынак школы – адметны помнік архітэктуры кан. XIX ст., а таксама помнік гісторыі. У 1920–1930-я гг. тут размяшчаўся віцебскі мастацкі тэхнікум (вучылішча), у якім вучыліся выдатныя дзеячы беларускай

культуры: З. Азгур, С. Селіханаў, У. Кароль, А. Бембель, В. Быкаў, аб чым сведчаць памятныя дошкі, прымацаваныя на сценах будынка. Будынак мае вельмі цікавы і арыгінальны выгляд дзякуючы высокаму вільчыку з навершам у форме шара, што робіць яго запамінальным.

Адрас: вул. Суворава, 3.

Тэл.: +375 212 37-02-60.

*Музей пошукавых атрадаў пры УА "Дзяржаўнае абласное аб'яднанне па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі" (былая ўстанова "Віцебскае абласное аб'яднанне пазашкольнай працы"*

Знаходзіцца на трэцім паверсе ў асобным памяшканні. Музей адкрыты ў 1992 г. на аснове матэрыялаў і як вынік дзейнасці пошукавых атрадаў навучальных устаноў Віцебскай вобласці. Адлюстравана гісторыя развіцця пошукавага руху ў Беларусі і на Віцебшчыне пасля Вялікай Айчыннай вайны, удзелу ў Вахтах Памяці, пошукавых лагерах, экспедыцыях, разведках.

Значная частка экспазіцыі прысвечана баям за горад і мае наступныя раздзелы: "Абарона Віцебска ў 1941 годзе", "Віцебск у час акупацыі", "Прарыў абароны ворага ў 1943 годзе", "Аперацыя "Баграціён" у чэрвені 1944 года". Раздзел "Мы вярнулі іх імёны з забыцця" прысвечаны тым салдатам і афіцэрам, імёны якіх удалося высветліць у выніку правядзення пошукавых мерапрыемстваў.

Значную частку экспанатаў складаюць рэліквіі, знойдзеныя пошукавікамі на месцах баёў. Асобна дэманструюцца медальёны, узнагароды і асабістыя рэчы, па якіх былі высветлены прозвішчы і імёны загінуўшых. Сярод цікавых аб'ектаў, што прыцягваюць увагу наведвальнікаў – панарама бою за Віцебск, макет бліндажа, карта баёў за вызваленне Віцебскай вобласці. На жаль, большасць цікавых экспанатаў была забраная ў сувязі з трагічнымі падзеямі 11 красавіка 2011 г., напрыклад, кулямёт "Максім", макеты ўзбраення і інш.

Адрас: пр-т Фрунзэ, 94, Віцебскае абласное аб'яднанне пазашкольнай работы.

Тэл.: +375 212 24-30-26, 27-63-11.

*Музей 6-га Дальнебамбардзіровачнага Берлінскага ордэна Кутузава III ступені авіяцыйнага палка пры дзяржаўным цэнтры пазашкольнай працы Кастрычніцкага раёна г. Віцебска*

Быў створаны ў СШ № 13 г. Віцебска. Пасля ліквідацыі школы экспазіцыя перанесена ў аддзел пазашкольнай працы Кастрычніцкага раёна, дзе музей працягнуў сваю працу. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе.

У музеі прадстаўлена інфармацыя пра баявы шлях палка, які браў удзел у савецка-фінскай, Вялікай Айчыннай вайне і вайне з Японіяй у 1945 г. Змяшчаюцца матэрыялы пра ўдзел у баявых аперацыях, напрыклад, аб бамбардзіроўках Берліна, пра лётчыкаў палка – Герояў Савецкага Саюза. У экспазіцыі шмат мадэляў самалётаў і авіяцыйнай тэхнікі, рэчы, знойдзеныя ў час правядзення пошукавых мерапрыемстваў на палях былых баёў. Загадчык музея – Н.Н. Савіцкая.

Адрас: вул. Жасткова, 19.

Тэл.: +375 212 27-20-69.

*Музей мастацка-тэхнічнай творчасці пры Віцебскім дзяржаўным політэхнічным прафесіянальным ліцэі № 2 (былое ПТВ № 16)*

Створаны на аснове працы гуртка ПТВ № 16 у пачатку 1980-х гг. Значную ролю ў стварэнні і развіцці экспазіцыі адыграла Святлана Іванаўна Швялёва. Знаходзіцца ў спецыяльна адведзеным памяшканні на другім паверсе ліцэя. У экспазіцыі прадстаўлены ўзоры правільна і эстэтычна аформленых кулінарных страваў. На сталах змешчаны наглядныя дапаможнікі – узоры-муляжы страў (як павінны выглядаць прыгатаваныя стравы ў сталовай, рэстаране, на банкеце). У музеі экспануецца і захоўваецца ў фондах больш за 200 высокамастацкіх аб’ектаў, створаных з воску майстрамі і студэнтамі ліцэя.

Большасць прац аўтарскія. Падзяляюцца на некалькі раздзелаў: “Банкетны стол”, “Гарачыя стравы”, “Рыбныя стравы”, “Халодныя закускі”, “Бутэрброды”, “Салаты”, “Караваі”, “Кандытарскія вырабы”. Арыгінальна выглядаюць экспанаты выставы “Віцебск у стравах”. Тут можна ўбачыць стравы (торты, салаты, гарачыя, халодныя закускі), арыгінальна прыгатаваныя ў форме галоўных і пазнавальных сімвалаў горада – ратушы, вакзала, храмаў і касцёлаў, гістарычных будынкаў, помнікаў гісторыі і культуры. Канешне, кожнаму наведвальніку запомніцца сваё – і маладым гаспадыням, і вопытным, дасведчаным кухаркам. З найбольш цікавых і запамінальных экспанатаў прыгадаем: фаршыраваных пад жаніха і нявесту шчупакоў, смажаных парасят у выглядзе лася, зубра; ружу, скручаную з кавалачкаў каўбасы; страву з панарамай Віцебска, дзе ўсе будынкі і элементы пейзажа можна з’есці – амфітэатр, “Духаўскі круглік”, Васкрасенскую царкву, торт са ўзбітымі вяршкамі і суніцамі, торт-пернік “Скарбніца ведаў” у выглядзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, торты “Скрыпка Шагала”, “Крылаты час”, “Два зубры”, у выглядзе віцебскай ратушы, Успенскага сабора і іншыя.

Адрас: вул. Леніна, 8.

Тэл.: +375 212 37-03-78 (прыёмная).

*Музей баявой славы 953-га штурмавога авіяцыйнага Віцебскага палка ў прафесійна-тэхнічным ліцэі № 1 (былое ПТВ № 96)*

Музей адкрыты ў чэрвені 1984 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні, мае дзве залы. Ініцыятарам і арганізатарам стварэння музея з'яўлялася Л.Н. Бруева. Прысвечаны баявому шляху 953-га штурмавога авіяцыйнага палка, які на працягу значнага перыяду часу змагаўся за вызваленне г. Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. За ўдзел у вызваленні горада яму была нададзена ганаровае званне "Віцебскі".

У фондах каля 10 тысяч экспанатаў. Сярод іх фотаздымкі, дакументы, макеты, узоры ўзбраення, асабістыя рэчы, дзённікі часоў вайны. Экспануюцца таксама рэчы, знойдзеныя ўдзельнікамі клуба "Искатель" на месцах баёў і франтавых аэрадромаў палка. Сярод іх рэшткі самалёта, узнятага з дна Бернскага возера, асабістыя рэчы членаў экіпажа гэтага самалёта: лётчыка В.А. Федароўскага і стралка М.Г. Аншукова.

У 1991 годзе музею прысвоена званне "Народны". У музеі сабраны і экспануюцца матэрыялы па гісторыі вучылішча, яго дасягненнях, пра настаўнікаў і выпускнікоў навучальнай установы.

Па ініцыятыве ветэранскай арганізацыі, уладаў вобласці, актыву музея лётчыкам 953 штурмавога авіяпалка быў усталяваны помнік на 10-м кіламетры шашы Віцебск–Масква, непадалёк ад в. Вароны, дзе 3 лютага 1944 г. было збіта 7 экіпажаў гэтай воінскай часці.

Адрас: вул. Лазо, 103а, каб. № 42.

Тэл.: +375 212 24-34-12 (вахта), 24-20-36 (прыёмная).

*Музей баявой і працоўнай славы пры Віцебскім дзяржаўным прафесіянальны ліцэі № 4 лёгкай прамысловасці (былое ПТВ № 46)*

Створаны ў 1978 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні на 4-м паверсе вучэбнага корпуса. Складаецца з 2-х залаў. Экспазіцыя першай распавядае аб гісторыі вучылішча ад 1932 г. да нашых дзён. У музеі можна даведацца аб прафесіях, па якіх вялася і вядзецца падрыхтоўка маладых працаўнікоў для прадпрыемстваў горада: панчошна-трыкатажнага камбіната «КІМ», дывановага вытворчага аб'яднання, камбіната шаўковых тканін і камбіната бытавога абслугоўвання насельніцтва. Прадстаўлены матэрыялы аб навучэнцах, выкладчыках вучылішча і іх творчасці. На стэндах можна ўбачыць фотаздымкі выпускаў розных гадоў, вядомых выпускнікоў (уганараваных дзяржаўнымі ўзнагародамі), ветэранаў вучылішча, яго кіраўнікоў.

На асобных вітрынах прадстаўлены ўзоры вырабаў, якія створаны навучэнцамі ліцэя. У цэнтры залы – тумба, на якой дэманструюцца ўзнагароды за вучэбныя, спартыўныя і культурныя дасягненні

навучэнцаў і выкладчыкаў, падарункі да юбілеяў, у тым ліку сімвалічны ключ ад вучылішча, падораны яму ў гонар 50-годдзя ўстановы, швейная машынка “Зінгер”, прэзентаваная прадпрыемствам “Ільмельда”. У афармленні экспазіцыі выкарыстаны матывы, у якіх ключавым сімвалам выступае лён – прадукт, што з’яўляецца галоўнай сыравінай для лёгкай прамысловасці. На сцяне змешчана карціна з беларускім пейзажам, на якім адлюстравана ільняное поле, побач з ёй размешчаны снапы ільну.

Другая зала прысвечана гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. На стэндах – карты і інфармацыя пра асноўныя паспяховыя аперацыі Чырвонай Арміі: Маскоўскую, Сталінградскую, Курскую, па вызваленні Украіны, БССР і іншыя. Выклікае цікавасць плакат, прысвечаны салдатам і афіцэрам, якія атрымалі званне Героя Савецкага Саюза за вызваленне Віцебшчыны. Распрацаваны ён ідэалагічным аддзелам Віцебскага прамысловага абкама КПБ і Віцебскім абласным краязнаўчым музеем у 1959 г. Асобна адлюстраваны баявы шлях і сувязі з ветэранамі 225-га асобнага супрацьтанкавага артылерыйскага дывізіёна, які вызваляў Віцебск.

У асобным памяшканні знаходзіцца творчы **цэнтр гісторыка-нацыянальных традыцый “Вытокі”**. Створаны ён С.М. Ляўковіч. Экспазіцыя прысвечана народнай беларускай традыцыйнай культуры. Тут можна ўбачыць шмат рэчаў, якія былі ў карыстанні ў 1-й палове ХХ ст.: калаўрот, прасы, посцілкі, рушнікі, вырабы з гліны, вілкі, іконы і інш. Сярод найбольш цікавых экспанатаў прыгадаем кросны, куфар, шафу, жорны, калядную зорку і інш. Экспазіцыя густоўна аформлена.

<u>Адрас</u>: вул. Залатагорская, 30.

Тэл.: +375 212 34-22-82.

Час працы: панядзелак: 14.00–16.15.

## Музеі ў Віцебскім дзяржаўным прафесіянальным ліцэі (былое ПТВ № 19)

*Музей баявой славы Віцебскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава 251-й стралковай дывізіі ў Віцебскім дзяржаўным прафесіянальным ліцэі*

Адкрыты ў 1988 г. Прысвечаны баявому шляху 251-й стралковай дывізіі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, на Віцебшчыне ў прыватнасці. Знаходзіцца на 4-м паверсе ў калідоры вучылішча. Складаецца з 16 тэматычных вітрын, стэндавых матэрыялаў. Экспазіцыйная плошча – 2400 м². У фондах каля 8 тыс. экспанатаў. Музей – вынік шматгадовай працы ваенна-патрыятычнага клуба “Пошук” пад кіраўніцтвам стваральніка А.А. Бурдо.

У экспазіцыі распавядаецца пра асноўныя этапы гісторыі дывізіі ад фарміравання ў 1941 г., баёў Масквой, на Ржэўска-Сычоўскім выступе, па вызваленні Віцебшчыны, у Прыбалтыцы, Усходняй Прусіі да ўдзелу ў Парадзе Перамогі на Чырвонай плошчы ў Маскве ў чэрвені 1945 г. Адлюстраваны ўдзел у баях розных падраздзяленняў дывізіі (стралкоў, артылерыстаў, сувязістаў, разведчыкаў, медыкаў і інш.), салдат, сяржантаў, старшын, афіцэраў.

У экспазіцыі прадстаўлены асабістыя рэчы, узнагароды, дакументы ветэранаў. Значная колькасць экспанатаў знойдзена на месцах баёў членамі клуба "Пошук", які дзейнічае пры ПТВ № 19: узнагароды, медальёны, асабістыя рэчы з імёнамі салдат і афіцэраў. Можна ўбачыць таксама фотаздымкі, копіі ўзнагародных лістоў, лістоў з фронту. У асобнай вітрыне экспануюцца асабістыя рэчы камандзіраў дывізіі розных часоў – генерал-лейтэнанта Ф.Я. Салаўёва, палкоўніка С.І. Арэстава. Прэзентуюцца матэрыялы, прысвечаныя пасляваенным лёсам ветэранаў дывізіі, праводзіцца праца па ўвекавечанні памяці загінуўшых.

У музеі праводзяцца тэматычныя выставы, звязаныя з ваеннай і пошукавай тэматыкай. У асобным памяшканні знаходзіцца перапіска, якая вялася са сваякамі воінаў, іншыя матэрыялы.

Адрас: вул. Кірава, 11.

Тэл.: +375 212 36-05-72, 36-50-45 (прыёмная).

*Музей гісторыі Віцебскага ПТВ № 19 у Віцебскім дзяржаўным прафесіянальным ліцэі*

Знаходзіцца на 4-м паверсе ў калідоры вучылішча. Створаны ў 1980-я гг. мастаком Ю.С. Чарняком. Складаецца з тэматычных вітрын, стэндавых матэрыялаў, размешчаных на сценах. Прысвечаны гісторыі стварэння і дзейнасці ПТВ № 19, якое адыгрывала значную ролю ў падрыхтоўцы кадраў для прамысловасці г. Віцебска, БССР і СССР. У вучылішчы можна было атрымаць прафесію механіка па рамонце швейных машын, слесара па рамонце складанай бытавой тэхнікі, цырульніка, закройшчыка і шаўца, швачкі, краўца, закройшчыка індывідуальнага пашыву верхняй вопраткі, вышывальшчыцы мастацкай вышыўкі. У вітрынах змешчаны ўзоры прадукцыі, якую выраблялі выпускнікі, узнагароды, атрыманыя за прафесійнае майстэрства на розных конкурсах, у тым ліку "Беларускі вянок", "Арт-вакацыі", "Млын моды" і інш.

На некалькіх дзясятках стэндаў прадстаўлена інфармацыя пра педагогаў, майстроў, выхавацеляў, выпускнікоў навучальнай установы. Два стэнды прысвечаны дзейнасці клуба "Пошук", які дзейнічаў у ПТВ № 19.

Адрас: вул. Кірава, 11.

Тэл.: +375 212 36-05-72, 36-50-45 (прыёмная).

*Музейная экспазіцыя гісторыі каледжа сувязі і ўдзелу сувязістаў у Вялікай Айчыннай вайне (каледж сувязі)*

Знаходзіцца на другім паверсе вучэбнага корпуса ў асобным памяшканні. Створаны як музей гісторыі навучальнай установы. Вялікая роля ў стварэнні музея належыць Наталлі Васільеўне Азаркевіч. Адлюстравана гісторыя стварэння і развіцця навучальнай установы ад тэхнікума да каледжа, распавядаецца пра асноўныя дасягненні, выкладчыцкі састаў, найбольш паспяховых выпускнікоў. Пэўнае месца адводзіцца прафесіянальнай арыентацыі моладзі.

Значная частка экспазіцыі прысвечана баявому шляху воінаў-сувязістаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і ваенных канфліктаў другой паловы XX ст. У экспазіцыі прадстаўлены ўзоры сродкаў сувязі, якія выкарыстоўваліся для забеспячэння баяздольнасці падраздзяленняў. Асобна прасочаны баявы шлях некаторых воінскіх злучэнняў, якія вызвалялі Віцебшчыну. Экспануюцца рэчы, знойдзеныя ў час палявых даследаванняў пошукавым атрадам, які дзейнічаў у каледжы ў 1980–1990-я гг.

Адрас: вул. Ільінскага, 45.

Тэл.: +375 212 36-52-84.

*Музей гісторыі ўстановы “Віцебскі політэхнічны каледж”*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні – адасобленай рэкрэацыі на трэцім паверсе. Прысвечаны гісторыі ўстановы. На пачатку экспазіцыі дэманструецца загад Міністэрства адукацыі аб стварэнні ў 1964 г. віцебскага радыётэхнічнага тэхнікума (політэхнічны – з 1965 г.), сімвалічны ключ ад навучальнай установы, фотаздымкі дырэктараў, выкладчыкаў, выпускнікоў тэхнікума. Шмат матэрыялаў зберагаецца ў форме альбомаў.

Сярод найбольш цікавых экспанатаў, якія захоўваюцца ў музеі, – сцяг віцебскага радыётэхнічнага тэхнікума, дыплом з адзнакай і сертыфікат (Evaluation Service), падпісаны Білам Гейтсам, які атрымаў выпускнік тэхнікума Алег Агурок.

З мэтай прафесійнай арыентацыі наведвальнікі могуць азнаёміцца са спецыяльнасцямі, якія атрымліваюць выпускнікі тэхнікума: “Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій”, “Праектаванне і вытворчасць радыёэлектронных сродкаў”, “Праектаванне і вытворчасць прыбораў і апаратаў”, “Электразабеспячэнне”.

На асобных стэндах прадстаўлена інфармацыя пра найбольш вядомых выпускнікоў установы, прадпрыемствы, на якія працаўладкоўваюцца былыя студэнты, Чырвоныя сцягі за перамогі ў сацыялістычным спаборніцтве, кубкі і прызы за спартыўныя дасягненні.

У раздзеле “Яны змагаліся за Радзіму” экспануюцца матэрыялы пра вядомых партызан і падпольшчыкаў, якія змагаліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны на Віцебшчыне – П. Машэрава, М. Сільніцкага, Е. Зянькову, В. Харужую, М. Шмырова і іншых.

Адрас: пр-т Чарняхоўскага, 14.

Тэл.: +375 212 21-30-91 (прыёмная).

*Музей аддзялення “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва” ў Віцебскім дзяржаўным тэхналагічным каледжы (былое ПТВ № 147)*

Створаны ў 2011 г. па ініцыятыве адміністрацыі каледжа з мэтай захавання і экспанавання выніковых і дыпломных работ студэнтаў аддзялення “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва”, павышэння ўзроўню майстэрства навучэнцаў. Знаходзіцца на другім паверсе ў будынку вучэбна-вытворчых майстэрняў. У фондах захоўваецца некалькі соцень работ.

У экспазіцыі прэзентуюцца работы па асноўных відах апрацоўкі матэрыялаў, па якіх праводзіцца навучанне на аддзяленні: рэчы з дрэва, саломкі, лазы, гліны, тканіны.

Кожны наведвальнік можа знайсці цікавае для сябе. Сярод найбольш цікавых экспанатаў прыгадаем раму для люстэрка “Лясное возера”, падсвечнік “Пад белымі крыламі”, аўтарскае выкананне шахмат “Грунвальд”, дзе фігуры выразаны ў адпаведнасці з гістарычнымі дэталямі як войска ВКЛ і каралеўства Польскага, так і войска Тэўтонскага ордэна. Любога паляўнічага ўразіць дэкаратыўная кампазіцыя, якая ўяўляе сабой галовы паляўнічых жывёл: лася, зубра, дзіка, мядзведзя, выразаных з дрэва. На высокім мастацкім узроўні выраблены свяцільнкі, керамічныя сасуды, вазы, столік “Версаль”.

Экспазіцыі, якія ўключаюць у сябе лепшыя працы па накірунку дзейнасці, стэнды з асноўнымі тэарэтычнымі правіламі і метадычнымі парадамі, ёсць у кожнай майстэрні, у тым ліку: разьбы, лозапляцення, саломапляцення; ткацтва; керамікі (ручная лепка, ганчарнае фармаванне); ювелірная.

Адрас: вул. Гагарына, 41.

Тэл.: +375 212 23-39-30; 23-12-60.

Час працы: час вучобы ў каледжы: 8.00–17.00.

Перапынак: з 13.00–14.00.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва навучэнцаў пры індустрыяльна-педагагічным каледжы*

У 1980-я гг. у індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме быў створаны музей гісторыі ўстановы. Ён знаходзіўся ў асобным памяшканні на чацвёртым паверсе. Пасля рамонту памяшканне перароблена пад залу пасяджэнняў. Шэраг матэрыялаў захоўваецца. У будучым плану-

ецца аднаўленне экспазіцыі, прысвечанай гісторыі навучальнай установы. Пакуль у асобным памяшканні на другім паверсе створана пастаянная экспазіцыя, у якой дэманструюцца лепшыя ўзоры работ студэнтаў па профілях навучання.

Ва ўстанове можна атрымаць спецыяльнасці швачкі, цырульніка, кулінара. У экспазіцыі можна ўбачыць узоры-муляжы кулінарных страваў (па-мастацку аформленыя торты і кулінарныя вырабы). Цікавасць уяўляюць карціны, якія выкананы ў розных тэхніках, вырабы, створаныя з салёнага цеста, рэчы, выкананыя з прасаванага кардону, бісеру, акрылу, а таксама вітражнае шкло. Найбольшы гонар экспазіцыі – пасціжэрныя вырабы і канікалоны (прычоскі, створаныя са штучнага воласу). Тут можна ўбачыць жаночыя прычоскі, якія адпавядаюць розным гістарычным перыядам, былі папулярныя ў розных краінах, а таксама эксперыментальныя работы, што з'яўляюцца вынікам творчасці і фантазіі навучэнцаў. Прадстаўлены работы, якія перамаглі ў прэстыжных выставах цырульнага мастацтва: "Неўскія берагі", "Ружа вятроў", "Залаты падснежнік", у чэмпіянаце рэспублікі. Сярод найбольш цікавых работы: "Марскія матывы", "Папараць-кветка", "Сусвет", "Пяшчота", "Акварэль" і іншыя.

Адрас: вул. Церашковай, 20.

Тэл.: +375 212 24-07-83.

*Выставачная зала Інстытута развіцця адукацыі*

Аформлена ў пач. 1990-х гг. віцебскім мастаком Ю.С. Чарняком. У зале праводзяцца часовыя выставы шырокай тэматыкі.

*Выставачная зала Цэнтра эстэтычнага выхавання "Маладзік" – школы мастацтваў № 3*

Адрас: вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 19 (Поўдзень-7).

Тэл.: +375 212 25-39-65; 25-36-16.

## 2.6. Прыватныя музеі

*Мастацкі салон-галерэя "Сцяна"*

Галерэя знаходзіцца ў былой мастацкай майстэрні віцебскага мастака Мікалая Дундзіна, у будынку, які з'яўляецца помнікам архітэктуры канца XIX ст. У галерэі праводзяцца персанальныя, калектыўныя, юбілейныя, дзіцячыя выставы, экспануюцца творы жывапісу, графікі, мастацкай і традыцыйнай керамікі, аўтарскія лялькі, вырабы са скуры, бяросты, саломы і іншых матэрыялаў. Праводзяцца выставы-продажы прац сучасных віцебскіх мастакоў: В. Шылко, А. Крошкіна, А. Скавародкі, В. Шчаснага, Н. Рызо, А. Ма-

лея, А. Дасужава, С. Сотнікава, А. Захарэвіча, А. Літвіна, а таксама мастакоў з іншых рэгіёнаў краіны і замежжа.

Па меркаванні ўладара галерэі М. Дундзіна, назва салона сімвалічная, г.зн. мае некалькі значэнняў, якія сімвалізуюць галоўную ідэю: "Стена – это форма, созданная из множества различных кирпичей, камней, соединенная раствором в единое целое, это защитное ограждение от холода, ветра, зверей и врагов, это то, с чем мы сталкиваемся в жизни: непонимание, зависть, бездушие, человеческая глупость, это плоскость, на которой висят картины. В конце концов, это когда звучит "Пинк Флойд"! Наша "Стена" должна помирить всех художников".

Адрас: вул. Леніна, 16.
Тэл.: +375 212 36-02-79; +375 29 292-00-75.
Час працы: 9.00–19.00.
Сайт: www.stena.vitebsk.by.
E-mail: gallery_stena@mail.ru.

*Салон "Лера" – творчая майстэрня мастакоў Рудэнкаў*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на цокальным паверсе будынка па вуліцы Суворава. Таццяна і Юры Рудэнкі – беларускія мастакі, якія працуюць у розных тэхніках: габелен, батык, вышыўка, жывапіс, вітражны роспіс, ювелірнае мастацтва. Творчая майстэрня выступае адначасова і як выставачная зала і стол замоў. Тут можна азнаёміцца з творчасцю мастакоў, набыць створаныя імі рэчы, замовіць выраб па сваім гусце. Экспазіцыйны рад пастаянна абнаўляецца, звычайна шырока прадстаўлены сувенірная прадукцыя, малая скульптурная пластыка, габелен, батык і інш.

Адрас: вул. Суворава, 18.
Час працы: 11.00–18.00.
Тэл.: +375 29 636-65-28.
www. http://rudenko-vitebsk.com.
E-mail: art@rudenko-vitebsk.com.

*Мастацкі салон-крама "Ольга"*

Створаны ў 1991 г. як філіял Цэнтра культуры "Віцебск". У асартыменце прадстаўлены: жывапіс (алей, гуаш, акварэль, змешаная тэхніка, аўтарская тэхніка); графіка; скульптура (метал, разьба па дрэве, шкло, кераміка і інш.); антыкварныя і кустарна-мастацкія вырабы, вырабы дэкаратыўна-прыкладной творчасці; керамічныя, фарфоравыя, шкляныя вырабы; скурагалантарэйныя вырабы, вырабы з дрэва, саломкі, бісеру; сувеніры.

Адрас: вул. Леніна, 28.
Тэл.: + 375 212 37-34-65.
Час працы: 10.30–18.30.

*Мастацкі салон "Фэст" аддзела культуры Віцебскага гарадскога выканкама*

Знаходзіцца на першым паверсе будынка па вуліцы Суворава. Прадстаўляе шырокі выбар жывапісных работ, сувенірнай прадукцыі, вырабаў з саломкі, гліны, металу, дрэва і іншых матэрыялаў, выкананых у розных тэхніках.

Адрас: вул. Суворава, 3.

Тэл.: +375 212 36-61-23.

Час працы: 10.00–18.00. Перапынак: 14.00–15.00; 10.00–15.00 (субота).

Выходны: нядзеля.

## 2.7. Музеі, якія знаходзяцца непадалёк ад Віцебска

*Віцебскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей*

Знаходзіцца ў в. Акцябрская Віцебскага раёна. Пачаў працу ў сакавіку 2004 г. У фондах захоўваецца больш за 12 тыс. прадметаў (11 тыс. асноўнага, больш за 1,5 тыс. – навукова-дапаможнага).

Экспазіцыя мае 2 раздзелы. Першы – "Старонкі гісторыі" – прысвечаны гісторыі і культуры краю ад старажытнасці да нашых дзён. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы раскопак гарадзішча і селішча каля в. Лужасна, гарадзішча каля в. Баронікі, выявы пячатак віцебскіх князёў, гербы Віцебска, Суража, м. Янавічы, матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці славутых землякоў: А.І. Абрамовіча, М. Лынькова, М.Я. Нікіфароўскага, Ф.А. Сурганава і інш. Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікае інфармацыя пра ўраджэнца Віцебскага павета Ф. Махнова, які меў рост 265 см (па іншых звестках – 285 см) і, такім чынам, з'яўляўся адным з самых высокіх людзей на нашай планеце. У музеі дэманструецца фотарэканструкцыя волата, на фоне якой можна сфатаграфавацца. Асобны стэнд распавядае пра школу-камуну, якая існавала ў 1920-я гг.

Значная частка экспазіцыі адведзена тэме Вялікай Айчыннай вайны ў гісторыі раёна. На вітрынах змешчаны баявыя ўзнагароды, дакументы, фотаматэрыялы, прысвечаныя партызанскай барацьбе, падполлю, баям за вызваленне Віцебска, асаблівасцям правядзення аперацыі "Баграціён" у наваколлях Віцебска. Шырока прадстаўлены дакументы і матэрыялы савецкага перыяду ў гісторыі раёна: узнагароды, нагрудныя знакі, граматы, фотаздымкі. Цікавасць выклікаюць касцюмы народнага ансамбля танца "Колас", які доўгі час з'яўлялася "культурнай візіткай" Віцебскага раёна.

У другой зале "Віцебскі раён. Быт і культура XX ст." прадстаўлены побытавыя рэчы, якімі карысталіся нашы дзядулі

і бабулі 100 гадоў таму. Сярод іх: прылады працы, шафа, ложак, прасы, маслабойка, венчык, калаўрот, швейная машынка, радыё, радыёла, люстэрка і іншыя.

У рэкрэацыі праводзяцца часовыя тэматычныя выставы.

Адрас: в. Акцябрская, вул. Сонечная, 1а.

Тэл.: +375 0212 20-03-36.

Час працы: 10.00–19.00. Перапынак: 14.00–15.00.

Даезд ад цэнтра: на прыгарадным аўтобусе ці маршрутных таксі ад станцыі Віцебск да в. Акцябрская.

У адным будынку з музеем, на першым паверсе, знаходзіцца *Цэнтр народных мастацкіх рамёстваў “Адраджэнне*” Віцебскага раёна.

Тут працуюць гурткі па саломапляценні, ткацтву, вышыўцы, а таксама ганчарны гурток. Пры жаданні можна паўдзельнічаць у майстар-класе па навучанні ўпадабанаму рамяству, сваімі рукамі зрабіць рэч ці проста паглядзець, як рабілі ўзоры сапраўднага мастацтва нашы продкі. Пры жаданні можна набыць сувенір у гандлёвым пункце “Варвара”, які створаны пры Цэнтры рамёстваў.

Тэл.: +375 212 20-04-34.

*Музей “Гісторыя Заронаўскага краю”*

Знаходзіцца ў в. Заронава Віцебскага раёна. Адкрыты ў 1986 г. Размешчаны ў асобным будынку. Экспазіцыя складаецца з 5 залаў. Першая зала – этнаграфічная. У ёй адлюстраваны побыт селяніна канца XIX – другой паловы XX ст. У сапраўднай сялянскай хаце адноўлены інтэр’ер, змешчаны прылады працы, побытавыя рэчы. Можна ўбачыць прылады працы селяніна, каваля, цесляра, сталяра, у тым ліку цэп, граблі, серп, каромысла, капыл, рэзгіны (прыстасаванне для пераносу скошанай травы) і іншыя. На прыкладзе некаторых экспанатаў можна прасачыць развіццё тэхнічнага прагрэсу і моды (старажытныя прасы, прасы на вуллях, прас краўца, электрычны прас). Асобна прадстаўлены ручнікі, арнамент якіх нясе глыбокі сэнс. У зале знаходзіцца сапраўдная печ, у якой можна прыгатаваць стравы традыцыйнай беларускай кухні.

У другой зале прадстаўлены экспанаты, якія адлюстроўваюць гісторыю вёскі і бліжэйшых наваколляў ад старажытнасці да сучаснасці. У экспазіцыі можна ўбачыць крамянёвыя прылады працы, знойдзеныя ў наваколлях. Асобныя стэнды распавядаюць пра Жарэбыцкую воласць, у склад якой уваходзіла ў канцы XIX – пач. XX ст. Заронава, сацыялістычныя пераўтварэнні, якія адбываліся ў міжваенны перыяд, калектывізацыю. Прадстаўлены цікавыя матэрыялы аб Заронаўскім падполлі, пра баявыя дзеянні на тэрыторыі

Заронаўскага сельсавета ў гады Вялікай Айчыннай вайны, па гісторыі саўгаса і школы. У музеі захоўваецца перапіска са сваякамі загінуўшых воінаў, з ветэранамі вайны, удзельнікамі вызвалення, копіі дакументаў, прадметы быту сельскіх жыхароў, узоры ваеннай амуніцыі, узбраення.

Трэцяя зала мае назву "Настальгія, альбо Вяртанне ў СССР". Тут адноўлены тыповы пакой сялянскай хаты 1970-х – пач. 1980-х гг., так званага перыяду "застою". У шафе змяшчаюцца ўзоры тагачаснага адзення, якое пры жаданні можна прымерыць і ў ім сфатаграфавацца. Чацвёртая зала аддадзена пад разнастайныя калекцыі: музычных інструментаў, навагодніх упрыгожванняў, вылічальнай тэхнікі (ад лічыльнікаў і арыфмометраў да першых ЭВМ і вылічальных машынак), фотаапаратаў, значкоў, ручак, календароў, друкарскіх машынак, пляшак, ліхтароў. Пятая зала называецца "Хата-чытальня". Яна прыстасавана пад бібліятэку і залу, дзе можна праводзіць тэматычыя заняткі. У ёй таксама можна праводзіць прыёмы дэлегацый. У планах стварэнне экспазіцыі, прысвечанай народнай міфалогіі на аснове прац вядомага віцебскага краязнаўцы другой паловы XIX ст. М.Я. Нікіфароўскага, а таксама рэканструкцыя фрагмента паэмы "Тарас на Парнасе", падзеі якой адбываліся непадалёк ад Заронава – каля былой вёскі Пуцявішча. Невялікая калекцыя рэчаў гаспадарчага ўжытку змешчана на вуліцы каля музея.

У 1996 годзе музею прысвоена ганаровае званне "Народны". Загадчык музея – Людміла Канстанцінаўна Нікіціна.

<u>Адрас</u>: Віцебскі р-н, в. Заронава, вул. Прыазёрная.

Тэл.: +375 212 20-65-49 (школа-сад), 26-66-99 (хатні).

Час працы: 8.00–16.30.

Абед: 12.30–13.00.

Даехаць:

– *аўтобусам*: ад аўтобуснага вакзала на аўтобусе ці маршрутным таксі "Віцебск–Заронава";

– *аўтамабілем*: па Старапалацкай дарозе, ад мікрараёна Ціраспаль у накірунку Сіроціна – в. Заронава.

Пажадана папярэдняя дамоўленасць.

*Гісторыка-краязнаўчы музей Старасельскай СШ*

Знаходзіцца ў асобным памяшканні на першым паверсе школы. Адкрыты ў 1982 г. Адным са стваральнікаў і кіраўнікоў з'яўлялася М.Дз. Юшкевіч. У асноўным фондзе ўтрымліваецца каля 1500 экспанатаў, у дапаможным – каля 3000 адзінак захоўвання.

У першым раздзеле "Гісторыя ўзнікнення Старога Сяла і бліжэйшых населеных пунктаў, этнаграфія, дарэвалюцыйны перыяд" можна пабачыць рэшткі керамікі, знойдзеныя ў раёне гарадзішча

і селішча днепра-дзвінскай культуры, якія ў свой час раскопваў заснавальнік беларускай, рускай, украінскай археалогіі, фальклярыстыкі – З. Даленга-Хадакоўскі, прадметы хатняга ўжытку, кавалак ядра і крамянёвую стрэльбу перыяду вайны 1812 г. Уяўляюць цікавасць даваенныя фотаздымкі царквы, сялянскіх хат, сядзібнага дома генерала ад кавалерыі І.А. Андрыянава, былога ўладальніка мясцовага маёнтка.

Сярод найбольш цікавых экспанатаў можна прыгадаць раму ад ложка самага вялікага чалавека ў свеце – Фёдара Махнова, які нарадзіўся і жыў непадалёк ад Старога Сяла, а таксама матэрыялы аб веліканe, рост якога быў (па розных дадзеных) 265 ці 285 см.

У раздзеле "Гісторыя даваеннага перыяду (1918–1941 гг.)" распавядаецца пра першыя камуны, якія ўтварыліся на тэрыторыі мікрарэгіёна, гісторыю лесазавода "Пралетарый", калгасы, іпадром. Прадстаўлена і складаная тэма рэпрэсій 1933–1937 гг., якая захапіла Старасельшчыну. Асобныя раздзелы прысвечаны гісторыі Старасельскай школы, бальніцы, аптэкі, пошты, чыгункі на старасельскім адрэзку, саўгаса імя У.П. Краева, школы ручной працы.

Вялікае месца ў экспазіцыі займаюць матэрыялы аб Вялікай Айчыннай вайне. З канца 1943 г. па чэрвень 1944 г. камандаванне савецкай арміі імкнулася вызваліць Віцебск. У наваколлях вёскі жорсткія баі ішлі больш за паўгода. У экспазіцыі змешчаны арыгіналы дакументаў Герояў Савецкага Саюза У.П. Краева, Ф.П. Ерзікава, М.А. Ніканава, Дз.М. Пятрова. У музеі захоўваюцца асабістыя рэчы воінаў, галерэя малюнкаў франтавога мастака В.І. Зотава, баявыя ўзнагароды.

Музей мае шмат матэрыялаў аб установах, якія знаходзіліся на тэрыторыі сельскага савета. Асаблівы гонар – этнаграфічная калекцыя, якая ўключае ў сябе шэраг побытавых і гаспадарчых рэчаў канца XIX – першай паловы XX ст.: косы, граблі, ступы, прасы, мянташкі, верацёны, калаўроты, бароны і інш. У 1994 г. музею прысвоена ганаровае званне "Народны".

Адрас: Віцебскі р-н, в. Старое Сяло.

Тэл.: +375 212 29-82-37, 20-03-64.

E-mail: stselo@yandex.ru.

Даехаць:

– *на цягніку*: ад чыгуначнага вакзала на прыгарадным цягніку Віцебск–Полацк, Віцебск–Шуміліна да прыпынку Старое Сяло;

– *аўтобусам*: ад аўтобуснага вакзала на аўтобусе ці маршрутным таксі Віцебск–Старое Сяло, Віцебск–Шуміліна, Віцебск–Полацк;

– *аўтамабілем*: па шашы Віцебск–Полацк да в. Старое Сяло.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

*Музей дзяржаўнай агульнаадукацыйнай гімназіі № 1 Віцебскага раёна ў в. Акцябрская*

Быў створаны ў 1975 г. у будынку школы на аснове аб'яднаных экспазіцый Сялюцкай і Нікрапольскай школ. У выніку недагляду частка экспанатаў была страчана, частка перададзена ў Віцебскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей. У 2012 г. створана новая экспазіцыя. Складаецца з 2-х залаў. У першай адлюстроўваецца гісторыя вёскі, мікрараёна, школы. Змешчаны гістарычная схема і карта мікрараёна, фотаздымкі настаўнікаў, выпускнікоў школы.

У другой плануецца стварыць пастаянную экспазіцыю, прысвечаную нацыянальным меншасцям, якія пражываюць на тэрыторыі раёна. У зале дэманструецца жаночая святочная вопратка народаў, якія ўваходзілі ў склад СССР (былыя сцэнічныя касцюмы народнага ансамбля танца "Колас", перададзены з запаснікаў ВРГКМ). Цікавасць выклікаюць некаторыя рэчы, якія засталіся ад музея У.І. Леніна, што дзейнічаў у Нікрапольскай школе: паменшаныя макеты дома ў Сімбірску, дзе нарадзіўся У.І. Ульянаў-Ленін, дома ў с. Шушанскім, дзе будучы правадыр сусветнай рэвалюцыі знаходзіўся ў ссылцы, шалаша ў Разліве, дзе У. Ленін перахоўваўся летам 1917 г. ад праследаў Часовага ўрада, і іншыя.

Адрас: в. Акцябрская, вул. Кастрычніцкая, д. 8, корп. 1.

Тэл.: +375 212 20-03-78, 20-03-64.

E-mail: oktshcool@yandex.ru.

Даехаць:

– *аўтобусам*: ад аўтобуснага вакзала на аўтобусе ці маршрутным таксі Віцебск–Акцябрскі;

– *аўтамабілем*: па шашы Віцебск–Старааршанская шаша.

Экскурсія магчымая па папярэдняй дамоўленасці.

## Музеі Лужаснянскага аграрнага каледжа

*Музей гісторыі Лужаснянскага аграрнага каледжа*

Знаходзіцца ў галоўным корпусе каледжа. Займае памяшканне на другім паверсе. У стварэнні музея значную ролю адыграла А.А. Бабічава. Экспазіцыя размешчана ў трох залах.

Першы прысвечаны гісторыі стварэння і адкрыцця Лужаснянскай земляробчай школы ў 1909 г., яе дзейнасці ў 1920-я гг., рэарганізацыі ў 1929 г. у Дзяржаўны ільнопяньковы тэхнікум, яго дзейнасці ў 1930-я гг. На стэндах змешчана гістарычная даведка, копія артыкула ў "Віцебскіх губернскіх ведамасцях", у якім распавядаецца пра стварэнне школы, групавыя фотаздымкі выпускнікоў 1920–1930-х гг.

Другая зала распавядае пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. На стэндах змяшчаецца інфармацыя пра пачатак вайны, усталяванне акупацыйнага рэжыму, вызваленне БССР у выніку аперацыі "Баграціён".

Можна ўбачыць фотаздымкі ветэранаў – выкладчыкаў тэхнікума, жыхароў пасёлка. Асобны стэнд адлюстроўвае дзеянні Першай Віцебскай партызанскай брыгады, подзвіг партызана М. Сільніцкага, у гонар якога на чыгуначнай станцыі Лужасна ўсталявана мемарыяльная стэла. На вітрынах размешчаны ўзоры баявой зброі і боепрыпасаў.

Трэцяя зала, самая вялікая, прысвечана гісторыі ўстановы ў пасляваенныя гады. У цэнтры размешчаны аб'ёмны макет пасёлка (1975). Стэнды, альбомы распавядаюць пра аб'яднанне дзвюх навучальных устаноў – Лужаснянскага аграрнага і Бігосаўскага зааветэрынарнага тэхнікумаў у 1970 г. Прыводзяцца статыстычныя звесткі пра поспехі навучэнцаў каледжа. На вітрынах змешчаны дыпломы, граматы, сімволіка савецкіх часоў: сцягі, вымпелы, памятныя сувеніры, падарункі ад гасцей, наведвальнікаў і былых выпускнікоў, кубкі, ўзнагароды за працоўныя, вучэбныя і спартыўныя дасягненні. Асобная частка экспазіцыі прысвечана славутым выпуснікам навучальнай установы – былому старшыні Віцебскага аблвыканкама, кіраўніку Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу – У. Андрэйчанку, акадэміку АН БССР А.І. Лапо і, канешне, Ф.А. Сурганаву, імя якога насіў тэхнікум у 1980–1990-я гг.

Фёдар Анісімавіч Сурганаў, вядомы дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР, скончыў Лужаснянскі сельскагаспадарчы тэхнікум у 1928 г. У часы Вялікай Айчыннай вайны з'яўляўся адным з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі. У 1971–1976 гг. займаў пасаду Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (што па сучасных мерках эквівалентна пасадзе Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь). Адначасова Ф.А. Сурганаў з'яўляўся і вельмі высокім чыноўнікам у структуры ўрада СССР і ўваходзіў у кіроўную эліту гэтай вялікай краіны. Так, ён з'яўляўся намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, членам ЦК КПСС, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР (1954–1976), намеснікам Старшыні Савета Нацыянальнасцяў Вярхоўнага Савета СССР (1962–1966). Трагічна загінуў у аўтакатастрофе 26 снежня 1976 г. У музеі навучальнай установы знаходзіцца бюст выдатнага палітычнага дзеяча нашай краіны.

Адрас: 211311, Віцебскі р-н, п. Лужасна, Лужаснянскі аграрны каледж.

Тэл.: +375 212 29-52-21 (прыёмная).

Сайт: www.agrokoledj.vitebsk.by.

E-mail: agr-vgavm@tut.by.

Даехаць:

– *аўтобусам*: ад аўтобуснага вакзала на маршрутным таксі № 55, 56, 76 да прыпынку "Тэхнікум";

– *аўтамабілем*: па Ленінградскай шашы да павароту на Лужасна.

Доступ магчымы ў час вучэбнага года па папярэдняй дамоўленасці.

*Анатамічны музей Лужаснянскага аграрнага каледжа*

Адкрыты ў 1970 г. Знаходзіцца ў асобным памяшканні клінічнага корпуса Лужаснянскага аграрнага каледжа. Ініцыятарам і арганізатарам музея стала выкладчык анатоміі М.К. Панцюхова. Музей створаны з мэтай лепшай падрыхтоўкі ветэрынарных фельчараў на ветэрынарным аддзяленні тэхнікума. Для гэтага была праведзена значная праца па стварэнні наглядных дапаможнікаў і анатамічных прэпаратаў. Большасць макрапрэпаратаў і дапаможнікаў былі створаны студэнтамі і практыкантамі на занятках анатамічнага гуртка.

За час існавання музея было зроблена больш за 1000 вільгасных, сухіх, эластычных прэпаратаў па ўсіх раздзелах прадмета “Анатомія і фізіялогія хатніх жывёл”. Сярод складаных для вырабу і рэдкіх прэпаратаў можна адзначыць шкілет каня лева- і праваспаронняга распілу, у якім усе раздзелы падпісаны па-лацінску і пазначаны living рознымі колерамі для лепшага запамінання; шкілеты каровы, авечкі, казы, свінні, сабакі, кошкі, труса з мэтай вывучэння параўнальнай анатоміі; сухія і вільгасныя матэрыялы па вывучэнні мышц. Можна ўбачыць самыя маленькія косткі ў арганізме чалавека і жывёл: малаточак, накаваленка, стрэмечка.

Улічваючы, што вялікую частку захворванняў у сельскагаспадарчых жывёл выклікаюць гельмінты, у экспазіцыі прадстаўлена шмат прэпаратаў, у якіх можна ўбачыць узбуджальнікаў такіх захворванняў: власаглаваў, аскарыд, мятлушак. З мэтай ілюстрацыі таго, да чаго могуць давесці нямытыя рукі, змешчаны прэпараты, у якіх гельмінты знаходзяцца ва ўнутраных органах: “Лёгкія кошкі, напоўненыя аскарыдамі”, бычы цэпень даўжынёй 5 метраў.

З мастацкім густам па матывах твора Івана Шамякіна выкананы прэпарат “Сэрца на далоні” (розныя раздзелы сэрца расфарбаваны, выдзелены вянозная і артэрыяльная сістэмы, абазначаны жалудачкі, перадсэрдзі, клапаны. Ёсць у музеі і тэраталагічныя прэпараты. Напрыклад, можна ўбачыць кураня з трыма нагамі, цяля з дзвюма галовамі.

Прадстаўляе цікавасць экспазіцыя, прысвечаная фаўне Беларусі, у якой можна ўбачыць чучалы жывёл (янотападобны сабака, заяц, бабёр, тхор, гарнастай), птушак (сойка, дрозд, шпак, сарока, сыч, вадзяная курачка), рыб, земнаводных Віцебскага раёна і вобласці. Цікавыя прэпараты не мясцовага паходжання: марскія канькі, марскія зоркі, каралы, галатурыі, ракавіны.

На сценах змешчана калекцыя рагоў лася, якая адлюстроўвае ўзроставыя змены ад аднаго да дванаццаці гадоў (вядома, што адзін адростак адпавядае аднаму году жыцця жывёлы).

Доступ магчымы ў час вучэбнага года па папярэдняй дамоўленасці.

# З А К Л Ю Ч Э Н Н Е

На працягу некалькіх апошніх стагоддзяў музеі Віцебска прайшлі складаны шлях ад з’яўлення першых прыватных калекцый, збораў пры навучальных установах у XVIII ст. да дзейнасці шмат-структурнай сістэмы дзяржаўных і грамадскіх музеяў рознай падначаленасці ў пачатку XXI ст. Першыя зборы, калекцыі, якія яшчэ складана лічыць музеямі, існавалі ў Віцебску пры рызніцах цэркваў і манастыроў, княжацкіх палатах. Можна меркаваць, што калекцыі меліся ў прадстаўнікоў буйной шляхты, якія пражывалі ў горадзе (Агінскія, Сапегі, Храпавіцкія), багатых купцоў, а таксама пры езуіцкім калегіуме.

У XIX ст. у межах Віцебскай губерні з’явіўся шэраг даследчыкаў-аматараў, якія вывучалі Прыдзвінне і мелі ўласныя калекцыі: Зіноўеў, М. Борх, М. Кусцінскі, М. Плятэр, барон Транзее, К. Шмідт. Прыватныя зборы мелі памешчыкі, якія пражывалі ў Віцебскай губерні на пачатку XIX ст.: Ігнатовіч, Румяноўскі, Лісоўскі, Клімовіч, Шаўман і іншыя.

Другая палова XIX ст. становіцца новым этапам у развіцці музеяў горада. Разам з рэформамі 1861–1874 гг. актыўна пачынае развівацца гістарычная навука, калекцыі пачынаюць збірацца і афармляцца па правілах і патрабаваннях новага часу. Дэмакратызацыя грамадскага жыцця, з’яўленне праслойкі разначынцаў, уплыў еўрапейскіх тэндэнцый, рост цікавасці да гісторыі сталі прычынай павелічэння колькасці калекцыянераў і калекцый у горадзе. Найбольш вядомымі збіральнікамі другой паловы XIX ст. у г. Віцебску з’яўляліся Караль Бергнер, Васіль Валковіч, А.М. Семянтоўскі, А.П. Сапуноў, Е.Р. Раманаў, Л.Ю. Шапялевіч. Самыя значныя ў горадзе зборы мелі В.П. Федаровіч і Г.А. Тэадаровіч.

У 1868 г. пры Віцебскім губернскім статыстычным камітэце быў адчынены першы ў Віцебску музей. У 1893 г. у горадзе было адкрыта царкоўна-археалагічнае старажытнасховішча (епархіяльны музей старажытнасцяў). На пачатку XX ст. гэтыя зборы разам з ахвяраваннямі мясцовых краязнаўцаў склалі аснову музея Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Увядзенне земстваў на Віцебшчыне станоўча адбілася на з’яўленні тут ведамасных музеяў. Парадаксальна адбіліся на музейным будаўніцтве Віцебска падзеі Першай сусветнай вайны. У горадзе ў выніку эвакуацыі апынуліся музейная калекцыя вядомага віленскага збіральніка А.Р. Брадоўскага і збор Віленскага вайсковага сходу.

Сярод негатыўных тэндэнцый у развіцці музеяў у XIX – пач. XX ст. адзначым неадназначнае стаўленне ўладаў, адсутнасць

сістэмнасці, маладаступнасць віцебскіх музеяў. Кепска адбівалася на вывучэнні краю адсутнасць вышэйшых навучальных устаноў. Значнай праблемай з'яўлялася складаная сітуацыя захавання рэчаў, знойдзеных на Віцебшчыне. Большасць з іх, знойдзеная пры раскопках, перадавалася ў Эрмітаж, Віленскі музей, Віленскую археалагічную камісію, Гістарычны музей у Маскве, музеі Кракава. Неадназначна адбівалася на станаўленні музеяў горада ідэалагічная і канфесійная барацьба рускага і польскага ўплываў. Напрыклад, дзейнасць створанага з мэтай пашырэння ўплыву праваслаўнай царквы і доказу "спрадвечнай рускасці краю" царкоўна-археалагічнага музея праз некаторы час амаль прыпынілася. Адной з прычын быў той факт, што большасць экспанатаў мелі ўніяцкае паходжанне, што не адпавядала мэтам, якія закладаліся пры стварэнні музея.

Новым этапам у музейным будаўніцтве горада стала развіццё музеяў у міжваенныя гады ў складзе спачатку РСФСР, а потым БССР. Арганізацыя музеяў у 1918–1924 гг. (час уваходжання Віцебшчыны ў склад РСФСР) звязана з дзейнасцю Віцебскай губернскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва. Гэтаму перыяду ўласцівы новыя падыходы ў афармленні экспазіцый, падачы матэрыялаў. У гэты час у горадзе быў створаны першы дзяржаўны музей (Віцебскі губернскі музей). У горадзе існавала больш за 10 ведамасных музеяў, у тым ліку ветэрынарна-заалагічны, натуральна-гістарычны (прыроды), музей сучаснага мастацтва, музей сельскай гаспадаркі, санітарнай асветы і гігіены, эканамічна-прамысловы і іншыя. У выніку нацыяналізацыі, рабаўніцтва, рэпатрыяцыі амаль перасталі існаваць прыватныя зборы. Калекцыя В. Федаровіча пасля некалькіх спроб арганізаваць на яе аснове музеі (Музей Федаровіча, Музей беларуска-польскай даўніны) была ўключана ў 1924 г. у склад Віцебскага філіяла Беларускага дзяржаўнага музея, дзе практычна стала адной з яго асноў. 1930-я гг. былі вельмі складаным часам для віцебскіх музеяў. Большасць спецыялістаў музейшчыкаў былі рэпрэсаваныя, экспазіцыі падлягалі перагляду і пераробцы. У гэты час акрамя Віцебскага сацыяльна-гістарычнага музея ў горадзе былі антырэлігійны музей і мастацкая галерэя імя Ю. Пэна.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе музеі развіваліся ў складаных умовах адсутнасці памяшканняў, недахопу падрыхтаваных спецыялістаў, рэшткавага прынцыпу фінансавання. З другой паловы 1950-х гг. назіраецца нябачаны дасюль рост колькасці грамадскіх музеяў, які быў абумоўлены лібералізацыяй культуры, выкліканай, у сваю чаргу, палітыкай "адлігі". Найбольшае распаўсюджанне атрымалі музеі баявой і працоўнай славы, гісторыі прадпрыемстваў, школьныя. Тэндэнцыя працягвалася ў 1960 – першай палове 1980-х гг. У 1970-я гг. музей стаў разглядацца не толькі як сродак адукацыйнага

ўздзеяння, але і як месца адпачынку, баўлення вольнага часу, папулярны аб’ект турызму. Аднак што тычыцца дзяржаўных музеяў, то да пачатку 1990-х у горадзе іх было толькі два – Віцебскі абласны краязнаўчы музей і музей Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова.

Пераважная большасць музеяў горада былі ці ведамасныя, ці знаходзіліся ў падпарадкаванні навучальных устаноў. Сярод лепшых адзначым музей гісторыі віцебскага трамвая, Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі, пажарна-тэхнічную выставу Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС, музей фабрыкі “Чырвоны Кастрычнік”, Віцебскага дывановага камбіната, фабрыцы “Сцяг індустрыялізацыі”. Добрыя музеі дзейнічалі на станкабудаўнічым заводзе імя Камінтэрна, заводзе заточных станкоў, заводзе “Эвістар”, ВА “Маналіт”.

Не толькі вучэбную, але і вялікую асветніцкую працу вялі музеі пры ВНУ горада. Сярод найлепшых прыгадаем музеі Віцебскага педінстытута (біялагічны, літаратурны, гісторыі ўстановы, мемарыяльны пакой-музей П.М. Машэрава), Віцебскага ветэрынарнага інстытута (анатамічны, заалагічны, паталагаанатамічны, пры кафедры ветэрынарна-санітарнай экспертызы, гісторыі ўстановы), анатамічны музей медінстытута, экспазіцыю беларускай народнай творчасці пры кафедры дызайну тэхналагічнага інстытута.

З 1985 г. пачынаецца новы этап у музейным будаўніцтве горада. У храналогіі гэтага перыяду варта вылучыць некалькі падперыядаў: 1985–1991 гг.; 1991 г. – па цяперашні час. Першаму ўласцівыя панаванне сацыялістычнай ідэалогіі, зараджэнне плюралізму, выкліканага палітыкай галоснасці, узняцце пытанняў адраджэння нацыянальнай культуры, спробы кіраўніцтва краіны вырашыць іх у межах існуючага ладу. Распрацаваная праграма музейнага будаўніцтва, як у горадзе, так і ў вобласці, у значнай ступені адпавядала задачам нацыянальна-культурнага развіцця грамадства.

Другі перыяд пачынаецца з распадам СССР, ён характарызуецца эканамічным і палітычным крызісам, рэзкім пагаршэннем фінансавання сферы культуры, адцягваннем увагі грамадства ад праблем музеяў. Аднак менавіта ў гэты складаны перыяд у Віцебску стварыліся экспазіцыі, якія сёння з’яўляюцца “візітовымі” карткамі горада: Віцебскі гарадскі музей Воінаў-інтэрнацыяналістаў, Музей прыватных калекцый, Дом-музей і Арт-цэнтр М. Шагала. З пераадоленнем крызісных з’яў ў музейным будаўніцтве горада адбываецца “другое” дыханне. У горадзе ствараюцца дзясяткі музейных экспазіцый. Праўда, у большасці гэта ведамасныя музеі ці музеі навучальных устаноў. У канцы XX – пачатку XXI ст. у горадзе з’явіліся музей спажыўкааперацыі пры аблспажыўсаюзе, куток гісторыі Віцебскай мытні, музей гісторыі газіфікацыі Віцебскай вобласці ў УП “Віцебскаблгаз”, музей гісторыі віцебскай энергасістэмы

РУП “Віцебскэнерга”, музейна-выставачная экспазіцыя Галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці, музей міліцыі пры ўпраўленні ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, музейная экспазіцыя УП “Кінавідэапракат” Віцебскага аблвыканкама, Зала спартыўнай славы Віцебскай вобласці і іншыя. Працягваюць стварацца і новыя музеі ў школах і навучальных установах горада.

У той жа час трэба адзначыць, што сітуацыя далёкая ад ідэальнай. Калі на пачатку XX ст. Віцебск быў прызнаным лідэрам у краязнаўчых даследаваннях, то цяпер першынства гэтае страчана. Многія экспазіцыі маюць патрэбу ў мадэрнізацыі. На жаль, у ВАКМ пакуль няма паўнавартаснай краязнаўчай экспазіцыі, у якой адлюстроўвалася б спецыфіка Віцебскай вобласці. Няма музея, у якім была б прадстаўлена гісторыя абласнога цэнтра. Так і не ажыццявіўся да канца план музейнага будаўніцтва, распрацаваны яшчэ ў канцы 1980-х гг., які прадугледжваў стварэнне шэрагу музеяў, якія б адлюстроўвалі развіццё ўсіх сфер дзейнасці жыхароў горада [дадатак: Прапановы па развіццю музеяў у гарадах і раёнах Віцебскай вобласці на перыяд да 2000 г., г. Віцебск].

На музейную справу паўплывалі змены ў каштоўнасных арыенцірах, якія адбыліся з распадам СССР і крызісам савецкай ідэалогіі. Музеі, апроч буйных музейных цэнтраў, застаюцца некамерцыйнымі ўстановамі. Правінцыйным музеям цяжка прапанаваць такія паслугі, якія б выклікалі ў наведвальнікаў пастаянны попыт на іх паслугі. Цяжар аказання платных паслуг адыгрывае неадназначную ролю ў развіцці музеяў. З аднаго боку, ён ускладняе працу музейшчыкаў, якія павінны займацца неўласцівымі для сваёй працы функцыямі. З другога боку, павышаецца роля кіроўных структур, спецыялістаў у галіне музейнага менеджменту, маркетынгу, рэкламнай дзейнасці. Яны, у сваю чаргу, падштурхоўваюць работнікаў музеяў да пошуку новых форм і метадаў працы з наведвальнікамі. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца масавыя гулянні, тэатралізаваныя экскурсіі, фальклорныя і музычныя фестывалі. З новым тысячагоддзем у музеі прыходзяць інтэрактыўныя тэхналогіі.

З вялікімі цяжкасцямі, але з’яўляецца спонсарства, мецэнацтва, ідзе пошук пазабюджэтных крыніц фінансавання. Музеі з’яўляюцца ініцыятарамі і актыўнымі ўдзельнікамі праграм і праектаў, у якіх бяруць удзел розныя ведамствы і ўстановы, нават далёкія ад сферы культуры.

Музеі – гэта не толькі экспанаты ці экспазіцыі. Гэта і людзі, якія іх праектавалі, стваралі, афармлялі, захоўвалі, развівалі. Адзначым некаторых асоб, якія зрабілі значны ўклад у стварэнне сучаснай сістэмы дзяржаўных і грамадскіх музеяў горада. Сярод іх музейныя

